


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**10** (1056)

**КАСТРЫЧНІК**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар
*МАЛЬЧЭЎСКАЯ Алена Аляксандраўна*



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

# *ЗМЕСТ*


***ПАЭЗІЯ І ПРОЗА***

3 **Грыгоры ЦАМБЛАК.** Пытаюся — і знемагаю розумам. (Слова на адсячэнне галавы Іаана Хрысціцеля). *Вершы. Перастварэнне Алеся Разанава.*

25 **Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ.** Тайна гіблай затокі. *Містычная аповесць.*

74 **Алесь ВЕТАХ.** Апавяданні.

88 **Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ.** Пад трыста кіль уражанняў. *Вершы.*

***КОНКУРС «ПЕРШАЦВЕЦ»***

93 **Арына ГАРДЗЕЙ.** Акраўкі. *Апавяданні.*

***ГАЛАСЫ СВЕТУ***

104 **Аляксей ТАЛСТОЙ.** Марна ты лічыш, мастак!.. *Пераклад з рускай Пятра Жаўняровіча.*

108 **Алекса СТЭФАНОВІЧ.** Сінеча далечы. *Вершы. Уступнае слова Міколы Труса. Пераклад з украінскай Міколы Труса.*

112 **Ван ЦЗЯНЧЖАО.** Люстра неба. *Вершы. Уступнае слова Алеся Карлюкевіча. З кітайскай. Пераклад Міколы Мятліцкага.*

***НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ***

117 **Ірына ЧАСНОК.** Метанаратыўна акцэнтаваная наратыўная стратэгія ў рамане Кузьмы Чорнага «Пошукі будучыні».

123 **Алена ВОСТРЫКАВА.** Поліфанічная дылогія пра Першую сусветную вайну: раманы Мілаша Вацлава Кратахвіла «Еўропа кружылася ў вальсе» і «Еўропа ў акопах».

***КНІГА_LOG***

130 **Анжэла МЕЛЬНІКАВА.** Патэнцыял класічнай спадчыны.

***КУЛЬТУРА МОВЫ***

134 **Васіль СТАРЫЧОНАК.** «І ў тон адзін з зямлёю я пяю…» (метафарычная парадыгма ў мастацкім дыскурсе Якуба Коласа).

***ПОСТАЦІ***

147 **Алесь МАРЦІНОВІЧ.** Адказнасць перад часам і людзьмі.

***ПОМНАЕ***

160 **Мікола ЧАРНЯЎСКІ.** Гарніст далёкага маленства…

***КНІГАРНЯ***

167 **Кацярына ДЗЕГЦЯРОВА.** Свіст куль і гукі паланэза.

170 **Вадзім ЯКУШЭНКА.** За радкамі Баркулабаўскага летапісу.

173 **Юлія АЛЕЙЧАНКА.** Моваю дабрыні.

Грыгоры ЦАМБЛАК

# ПЫТАЮСЯ — І ЗНЕМАГАЮ РОЗУМАМ
## (Слова на адсячэнне галавы Іаана Хрысціцеля)

***Перастварэнне Алеся Разанава***

Зноў Іюдзея прагне
прароцкай крыві,
зноў дыхае пророказабойствам,
зноў згуба,
пакліканая Іезавель,
шукае Іллю, і ўслед
гоніцца, каб дагнаць
праведніка, калясніца;
і вось ужо
ідзе праз уражаны баль унука —
наступніца — і нясе
у місе, займеўшы
прасінай падступнаю, галаву
Хрысціцеля —
галаву,
якую анёлы ўшаноўвалі,
галаву,
што чула голас Айца
і хрысціла Сына,
і бачыла Святы Дух,
галаву,
што Іраду аб'явіла
ганебныя справы яго,
галаву,
страшлівую для вачэй
Ірадыяды.

О зманлівыя жанкі,
спадыспадныя істоты!..
Што творыце вы?!.
На згубу-
гульбу забойснай
дзясніцы й сляпому
мечу аддаяце
гэтакую галаву!..
У чым
яна звінавацілася?
Што казала

збluднеламу Іраду словы
праўдзівыя:
«Не належыць
мець табе жонку Піліпа,
брата свайго».
І ты сам,
Ірадзе, мусіў бы самаперш
з удзячнасцю прывітаць
гэтага боскага чалавека,
высока
узнесці ўшану яму,
адплаціць любоўю
за тое, што з бездані беззаконня
выводзіць цябе і грэх,
што ўладу займеў над табой,
адцінае.

Аднак,
што чыніш, глядзі,
дык супротнае чысціні,
якой навучае ён,
і што чворыш,
дык адваротнае пакаянню,
якое ён прапаведуе —
забіваеш
таго,
хто цябе ратаваў.
Ці ж ты не надумваўся быў ужо
вывесці гэтага чалавека
з цямніцы і даравання
ў яго прасіць,
і яго прышэсцем
баль асвяціць,
а старэйшынаў галілейскіх,
сотнікаў-ваяроў і ўсіх,
што сышліся былі,
з’яўленнем
ягоным увесяліць?!.
Але ж не: весялосць
ты прамяняў на жалобу
і напаіў
баль той не гэтак віном,
як крывёю.

О дно засляпёнасці!..
Хто калі бачыў
гасціну, змешаную з крывёй?!.
Хто бачыў, калі галаву,
што ў бяседу

уносіцца ў місе
як пачастунак усім?!.

«Вазьмі Іаана,
звяжы яго і пасадзі,
каб там заставаўся,
ў цямніцу», — гэтак
выснаваў словы загаду
свайму ахоўніку Ірад,
каб надалей
з жонкай Піліпа, брата
свайго, заставацца.
Бо неадменна
яму казаў Іаан:
«Не належыць
табе мець яе».
За тое
насіла Ірадыяда
гнеў у сабе пякельны
на Іаана і прагла
забіць яго, а падступіцца
ніяк не магла.

Азіраўся
заўсёды на Іаана
з уважнаю бояззю Ірад.
Усведамляючы, што ён святы,
што праведны ён,
трымаўся
наказаў яго, павучанняў
слухаўся — і святло
ва ўцеху было і ў спажытак
яму тады. Ды,
захоплены цемраю, замыкае
яго ў цямніцу,
ўзварушаны ёй, жадае
застрашыць яго і змусіць
павесіць замок на вусны,
каб ён больш не выкрываў
яго брыдкіх спраў.
Так, быў звязаны Іаан,
але боскае слова
не звязваецца.

Гэты Ірад
быў з таго роду, што не аднойчы
злу слугаваў і чыніў зло —
многіх
дзяцей беспавінных,

што ў немаўлечым узросце былі,
папярэднік
горай за лютага васіліска
выгубіў і мацярок,
у плачы пакінуўшы, абяздолеў.
Быў Іаан ад яго
тады ашчаджоны,
каб, ацалелы
і ўзгадаваны, дзейсніў
у сваю меру справу
сваіх бацькоў.

Чаму ж не ўсаромеўся мужа,
якога раней баяўся,
мужа, які — сам ведаў —
праведны і святы?
Чаму
зняслухаўся, каго слухаў
датуль уважна?
Спакусай
злоўлены і звязаўшы
сябе пералюбамі, на забойства
прарока наважыўся —
зажадаў
пазбавіцца ад таго,
хто грэх выкрывае,
а не ад граху самога.
Вось жа, ў законе
зазначана аднаяўна:
бярэцца
братава жонка
за жонку сабе тады,
калі брат памрэ і нашчадкаў
пасля сябе не пакіне.
Тут жа, што бачым:
Піліп памёр,
ды, аднак,
семя пакінуў —
так, тую самую, што танцавала,
так, тую самую, што скакала,
а ў ёй скакаў
і танцаваў сам д’ябал.
І плату,
якую яна запрасіла,
была
Хрысціцелева галава.

Дзень вызначаны надышоў —
на свае
народзіны зладзіў

Ірад вячэру князям,
сотнікам
і галілейскім старэйшынам.
Адбылося
гэта, кажу,
у дзень вызначаны, спрыяльны
воржавай сіле і той,
зманлівай жонцы, ў якой
яна ўгнездавалася:
у гэтым дні
і ў гэтай часіне разам
яны займеюць магчымасць,
імі жаданую, і само
жаданае вельмі, займеюць.

Тады,
выпушчаная, увайшла,
сцягваючы на сябе
увагу, дачка
тае Ірадыяды.
Не, не кажу: дачка Ірада,
бо не ім
была яна ўспоена,
а той гнюснай,
той пералюбнай Ірадыядай,
што не датрымала
вернасці мужу свайму,
што не ўшанавала
закон, Богам дадзены,
а спрадвечны
прыродны закон занядбала,
не сарамяжачыся нікога.
Калі яшчэ быў жывы
Піліп, Ірадыяда
ужо чужаложнічала —
і ў ахвоту
сабе была ўзята
Ірадам, як пра гэта
сведчыць Іосіф, знаўца
падзей іюдзейскіх.

Вось, увайшла,
вабная постаццю, ў тую
гасціну дачка
Ірадыядзіна — ад Піліпа,
а не ад Ірада — і пачала
свой танец.
Хіба —
любамудрыя евангелісты,

засведчыце! — не даспадобы
быць сарамяжлівымі дзяўчатам
а даспадобы
з аздобаю выстаўляцца?
Хіба не абачліва ім
належыць паводзіцца —
пашанотна
глядзець,
ціхмяна хадзіць
і гаварыць зычліва?
І, ўрэшце, хіба цара
умольваць не выпадае
словамі й вобразамі мілажалю,
каб той, хто сядзіць,
увязнены, у цямніцы,
змог выйсці на волю,
адпушчаны?!.
Аднак не,
не тое яна ўчыніла
і не на тое ўвайшла,
а ўвайшла,
танцуючы, здатная, і дагадзіла
Іраду танцам сваім і сваёй
здатнаю вабнатой.
Зазначае
слушна евангеліст: «Дагадзіла
цару», бо такім
гэтакія і дагаджаюць —
і маюць сабе
у гульбішчах гэткіх
абое бавы.

Пажадай захопленыя,
не бачаць
распуснікі, што яны чыняць,
што дзеюць — не разумеюць.
І самі, калі ўваходзяць
у круг распусты,
ёю пранятыя, агаляюць
рукі свае да локцяў
і галасамі,
не тымі, якія дала прырода,
а нейкімі вынайдзенымі гукаюць,
і словы,
суадпаведныя ім,
прамаўляюць,
і, корцю распаленыя, усіх
астатніх запальваюць.
Што выпадае

сказаць пра іх,
што падумаць,
калі яны круцяцца,
гоцаюць,
скачуць,
трасуцца,
віюцца,
верцяць галовамі і валасы
пасмамі распускаюць?
Гэта паводзіны тых,
што ўпадаюць у шал,
а не тых,
што слугуюць цноце.

О, бессаромная!..
Годзіць хіба дзяўчатам
скакаць, выстаўляючыся,
у грамадзе
сп’янелых мужоў,
у зборы
расхрыстаных целаў
ці, можа, наадварот,
да твару інакшае —
прысвячацца
у сарамяжлівасць, што душы
ўласцівая адпачатку,
ды ў чысціні
захоўвацца і ў заўсёдным
дбанні аб ёй ухіляцца
ад усяго, што яе
зняважыла ці зганьбавала б?!.

І што гэта, зноў жа,
за цар, якому
бачыць прыемна
дзяўчыну без сораму —
божай апраткі?!.
«Прасі ў мяне, — кажа, —
што хочаш, і дам табе»,
і прылюдна
клянецца: «Калі папросіш,
дам табе аж да паловы
царства майго!»

Гэтак трэба
душою сп’янець, каб так
падпасці пад чары ўявы,
і трэба
так розумам засляпіцца,

каб гэтак
запрысягаць, бы ў якім
выпадку надзвычайным!..
Што адбываецца — жарсць,
калі аддаецца ёй хто,
душу
захоплівае і палоніць,
і нават у тых, што ўважаюць
сябе сама дужымі, адымае
яе гвалтоўна.
Усюды,
дзе можна, жарсць выстаўляе
пасткі свае — спакусы,
цікуючы, хто якою
прывабіцца:
гэты — гэтай.

Забыўшы
пра царскую веліч сваю,
адпусціўшы
сваё прызначэнне абы-куды
і ў няславу
імя сваё ўводзячы,
ён не зважае,
што зневажае гасціну саму,
і тое,
што чыніць, варта
не ўхвалы зусім…
Што ён чыніць —
дык надзяляе сваёю ўвагай
празмернай танцорку,
і гэта
не дзеля яе самое,
а каб дагадзіць
мацерцы ейнай — і гэтак
здабыць яе ўдзячнасць.

Танцорка тая,
выйшаўшы, ў маці
пытаецца — ў Ірадыяды:
«Што мушу прасіць?» —
і ў адказ
мае наказ: «Галавы Іаана
Хрысціцеля».
Тут жа,
зноў увайшоўшы, уголас
яна аб’яўляе цару жаданне
сваё — паўтарае
ад маці прынятае

і перанятае ёю:
«Хачу,
каб даў ты мне ў місе
тут галаву Іаана Хрысціцеля».
Цар,
калі гэта пачуў,
быў замаркоціўся,
аднак дзеля
той клятвы, што даў,
і дзеля
сябрыны, што там сабралася,
не захацеў,
ад слоў сваіх адцурацца,
не здолеў
ад сказанага адхрысціцца
і ката,
не бавячыся, паслаў,
загадаўшы,
каб той у місе
прынёс сюды галаву
Хрысціцеля.
Гэтак
той і зрабіў — адсек
і, прынёсшы,
аддаў дзяўчыне-танцорцы,
а тая —
маці сваёй.

Што творыш, о Ірадзе!..
Што так лёгка
звязваеш клятвай сябе?
Што так спешна
рашэнні прымаеш, калі ніхто
цябе не змушае?
Што так безразважна
ўскладаеш на вагі жаданняў тое,
што і вагі не мае?
І што так пэўна
валодаеш тым, што належыць
Богу, а не табе?
Святое
Хрысціцелева імя,
бы на торгу якім, пераходзіць
з вуснаў на вусны,
а мог бы
за тыя дзяцінныя скокі танцорцы
і ўзнагароду,
ім адпаведную, даць,
дадаўшы, калі заўгодна

і колькі заўгодна,
хай срэбра, хай золата,
але ж не
гэтакую, звыш меры…
«Калі папросіш,
дам табе аж да паловы
царства майго!..» —
Ад якой
сляпой ганарлівасці,
ад якой
заўзятай сваволі
так абвяшчаеш?!.
Гаспodзь
зямлю насяліў і даў
абранцу-Ізраілю ў вотчыну
абяцаны
край запаветны ў надзелах
вызначаных, а ты
ў дарунак за блудныя гулі
дзеўцы зблуднелай
аж да паловы яго прапануеш.

О самазман!..
Не ўсё
мае кошт, і паўцарствам
сваім ніяк
не параўнаешся з галавою
Хрысціцеля.
Валасіна
з яго галавы, мяркую,
важчэйшая за ўвесь гэты
свет.
Лепей было б, каб ты,
пакляўшыся, пераступіў
клятву сваю, чым чыніў,
спраўджваючы яе,
такое пераступленне.
Калі б захацелі
тыя хацеўніцы раптам
тваю галаву прасіць —
што, ці згадзіўся б
і даў бы адсекчы яе,
не змогшы
сказанай клятвы пераступіць?!.
О не, зусім не!..
Пачуўшы
такое, утаймаваў бы
умомант тую шаленіцу,
што пасмела

такое казаць, і, пэўна,
аддаў бы той самай узнагародзе,
якое прасіла, а тут
згадзіўся, аднак, і ката
адразу паслаў
па Хрысціцелеву галаву!..

О жорсткасць!..
Не ўразіўся,
не запярэчыў,
не ўгневаўся,
не загадаў пачакаць
да заўтра-да раніцы,
да абуджэння
з гэтай непамыслоты,
а паслухмяна,
як служка які, пайшоў
услед за пачутым.

Яна ж гаварыла
перад усімі зусім
не як просьбітка,
а ўладарка: «Хачу,
каб даў ты мне…» —
І не мела
боязі, што цар возьме
і раптам
адумаецца, сатрэ,
як выдумку, абяцанне
абвешчанае, а ўладна
дыктуе волю сваю:
«Хачу,
каб даў ты мне ў місе
тут галаву Іаана Хрысціцеля»,
і неадкладна
цар пасылае ката,
каб той
здзейсніў жаданне яе.

О дзіва!..
Якімі вуснамі вымаўляў
цар словы таго загаду?
Чаму не знямелі яны,
чаму
паклікалі вынік,
што Іюдзею ўзрушыць?
Тады
жахнулася ўся Іюдзея,
цяпер жа — ўвесь свет.

Якімі нагамі ішоў
у цямніцу той,
каму аддаўся загад,
хто меўся
здзейсніць яго і нёс
ягоны цяжар
у істве сваім моўчкі?
Якімі вачамі глядзеў
на нябеснага гэтага чалавека,
пустэльніка боскага,
што сядзеў
замкнёны, а праведны
у вязніцы?
Як падступіўся?
Як выцягнуў меч?
Як узнёс
над целам святым?
Чаму
не знерухомела тая рука,
не здранцвела,
не скамянела?..
Няўмольна
думаю — й недаўмяваю,
пытаюся — і знемагаю
розумам.
А ён пойдзе
і адсячэ,
і ў місе
адсечаную прынясе,
і аддасць
дзяўчыне-танцорцы, а тая —
маці сваёй.

О паганы збор!..
О д’ябальская гасціна!..
О зманлівая крутня!..
Чаму,
аднак, не спалілася,
не спапялела
тая хацеўніца, што прымала
сваімі рукамі нячыстымі
Хрысціцелеву галаву?
Чаму
не ўпаў,
не абрынуўся ў роспачы
харам-палац, у які
унеслася міса,
ў адплату
за гэткі набытак,

за гэтакі пачастунак?
Чаму
недзе ў цямніцы кроў
сцякла ручаінай маўкліваю,
а не ўзнялася,
не ўзбурылася,
не захліснула
звыроднага Ірада,
як глыбіні
Чырвонага мора калісьці
саманадзейнага фараона?
Бо тое,
што тут учынілася, патрабуе
не меншай адплаты.
Гнаўся
тады фараон за людзьмі,
што былі
у звычаі, а не ў законе,
што мелі
і злосць на пасланніка,
што наракалі,
што мармыталі
і на бязбожжа,
звыклае ім, хацелі
зноў навярнуцца,
каб пакланяцца
стоду-цяляці зноў,
і трымалі
ў задуме іншыя рэчы.

Ён жа
быў большы за ўсіх прарокаў
і за самога Майсея,
хростам
ён ачышчаў людзей,
абвяшчаў
прыйсце Гасподняе
і Хрыста,
ад абятніцы народжанага,
паказаў
вучням сваім і вызнаў.
І тое, што ён, чысцінёю анёл,
а дзеяй дык большы,
стаўся
гэтак забіты, кліча
адплату вялікую:
праўда
кажа аб ёй, а няпраўда
умоўчвае.

Што ты ўчыніў,
о Ірадзе?!.
Адчыніў
дзверы забойству, перад якім
нямеюць вякі.
Забіў
прарока — з кім параўнаць яго?!.
Загубіў
праведніка — якая
жанчына калі
нараджала такога?!.
Адняў
голас у Слова,
змусіў
замоўкнуць трубу пакаяння,
аднак ніколі
усё адно не адолее злыбедзь
дзею дабра.

Пра нялюдскі
той чын, на які ты ўспадобіўся,
будзе
казацца ўсюды,
ва ўсіх канцавінах свету,
а ён жа
Хрыста прапаведацьме
і на тым свеце,
у нетрах пекла,
і ў місе, унесенай на той баль,
варушыцьме,
цябе выкрываючы, языком:
«Не належыць
мець табе жонку Піліпа,
брата свайго».

Ад таго
забегала подумкамі Ірадыяда,
шукаючы рады ў ліха
і спадзяванне
ўскладаючы на ліхое,
каб ухіліцца
ад слоў, што чапаюць яе,
каб не чуць
голасу, што ёй пярэчыць.
Вось, асягнула, чаго хацела —
і што?!.
Цяпер
сама стаешся адпрэчанай,
знелюдчэлай,

знечалавечанай,
бо галава,
што носіцца ў місе сярод гасціны,
тваёй дачкой бессаромнай,
усіх,
хто ёсць там, уведамляе,
што пацярпела за праўду.

Да беззаконня,
што выявілася, дадала,
о новая Іезавель, беззаконне,
што будзе
ўвесь час аб'яўляць аб сабе,
да ганьбы,
што заслужыла раней,
прыклала
вечную ганьбу
і прыцягнула
да асуджэння, што мелася,
суд, што ідзе
дні і вякі няспынна.

Дагэтуль адно язык
Хрысціцелеў выкрываў
грэх твой, на пакаянне
цябе абавязваючы,
а цяпер
ва ўсіх саборах і цэрквах кажуць,
што ты ўчыніла,
і адпушчэння
табе не даюць святары.
Паслухай
сама, што кажа,
табою намоўленая дачка,
што просіць;
а просіць яна не проста
Хрысціцелеву галаву,
а — ў місе.

О рухі
раз'ятранай ліхаты!..
О схопы
спрагнелай згубы!..
Не — каб на плашчаніцы,
не — каб на абрусе,
не — каб на дошцы якой,
а ў місе,
нібы наедак які салодкі!..

Так люта
жадала таго забойства —
галавасеку;
так хціва
хацела таго спажытку
запрошанага;
так прагна
глядзела вачмі на атрыманае:
на ежу
душы сваёй — ежу!..
Таму нездарма
яна і змесціцца ў місу.
Кат
яе перадасць танцорцы,
а тая — табе:
трымай!..

Хіжая львіца
і гэткае ж ільвяня:
займеўшы
здабытак жаданы,
да маці
спяшаецца з ім: прымі!..
Прымі мной займетае —
наталі
прагу сваю,
задаволь жаданне!..
Прымі — і валодай!..
Прымі — і цешся!..
Смакуй насалоду ўдосыць!..
А мне
за гэты дарунак ухвалу
з'яві, — за дарунак,
што вызнала ты сама!..
Прымі
плён маёй рупнасці,
ўлоў
старання майго,
здабытак
майго намагання,
узнагароду,
што заслужыла ўменне маё!..
Прымі
прасіны маёй вянок —
распазнаеш
у ім пасланне царова,
угледзіш — любоў!..
Прымі —
і будзь вольная ад усяго,

што ўводзіла ў страх
і змушала хавацца:
голас,
што неадступна
знаходзіў цябе і вярэдзіў,
замоўк,
і стрэлы
ягоныя, што даляталі,
куды цалялі,
ужо не ўджаляць цябе!..

Перастаў
той, хто пакліканы быў,
казаць
словы свае і дзеіць
справы свае,
а яна
спыніцца не спыніцца
ў сваім танцы,
ў сваім завіханні,
ў сваім захапленні
і перастаць
не перастане выводзіць,
што мае ў сабе,
у свет…

У той час
Ірад-тэтрарх пачуў
почутку аб Ісусе і чалядзінцам
сваім сказаў: «Гэта ён,
Іаан Хрысціцель,
ён уваскрос
з мёртвых, і таму цуды
дзеюцца ім».
Дык бачыш: не перасталі
казацца словы;
дык адчуваеш:
не перасталі стрэлы цаляць.
Вунь колькі
страху займеў, як толькі
пачуў аб чыімсьці
прыйсці!.. Чыім?!.
Страх зданню
ідзе з табою — куды
падзенешся ад яго?!.
Сумленне
парушанае заўсёды
у страху,
заўсёды ў трывозе,

заўсёды ў трымценні,
заўсёды ў цяжары,
заўсёды ў думках:
«Ён з мёртвых, —
скажаш, — паўстаў».

А калі
наважваўся на забойства,
і не падумаў
аб уваскрэсенні,
не згадаў,
што цар Саламон даводзіць:
«Тады
стане з вялікай адвагаю
праведнік перад абліччам
тых, што яго зневажалі».
Цяпер жа, аднак,
хоць і не хочучы, зазначаеш,
што ёсць уваскрэсенне
і што ёсць
адплата, памножаная на аддзяку,
й таму
кажаш-высноўваеш: «Цуды
дзеюцца ім».

Не тварыў
ні цудаў, ні знакаванняў,
калі быў жывы, Іаан,
дык прыйшло
Іраду ў розум, што, уваскросшы,
пачаў ён іх дзеіць —
і зніякавеў,
і сумеўся,
і забаяўся дужа
жывы нежывога,
згубца — загубленага,
той, хто меў
уборам вянец і парфіру, —
таго, хто насіў
з вярблюджае поўсці валасяніцу,
той, хто сядзеў,
узвышаны, на пасадзе, —
таго, хто блукаў саматой
у пустыні дзікай.

Заўважым: каму адкрывае
Ірад здагадку сваю?
Не каму-небудзь
з гасціны сваёй —

ні князю,
ні ваяру,
ні старэйшыну, — а сваім
слугам, сваім,
адданым яму, чалядзінцам.
Скмецім: чаму?
Таму,
што страх яго вёў
і шукаў прытулку.

Вядома,
здараліся і раней
забойствы, што таямніцай
не заставаліся,
што вымаўляліся,
але цяпер
ім авалодала моц, ад якое
не ведаў куды падзецца,
дзе затуліцца, —
ім авалодаў вялікі страх.
І ўвайшоў
хочаш не хочаш у памяць
сам Іаан —
што быў
народжаны ад абятніцы,
што быў
прасякнуты Духам Святым
ва ўлонні
маці сваёй,
што быў
усе свае дні
муж адсамны і адмаёмны,
што быў
на Іллю падобны — жыхар
такой жа пустыні,
што быў
прарок і хрысціцель
і рупатлівец найпершы
і ад усіх найпраўдзівейшы быў.

Пачуем Іосіфа, знаўцу
ёсцінаў іюдзейскіх:
дбайна
апавядаючы што з кім калі было,
ён тым часам
сведчыць пра гібель войска
Ірадавага ад Арэты,
ад Араўляніна, кажучы:
«Зрэшты,

сёй-той з іюдзеяў бачыў
у гібелі войска
Ірадавага адплату
зусім справядлівую — кару
Госпада Бога
за смерць Іаана, што меў
найменне Хрысціцель.
Забіў
Ірад гэтага мужа
праведнага, які
ўсцяж пераконваў іюдзеяў
жыць дабрадзейна і справядліва
раўняцца адно з адным,
дабраўдзячнасць
мець да Спрадвечнага
і прысвячацца
у хрост — ачышчэнне,
бо гэты хрост
парадкам гэтакім будзе
угодны не для выкуплення
і пазбаўлення ад розных грахоў,
а з’яўны для асвячэння
цела свайго,
тым болей,
што душы ўжо загадзя
прадачышчаюцца праўдай».

Ад іх,
гэтых сведкаў,
хто чуў — уведаў,
якая аб ім была слава,
якая з ім пашанота
і вышыня якая
у ім!..
Не ўгледзеў
гэтага  новы Ахаў,
а па-свойму даўмеўшы
і вытлумачыўшы, небяспеку
адчуў сабе, стаўся
яшчэ больш акрутным — і
таго, хто быў варты
найбольшай ухвалы,
аддаў на смерць.

Ды тады,
калі здзейсніцца злы чын,
замітусіцца,
заазіраецца,
забаіцца;

каліператнецца горла
таму, хто праўду казаў,
тады
пачне выкрываць злачынца
сябе самога —
зазначыць Ірад,
прызнаецца: «Той, якому
я сцяў галаву, уваскрос
з мёртвых, і таму цуды
дзеюцца ім»;
калі
з жыццём развітаецца праведнік
назаўсёды, тады
на ложку смяротным сваім
задрыжыць акаянец;
калі
на тым свеце, у сутарэннях
пекла, той абвяшчацьме
боскае дабравесце, гэты
тут, у палацы, пачуе
голас яго: «Не належыць
табе мець яе».

Уваскрос
той з мёртвых, —
уголас кажа;
думае ўпотай: паўстаў
ён з мёртвых не так сабе,
а каб суд,
над ім усчыніць за тое
няправеднае забойства, —
і словы: «Кроў Авеля,
брата твайго, да мяне
гукае з зямлі», — якімі
знаходзіў Каіна Бог,
знаходзяць яго.
І яшчэ ў дадатак:
«Таму, хто заб’е, ўсямікроць,
адпомсціцца»,
і яшчэ болей:
«У семдзесят разоў сямікроць».

Такія
жарсныя справы-праявы
пасеяны скрозь,
паселены:
памнажае
згуба саму сябе,
намаўляе

зло само на сябе,
і ліха
само сябе ворагам мае.

Што скажам
мы пра Хрысціцеля?
Як ушануем,
што ўжо ўшаноўваецца, —
галавасек?
Якімі вянкамі ўвянчаем
усесвятую яго галаву?
На яе ніколі
жалеза не ўзнімецца,
адно аднойчы
ўзнялося было, калі
адціналася!..
Якім мірам яе надухмянім?
Сыходзіў
Дух Святы на яе часцей,
чым міра на галаву
і бараду Аарона!
Якімі рукамі прымем? —
Кранала
яе рука Госпада Бога!
Якімі
вуснамі пацалуем?
Якія
песні спяём ёй? —
Не спасцігае розум,
не асягае язык.

Хацеў бы
я ўбачыць месца, якое
губамі сваімі ўсмактала
ягоную кроў!..
Хацеў бы
там апынуцца, аднесены,
там знайсціся,
прысутнены, каб прыпасці
абліччам сваім да святога
яго іства!..
Хай
адсамна жаданае спраўдзіцца!
Хай асвяціцца
Ісусам Хрыстом,
нашым Госпадам!
Яму слава
і валадарства яго давеку-
вякоў!
Амін!



Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

# ТАЙНА ГІБЛАЙ ЗАТОКІ

*Містычная аповесць*

## Частка I

### 1

Суботнім вечарам дваццаць дзявятага студзеня 1564 года, калі князь Пётр прыйшоў з лазні і дапіваў першы кубак хлебнае, халоднае брагі, да яго ў хату, без папярэджання і стуку, уваліўся перапалоханы брат Васіль.

— Толькі што вярнуўся з віжавання Грышка Хлёст, — задыхаючыся ад хуткай хады і ўзрушэння, проста ад парога прасіпеў ён апошнюю навіну, — і расказвае халоп неверагоднае.

— Ну-у! — раззлаваны Пётр падхапіўся з лавы і рэзка павярнуўся да брата. Халодны хлебны напой плеснануўся на яго бараду, тонкай ручаінай пацёк на чырвоныя, распараныя грудзі, але князь гэтага не адчуваў.

— Кажа, што ліцвіны поўнасцю разбілі войска князя Пятра Іванавіча, яго самаго ці то засеклі, ці то закавалі ў жалеза і зараз спешным маршам ідуць сюды, па нашы душы.

Малодшага брата трэсла ліхаманка, сківіцы яго гучна шчоўкалі, рукі, як і маленькія вочы, не знаходзілі спакою. Пётр ад такой навіны зноў апусціўся на лаву, потым рэзка падхапіўся з яе.

— Не можа такога быць! — гучна, амаль істэрычна выгукнуў ён і запусціў гліняным кубкам у печ. На яго крык у пакой заскочыў устрывожаны ахоўнік, але ваявода махнуў яму рукой: «Знікні!» — і павярнуўся да брата:

— Князь Шуйскі Інфлянты паставіў на калені, прайшоў столькі бітваў, што іншаму баярыну і не снілася, ваяваў Полацк... Не, такога не можа быць! Не мо-жа!

— Чаму не можа? Білі ж нас і раней ліцвіны, і неаднойчы!

— Калі тое было? — распранае цела князя Пятра пакрылася буйнымі кроплямі поту. — Якое ж тады войска мае Радзівіл? Сорак тысяч? Пяцьдзясят? Семдзесят?

---

***Мажылоўскі Уладзімір Барысавіч*** *нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіслава Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут (1984). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў дырэктарам школы. Цяпер — загадчык аддзялення для састарэлых і інвалідаў Браслаўскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.*

*Аўтар кнігі прозы «Праклён Мітрапаліта Феафіла» (2015).*

Брат пацiснуў плячыма:

— Хлёст на панадворку чакае.

— Давай яго сюды!

Пяцідзясятнік Грышка Хлёст, невысокі, каржакаваты стралец з шызым носам і падпаленай, рудаватай барадой, спалохана, бокам увайшоў у памяшканне, зняў свой каўпак і грузка паваліўся на калені. Калі б хтосьці з братоў у гэты момант сказаў слова ці нават проста кашлянуў, Грышка ўпаў бы і на жывот, але ў горача натопленым пакоі панавала цяжкая цішыня. Допыт пачаў старшы з братоў, Пётр:

— Ну што ты даведаўся пра князя Шуйскага? Ці надзейныя твае звесткі?

Стралец, заікаючыся і блытаючыся ў словах, пачаў расказ:

— Я раніцай са сваёй паўсотняй выехаў на віжаванне ў бок Зубрэвічаў. Ля вёскі мы схаваліся ў прыдарожным ельніку, добра ўкрыліся і пачалі чакаць, спадзеючыся захапіць у палон якога-небудзь неасцярожнага шляхціца. Але шляхціцаў не было. Тады я і Цёмка Гуз пераапрануліся пад сялян і накіраваліся ў мясцовую карчму, каб паслухаць, пра што там гавораць людзі...

— Гарэлкі папіць ты туды направіўся, сабачае рыла! — прашыпеў князь Пётр. — Што далей?

— У карчме мы ўзялі гарлач піва і селі ў цёмны кут, каб нас ніхто не бачыў. Хутка туды ўвалілася з дзясятак шляхціцаў. Яны былі вясёлыя, гучна рагаталі, бруднымі словамі адзываліся аб вашай светласці...

— Па справе давай!

— Ад іх мы і пачулі, што князь Шуйскі забіты, а войска яго поўнасцю разгромлена. Што саракатысячны атрад Радзівіла Рудога павінен злучыцца з ліцвінскім войскам, якое спяшаецца сюды з Барысава, і разам яны намерыліся акружыць нас і ўсіх бязлітасна выразаць. Быццам ад іх караля паступіў загад — палонных не браць!

— Вось звяры! — вырвалася ў Васіля.

Старшы брат злосна зыркнуў на малодшага, крыва ўсміхнуўся, але прамаўчаў. Расказ стральца падаўся яму неверагодным па сваёй сутнасці, выклікаў шмат пытанняў і сумненняў, але ж і пяцідзясятніку не з рукі было падманваць. Такімі звесткамі не жартуюць, за такія жарты караюць шыбеніцай! Ваявода махнуў Хлясту рукой, дазваляючы таму падняцца з каленак і пакінуць памяшканне. Калі стралец зачыніў за сабой дзверы, Пётр звярнуўся да брата:

— Ты яму верыш?

Васіль нерашуча пацiснуў плячыма, адвёў вочы і пачаў папраўляць кнот аплыўшай свечкі. Па зачаднелых сценах пакоя заскакалі фантастычныя цені-пачвары.

— Заўтра нядзеля, і мы ў царкву збіраліся схадзіць!

— Глядзі, каб цябе заўтра не адпявалі ў гэтай царкве! — груба, бы адсякаючы сумненні, выгукнуў Пётр. — Ды адчапіся ты ўрэшце ад свечкі! Ідзі лепш узмацні варту і кладзіся адпачываць.

Аднак і старэйшаму з Абаленскіх не спалася: чорныя думкі, адна жудаснейшая за другую, лезлі ў галаву, кашмарамі бударажылі ўяўленне, перашкаджалі сну. «Ператапілі ў хаце, — апоўначы не вытрымаў ваявода і падняўся з лежака: — Пачытаю крыху, магчыма, лягчэй стане». Ён пераждагнаўся, ступіў на халодную падлогу, наблізіўся да стала, адкінуў вечка невялікага куфра, дастаў адтуль кнігу і цяжка ўздыхнуў — усяго некалькі тыдняў таму сам цар даў яму гэтую кнігу з уласнай ліберэі. «Чытай, Пятро, — яшчэ і зараз гучалі ў вушах царскія словы. — Мо і ты калі-небудзь навучышся ваяваць так, як ваяваў Цэзар».

Князь пагартаў Цэзаравы запіскі аб Гальскай вайне, якія зусім нядаўна пераклаў на рускую мову пастар Ветэрман з Дзерпта, закрыў кнігу і зноў асцярожна, быццам найвялікшую каштоўнасць, схаваў яе ў куфар — не затрымліваліся ў памяці мудрыя словы вялікага рымляніна, не ўспрымаў розум яго задум і парад, і разуменне гэтага толькі ўзмацняла непрыемнае пачуццё трывогі. «Выйду праветруся», — вырашыў князь і стаў нацягваць боты.

У мястэчку, не зважаючы на ноч, было шумна і неспакойна. Ярка гарэлі кастры, устрывожаныя стральцы вялікімі натоўпамі рухаліся па вуліцах, нешта бурна абмяркоўвалі, спрачаліся і лаяліся.

— Што тут такое? — запытаўся князь у вартавога. — Чаму не спяць ратнікі?

Вартавы, магутнага целаскладу стралец, пацісную шырокімі плячыма і грубым, прастуджаным голасам, паведаміў:

— Кажуць, што статысячнае ліцвінскае войска ўжо на падыходзе.

Ад такога паведамлення Пятра кінула ў жар: «Няўжо?» — на большае ў яго не хапіла смеласці. Глыбока глытаючы свежае марознае паветра, князь некалькі імгненняў разгублена стаяў на панадворку. Цяжкімі ўдарамі ў скронях пульсавала адзінае пытанне: «Няўжо?», і хаця сам ваявода быў чалавекам рашучым і смелым, але ўсеагульны сполах разам з сырым, халодным паветрам пранік і ў яго істоту. Ён рэзка павярнуўся на месцы і, ўжо заходзячы ў нізкія дзверы хаты, раздражнёна кінуў вартавому:

— Пакліч сюды брата!

Братняя нарада была нядоўгай і, яшчэ далёка да ўзыходу сонца, стралецкія палкі пачалі згортваць свой лагер і ціха, бы рабаўнікі, пакідаць наваколле Барані.

Рухаліся хутка, без прывалаў. Ваявода ведаў — цар не даруе яму палону. З баязлівасці пасмяецца, магчыма, паб’е сваім посахам, раз-другі абняславіць перад баярамі, аднак сорам не дым, вочы не выесць, з ім жыць можна. А вось палон! Палон — гэта непазбежная смерць. Моцна захрасла ў памяці князя Пятра, з якой звярынай лютасцю і д’ябальскай асалодай цар Іван Васільевіч уласнаручна сек палоненых палачан, пускаў пад рачны лёд яшчэ жывых габрэяў, іх жонак і дзяцей. Не любіў цар палонных, таму і ўцякаў князь Пётр ад невядомай яму сілы — лепш ганьба, але жыццё, чым палон і смерць.

Шлях быў наезджаны, накатаны, вядомы: па дняпроўскім лёдзе да Дубоўны, адтуль — на Красны. Там можна адпачыць, аддыхацца, прывесці ў парадак свае думкі.

У Дубоўне не спыняліся, памянялі коней і зноў у дарогу.

Да памежнага паселішча Лядава пад’ехалі, калі дзень быў у самым разгары, і як ні спяшаўся князь, як ні стараўся яго возчык гнаць коней, але чуткі аб набліжэнні ліцвінаў імчалі хутчэй. Менавіта тут князь Пётр пачуў ад свайго ахоўніка Грышкі Хляста, што пяцітысячная стралецкая застава, пакінутая ім у Крапіўне, поўнасцю высечана ліцвінамі і што іх конныя раз’езды ўжо бачылі ў ваколіцах Лядава. Аднак вестка аб конных раз’ездах праціўніка мала зацікавіла князя. Яго ўвагу прыцягнула стоўпатварэнне ля вузкага мастка праз рэчку, і ўрэшце ён не вытрымаў, запытаўся:

— Што там такое?

— Мост аказаўся трухлявым, ваша міласць, — першым адазваўся Хлёст. — Не вытрымаў цяжару нашай раці і абваліўся.

Абаленскі брудна вылаяўся, задумаўся і праз некалькі імгненняў паказаў рукой у бок лесу, дзе над вяршынямі елак віліся ледзь бачныя стужкі дыму.

— Там што за паселішча?

— Вёсачка Плавуны называецца, — здавалася, што Хлёст ведаў усё. — Каля трох дзясяткаў халопскіх душ.

— Едзем! — ваявода ўладарна секануў рукой паветра і зручней уладкаваўся ў сваім вазку.

І аднаго гэтага руху хапіла, каб велізарная стужка абозу збочыла з наезджанай дарогі на рачны лёд Мірэі і па ім папаўзла ўбок недалёкага паселішча. Душэўна спустошаны, нягалены, стомлены і галодны, князь Пётр сядзеў у санках і, быццам зачараваны, глядзеў на заснежаныя векавыя яліны, якія нагадвалі яму волатаў, што шмат дзесяцігоддзяў нерухома стаяць тут на варце межаў сваёй дзяржавы. Ён ніколі не паказваў свайго хвалявання перад падначаленымі, заўсёды імкнуўся быць спакойным і разважлівым. Аднак зараз рукі яго міжволі задрыжэлі, а на шчоках зазіхацелі кропелькі слёз. На душы зрабілася неспакойна і млосна. Раптоўна захацелася стаць маленькім, схавацца пад футрамі ад брата, ад стральцоў, ад усяго свету, схавацца і выплакацца. Але… Што перашкаджала яму зрабіць гэта, князь не паспеў дадумаць — магутны ўдар скалануў вазок, падкінуў яго ўгору, з усяе моцы пляснуў аб лёд, і князь страціў прытомнасць.

Ачуняў ён хутка. Расплюшчыў вочы і першае, што ўбачыў — перапалоханыя стральцы аховы пад камандаю Хляста выцягваюць з палонкі на лёд яго вазок. Князь з дапамогай брата падняўся на ногі, зрабіў некалькі глыткоў з біклагі, якую падаў яму Васіль і, канчаткова прыходзячы ў сябе, злосна трасянуў рукой:

— Ты куды глядзеў, воўчае семя? — ён выхапіў з похваў шаблю і з усяе сілы, укладваючы ва ўдар свае боль і злосць, секануў возчыка па галаве.

Гарачая кроў фантанам пырснула ва ўсе бакі, запэцкала белы княжы кафтан, пафарбавала лёд, напалохала каня, але яна і ахаладзіла Пятра, быццам разам з душой небаракі-стральца з яго вылецелі і злосць, і нянавісць, і раздражненне. Князь на імгненне супакоіўся, аднак новы страх балюча ўдарыў пад сэрца і вырваўся з яго вуснаў ледзьве чутным пытаннем:

— Дзе мой куфар?

Адказам была цішыня. Нават стральцы, якія мянялі на выцягнутым з палонкі вазку зламаныя аглоблі, палахліва сцішыліся, уцягнулі ў плечы галовы, зрабілі выгляд, што не пачулі пытання.

— Дзе мой куфар? — са страхам і адчаем закрычаў князь. — Дзе куфар?

Зноў цішыня была яму адказам, і князь не вытрымаў гэтай цішыні. Быццам падкошаны нябачным асілкам, ён са стогнам паваліўся на рачны лёд, стаў качацца па ім, выць, кленчыць, дзіка смяяцца.

Стральцы спалохана адступіліся да палонкі і толькі малодшы брат Васіль таптаўся ля ваяводы, спрабаваў яго неяк супакоіць, суцешыць. Урэшце яму ўдалося ўліць у рот Пятра некалькі глыткоў гарэлкі і той прыціх, а праз некалькі імгненняў, спустошаны, абязволены і знясілены, заплакаў. Яго турботы і памкненні, мары і спадзяванні — усё, дзеля чаго ён цярпеў спёку Бахчысарая і лютыя маразы Масковіі, зараз не мела значэння, бо ён страціў пад лёдам гэтай нікому невядомай рэчкі не проста казну, тут ён згубіў кнігу, якую яму даў цар. А разам з кнігай у гэтай вадзе патанулі не толькі яго гонар і годнасць, разам з ёй тут патанула яго жыццё. Хаця… А раптам…

Князь падняўся на ногі, мутным позіркам абвёў прыціхлага брата, стральцоў, хітнуў Хлясту:

— Падыдзі.

Грышка спалатнеў, паваліўся на лёд, падпоўз да свайго ўладара і заціх, чакаючы вырашэння свайго лёсу. Але Абаленскі не спяшаўся, думаў. Урэшце ён узмахнуў рукой, каб стральцы крыху адышлі ад яго і загаварыў.

— Твае бацькі верай і праўдай служылі маім бацькам. Ты таксама мой верны служка, а таму я хачу даверыцца табе.

Хлёст усхліпнуў, схапіў князя за мокрае крысо кафтана, прыпаў да яго вуснамі. Князь Пётр не звярнуў на гэта ўвагі і, гледзячы ў шэрую прастору неба, працягваў гаварыць сваю задуму. Голас яго гучаў роўна, але ў ім не адчувалася ні адценняў, ні пачуццяў, быццам гаварыў не чалавек, а нябожчык.

— Ты бачыў, дзе мой куфар пайшоў на дно і таму ты таксама застанешся тут, — князь выцягнуў з кішэні залаты дукат, паклаў яго на дошку вазка, падняў шаблю.

— Памілуй, уладар, — усхліпнуў Хлёст. Плечы яго затрэсліся.

Аднак ваявода не слухаў свайго халопа. Шабля са свістам рассекла паветра і распалавінены дукат бясшумна ўпаў на акрываўлены лёд. Князь падняў адну палавінку і паклаў у сваю кішэнь.

— Вазьмі, Грышка, палову манеты, — загадаў ён стральцу і, калі той, яшчэ нічога не разумеючы і не верачы канчаткова ў сваё выратаванне, падхапіў з лёду кавалак золата, прадоўжыў: — Пакажаш месца, дзе патануў куфар таму, у каго будзе другая палова.

— А ці доўга…

— Ты будзеш ахоўваць мой куфар столькі, колькі спатрэбіцца і заб’еш кожнага, хто захоча яго дастаць без маёй на тое волі.

— А калі…

— Калі ты памрэш, яго будзе ахоўваць твой сын, не стане сына — яго сын… І гэтак да таго часу, пакуль дзве паловы манеты не сустрэнуцца.

— Мне патрэбны памочнік, — зразумеўшы заданне, крыху асмялеў Хлёст.

— Памочнік? — князь спахмурнеў. — Што ж, я дам табе памочніка, — з гэтымі словамі ён зняў са сваіх грудзей амулет і працягнуў яго стральцу. — Гэта грыфон — сімвал сонца, прывезены мне з Бахчысарая. Той, хто ім валодае, набывае вялікую сілу і становіцца бессмяротным. Сцеражы скарб, інакш ты і твой род будзеце праклятымі на вечныя пакуты ў пекле, — сказаўшы апошнія словы, князь Пётр узабраўся на каня і, не азіраючыся, паехаў у бок недалёкай вёскі…

## 2

Заканчвалася лета 1985 года. Яно зрабіла сваю справу: выспеліла добры ўраджай, і зараз, ахінаючы прастору мяккім цяплом, з лагоднай усмешкай назірала за руплівай працай хлебаробаў.

Дні стаялі сухія і ціхія. Гэтага іх спакою не парушалі ні вятры, якія зрэдку вылятала аднекуль з-за лесу, ні туманы, якія раніцамі ўсё часцей клубіліся белай парай у нізінках і быццам папярэджвалі: «Спяшайся, земляроб. Восень на падыходзе!»

Капітан міліцыі Андрэй Кухар спаць лёг апоўначы — у час жніва шмат работы ва ўчастковага інспектара, а тут яшчэ і ўчастак дастаўся яму памежны, неспакойны. Лёгкай хмаркай сон ахутваў яго розум, стомленае за дзень цела, і пакрысачку, па частачках ён плаўна апускаўся ў іншае, адрознае ад дзённага, небыццё, у якім будзе жыць цікавым і захапляльным жыццём цэлую ноч.

Жнівеньскія ночы, як правіла, зорныя, з яркім месяцам і чыстым да крохкасці паветрам, у якім пад ранак ужо адчуваецца восеньская свежасць. Менавіта ў такія ночы прыадчыняецца брамка ў невядомы свет, поўны таямніц, рамантыкі, прыгод і гераізму. Гэты свет расквечаны бліскучымі і прытушанымі

зоркамі, сузор'ямі і зарніцамі, блакітнымі дугамі падаючых метэарытаў, жамчужным россыпам Млечнага шляху. А пад мяккім святлом месяца пануе такая цудатворная цішыня, што падаецца, быццам на гэтым свеце зусім няма зла і ніколі не здараецца нічога дрэннага…

Аднак капітан не паспеў дагледзець свой сон — тэлефонны званок настойліва, і таму трывожна, за некалькі секунд ушчэнт разбіў усе яго светлыя летуценні. Андрэй падхапіўся з ложка, схапіў слухаўку і застыў у чаканні нейкіх, непрыемных для яго, звестак.

— Ало, — да яго слыху данёсся ўстрывожаны жаночы голас. — Андрэй Сяргеевіч?

— Так, капітан міліцыі Кухар слухае.

— Андрэй Сяргеевіч, гэта Вера Мікалаеўна, загадчыца Лядаўскай бібліятэкі.

— Слухаю вас, Вера Мікалаеўна.

— У нас забойства.

«Гэтага мне толькі не хапала для поўнага шчасця!» — канчаткова прачынаючыся, падумаў участковы. А ўголас пацікавіўся:

— Хто каго забіў?

— Я не ведаю, — здавалася, што жанчына вось-вось заплача. — Хлапчукі вясковыя ішлі на рыбалку і знайшлі на беразе Мірэі нябожчыка. — У трубцы пачуліся ўсхліпы. — Кажуць, што ён не наш, не мясцовы.

— Вера Мікалаеўна, вы не хвалюйцеся. Зараз прыедзе следчая брыгада і ва ўсім разбярэцца. Вы толькі прасачыце, калі ласка, каб ніхто з цікаўных не падыходзіў да трупа, не затаптаў магчымыя сляды, і дзетак затрымайце да прыезду следчых. Добра?

— Добра.

Пасля размовы з жанчынай Андрэй патэлефанаваў дзяжурнаму, далажыў пра здарэнне, паставіў на газ чайнік і сам пачаў збірацца на працу. Забойства ў Лядаве спачатку яго быццам не вельмі ўсхвалявала — ёсць следчыя, ёсць пракуратура, яны разбяруцца. У яго ж зараз патрабаванне пра захаванне тэхнікі бяспекі на жніве, пра дысцыпліну механізатараў і работнікаў зернесушылак, пра зладжаную работу дзіцячых садкоў і крам на тэрыторыі сельскага савета. Ды і забіты — чалавек не мясцовы, хаця — усё ж забойства, а гэта зусім не жартачкі...

А за акном пачынаўся новы дзень. Велізарны пунсовы дыск паказаўся на ўсходнім небасхіле, накінуў пурпуровую мантыю на вершаліны лесу, на палі і паселішчы. Сонечныя прамяні пазалацілі аконныя шыбы, гарэзліва заскакалі зайчыкамі па сценах дамоў, па галінах дрэў, пачалі настойліва прабівацца ў кватэры. І ў адначассе ранішняя шэрань растварылася ў тумане, зазіхацела рознакаляровымі фарбамі ў буйных кроплях расы, саступіла месца дзённай радасці.

Кухар выйшаў на панадворак, адчыніў дзверцы сваіх «Жыгулёў», завёў рухавік і праз некалькі хвілін каціў у бок беларуска-расійскай мяжы да вёскі Лядава.

Але ў Лядаве ён не спыняўся і адразу паехаў да рэчкі, бо ўжо ўявіў, дзе дзеці маглі знайсці тапельца. Ля кожнай рэчкі, як ля кожнага вадаёма, ёсць мясціны, якія найбольш прыдатныя для купання ці рыбалкі. Былі такія мясціны і на Мірэі, і ўчастковы іх выдатна ведаў. Аднак ён памыліўся — нябожчыка знайшлі намнога ніжэй па цячэнні, ды яшчэ ў такім месцы, куды, напэўна, не заходзіў ніводны рыбак. Нядобрая слава была ў гэтай невялікай, забалочанай затокі. І не таму, што тут з зямлі біла адразу некалькі крыніц, што вада тут не прагравалася, была сцюдзёнай нават у самую вялікую спёку. Не таму, што тут

быў балоцісты бераг і вудзіць рыбу было нязручна, паколькі не заходзілі сюды ні галавень, ні плотка, ні акунь. Нядобрая слава замацавалася за гэтай затокай яшчэ з часоў сівой даўніны, бо нідзе ў акрузе не гінула столькі жывёлы, як ля яе, а чалавека, які выпадкова праходзіў побач, ахоплівала невытлумачальная трывога, і ён імкнуўся хутчэй пакінуць гэтае месца. Таму і называлі затоку Гіблай. Таму і памыліўся ўчастковы, не чакаў ён, што знойдзецца нейкі дзівак, які захоча на ўласнай скуры праверыць, ці праўду расказваюць мясцовыя старажылы аб гэтай праклятай затоцы.

Кухар пакінуў машыну на вузкай палявой дарозе і пешшу накіраваўся да адзінокай жаночай постаці, што стаяла метраў за пяцьдзясят ад затокі. Ён яшчэ раз павітаўся з Верай Мікалаеўнай і, каб не маўчаць, запытаўся пра дзяцей, якія знайшлі труп.

— Я іх адпусціла, — ціхім голасам, быццам баючыся патрывожыць сон нябожчыка, прагаварыла загадчыца бібліятэкі. — Ім і так хапіла страху.

— А што яны тут рабілі? — шчыра здзівіўся Кухар. — Рыба не ловіцца, купацца холадна. Цікава.

— Яны ішлі ў Плавуны да сваіх знаёмых, каб там разам вудзіць рыбу.

— Зразумела, — прагаварыў участковы і павярнуўся на шум матора — проста па полі да іх набліжаўся міліцэйскі уазік у суправаджэнні «хуткай дапамогі». — А вось і пракуратура едзе.

— Мне зараз можна ісці? — і такая надзея гучала ў голасе жанчыны, што Кухару стала яе шкада.

— Я думаю, што следчы вас надоўга не затрымае і хутка адпусціць.

Следчы, капітан Міклашэвіч, за руку павітаўся з Кухарам, строга, быццам першага падазронага, агледзеў Веру Мікалаеўну і павярнуўся да двух аператыўнікаў і маладзенькай жанчыны-эксперта:

— Вы, хлопцы, пакуль агледзьце месца злачынства, а я пагутару са сведкай.

— Я нічога не бачыла, — адразу адгукнулася загадчыца бібліятэкі. — Я тут па просьбе Андрэя Сяргеевіча, сачыла, каб ніхто не наблізіўся да памерлага.

— Хто такі Андрэй Сяргеевіч і ад каго ён даведаўся пра труп?

— Андрэй Сяргеевіч — гэта я, — уступіў у гутарку Кухар, — а Вера Мікалаеўна загадвае мясцовай бібліятэкай. Раніцай два хлопчыкі з Лядава ішлі ў суседнюю вёску да сваіх сяброў, убачылі на беразе рэчкі нябожчыка і паведамілі пра гэта ёй. Яна патэлефанавала мне, і я папрасіў яе падзяжурыць да майго прыезду.

— З гэтым разабраліся, — палагоднеў следчы. — А дзе зараз тыя хлопчыкі?

— Я іх адпусціла дахаты, бо яны і так вельмі перапалохаліся.

Следчы хітнуў галавой, нешта пазначыў у сваім нататніку, зірнуў на высокае ўжо сонца, уздыхнуў:

— Зноў дзень будзе спякотным.

— Мне можна ісці? — не падтрымала перажыванняў Міклашэвіча Вера Мікалаеўна. — У мяне рабочы дзень у самым разгары.

— Можаце быць свабоднымі, — не задумваючыся дазволіў следчы і адразу забыўся на жанчыну. — Пайшлі, капітан, паглядзім на нябожчыка.

Калі работнік пракуратуры і ўчастковы падышлі да берага Мірэі, эксперт ужо заканчвала агляд кішэняў вопраткі незнаёмца. Сам нябожчык, даволі малады і прыгожы хлопец, ляжаў на спіне на беразе, а яго ногі амаль поўнасцю амываліся рачной вадой. Па ўсім было бачна, што памёр ён раптоўна і хутчэй за ўсё ад сардэчнага прыступу. Гэта пацвердзіла і эксперт:

— Труп на сто працэнтаў не крымінальны, — бясколерным голасам прагаварыла яна. — Памёр чалавек учора вечарам, слядоў барацьбы няма, аднак што дзіўна — ні пашпарта, ні грошай, ні аўтобуснага квітка ў яго кішэнях я не знайшла. Ну не могуць быць поўнасцю пустымі столькі кішэняў, — жанчына патрэсла ў паветры новым джынсавым касцюмам. — Толькі ў адной з кішэняў я знайшла гузік ад абмундзіравання польскага жаўнера, ды і той чамусьці прышыты. Вы бачылі, Павел Казіміравіч, каб нехта насіў у кішэні прышыты гузік ад ваеннай формы?

— Я многа што бачыў, — сур'ёзна адказаў Міклашэвіч і павярнуўся да аператыўнікаў:

— Што ў вас?

— Чалавек вечарам вырашыў паплаваць з маскай, папаляваць на шчупака, аднак не разлічыў, што тут вада вельмі халодная і як вынік — інфаркт.

— Чаму менавіта тут? — больш у сябе, чым у прысутных, запытаўся Кухар.

— Ну памёр бы ён вунь у той затоцы, тады б ты пытаўся чаму там, а не тут, — пажартаваў адзін з аператыўнікаў. — А вось чаму ён без грошай і без дакументаў — гэта ўжо і сапраўды цікава і з гэтым трэба разбірацца.

— Вось і разбірайцеся, — Міклашэвіч выцягнуў з кішэні цыгарэты, закурыў і, убачыўшы, што аператыўнікі не зрушыліся з месца, а таксама стаяць і кураць, павысіў голас:

— Хопіць паліць! Бярыце з сабой участковага і ідзіце апытваць калгаснікаў, а ў першую чаргу пагутарце з дзецьмі, якія знайшлі гэтага небараку.

## 3

Бліжэй за іншых да Гіблай затокі жыў Іван Хлястоў. Яго двор размяшчаўся на пагорку і быў абнесены старым, высокім парканам. Побач з парканам знаходзіўся невялікі, яблынь на шэсць, сад і гэткі ж невялічкі гародчык.

— Бы ў крэпасці жыве, — адзначыў адзін з аператаўнікаў. — Значыць, ёсць што хаваць ад суседскага вока.

— Наконт дабра не ведаю, а вось сам Іван — чалавек прыжымісты, крыху дзікаваты, нелюдзімы і неразгаворлівы. Да пенсіі працаваў у калгасе конюхам, стасункаў з людзьмі практычна не меў і адносін ні з кім так і не наладзіў, а таму сяброў не мае.

— А родныя, жонка, дзеці?

— Пра родных нічога не чуў, а жонка збегла ад яго, не вытрымаўшы і трох гадоў сумеснага жыцця, пакінуўшы яму немаўля-сына.

— І дзе зараз сын?

— Шафёрыць на аўтабазе.

Зблізку двор Івана выглядаў не так злавесна, як ад рэчкі. Старая, пачарнелая ад часу і дажджоў брама, была яшчэ даволі моцнай. Брамка, якая размяшчалася побач, нядаўна рамантавалася і зараз надзейна бараніла свайго гаспадара ад няпрошаных гасцей. Дошкі паркана хоць і былі чорныя, але сярод іх не відаць ніводнай трухлявай ці падгнілай. Яблыні саду ахайна падрэзаны і пабелены, у гародчыку таксама панаваў парадак.

— А Іван — мужык гаспадарлівы, — пахваліў гаспадара старшы з аператыўнікаў.

— Гаспадарлівы, — чамусьці ўздыхнуў Кухар і, некалькі разоў тузануўшы зачыненыя дзверы брамкі, загрукаў па іх кулаком: — Іван, адчыняй. Міліцыя!

Аднак за варотцамі ніхто не адгукнуўся на стук участковага. Тады Кухар паўтарыў спробу:

— Іван, адчыняй. Трэба пагутарыць.

Зноў цішыня стала адказам на заклікі міліцыянера. «Можа, яго няма дома?» — Кухар яшчэ некалькі разоў ударыў кулаком па тоўстых дошках брамкі, прыслухаўся і прыпаў вокам да невялікай шчыліны ў дошках. Прыпаў і тут жа, бы ўджалены, адхіснуўся — праз шчыліну на яго глядзела немігаючае чырвонае вока.

— Чорт бы цябе ўзяў! — вылаяўся ўчастковы некалькі разоў, бы адганяючы насланнё, хітнуў галавой і патлумачыў сваім сябрам: — Ён жа, хлопцы, стаіць за дзвярыма і даўно назірае за намі.

— Што вам трэба? — данёсся з-за варот рыпучы голас.

— Хочам задаць табе пару пытанняў.

— Пытайцеся.

— Праз вароты? — здзівіўся малодшы аператыўнік і, не пачуўшы адказу, змірыўся, запытаўся: — Ці ведаеш ты чалавека, якога знайшлі на беразе рэчкі?

— Не ведаю.

— А ці бачыў ты, адкуль ён прыйшоў?

— Не бачыў.

— Можа, учора вечарам чуў нешта незвычайнае ля рэчкі ці ў суседзяў?

— Нічога не чуў і за суседзямі я не сачу.

На гэтым гутарка закончылася.

Калі міліцыянеры адышліся далей, гаспадар расціснуў кулак — на яго далоні мяккім залатым бляскам заблішчэла палова манеты. Ён уздыхнуў, схаваў золата ў кішэнь, прысеў на кукішкі і патрапаў за морду вялікага белага сабаку, што ўвесь час стаяў побач з ім. «Будзем чакаць, Грыфон. А гэтых людзей нам няма чаго баяцца, бо ў іх разуменні — мы з табой бессмяротныя!»

## 4

Мішка Бабыль — бліжэйшы сусед Івана Хлястова. Жыў у цагляным калгасным доме і па характары быў поўнай супрацьлегласцю Івана: лянівы, неахайны, аднак бяскрыўдны і гаваркі. У сябрах ён меў добрую палову вёскі, другая палова была яго таварышамі. Яго дом не меў агароджы і часта нават наогул не зачыняўся на замок. «А што ў мяне можна ўкрасці? — пытаўся ў сяброў Мішка. — Усё каштоўнае я заўсёды нашу з сабой». А на пытанне, што ў яго ёсць каштоўнага, нязменна адказваў: «Добрае сэрца і чыстая душа». І калі наконт чысціні яго душы можна было паспрачацца, то сэрца ён і сапраўды меў добрае, лагоднае.

Як і Іван, Мішка быў ужо на пенсіі, але працягваў працаваць на ферме падвозчыкам кармоў. Работа цяжкая, аднак ён кожны дзень меў магчымасць папіць уволю свежага малака а, калі побач не было даярак, то і наліць бутэльку сырадою сабе на вячэру.

Калі міліцыянеры падышлі да яго дома, Мішка ўжо садзіўся на веласіпед, каб ехаць на ферму. Убачыўшы нечаканых гасцей, ён спыніўся, нават зняў з галавы брудны капялюш. У яго бясколерных вачах побач з бесклапотнасцю і цікаўнасцю з'явіліся і іскрынкі трывогі. Ён першым павітаўся з міліцыянерамі і, чамусьці гледзячы на Кухара, сцяўся ў чаканні пытанняў — усё ж такі крыху хлусіў Мішка, не вельмі чыстым было яго сумленне.

— А не познішся ты на работу? — пацікавіўся ўчастковы. — Сонца ўжо вунь як высока.

— Я цялятак даўно пакарміў, — Мішка нават паружавеў ад напружання і невядомасці. — Прыехаў на паўгадзінкі дахаты, каб паснедаць і…

— Добра, аб працы пагаворыце потым, — перапыніў Бабыля старшы аператыўны работнік. — Зараз ты нам скажы, што незвычайнага ты бачыў учора вечарам?

— Незвычайнага? Учора вечарам? — Мішка некалькі разоў паціснуў плячыма, задумаўся. Урэшце ён нешта ўспомніў, бо вочы яго зазіхацелі вясёлым смехам: — Учора вечарам некалькі цялятак вырваліся з загону, дык мы з заатэхніцай да глыбокай ночы іх лавілі і цягалі на ферму.

— А тут, ля рэчкі?

— Тут? — Мішка хмыкнуў. — Тут я нічога не бачыў, бо дахаты вярнуўся позна ноччу. Пакуль пералавілі...

— Добра, пра цялят мы ўжо чулі, — старшы аператыўнік нешта пазначыў у нататніку. — А што ты нам скажаш пра свайго суседа: ну, які ён чалавек, чым займаецца ў вольны час, хто яго наведвае?

— Пра іншага я за вочы вам нічога не расказаў бы, але пра Ваньку скажу. Чалавек ён цяжкі, падазроны, з нейкай гнільцой. Я яго ведаю з дзяцінства і ўвесь час ён быў такім: скрытным, вечна пахмурным, маўклівым. Адзін прыклад з будаўніцтвам хаты для Цішкі Прышчэпы чаго варты!

— Прышчэпа — гэта ваш інжынер? — удакладніў Кухар.

— Ён самы.

— Дык і што здарылася з будаўніцтвам хаты для Цішкі і пры чым тут твой сусед?

— Гэта даўняя і непрыемная гісторыя.

— Мы папалім, а ты расказвай, — старшы аператыўнік выцягнуў пачак цыгарэт. — Пяць хвілін табе хопіць?

Мішка па звычцы зноў паціснуў плячыма:

— Як пойдзе.

— Расказвай.

— Гадоў з дзесяць таму Цішка закончыў тэхнікум і быў размеркаваны ў наш калгас механікам. Ён і зараз хлопец гарачы, а тады быў — агонь, самы сапраўдны Везувій. Яму давалі кватэру ў цэнтры вёскі, але ён адмовіўся. «Сам хачу паставіць хату, сваімі рукамі», — сказаў ён на праўленні і ад яго адчапіліся. Ён выпісаў лесу, праз калгас закупіў цэглу, дошкі, цэмент, шыфер і з дапамогай сваіх бацькі і двух братоў распачаў ставіць зруб. Тры месяцы ішло будаўніцтва, затое і хату яны пабудавалі адмысловую — высокую, на тры пакоі, з шырокімі вокнамі і прасторнай верандай. А ў красавіку амаль усю вёску Цішка запрасіў на наваселле.

Месяцы тры хлопец ніяк не мог нацешыцца сваім жытлом. Аднак неяк пад восень у яго раптоўна захварэла карова і яе давялося прырэзаць. Потым здохлі два парсюкі, куры, пачалі хварэць і самі гаспадары. Цішка быў у роспачы, не ведаў, што рабіць, да каго звярнуцца па дапамогу ці хацяб параду.

Аднойчы да яго зайшла бабка Сідарыха.

— Кепскае ў цябе жытло, — яна ўважліва агледзела хату. — Ні абраза, ні крыжа няма ў ім, а значыць, і бараніць цябе няма каму.

— Дзе ж узяць абраз і ці дапаможа ён маёй сям’і?

— Ён дапаможа табе зразумець прычыну, а перамагчы зло ты павінен сам, — бабка прайшлася па хаце і паказала вачыма на кут, дзе трэба павесіць абраз. Потым развязала хустку, якую прынесла з сабой, дастала з яе невялікі абразок, паклала на стол.

— Гэта мой падарунак табе на наваселле, — сказала яна, прачытала кароценькую малітву, перажагналася і накіравалася да выхаду.

— А мне што рабіць?

— Павесь абраз і чакай.

У той жа дзень Цішка павесіў абраз ва ўказаным Сідарыхай куце, а вечарам да яго зайшоў у госці Ванька Хлястоў. Ні да каго ніколі не заходзіў, а тут на табе, прыпёрся, ды яшчэ з пляшкай гарэлкі.

— Хлястоў хадзіў у госці? — не паверыў Кухар. — Ён жа, як кажуць, не ўсіх вяскоўцаў у твар ведае. І чаму ён такую пашану хацеў аказаць Прышчэпу?

— Дык Цішка хату паставіў вунь там, амаль побач з Ванькавым замкам.

— Вось нават як, — прысвіснуў участковы. — А я і не ведаў гэтага.

— Аднак расказваю, што адбылося далей, — Мішка сам захапіўся сваім расказам і адчуваючы, што яго ўважліва слухаюць, узяў невялікі перапынак, закурыў цыгарэту, са смакам выдыхнуў смярдзючы дым. — Піць Іванаву гарэлку Цішка не стаў, а калі той пайшоў, зачыніў за ім дзверы і лёг спаць. Але спаў ён нядоўга — апоўначы, акурат ля яго хаты пачуліся валтузня, енк і сабачае скавытанне. Спачатку Цішка спалохаўся, а потым схапіў стрэльбу, выскачыў на панадворак і пальнуў адразу з двух ствалоў у суцэльную цемру.

Рэшту ночы Прышчэпа спаў спакойна, а пад раніцу сасніў сон, быццам ён едзе на машыне ў раён і па дарозе падбірае спадарожніка — старога з доўгай сівой барадой, і на развітанне той яму кажа: «Добры ў цябе дом, хлопец, аднак яго трэба разабраць і перанесці ў іншае месца». Разабраць дом — гэта не жартачкі, ды яшчэ восенню. Але Цішка з наступнага дня і прыступіў да работы. І што вы думаеце, — Мішка пераможна пачаргова агледзеў міліцыянераў, — у тым куце, дзе вісеў абраз, разам з мохам ляжалі абпаленыя косткі жывёл. Хто іх туды падкінуў — загадка і па сёння… А Цішка перавёз свой дом на іншую вуліцу і зараз жыве там без усялякіх клопатаў і турбот.

— Думаеш, косці — Іванава справа?

— А тут і думаць не трэба, хаця, як у вас кажуць: «Не спайманы — не злодзей», — Мішка бесклапотна ўсміхнуўся, аднак раптам спахапіўся: — Я ж на работу спазняюся. Як там мае цялядкі?

— Можаш ехаць да сваіх цялятак, — дазволіў Бабылю старшы аператыўнік і звярнуўся да сяброў: — Пайшлі з дзецьмі пагутарым?

Аднак хлопчыкі нічога новага не паведамілі: ішлі ў суседнюю вёску, заўважылі чалавека на беразе, а калі зразумелі, што ён нежывы, пабеглі ў Лядава і аб убачаным расказалі першаму сустрэтаму імі даросламу. Ім аказалася бібліятэкарка Вера Мікалаеўна.

— Што ж, Андрэй, ты працягвай апытваць вяскоўцаў, а мы пагутарым з вадзіцелямі рэйсавых аўтобусаў і дубровенскімі таксістамі, — паціскаючы Кухару руку, на развітанне гаварыў старшы аператыўнік. — Праз дзень-другі высветлім прозвішча гэтага незнаёмца і даведаемся, чаго ён сюды прыехаў.

## 5

Цэлы дзень капітан апытваў сялян, размаўляў і са старымі, і з маладымі, і са школьнікамі, аднак пра незнаёмага чалавека ў джынсавым касцюме ніхто нічога не памятаў. І толькі вечарам, калі Кухар ужо ішоў да сваёй машыны, яго дагнаў на веласіпедзе Мішка Бабыль.

— Пачакай, таварыш участковы, — задыхаючыся ад хуткай язды і ад хвалявання, прасіпеў ён у спіну Кухару. — Я бачыў учора тапельца, бачыў на чым ён прыехаў і куды пайшоў.

Участковы спыніўся, пачакаў, пакуль Мішка аддыхаецца, і толькі потым загаварыў:

— Мы ж у цябе пра яго яшчэ раніцай пыталіся. Тады ты нічога не чуў і не бачыў, казкі нам пра цялятак расказваў. А тут раптам успомніў. З чаго б гэта?

— Раніцай пра тапельца я яшчэ нічога не ведаў, ды і пыталіся вы ў мяне пра ўчарашні вечар, — Мішка выцер успацелы твар рукавом бруднай кашулі, прадоўжыў: — А таго хлопца я бачыў днём, якраз апоўдні.

— Расказвай падрабязна.

— Апоўдні я паехаў у краму, каб купіць пачак «Астры». Выходжу і гляджу — па шашы кацяць «Жыгулі» з уключаным левым паваротам. «Куды гэта ён?» — падумаў я пра шафёра і паехаў за ім, тым больш, што дарога ідзе ля маёй хаты. Аднак машына хутка спынілася і з яе выйшлі два чалавекі — Грышка Баранаў з Плавуноў і малады, незнаёмы хлопец у джынсавым касцюме. Незнаёмец развітаўся з шафёрам, той развярнуўся і паехаў у бок Дубоўны. А Грышка са сваім прыяцелем пайшлі ўздоўж рэчкі ў Плавуны.

— Шафёра машыны запомніў?

— Мужык гадоў пад сорак, вусаты, у акулярах. Машына — жоўтая «сямёрка», як і ў нашага старшыні, а нумар, — Мішка напружыўся, крыху памаўчаў, потым весела махнуў рукой: — 45-54, а на літары я не звярнуў увагі.

Кухар спачатку нават і не паверыў у такую ўдачу — цэлы дзень ён шукаў сведкаў, абышоў кожны дом, кожную хату, кожную арганізацыю, а тут на табе — уся інфармацыя і ў аднаго чалавека. Вось дык Мішка, вось дык сабачы хвост!.. Чаму ж ты не ўспомніў гэта раніцай? Гэта ж колькі сіл і часу патрачана дарэмна? А нерваў? Аднак участковы не стаў крыўдаваць на Бабыля. Наадварот, ён выцягнуў з кішэні памятую пяцёрку і ўрачыста, ад усёй душы ўручыў яе мужчыне:

— Гэта, таварыш Бабыль, табе прэмія за каштоўную інфармацыю. Нямнога канешне, аднак і ты правініўся, паведаміў яе ў самы апошні момант.

Мішка ўзяў пяць рублёў, схаваў іх у кішэнь і, крыху падумаўшы, пажартаваў:

— Спадзяюся — гэта не хабар?

— Не хвалюйся — гэта падзяка.

І абодва мужчыны рассмяяліся. А пасля развітання Бабыль паімчаў да крамы, а Кухар — у сельскі савет да тэлефона.

## 6

Следчага пракуратуры Паўла Міклашэвіча Кухар застаў яшчэ на рабочым месцы. Той уважліва выслухаў участковага інспектара, задаў некалькі нязначных удакладняючых пытанняў, падзякваў за працу і ў самым канцы гутаркі папрасіў:

— Ты ўсё роўна зараз побач з Плавунамі, заедзь да гэтага Баранава, пагутары з ім, можна і без пратакола, можа, ён раскажа табе штосьці пра нябожчыка.

Грышка Баранаў, статны, саракагадовы мужчына, сядзеў ля сваёй хаты на бярозавай калодцы і папраўляў вуду. Убачыўшы міліцыянера, ён неахвотна падняўся, паціснуў працягнутую руку і, чакаючы тлумачэнняў, прытуліўся спінай да шурпатага ствала яблыні.

— На вячэрнюю рыбалку сабраўся? — Кухар паказаў вачыма на вуду. Потым дастаў з кішэні пачак цыгарэт і прапанаваў Грышку. Той падзякаваў і адмоўна хітнуў галавой: «Не куру». Капітан выцягнуў цыгарэту, закурыў сам і запытаўся па сутнасці свайго візіту:

— Учора апоўдні ты прыехаў у Лядава з адным хлопцам…

— А-а, вы ад яго? А я думаў што ён сам да мяне прыйдзе па свой заплечнік, раскажа пра Гіблую затоку, пакажа рыбу, якую там злавіў.

— Не прыйдзе ён да цябе і рыбы, злоўленай у Гнілой затоцы, не пакажа, бо памёр учора вечарам. Сэрца.

— Памёр? — недаверлівая ўсмешка з'явілася на твары Грышкі. — Пакажы-ка, капітан, сваё пасведчанне.

Уважліва прагледзеўшы міліцэйскае пасведчанне, гаспадар цяжка ўздыхнуў:

— А я, дурань, учора нават крыху на яго пакрыўдзіўся, думаў, што яму не спадабаўся ў мяне камфорт і ён застаўся ў некага ў Лядаве, а тут... Аднак, чаму мы стаім на панадворку? Прашу ў хату.

Хата ў Грышкі была невялікай — два пакоі і куханька. Мэбля цяжкая, старая. Некаторую, як кухонную шафу, стол і табурэткі — наогул рабіў мясцовы сталяр, а фарбаваў, пэўна, сам гаспадар і на свой густ. Толькі каляровы тэлевізар не пасаваў абстаноўцы, рэзка кантраставаў побач з самаробнай этажэркай і цяжкім круглым сталом. Заўважыўшы цікаўнасць госця, Грышка патлумачыў:

— Мэблю даўно трэба было б замяніць, аднак маці не дазваляе, бо яе пасля вайны рабіў мой бацька, і яна для маці зараз, бы жывая. Не паверыш, капітан, а часам яна і размаўляе з ёй, і раіцца, і скардзіцца на жыццё ці свае хваробы.

— Значыць, ёй не хапае тваёй увагі.

— Каюся, — гаспадар уключыў у разетку электрачайнік, дастаў з палічкі цукар, пачак індыйскага чаю, пакет з пернікамі, — дома бываю рэдка.

— А ты не тут жывеш?

— Не, жыву я ў Смаленску, працую настаўнікам, а да маці прыязджаю на вакацыі ці на святы.

— Зразумела, — Кухар пачакаў, накуль Грышка разалье па кубках кіпень і толькі потым запытаўся:

— А дзе вы ўчора сустрэліся з..., — ён на імгненне сумеўся, — з чалавекам, які пакінуў у вас свае рэчы?

— З Максімам? Мы з ім адным аўтобусам ехалі ў Дубоўну. Разгаварыліся. Аказалася, што яго цікавіць наша Гіблая затока, таму я і прапанаваў яму яе паказаць.

— На чым вы прыехалі ў Лядава?

— У Дубоўне на аўтастанцыі нанялі нейкага прыватніка і ён за дзесяць рублёў прывёз нас сюды. Я паказаў Максіму затоку, і мы пайшлі да мяне. Я думаў, што Максім тут пераначуе, а ўжо раніцай пачне свае даследаванні, аднак ён узяў ласты, маску і гарпун і пакрочыў да рэчкі, сказаў, што хоча паплаваць.

— А аб чым вы размаўлялі? Што зацікавіла Максіма ў Гіблай затоцы, месцы, якое абыходзяць усе мясцовыя жыхары?

— Я не ведаю, якія дзівосы прывабілі яго да нашай рэчкі, аднак з гісторыі нашай дзяржавы ён ведае шмат займальнага, пазнавальнага, нам невядомага. Ды і суразмоўца ён цікавы, — Грышка асцярожна падштурхнуў бліжэй да госця пернікі і прадоўжыў:

— Мы з ім шмат пагаварылі аб сэнсе жыцця, іншапланецянах, сусветным розуме, НЛА.

— І вы, настаўнік, верыце ў кантакты з іншапланецянамі? Азірніцеся — на двары восемдзесят пяты год дваццатага стагоддзя!

— А вы не верыце? — Грышка хітра ўсміхнуўся, і Кухар адчуў, што знянацку зачапіў любімую тэму гаспадара. Аднак адступаць было позна, ды і сам капітан, неаднойчы перад сном, часта разважаў на падобныя тэмы. — Вы ж не думаеце, што іншапланецянін будзе размаўляць з вамі так, як гэта тут робім мы? Не, кантакт будзе адбывацца тэлепатычна, праз абмен думкамі. А зараз скажыце, Вы размаўляеце самі з сабой?

— Здараецца размаўляю, нават спрачаюся.

— А ў вас што, унутры жыве нехта гэткі ж разумны, як і вы? Не, гэта вы сам. А вы ў гэтым упэнены? Чаму вы раіцеся самі з сабой, чаму не робіце так, як задумалі адразу? А раптам вы пытаецеся парады не ў сябе, а ў некага іншага, якога проста не бачыце з-за недасканаласці нашага вока? Памятаеце, колькі пісьменнікаў апісвалі свае дыялогі з чортам ці д'яблам? Аднак вы ж разумееце — тое, што кажа чорт, нараджаецца ў галаве пісьменніка, а гэта зусім не азначае, што ў ёй чорт і жыве. Таму я веру, што ў Сусвеце існуе адзіная логіка і адзіны розум, і згодна ім, знешняя сіла не павінна ўздзейнічаць на падзеі на нашай планеце. Аднак тыя людзі, якія вырашаюць гісторыю зямлі, зусім не цікавяцца парадамі з космасу. Больш таго, напрошваецца вывад аб змове вялікіх краін, якія замоўчваюць або скажаюць факты прысутнасці на нашай планеце прадстаўнікоў іншага розуму.

— Я прадстаўнік сілавых структур, — Кухару пачала надакучваць такая гутарка ні аб чым, — і якія факты я перад вамі скажаю? Я прашу вас расказаць мне пра канкрэтнага чалавека, а вы расказваеце мне пра сусветны розум.

— Мы жывём не ў вялікай краіне, а вы — усяго толькі малюсенькі вінцік у яе механізме. Аднак вы пыталіся ў мяне, чаму Максіма зацікавіла наша Гіблая затока. Вы не верыце агульным словам, тэорыі, верыце толькі фактам. Што ж, даю факты. Мой бацька ў сорак трэцім годзе быў дзесяцігадовым смаркачом і ён мне расказаў, што ў верасні таго года да гэтай затокі на дзвюх машынах фашысты прывезлі нейкіх палонных людзей, мабыць, чалавек дзесяць-дванаццаць. Фашысты адразу пачалі нешта вымяраць ля рэчкі, забіваць у зямлю калкі, чарціць нейкія планы, а палонныя прыняліся капаць траншэю ўздоўж берага. Мой бацька тады вудзіў непадалёку і, заўважыўшы чужынцаў, схаваўся ў кусты, пачаў назіраць за імі. Ён бачыў, як раптам над затокай заклубіўся туман, як з гэтага туману з'явілася здань у вобразе чалавека і як яна пачала доўгім мячом сячы тых, хто знаходзіўся ля рэчкі. Фашысты крычалі ад жаху, стралялі па здані з аўтаматаў, аднак яна не звяртала на кулі ўвагі і секла людзей, пакуль не пазабівала ўсіх. Потым яна знікла, растварылася ў рачной вадзе разам з туманам. А самае цікавае — на целах забітых не было ні крыві, ні нават глыбокіх драпін. Праз тры тыдні вёску вызваліла савецкая армія і пра тое здарэнне бацька больш не ўспамінаў.

Магчыма, Максім у архівах знайшоў нейкую інфармацыю пра той выпадак і яго ён зацікавіў, не ведаю, ён мне аб сваёй рабоце нічога не расказваў. Гучыць неверагодна, праўда? Мне аб ім расказаў бацька перад сваёй смерцю, аднак я ўсё роўна недзе ў глыбіні душы сумняваюся ў яго праўдзівасці, спадзяюся, што тады яму гэта падалося са страху.

— Так яно і было, — упэўнена пацвердзіў міліцыянер. — Маленькі хлапчук упершыню зблізку ўбачыў смерць, спалохаўся яе выскалу і яго ўяўленне, каб дачасна не выпаліць дзіцячы розум, адразу намалявала пачвару з мячом у руках. Гэта, як міраж, часовы псіхічны разлад.

— А вось Максім паверыў у расказ майго бацькі, нават па-свойму патлумачыў, чаму тая здань не пасекла фашыстаў.

— Ну і чаму?

— У фашыстаў на форме і на пілотках былі нашыты арлы, а грыфон арла не кранае. Гэтыя і тыя нясуць смерць.

— Які Грыфон? Што за Арол?

Грышка пацiснуў плячыма:

— Пра іх некалькі разоў успамінаў Максім.

— Пэўна, мянушкі яго сяброў?

— Магчыма. Я не зразумеў.

Кухар дапіў чай, падзякаваў і, імкнучыся больш не закранаць тэм пра НЛА ці сусветны розум, запытаўся пра рэчы нябожчыка.

— Вунь на куфры ляжыць яго заплечнік. Я да яго нават не дакранаўся.

Участковы падняўся з табурэткі, падышоў да куфра, узяў у рукі невялікі заплечнік, зазірнуў у яго. Той быў амаль пусты і ляжалі ў ім толькі фотаапарат «Зеніт», пачак фотаплёнкі «Кодак», кашалёк ды невялікі радыёпрыёмнік. Аднак у бакавой кішэні Кухар знайшоў тое, дзеля чаго працаваў цэлы дзень — пашпарт незнаёмца. Раскрыўшы яго, ён з шумам выдыхнуў з сябе паветра, а разам з ім і клопаты, і перажыванні, і раздражнёнасць прайшоўшага дня.

— Камяневіч Максім Фёдаравіч, — амаль па складах прачытаў ён прозвішча і тут жа пачаў гартаць старонкі пашпарта, шукаючы прапіску яго ўладальніка. — Горад мне добра вядомы, вуліца Дубовенская. Што ж ты, Максім Фёдаравіч, хацеў знайсці ў гэтай рэчцы? Чаму табе не сядзелася дома? Няўжо і сапраўды паверыў у байкі пра туманных ратнікаў?

— А вы не паверылі?

— Ды лухта ўсё гэта. Калі я раскажу заўтра следчаму, што Камяневіча Максіма Фёдаравіча забіла пачвара, якая ўзнікае з туману, а жыве ў рацэ, то мяне адразу ж, у лепшым выпадку, адправяць да псіхіятра, у горшым — у псіхушку. Ладна, калі б гутарка ішла пра Днепр ці Дзвіну, а то — у нейкай ручаіне жыве няведама хто! Вы самі, паважаны Грыгорый, ці верыце ў свае міфы?

— Веру, — цвёрда адказаў гаспадар. — А вам я спачуваю, бо калі вы паверыце ў іх, ужо можа быць позна.

— Я ў іх не паверу ніколі, — капітан працягнуў Баранаву на развітанне руку. — Дзякуй за чай. Прыемна было пазнаёміцца.

Міліцыянер паехаў. А гаспадар выйшаў на панадворак, паглядзеў на цёмную стужку ракі, у якой ужо серабрыўся месяц, прагаварыў:

— Дзвіна і Днепр — рэкі вялікія, паўнаводныя, людныя, навідавоку, а наша Мірэя — рака хатняя, ціхая і непрыкметная. Аднак не дарэмна ж продкі назвалі яе Мірэя, што азначае Мроя, Мара, надзея на лепшае.

## 7

Прайшоў тыдзень з дня смерці Максіма Камяневіча. Падзеі таго дня пачалі паступова сцірацца з памяці ўчастковага капітана Кухара, адыходзіць на задні план. Зноў яго рабочы дзень напоўніўся турботамі пра якасную ўборку ўраджаю, пра парадак на калгасных мехдварах і фермах.

Аднойчы раніцай у аддзеле міліцыі яго выпадкова сустрэў следчы пракуратуры Павел Міклашэвіч. Павіталіся.

— Паслухай, Андрэй, — не адпускаючы Кухаравай рукі, загаварыў следчы. — Ты не збіраешся, выпадкам, сёння ў горад?

— Вось зараз і паеду. Але па справах.

— Я ведаю, — суха ўсміхнуўся Міклашэвіч. — Завязі ты туды заплечнік Камяневіча. Пакінеш у дзяжурцы, а хлопцы потым самі перададуць яго каму трэба.

— Без праблем, — пагадзіўся капітан.

— Ну вось і добра. А то валяецца на складзе без патрэбы.

Аднак Кухар не выканаў свайго абяцання, забыўся, не пакінуў перадачу ў райаддзеле міліцыі і ўспомніў аб ёй толькі на выездзе з горада. «Чорт бы мяне ўзяў! — спыняючы машыну, лаяў сябе капітан. — Трэба ехаць назад». І тут ён успомніў, што Камяневіч Максім жыў на Дубовенскай вуліцы, а гэта ж недзе зусім побач. Ён паглядзеў на нумар бліжэйшага дома, праехаў яшчэ крыху наперад і прытармазіў ля звычайнай вясковай хаты, якую акружаў стары сад і невялікія дагледжаныя кветнікі. Ён выйшаў з машыны, наблізіўся да ўваходных дзвярэй, націснуў на кнопку электразванка. Дзверы адчыніліся амаль адразу, і ў іх праёме ўзнікла дзявочая постаць у жалобным строі.

— Вы да каго? — пацікавілася дзяўчына.

— Я хацеў бы пабачыць каго-небудзь з родных Максіма Камяневіча.

— Я яго сястра. Бацькі зараз на працы.

— Я хачу перадаць рэчы Максіма.

Дзяўчына крыху падумала, уздыхнула, потым адхілілася ўбок.

— Праходзьце, — дазволіла яна і, калі Кухар зайшоў у сені, зачыніла дзверы. — Праходзьце ў хату, не саромцеся.

У хаце панаваў паўзмрок. Капітан зайшоў у вітальню і спыніўся ў нерашучасці, не ведаючы, куды ісці далей.

— Праходзьце ў залу, — данёсся з сяней дзявочы голас.

Кухар прайшоў у залу, агледзеўся і ўладкаваўся ў крэсле ля зграбнага журнальнага століка, на якім ляжаў патрапаны тонкі вучнёўскі сшытак і некалькі часопісаў. У пакоі было прахалодна, чысценька і ўтульна, і ўчастковаму стала нават сорамна, што ён не здагадаўся зняць абутак. Аднак гаспадыня не звярнула на гэта ўвагі. Яна прайшла да канапы, села на яе край і запытальна паглядзела на заплечнік, які ляжаў на падлозе ля ног участковага.

— Тут рэчы вашага брата, — перахапіўшы позірк дзяўчыны, парушыў няёмкую цішыню Кухар. — Фотаапарат, грошы, прыёмнік, ласты з маскай, ружжо для падводнага палявання. — Ён узяў у рукі заплечнік і хацеў падаць дзяўчыне, аднак тая адмоўна, нават спалохана, махнула рукой:

— Не трэба. Хай ляжыць там.

Капітан зноў апусціў заплечнік на дыван. Дзяўчына яму падабалася, і ён быў не супраць нейкі час пагутарыць з ёй. Вось толькі аб чым? Акрамя міліцэйскіх тэм у галаву больш нічога не лезла, і ён запытаўся:

— Скажыце, а што хацеў адшукаць ваш брат у рэчцы? Скарб нейкага маскоўскага баярына? У ваколіцах Лядава ходзяць чуткі, што ў Мірэі патануў куфар з золатам, аднак гэта было так даўно. Ды і байкі ўсё гэта.

— Ну чаму байкі? Вось каля вас на стале ляжыць сшытак, які я выпадкова знайшла ў Максімавым пакоі, і там ёсць некалькі ўспамінаў пра той скарб. Пачытайце, калі вам цікава.

Кухар узяў у рукі сшытак. Ні ў якія скарбы на дне Мірэі ён не верыў, аднак сам жа першым загаварыў на гэтую тэму, і таму ён адгарнуў вокладку і пачаў чытаць.

Скарга сялян вёскі Лядава на свайго лаўніка:

*«Мы, убогие подданые з села Лядава, ускаржаемося вашым милостям, нашым милостивым паном, на лавника дубовенского на име Рома Беззубца, который нам великие а незносные кривды чынит от колко лет безвинне нас грабит и грабежы у него гинуть, а коли почнем у него грабежов просит, тогды нас бьеть, мордуеть нас самих и детей наших, што узмовит на нас брат пану, то сам берет во двое того. Ябедник лихий, присяжник, лихвяр примушае нас скарб московского боярина в Мирее искати ан нет так сребро ему давати. С пугою железною ходит, што кат. Дети, скоро обачывшы его с пугою идучого, то от него утекают, а псы и духу его боятся».*

Вытрымка з запіскі невядомага ліцвіна аб бітве пад Улаю:

*«1564 р. 11 лютага*

*...Еще, по написанию цедулы моей, другая потешная новина пришла до пана моего, иж в той битве самого Шуйского забито и тело его в реке знойдено; а то поведил подскарбий его, которого поймано от наших людей, ищучи тело пана своего. А Шереметьев также в битве будучи древом шкодливе пробит и скоро приехавши до Полоцка умер. А тое войско неприятельское, што под Дубровною было, уже ся были перепровадили на сюю сторону Орщи и Днепра; а скоро о войску господоря нашего и теж о поражьце Шуйского з войском уведали, веземши на себя страх и покинувши увесь кош побегли, и яко за три дни у Смоленска стали; а бегучи, добра и маетности свои кидали. Тако ж Серебрянный-Аболенский казну утопил, а оршанцы поведають, иж такое великое добычи и при великой Оршанской не взято. А теперь князь великий московский послал был дворянина своего Петра Ивановича Сотницына-Клобукова з сорокма коней, снать, казну отшукати и даючи ведати о той битве: которого казаки Дубровенские побили и двух живых поймали, с чого со всего нехай будет хвала пану Богу!»*

Кухар стаміўся чытаць неразборлівы Максімаў почырк, яму надакучылі спробы зразумець сэнс некаторых слоў, таму ён не стаў чытаць далей і паклаў сшытак на ранейшае месца.

— Так, тут упамінаецца пра нейкую казну, аднак гэтыя доказы ўскосныя, без канкрэтыкі. І што, толькі па гэтых фактах ваш брат хацеў знайсці золата?

— Золата Максіма зусім не цікавіла. Ён шукаў іншае і ўшчыльную займаўся адной звышсакрэтнай фашысцкай арганізацыяй, — дзяўчына задумалася, уважліва паглядзела на свайго суразмоўцу, усміхнулася:

— Дарэчы, мяне завуць Таня.

— Андрэй, — прадставіўся капітан і паспрабаваў падняцца з крэсла.

— Вельмі прыемна.

— Мне таксама, — Кухар зноў апусціўся на мяккае сядзенне. — Скажыце, Таня, а што за ваенныя сакрэты знайшоў Максім у Лядаве?

— Я не ведаю, што знайшоў Максім у Лядаве, але дакладна ведаю — ваенныя тайны яго цікавілі мала і ён шукаў архіўныя звесткі з аддзела «Германскі навуковы патэнцыял у дзеянні». А за тры дні да сваёй смерці Максім вярнуўся дамоў узнёслы, радасны, светлы. Сказаў, што яго пошукі наблізіліся да заканчэння і што хутка ён стане вядомым чалавекам.

— А над чым ён працаваў канкрэтна?

— Над усім, — Таня сумна ўсміхнулася і пальцам выцерла пад вокам нябачную слязінку. — Падрабязнасці ён абяцаў мне расказаць пазней, баяўся сурокаў. А можа, інфармацыя была сапраўды выбухованебяспечнай, калі ён не захацеў падзяліцца ёй нават са мной?

— Я не ведаю, — шчыра прызнаўся капітан. — Я нават пра гэтую нямецкую арганізацыю раней нічога не чуў і даведаўся пра яе толькі ад вас.

— Яшчэ Максім неяк прагаварыўся, што за ім сочаць, і аднойчы па тэлефоне яму пагражалі, патрабавалі спыніць пошукі і спаліць усе паперы.

— Калі гэта было? Як яны прадстаўляліся?

— Ніяк яны не прадстаўляліся. Проста патэлефанавалі і сказалі, што, калі ён хоча жыць, то няхай спыняе сваю дзейнасць. А было гэта месяцы два таму.

— Магчыма, гэта канкурэнты ці зайздроснікі, — паспрабаваў заспакоіць дзяўчыну Кухар. — Ён жа не адзін цікавіўся «Спадчынай продкаў», пэўна, ёсць у горадзе і іншыя... краязнаўцы? Той жа Арол ці Грыфон.

— Тое, што адбылося з братам, не ўкладваецца ў маёй галаве. Я ніколі не паверу, што ён памёр ад сардэчнай недастатковасці. Так, Максім не быў асілкам, аднак і на сэрца ён ніколі не скардзіўся. Я не паверу, што яго смерць на сумленні нейкіх міфічных зайздроснікаў, бо іх у яго не было, ды і зайздроснікі ў сваёй большасці людзі слабыя, нерашучыя і на сапраўдны ўчынак ніколі не асмеляцца. А забойства чалавека — гэта ўчынак. Таму я і не разумею, пра якіх Арла з Грыфонам Вы ў мяне пытаецеся? Не было ў Макса знаёмых з такімі мянушкамі.

— Пра іх ён расказваў свайму спадарожніку, з якім разам прыехаў у Лядава.

— А-а, пэўна, брат меў на ўвазе грыфона — міфічнага крылатага звера, сімвала сонца, які лічыцца апекуном зямнога і нябеснага царстваў, і арла — міфічнага ахоўніка шчасця і ўдачы, магутнасці і спрытнасці, розуму і спакою. Толькі арол можа глядзець на яркае сонца не міргаючы, а таму толькі яго не кранае грыфон.

— Магчыма і так, — капітан згодна хітнуў галавой. — Але ж, я думаю, ваш брат усё ж расказваў вам нешта пра свае захапленні, радасці, бо з кім, як не з блізкім чалавекам, можна падзяліцца імі? Каму, як не роднай сястры, даверыць пякучую тайну?

— Не, Максім лішняга ніколі не гаварыў і мне амаль нічога не расказваў. Ён нават свае запісы захоўваў недзе ў незнаёмым мне месцы. Хаця, месяцы два таму, прагаварыўся, што вылічыў, дзе схаваны дзверы ў Залу Ведаў, і ўсё.

— Дзверы куды, у Залу Ведаў, пад рэчкай? — міліцыянер ледзь стрымаўся, каб не засмяяцца. — Што гэта яшчэ за зала?

Таня з недаверам паглядзела на суразмоўцу і, прачытаўшы ў яго вачах, што той і сапраўды нічога не ведае пра Залу, патлумачыла:

— Зала Ведаў — гэта комплекс памяшканняў для захоўвання і перадачы інфармацыі аб нашай планеце, аб народах, якія яе насяляюць, аб іх мовах, звычаях і абрадах, аб рычагах уздзеяння на прыроду і гэтак далей. З дапамогай гэтай Залы абраныя людзі, Максім называў іх Вялікімі, могуць кіраваць рознымі працэсамі на зямлі: паводкамі, землятрусамі, войнамі, знікненнем адных і ўзнікненнем другіх дзяржаў. Яны могуць нават рэгуляваць курс валюты той або іншай дзяржавы праз эканамічныя зносіны або прыродныя катаклізмы. На планеце існуе дванаццаць дзвярэй у Залу Ведаў і адны з іх — у нас. Магчыма, там, ля той вёскі, і знаходзяцца гэтыя дзверы, і мой брат на ўласныя вочы хацеў у гэтым упэўніцца.

— Лухта нейкая, — не стрымаўся Кухар.

— Чаму лухта? Дарэчы, дзверы ў гэтую Залу ў час апошняй вайны шукалі і вучоныя з «Аненербэ», а гэта была сур'ёзная арганізацыя, а не кааператыў па нарыхтоўцы рагоў і капытоў, і працавалі ў ёй найлепшыя вучоныя з розных галін навукі.

— Ну а навошта ваш брат шукаў гэтую Залу? Ён жа павінен быў разумець, што калі яна і існуе, то ўваход у яе будзе надзейна абаронены і пранікнуць туды простаму смяротнаму немагчыма.

— Ён усё гэта ведаў, — Таня зноў змахнула з вейкі нябачную слязінку. — Ён выдатна разумеў, што час герояў-адзіночак даўно прайшоў, аднак разам з тым ён быў перакананы, што невядомая нам сіла ўжо запусціла на Зямлі праграму самазнішчэння чалавека і што толькі ў Зале Ведаў гэтую праграму можна спыніць ці наогул адключыць.

Кухар хмыкнуў, пацiснуў плячыма i, не хаваючы вясёлых смяшынак у сваiх вачах, пацiкавiўся аб iншым:

— А вам, Таня, падабаецца жыць?

— Жыць? — пачуўшы пытанне, дзяўчына раптоўна сцялася i насцярожана, нават спалохана, паглядзела на суразмоўцу: — Чаму вы пра гэта пытаецеся?

— Проста я нiколi не адчуваў раней i не адчуваю зараз анiякай цягi да самазнiшчэння. Наадварот, мне вельмi цiкава i хораша жыць на гэтай планеце. Я хачу жыць кожнай сваёй клеткай i спадзяюся дажыць да глыбокай старасцi гэткiм жа здаровым i шчаслiвым чалавекам.

— Дапамагай вам Бог, — гаспадыня сумна ўсмiхнулася i зручней уладкавалася на канапе. — Чалавек не мае органаў, якiя здольны кантраляваць разбурэнне яго асобы, i таму для яго гэтыя працэсы адбываюцца непрыкметна i неадчувальна. Але вы азiрнiцеся навокал, задумайцеся i шчыра адкажыце самi сабе: што сталася з прыродай, з чалавекам? Чаму яны зрабiлiся такiя агрэсiўныя? Чаму людзi масава выракаюцца сваёй веры i ў той жа час ахвотна вераць розным прайдзiсветам? Куды знiкае чалавечая мараль i ўва што ператвораны сем смяротных грахоў? Ды i хто зараз пра iх памятае!

— Пра грахi я вам нiчога не скажу, а вось агрэсii, лiчу, i раней было не менш, чым зараз.

— Раней агрэсiя была больш прыкметнай, паколькi здзяйснялася праз учынкi, праз кроў i смерць. Зараз жа яна амаль нябачная, звыклая, бо праяўляецца праз рэчы, на якiя мы даўно не звяртаем увагi. Нават просценькая iгольнiца ў форме чалавечай галавы, а iх зараз поўна ў нашых крамах, з'яўляецца элементам агрэсii. Такiх прыкладаў мноства, яны дапаўняюць адно аднаго, сабраны ў цэласную сiстэму i ўсе служаць рэалiзацыi праграмы самазнiшчэння. Каму гэта патрэбна, Андрэй?

Андрэй некалькi разоў адмоўна хiтнуў галавой, пацiснуў плячыма i прамаўчаў. А Таня працягвала:

— Максiм усё выдатна разумеў. Ён не быў дурнем або наiўным хлапчуком, аднак ён не хацеў быць i абыякавым назiральнiкам. Куды ён толькi не звяртаўся, але... У лепшым выпадку з яго адкрыта не смяялiся. Таму i хаваў ён свае напрацоўкi, таму i спрабаваў у адзiночку пранiкнуць у Залу Ведаў, каб урэшце спынiць праграму знiшчэння, каб накiраваць чалавечыя памкненнi не да матэрыяльнага, а да духоўнага багацця. Ён верыў, што калi чалавек павернецца тварам да адзiнства з Прыродай, да любовi, да дабрынi i прыгажосцi, у яго адродзiцца духоўнасць i гарманiзуюцца светлыя сiлы. Максiм спадзяваўся выратаваць чалавецтва. — Таня стомлена ўздыхнула.

— Я недзе чуў пра такую тэорыю, — на гэты раз у словах Кухара гучала зацiкаўленасць. — Здаецца, расiйскi доктар Бутэйка таксама сцвярджае, што наша цывiлiзацыя ў сваiм развiццi, як i чалавечае жыццё, праходзiць чатыры этапы: нараджэнне, росквiт, заняпад i смерць, i што зараз мы ўступiлi ў

трэці этап эвалюцыі — заняпад. Аднак — гэта ўсё словы, якія гучаць загадкава, прыгожа, а часам, нават, і праўдзіва. І ўсё ж я думаю, што менавіта сам чалавек з’яўляецца кавалём свайго лёсу, што толькі ён вырашае меру сваёй духоўнасці, сваёй маралі і сваёй разбэшчанасці. Вось вы кажаце, што і немцы з «Аненербэ» шукалі ўваход у Залу Ведаў, але ж я не думаю, што ён ім быў патрэбны для таго, каб адрадзіць у людзей духоўнасць.

Таня паціснула плячыма: «Нешта не аб тым мы гаворым», задумалася, потым адкінулася на спінку канапы і заплюшчыла вочы. Участковы нейкі час глядзеў на дзяўчыну, потым ціха падняўся, каб непрыкметна выйсці і пакінуць яе ў спакоі, аднак гаспадыня кволым голасам, амаль шэптам, папрасіла:

— Пасядзіце са мной яшчэ крышачку, мне з вамі ўтульна і спакойна.

— Калі ласка, — адказаў міліцыянер і зноў сеў на крэсла.

Дзяўчына расплюшчыла вочы, сумна ўсміхнулася і прапанавала:

— А можа, вып’еце кавы?

— Дзякуй, — Кухар крыху разгубіўся і, нечакана для сябе, згадзіўся: — З задавальненнем.

Гаспадыня зноў яму ўсміхнулася, на гэты раз удзячна, паднялася з канапы і накіравалася на кухню. Кухар таксама ўстаў з крэсла і, не ведаючы, што рабіць далей, пакорліва пакрочыў услед за дзяўчынай.

Кухня была невялічкай і ў ёй ледзь змяшчаліся газавая пліта, халадзільнік і стандартны набор кухоннай мэблі.

— Сядайце ў кут ля халадзільніка, — прапанавала Таня, — там любіў сядзець Максім, — і, калі капітан уладкаваўся на табурэтцы, прадоўжыла свой расповяд:

— «Аненербэ» курыравала амаль усю навуковую дзейнасць Германіі: магчымасці масавага псіхатропнага ўздзеяння на людзей, стварэнне «звышчалавека», распрацоўкі новых нестандартных відаў зброі і шмат-шмат што яшчэ. Іншая справа, што многія свае пачварныя эксперыменты яны праводзілі на ваеннапалонных, на вязнях канцэнтрацыйных лагераў, на жанчынах і дзецях, і за іх злачынствы ім няма і ніколі не будзе даравання ні перад людзьмі, ні перад Богам.

— Аднак, якое дачыненне тая арганізацыя мае да скарбу, пра які згадваецца ў сшытку? Вы, Таня, мяне зусім заблыталі: Максім шукаў уваход у Залу Ведаў, скарб ці хацеў выкрыць ваенных злачынцаў з фашысцкай арганізацыі «Спадчына продкаў»?

— Мой брат быў разумным, адукаваным хлопцам і ён спрабаваў знайсці дзверы, уваход у Залу, а скарб і нямецкая арганізацыя — гэта проста выпадковыя адгалінаванні ў яго даследаваннях.

— Вы думаеце, што яго забілі?

— Я не ведаю, — шчыра адказала Таня. Яе вочы напоўніліся слязьмі. — Я баюся пра гэта думаць.

Кухар падняўся з табурэта, каб суцешыць дзяўчыну, аднак у гэты момант у калідоры зазваніў электразванок.

— Маці прыйшла з працы, — падхапілася з табурэткі і дзяўчына. Яна хуценька змахнула з вачэй слёзы, усміхнулася госцю: — Зараз я вас пазнаёмлю.

— Але мне трэба ехаць.

— Вельмі шкада. З вамі так цікава гутарыць, і маўчаць цікава.

Дадому капітан прыехаў вечарам і калі ён падняўся ў сваю кватэру, там ужо некалькі хвілін заходзіўся яго тэлефон. «Пэўна, Міклашэвіч хвалюецца за Максімаў заплечнік», — падумаў Кухар і падхапіў трубку.

— Капітан Кухар, забудзься пра ўсё, аб чым табе расказвала Таццяна Камяневіч. Інакш... — у трубцы загучалі доўгія гудкі.

— Інакш што? — няведама на каго закрычаў міліцыянер. — Заб'еш мяне, спаліш або атруціш? — але тэлефон маўчаў.

## 8

Спаў капітан трывожна. Сніў нябожчыка Максіма, стральцоў, якія выцягваюць з ледзяной купелі свайго ваяводу, іншапланецян з антэнамі на скафандрах і эсэсаўцаў, якія расстрэльваюць гэтых іншапланецян з аўтаматаў. Кухар з нецярпеннем чакаў раніцы, і ледзь-ледзь жнівеньскае сонца расфарбавала небасхіл у жоўты колер, як ён схапіў трубку тэлефона і нервова пачаў набіраць міжгародні нумар. На тым канцы трубку доўга не паднімалі, аднак участковы ўпарта чакаў. Урэшце доўгія гудкі заціхлі.

— Ало, — прагучаў сонны голас Тані. — Слухаю вас.

— Таня, добрай раніцы. Гэта я, Андрэй Кухар.

— Андрэй? Кухар? — дзяўчына не пазнавала ўчарашняга суразмоўцу. — Вы памыліліся нумарам.

— Я перадаў вам учора заплечнік і рэчы вашага брата. Потым мы пілі каву.

— Малады чалавек, майце сумленне, — пакрыўдзілася дзяўчына. — Я ж вам ясна сказала, што я вас не ведаю і вы памыліліся нумарам.

— Прабачце, — участковы павесіў трубку і злосна стукнуў кулаком па сценцы.

А днём ён быў ля Гіблай затокі і на ўсялякі выпадак сціскаў у руцэ вайсковы гузік з выявай арла. Ён нерухома стаяў на беразе і спакойна глядзеў на цёмную і гладкую стужку вады. Няўжо пад ёй хаваецца патаемны ўваход у Залу Ведаў? А можа, менавіта тут адступаючыя фашысты схавалі свой архіў, а сведкаў расстралялі? А можа, на дне ракі і сапраўды ляжыць куфар з золатам маскоўскага ваяводы? Ды лухта ўсё гэта, трызненні хворых людзей. Аднак чаму ж тады так трывожна на душы? Чаму часта, бы спалоханая птушка, б'ецца ў грудзях сэрца? Які жартаўнік званіў учора вечарам і адкуль ён ведаў пра візіт да Тані і размову з ёй? Чаму Таня раптоўна пра ўсё забылася? Не, трэба ўсё ж даследаваць гэтае гіблае месца, прайсціся па беразе з металашукальнікам, узяць пробы вады, аера, чарота. Трэба заспакоіць сваё сумленне, трэба даказаць і сабе, і такім, як Грышка Баранаў, што ніякіх звышлюдзей на нашай планеце няма, і што чалавек звычайны — вянец тварэння і самамэта Прыроды.

Адвячоркам капітан міліцыі Кухар вяртаўся ў Дубоўну. Ціха і заспакаяльна шумелі па асфальце калёсы машыны, роўна працаваў рухавік. Сонца ўжо схавалася за далёкім лесам, аднак бачнасць была добрай, і капітан ясна бачыў вялікага белага сабаку, які бег уздоўж шашы, бы спаборнічаючы з машынай у хуткасці. Дзе-нідзе ў нізінках курэў туман, што для жніўня было звыклай з'явай. Лёгкая музыка з радыёпрыёмніка разлівалася па ўсім целе млявасцю, спакоем і задавальненнем сабой. Раптоўна прама пасярод дарогі ўзнялася віхура, клубы прыдарожнага туману імкліва напаўзлі на чорную стужку асфальту, звіліся на ёй спачатку ў клубок, потым пашырыліся і ў адно імгненне пераўтварыліся ў невыразную чалавечую постаць з доўгім мячом у руках. Постаць узмахнула мячом, і міліцэйскія «Жыгулі», бы дзіцячая цацка, зляцелі з дарогі і ўдарыліся аб прыдарожнае дрэва…

# Частка II

## 1

Малады хірург гарадской бальніцы горада N. Віктар Станкевіч стаяў ля акна свайго кабінета і, гледзячы на клён, што рос непадалёку ад будыніны, думаў. Заканчвалася яго змена, а ён ніяк не мог вызначыцца — праводзіць сёння дзяжурную медсястру Свету дадому ці ўсё ж такі адчапіцца ад гэтай прыгожай, аднак легкадумнай дзяўчыны. Ён ужо два разы праводзіў яе, і няхай сумесныя прагулкі доўжылася ўсяго дваццаць хвілін і ні да чаго не абавязвалі іх абаіх, але Света сёння некалькі разоў глядзела на яго запытальна, бы чакаючы прапановы на нешта большае. Аднак Віктар не спяшаўся, і зараз, стоячы ля акна, са здзіўленнем адзначаў, што ўжо не зведвае таго радаснага, узнёслага пачуцця, таго замірання сэрца, з якімі праводзіў яе першы раз. «Усё ж такі добра, што мы не паспелі па-сапраўднаму зблізіцца, інакш зараз прыйшлося б рэзаць па-жывому, без наркозу, балюча».

Віктар сумна ўсміхнуўся сваім думкам — нават, разбіраючыся ва ўласных інтымных пачуццях, ён заставаўся хірургам.

Абыякавым позіркам акінуў клён за акном, крывава-памяранцавае неба над дахамі бліжэйшых пяціпавярховак, падумаў: «Нядоўга табе засталося быць зялёным», — і чамусьці пашкадаваў дрэва, зноў паглядзеў на неба, асветленае апошнімі промнямі заходзячага сонца. Не падабалася яму сёння неба — сваім нежывым колерам не адпавядала яго настрою. «Не, усё ж мы розныя, — зноў падумаў пра дзяўчыну. — У яе іншыя інтарэсы, свае запыты, яна не з майго свету. Ці ж мала за дваццаць сем гадоў жыцця я сустракаў на сваім шляху дзяўчат і жанчын? Дзясяткі, і ўсе яны так і заставаліся для мяне чужымі. Не, лепш пачакаць сустрэчы са сваёй адзінай, са сваім чалавекам».

Раптам Віктару стала няўтульна, холадна. Ён апусціўся на крэсла, схаваў твар у далоні. «Зараз выспацца б як след, змена была цяжкая». Тым часам нехта асцярожна пастукаўся ў дзверы, а праз імгненне яны прачыніліся і паказаўся сур'ёзны тварык Светы.

— Віктар Мікалаевіч, — прагаварыла медсястра. — Вас тэрмінова выклікаюць у прыёмны пакой.

— Што здарылася? — Віктар адняў далоні ад твару і міжволі зірнуў на насценны гадзіннік — да заканчэння яго змены заставалася яшчэ дзесяць хвілін.

— Мне тэлефанавалі, што міліцыянера прывезлі ледзь жывога пасля аварыі.

— Даўно?

— Толькі што, — жаль і спагада ў голасе дзяўчыны паказвалі, што яна шкадуе Віктара, што ён для яе неабыякавы, але яму раптоўна захацелася збегчы ад усяго гэтага, — ніводная жанчына, якая раней знаходзілася побач з ім, не падавалася такой чужой і далёкай. Ён спалохаўся яе кахання, а таму нечакана груба запытаўся:

— А вы чаму не на сваім пасту?

— Дык я ж…

— Прабачце, — Віктару стала сорамна за сваю нетактоўнасць і, не чакаючы адказу, ён падхапіўся з крэсла і подбегам накіраваўся да прыёмнага пакоя.

Міліцыянер ужо ляжаў на каталцы. Акрываўлены, з перавязанымі рукамі, шыяй і тварам, ён дыхаў надрыўна, з усхліпамі.

— Даўно ён разбіўся? — запытаўся хірург у немаладой жанчыны-фельчара з хуткай дапамогі. — Якія яму рабілі ўколы?

— Калола толькі абязбольваючыя, бо пры такім раненні… — фельчар няўпэўнена паціснула плячыма і, нібы апраўдваючыся, дадала: — Баялася больш нашкодзіць, чым дапамагчы.

— Добра, — Віктар расціснуў павекі параненага і зазірнуў у зрэнкі яго вачэй. Што ён там убачыў — не сказаў, аднак ужо больш упэўнена паўтарыў сваё «добра» і, звяртаючыся да аперацыйнай сястры, сказаў, які трэба зрабіць укол.

— Вы думаеце, што ў яго пачаўся ацёк галаўнога мозгу? — спыталася тая.

— Я нічога не думаю, — хірург асцярожна дакрануўся да пляча медсястры, сумна мовіў далей: — На ім няма жывога месца, ён увесь скалечаны, паламаны, і таму, Вера Міхайлаўна, пасля ўколу вязіце яго адразу на аперацыйны стол.

**2**

Мікіта сядзеў на бруднай земляной падлозе вузкага пакойчыка і пустым позіркам глядзеў у невялічкае акенца, больш падобнае на шчыліну ў яго сцяне. Ужо чатыры дні ён бачыў у ім адно і тое ж: ноччу — чорнае неба з незнаёмымі, а таму чужымі, зоркамі, днём — кавалак замшэлай крапаснoй сцяны. З першага дня свайго зняволення ён чакаў, што нехта патлумачыць яму прычыну няласкі да яго мясцовага раджы, аднак час ішоў, а Джунарскі раджа маўчаў. Маўчалі і яго слугі. Зрэдку да Мікіты заходзілі людзі. Яны палахліва, не падымаючы вачэй на белага чалавека, ставілі ля парога гліняныя гаршчэчкі з вадой ці ежай і адразу ж хаваліся за дзвярыма, надзейна зачыняючы іх на некалькі засавак.

Дзень змяняў ноч. Ноч змяняла дзень. Душа вязня пакутавала ад невядомасці і аднастайнасці. Пытанні без адказаў круціліся ў яго галаве ў шалёным танцы, і галоўнымі з іх былі: «За што? У чым мая правіна перад Джунарскім уладаром?»

Мікіта ўздыхнуў, зручней уладкаваўся ля шурпатай сцяны, заплюшчыў вочы. Яго памяць адразу ўспыхнула думкамі-ўспамінамі, яны выцеснілі без астатку ўсе пытанні, што дагэтуль трывожылі яго. Успомніўся вялікі князь Цвярскі Міхаіл Барысавіч, яго развітальныя словы: «Памятай, Мікіта, за межамі княства ты прадстаўляеш мяне, свайго князя, а таму вядзі сябе прыстойна, шануй нашу веру, беражы сваю годнасць».

Калі гэта было? Вясной 1468 года! Прайшло ўжо два гады блуканняў па Персіі. Два гады! А падаецца, што зусім нядаўна ён з гонарам адплываў на чатырох стругах уніз па Волзе з Ніжняга Ноўгарада. Колькі тады было надзей і спадзяванняў на ўдалае плаванне, на выгадны гандаль! Асleплены тымі надзеямі, ён нават не звярнуў увагі на тое, што маскоўскі купец Васька Панін падмануў яго і адплыў на два дні раней. «Хай плыве сабе, — падумаў ён тады легкадумна, — усё роўна хутка сустрэнемся ў Астрахані ці Дзярбенце». Аднак пад Астраханню яго чакала сустрэча не з Паніным, а з татарамі хана Касіма, і пасля той сустрэчы ён застаўся голы і босы. «Ты мой даўжнік, — смяяўся яму ў твар хан Касім, — бо я жыццё табе дарую, а яно мае большую каштоўнасць, чым увесь хлам на тваіх караблях. А мо ты, гяур, не згодны з гэтым?» Як тут не пагодзішся?

Аднак і вяртанне на радзіму без грошай і тавараў пагражала яму ганьбай і даўгавой ямай, і тады ён вырашыў заняцца гандлем у Персіі. Гандляваў у Баку, Мазандэране, Армузе, а летам 1469 года дык і наогул адправіўся ў незнаёмую яму Індыю, дзе спадзяваўся выгадна прадаць арабскага жарабца.

Амаль год ён пражыў у гэтай краіне, але зразумець індусаў так і не змог. Многае ў іх жыцці здзіўляла Мікіту сваёй складанасцю, многае, наадварот, абурала ці нават палохала сваім прымітывізмам. Як гэта так: амаль усе людзі тут ходзяць голымі, але з залатымі ўпрыгожваннямі на руках і нагах? Што за дзікі звычай, калі жонка гаспадара павінна ноччу спаць не з мужам, а з госцем? А іх вера? А раздзяленне людзей на касты? А адносіны да жанчын? — не, многае з чужога жыцця Мікіта не ўспрымаў, адмаўляўся разумець. Напэўна, за гэта неразуменне яго і зняволіў Джунарскі раджа. Адабраў грошы, адабраў жарабца, а яго самога вырашыў замарыць у сваёй вязніцы. Хаця не, тады яго не кармілі б два разы на дзень, пакінулі б без вады, а то і наогул — прырэзалі б і канцы ў ваду. Вось толькі за што?

Успаміны закончыліся і зноў у галаве запульсавалі ранейшыя пытанні без адказаў.

Раптам за дзвярыма пачулася нягучная гутарка, якая закончылася бразгатам засавак. Праз імгненне дзверы расчыніліся і ў іх праёме паказалася худая постаць з кароткай дзідай у руках.

— Эй, ты! — постаць звярнулася да Мікіты. — Цябе жадае бачыць наш раджа Абхай.

— Хай пабачыць, калі жадае, — Мікіта павольна падняўся на ногі. — Я ўжо чатыры дні чакаю гэтай сустрэчы.

— Ідзі, — ухіліўся ад размовы ахоўнік.

За дзвярыма вязня чакалі яшчэ тры воіны ў набедраных павязках і з дзідамі ў руках. Іх рухі былі рэзкія, на цёмных, закасцянелых тварах застыў выраз злосці, а ў чорных вачах пераліваўся страх. «Баяцца белага чалавека, — міжволі мільганула думка. — Магчыма, лічаць пасланнікам Буды».

Раджа Абхай сядзеў на тоўстым дыване перад нізенькім столікам з вітымі ножкамі. Гэта быў невысокі, поўны чалавек з хітрым позіркам вопытнага купца і добразычлівым выразам на круглым твары. Ён уважліва слухаў свайго госця ў чорнай вопратцы, які сядзеў насупраць яго і гэтак жа, як і гаспадар, піў гарбату. Гутарка, пэўна, была вельмі важнай, бо на з'яўленне Мікіты ніхто з іх доўгі час не звяртаў увагі.

Урэшце раджа заўважыў вязня.

— Ну што, Мікіта, сын Афанасія, не надакучыла табе мая гасціннасць? — з лёгкім смяшком пацікавіўся ён. — Можа, за гэтыя чатыры дні ты ўсё ж такі рашыўся стаць сапраўдным прававерным ці так і застанешся верным свайму Ісусу?

— Я веры дзядоў не выракуся.

— Глядзі, каб потым не шкадаваў, — раджа хітнуў галавой слузе і той хуценька напоўніў духмяным напоем яго і госцеву піялы. — А хочаш, я заплачу табе тысячу золатам? Хочаш быць маім сябрам і жыць у гэткім жа палацы? Хочаш мець гарэм і маладых наложніц?

— Я хачу быць вольным.

— Вольным? Вольным у нашым свеце, Мікіта, быць немагчыма. Аднак я адпускаю цябе. Аддаю табе тваё грошы і твайго каня і дазваляю жыць на маёй зямлі там, дзе ты пажадаеш, і столькі, колькі захочаш.

— Дзякуй, твая міласць, за ласку.

— Не мне дзякуй, — стомлена адмахнуўся ад Мікітавых слоў раджа. — Дзякуй кажы майму сябру Мухамеду, што ён сказаў пра цябе добрае слова.

Мікіта ўважліва агледзеў госця раджы і хутка пазнаў у ім свайго старога знаёмага купца Мухамеда, з якім неаднойчы сустракаўся на базарах Ніжняга Ноўгарада і Астрахані.

— Дзякуй, Мухамед, за добрыя словы.

Мухамед павярнуўся тварам да суразмоўцы і, прымаючы падзяку, лёгка хітнуў у адказ галавой:

— Я чуў пра твае няшчасці і адно скажу — Алах міласэрны і сваіх дзяцей у бядзе не кідае.

## 3

Пакінуўшы палац «гасціннага» раджы, Мікіта пасяліўся ў немаладога ганчара Готама. Індус з радасцю прыняў пастаяльца, паслаў у яго пакоі дыван, на які зверху паклаў некалькі цыновак. А вечарам за кубкам гарбаты Готам доўгі час расказваў госцю казкі пра чароўную птушку гукук, якая можа выпускаць з дзюбы полымя, пра князя малпаў, які здольны ў адначассе сабраць вялікую раць і перамагчы любога ворага. Готам быў добрым казачнікам, і яго аповеды былі бясконцыя, аднак Мікіта раптоўна пацікавіўся пра іншае:

— Вось ты, Готам, расказваеш мне цікавыя гісторыі пра птушак, пра звяроў, а скажы: ці ёсць у вас бандыты?

— Бандыты? — акругліў вочы ганчар. — Гэта хто?

— Бандыты ці душагубы — гэта людзі, якія рабуюць, а часам і забіваюць іншых людзей дзеля ўласнай спажывы.

— Ёсць і такія, — Готам спахмурнеў, на некалькі імгненняў задумаўся, потым рашуча секануў рукой паветра. — Я раскажу табе казку пра раджу Джагдзіша, які правіў нашым горадам шмат год таму.

— Цікава.

— Ты бачыў разбураны палац ля падножжа гор, дзе пачынаецца цясніна Смерці?

Мікіта пацiснуў плячыма:

— Не, я там ніколі не быў і пра гэту цясніну нічога не чуў.

— І добра, што не чуў, бо часам нават успамін пра яе можа стаць прычынай цяжкай хваробы, а то і смерці.

— Там жывуць злыя духі? — паспрабаваў адгадаць тайну незнаёмай цясніны Мікіта.

— Духі? — вочы гаспадара акругліліся, і Мікіту на імгненне падалося, што яны зараз павыскокваюць з вачніц. Готам спалохана азірнуўся па баках, панізіў голас: — Там жыве пачвара! — Ён зноў агледзеўся, потым, ужо больш спакойным шэптам, паведаміў:

— Дзясяткі адчайных галоў спрабавалі пабываць у той цясніне, разгадаць яе тайну, знайсці незлічонае багацце раджы Джагдзіша, але ніводны з іх не вярнуўся назад. Ніводны!

Мікіта з разуменнем хітнуў галавой, але прамаўчаў. Готам зашаптаў словы малітвы. Нейкі час мужчыны маўчалі, і толькі мяккае патрэскванне полымя парушала гэтую цішыню. Першым загаварыў гаспадар:

— Даўным-даўно тут знаходзілася сталіца ўладанняў раджы Джагдзіша. Людзі расказваюць, што ён быў жудасны правіцель: прыгожым, але без меры чэрствы і несправядлівы, сквапны, але смелы да адчайнасці. Напэўна, за смеласць яго палюбіў Шыва і даў яму магічны амулет — залатую пласцінку з выявай грыфона на адным яе баку і прадказальнікам на другім.

— Ад чаго бароніць гэткі амулет свайго ўладальніка?

— Ад усяго! — Готам здзівіўся прастаце пытання госця. — Грыфон сімвалізуе ўладарства над зямлёй і паветрам, ён дае свайму гаспадару сілу, розум, асцярожнасць і ўважлівасць. Прадказальнік адчыняе перад смяротным чала-

векам усе дзверы як на гэтым свеце, так і ў царстве ценяў. Ён дазваляе яму ведаць будучыню і змяняць падзеі сучаснага. Чалавек, які валодае гэтым амулетам, можа ўсё, але калі грыфона і прадказальніка раздзяліць, амулет губляе сваю моц і ператвараецца ў звычайны кавалак золата. — Гаспадар зірнуў на суразмоўцу — ці разумее той яго, і, убачыўшы, што Мікіта ўважліва слухае, прадоўжыў:

— Змеі, цмокі і грыфы, аберагаючы скарбы, заўжды бароняць шляхі да душы чалавечай, бо золата, срэбра і самацветныя камяні ёсць толькі сімвалы, якія даюць чалавеку ўладу, але не бяссмерце. Аб гэтым ведаў і раджа Джагдзіш, аднак усёдазволенасць усяліла ў яго сэрца непамерную пыху, якая затуманіла яго хворы розум настолькі, што ён кінуў выклік самому Шыву — уладару нябеснага воінства. Раззлаваўся Шыва на Джагдзіша і ў парыве шаленства са сваіх вуснаў стварыў страшэнную пачвару Вірабхадру, якая мела тысячу галоў, тысячу рук і тысячу ног, і кожная рука трымала смяротную зброю; з тысячы ратоў тырчэлі доўгія іклы, а цела пакрывала акрываўленая тыгравая шкура. «Што я павінен зрабіць для цябе, о найвялікшы з багоў?» — запытаўся Вірабхадра. «Ідзі на зямлю і знішчы армію Джагдзіша! — адказаў яму грозны Шыва. — Толькі самога раджу не чапай, хай пажыве без арміі і слуг, хай абдумае свой учынак».

Вірабхадра бездакорна выканаў загад Шывы, але людзі кажуць, што з таго часу раджа не можа насіць на сваіх грудзях чароўны амулет, а здольны толькі прыслугоўваць яго ўладальніку. Так рашыў Шыва.

— Казка цікавая, аднак раджа Джагдзіш даўно памёр. Каму ж зараз належыць той амулет?

— Джагдзіш, пэўна, і сапраўды памёр, — згодна хітнуў галавой Готам і, крыху памаўчаўшы, ледзь чутна прамовіў: — але душа яго блукае недзе тут — не пускае яе на неба Шыва. Людзі кажуць, што гэта яна ўладарыць у цясніне Смерці, што недзе там схаваны амулет Шывы і яна вартуе яго ад чужых вачэй.

— Цікава, адкуль ты ўсё ведаеш пра цясніну, калі душа раджы не пакідае сведкаў і ўсіх забівае?

— Я нічога не ведаю, — Готам зноў спалохана агледзеўся па баках. — Проста непадалёку ад разбуранага палаца раджы Джагдзіша мой работнік Калідас капае гліну, ну і... Навіны пра цясніну Смерці я дазнаюся ад яго.

— Яно і праўда — пра гэту цясніну лепш нічога не ведаць. У мяне на радзіме кажуць так: «Менш ведаеш — даўжэй жывеш!»

— Разумныя словы, — усміхнуўся шчарбатым ротам гаспадар, потым падняўся на кукішкі і пачаў напаўняць гарбатай пустыя піялы.

Мікіта моўчкі назіраў за індусам. Ён выдатна разумеў Готама, які, падзяліўшыся сваімі страхамі, зусім не заспакоіўся, а наадварот — стаў яшчэ больш запалоханым. І чаму ён нервуецца? Чаму так баіцца душы нябожчыка раджы? Што можа зрабіць яна жывому чалавеку? Забіць, знявечыць? — ды гэта смешна! Калі твая вера цвёрдая і непахісная, калі памкненні твае чыстыя і светлыя, то ніводны джагдзіш не пераможа цябе. Добрыя справы робяць чалавека бессмяротным, а не магічныя амулеты.

— Як часта твой работнік ездзіць капаць гліну?

— Заўтра раніцай паедзе, — Готам падаў свайму госцю піялу з гарбатай. — А чаму ты аб гэтым пытаешся?

Мікіта не адказаў. Ён і сам не ведаў, навошта запытаўся пра гэта ў Готама. Магчыма, каб парушыць маўчанне, а, магчыма, у яго галаве ўзнікла нейкая шалёная думка, аб якой ён яшчэ не здагадваўся.

## 4

А раніцай наступнага дня Мікіта разам з маладым работнікам Готама быў ля разбуранага палаца раджы.

Работнік, якога звалі Калідас, паказаў Мікіту на схіл гары і патлумачыў:

— Там я капаю гліну.

— А дзе ўваход у цясніну?

— Крыху далей, за пагоркам, — Калідас з цікаўнасцю агледзеў госця свайго гаспадара і пацікавіўся: — Ты думаеш ісці туды без зброі?

— У мяне няма зброі.

— Вазьмі тады хаця б гэта, — работнік выцягнуў з-за набедранай павязкі невялікую фігурку, выразаную з дрэва. — Я калі раней туды хадзіў, заўсёды браў з сабой фігурку арла. Дарэчы, я яе на гэтых развалінах і знайшоў.

Мікіта падзякаваў хлопцу за падарунак, узяў фігурку, прывязаў да яе скураны раменьчык і павесіў на шыю:

— Тут яна перашкаджаць мне не будзе.

Уваход у цясніну быў густа зарослы дрэвамі і кустамі, галіны якіх пераплялі ліяны і высокая трава. Аднак не гэта палохала смельчака — паўсюдна, куды б ён ні кідаў позірк, кішэлі змеі. Зялёныя, чорныя, сінія, паласатыя — яны, падавалася, віселі на кожнай галінцы, ляжалі пад кожным кустом. І ўсё ж Мікіта не адступіў. Асцярожна, крок за крокам, уважліва азіраючы наваколле, ён пачаў прадзірацца праз зараснікі і даволі хутка выйшаў на стары шлях. Ён не верыў казкам пра бессмяротнага раджу, ён не верыў расказам пра велізарныя скарбы, што схаваны ў гэтай цясніне, ён пасміхаўся са страхаў, якімі палохаў яго Готам, і адзінае, што вяло яго праз густыя зараснікі — гэта цікаўнасць.

Старую дарогу таксама пераплялі ліяны, але ісці па ёй было значна лягчэй.

Недзе апоўдні ён адчуў цяжкі, саладкаваты пах. Гэты пах яму быў знаёмы — так пахне труп жывёлы. Або чалавека! Мікіта спыніўся, агледзеўся, глыбей уцягнуў у сябе смярдзючае паветра. Сумненняў не было — недзе побач дагнівае труп. Вось толькі чый?

Збочваць Мікіта не стаў і пайшоў наперад. Праз некалькі дзясяткаў сажняў ён заўважыў невялікае возера, берагі якога курэлі парай, а па ўсёй гладкай паверхні з месца на месца перакочваліся клубы туману. Гэта здзівіла Мікіту: туман у спякоту? — дзіўна, аднак задумвацца над такой дробяззю ён не стаў. Яго больш зацікавіла пячора, уваход у якую ён заўважыў на супрацьлеглым беразе возера і дабрацца да якой можна было або па вадзе, або ў абыход, па беразе. «Плаваю я дрэнна, а зрабіць плыт няма чым. Пайду берагам», — вырашыў Мікіта і стаў паднімацца на невысокі скалісты пагорак. Дасягнуўшы вяршыні, ён агледзеўся, кінуў позірк уніз і аслупянеў — там ён убачыў Калідаса, які стаяў ля вады і ў непаразуменні, куды знік ён, Мікіта, круціў галавой. Аднак не паводзіны памочніка ганчара прыкавалі яго ўвагу. Клубы туману, якія нядаўна спакойна віліся ля паверхні возера, раптоўна ажылі, пачалі рухацца ў кірунку Калідаса.

— Калідас! — з вышыні пагорка Мікіта паспрабаваў папярэдзіць юнака, але з яго горла вырвалася толькі нягучнае хрыпенне. — Калідас!

І раптам, у адначассе, у цясніне прапалі ўсе гукі і яе скавала смяротная цішыня, у якой гучна калацілася Мікітава сэрца, а на яго адзенне, на камяні, на траву з туману бязгучна апускаліся буйныя кроплі. Ён зноў паспрабаваў закрычаць, разарваць сваім крыкам прасціну жаху, аднак мяккая рука нябачна-

га забойцы надзейна сціснула яго горла. Ён бачыў, як там, ля возера, з туману ўзнік ратнік у старадаўніх даспехах, як ён узмахнуў мячом, як зваліўся ў ваду Калідас. Ці не сон гэта? Ці не трызненне? Чаму туман пачаў уздымацца ўверх па пагорку? Жах панаваў навокал, расцякаўся ледзяным холадам па жылах, звінеў у вушах, у галаве. Ратавацца — не ставала сіл, крычаць — не было голасу, і адзінае, што яшчэ мог рабіць Мікіта — гэта маліцца. Ён не баяўся смерці, ён быў гатовы да сустрэчы з ёй, аднак усё ж апусціўся на калені, зашаптаў апаленымі жахам вуснамі малітву, і праз імгненне адчуў, што жар адпусціў сэрца, што туман адступіўся, скаціўся па камяністай сцяне пагорка да возера. Ён паверыў, што для яго яшчэ не ўсё скончана, што яшчэ зможа ўратаваць сваё жыццё. Мікіта шаптаў словы малітвы, а перад яго вачыма праплывалі малюнкі мінулага, мілыя сэрцу ўспаміны, па-дзіцячы светлыя надзеі і летуценні. Ён маліўся і плакаў, разумеў, што пасля ўбачанага тут ужо ніколі не зможа заснуць спакойна, не сасніць добрых сноў і стане гэткім жа палахлівым і нервовым, як Готам. «Што табе ад мяне трэба?» — ва ўсе грудзі бязгучна крычаў ён свайму страху, і слёзы захліствалі яго горла. А калі не стала слёз, ён зусім ашалеў ад сораму: каму патрэбны мае слёзы? Чаму я стаў такім слабым, што не магу сябе абараніць і галашу, быццам баба? Я не хачу быць такім, як Готам, лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях! Я не баюся цябе, дух Джагдзіша!

Паступова Мікіта супакоіўся, выцер далонямі твар, вочы, падняўся на ногі і адразу навокал яго пасвятлела, рэдкія пасмы туману апусціліся да возера і растварыліся ў вадзе, а ён сам, быццам легкакрылы матылёк, узляцеў над гэтым замшэлым каменнем, над цяснінай, над возерам. Страх поўнасцю адпусціў сэрца, і Мікіту стала лёгка і радасна, ён зразумеў, што той, хто ўзнік з рачнога туману — гэта зусім не чалавек. Гэта нават не здань. Гэта падман, які стварыў яго напалоханы розум. Гэта страх, які некалі ўсяліўся ў яго душу і які будзе праследаваць яго ўсё жыццё і пра які ніхто на свеце не павінен ведаць. Толькі ён адзін будзе змагацца з ім да самай смерці. Толькі ён адзін зможа перамагчы яго, або падпарадкавацца яму. Гэта ўнутранае, гэта асабістае! Адчуўшы прыліў сіл, Мікіта страпянуўся і гучна, на ўсю цясніну, закрычаў:

— Я не баюся цябе! — разнёсся па наваколлі яго покліч. — Не я табе, а ты мне будзеш служыць!

«Жыць, жыць, жыць!» — словы адбіваліся ад сцен цясніны і пераіначанымі вярталіся да вяршыні пагорка. Мікіта ўжо не баяўся азёрнай пачвары. Ён нават чакаў яе з’яўлення, аднак вада на возеры была спакойная, а туман ля яго берагоў радзеў проста на вачах.

Мужчына пастаяў яшчэ крыху на плоскай камяністай вяршыні, потым страпянуўся і рашуча пакрочыў у кірунку ўжо блізкага ўвахода ў пячору.

Пячора аказалася невялікай і нежылой. Спыніўшыся ля ўвахода, Мікіта пачакаў, пакуль вочы прызвычаяцца да паўзмроку і толькі потым зрабіў некалькі крокаў унутр яе. Зайшоў і замёр ад здзіўлення і захаплення — уся прастора пячоры была застаўлена куфрамі, скрынямі, глінянымі сасудамі. На іх у беспарадку ляжалі рулоны тканіны, каштоўныя дываны, зброя, дарагое адзенне. Усё было пакрыта тоўстым пластом пылу і пераплецена павуціннем, аднак смяльчак адразу здагадаўся — ён знайшоў скарб раджы Джагдзіша. «А вось і сам раджа», — Мікіта заўважыў ля аднаго з куфраў чалавечы шкілет. Ён падышоў да шкілета, некалькі імгненняў пастаяў ля яго, успомніў словы Готама пра гэтага чалавека. «Тут знаходзяцца рэшткі твайго цела, — у думках пашкадаваў раджу Мікіта, — і я іх пахаваю». Раптам ля ўвахода заклубіўся туман і з яго, быццам з царства ценяў, з’явіўся белы сабака. Туман адразу знік,

а сабака застаўся. Вялікі, магутны ён, напэўна, перамог бы ў адзінаборстве і тыгра, а зараз ён усеўся пасярод увахода і злымі, чырвонымі вачыма глядзеў на Мікіту. «А гэта, напэўна, спакутаваная душа Джагдзіша, — чалавек не спалохаўся сабакі. — Сапраўды, хворы розум і гнілая душа нараджаюць монстраў!» Ён адарваў кавалак дарагой тканіны, зноў нахіліўся над шкілетам, каб сабраць яго косткі і пахаваць. І тут ён заўважыў пасярод костак залатую пласцінку. «Гэта што? — Мікіта зняў пласцінку, працёр яе ад пылу, уважліва агледзеў. — Здаецца, нейкая пайцза[1]», — і паклаў яе ў кішэню. Потым згарнуў косткі на тканіну, выпраміўся, паглядзеў на сабаку. Той сядзеў на ранейшым месцы, аднак на гэты раз у яго вачах замест злосці пульсавала адданасць. «Вось і добра», — мужчына нейкі час глядзеў у вочы звера, вагаючыся і гадаючы, як той сябе павядзе. Потым рашуча пакрочыў наперад, выйшаў з пячоры, знайшоў невялікае паглыбленне, паклаў у яго косткі і засыпаў іх каменнем.

Сабака пакорліва сядзеў побач.

## 5

Віктар Мікалаевіч з'явіўся ў хірургічным аддзяленні пазней звычайнага. Хворыя паснедалі ўжо, некаторыя пайшлі на працэдуры. Ён спачатку зрабіў некалькі тэлефонных званкоў, запісаў нешта важнае ў свой нататнік і толькі потым паклікаў старшую медсястру, каб разам прайсціся па палатах, і ўжо закончыўшы абыход, успомніў:

— А скажыце, Вера Мікалаеўна, як адчувае сябе ўчарашні міліцыянер?

— Кухар?

— Кухар? — хірург спыніўся і здзіўлена паглядзеў на медсястру. — Ён жа быў у міліцэйскай форме.

— Капітан міліцыі Кухар Андрэй Сяргеевіч, — стрымана ўсміхнулася Вера Мікалаеўна. — Прозвішча ў міліцыянера такое незвычайнае.

— Сапраўды, прозвішча запамінальнае, — усміхнуўся і хірург. — Ну дык як адчувае сябе капітан Кухар?

— Я была раніцай у рэанімацыі і цікавілася яго здароўем. Дзяўчаты кажуць, што стан у яго цяжкі, але стабільны і што ён выкараскаецца, адужыць хваробу. — Вера Мікалаеўна пакорпалася ў кішэнях халата, дастала кавалак паперчыны. — Каця Задужанная дзяжурыла ля яго сённяшняй ноччу і расказвала, што спаў ён спакойна і толькі пад раніцу пачаў трызніць.

— Ну, гэта звычайная з'ява.

— Але ж трызніў ён на нейкай незразумелай мове, — медсястра працягнула хірургу кавалак паперы: — Вось Каця запісала тое, што паспела зразумець

Віктар Мікалаевіч узяў паперку, пачаў услых чытаць: «Хуво могу лезі, ля лясаільля гуя алімуль гяібі ва шагадзіці. Гуя рахману рагіму, хубо могу лязі...»

— Нейкая тарабаршчына, — хірург яшчэ раз перачытаў напісаннае, задумаўся. — Ведаеце што, Вера Мікалаеўна, вы пра гэту запіску нікому не расказвайце і Кацю папярэдзьце, каб маўчала.

— Разумею.

— А я перадам яе каму трэба і хай пэўныя службы разбіраюцца, кім на самай справе з'яўляецца міліцэйскі капітан з беларускім прозвішчам Кухар.

---

[1] **Па́йцза**, пайза, пайдза (*ад кіт.* 牌子; páizi — «дошака», «таблічка»; *цюрк.* байса) — металічная або драўляная пласцінка з надпісам, якія выдаваліся кітайскімі або мангольскімі правіцелямі розным асобам, як сімвал надзялення іх асаблівымі паўнамоцтвамі.

## 6

Сэрца вандроўніка Мікіты амаль не білася, аднак, час ад часу трацячы прытомнасць, памяць выхоплівала са свайго сховішча кавалкі адыходзячага жыцця. Жыцця, якое зусім нядаўна кіпела, бушавала, бунтавала супраць няпраўды і несправядлівасці і пастаянна змагалася. Апошнія некалькі гадоў, пачынаючы з падарожжа ў Індыю, яму падавалася, быццам нейкая вышэйшая сіла і нечая воля, нябачныя і варожыя яму, прымушалі яго ісці супраць адвечных чалавечых каштоўнасцей, простых і хрысціянскіх: пабрацца шлюбам з добрай жанчынай, нараджаць дзяцей, вырасціць іх, дачакацца ўнукаў і памерці спакойнай смерцю. Але ж не, ён пастаянна шукаў нейкія свае шляхі-дарогі, увязваўся ў чужыя лёсы, шукаў свой сэнс жыцця, і ўвесь час яна, гэтая сіла, паказвала яму марнасць, бескарыснасць і бессэнсоўнасць яго існавання на гэтым свеце. Гэта было цяжка. Гэта было несправядліва. Мікіту апошнія гады амаль ніколі не пакідала пачуццё ўласнай непатрэбнасці. Яно вісела над ім дамоклавым мячом, страшэннай тайнай, пастаянна ўсяляла думкі аб непазбежнасці смерці і марнасці жыцця, яго блуканняў па прасторах Персіі, Індыі, Крыма. Ён як мог працівіўся гэтай д’ябальскай сіле і, чым нахабней і вастрэй яна праяўлялася, тым больш цвёрдым, настойлівым і непахісным станавіўся ён сам. За апошнія месяцы свайго жыцця ён звыкся з ёй, зросся ў адно цэлае. Спадзеючыся знішчыць яе ў сабе, і, перамагаючы яе, ён добраахвотна выпальваў сябе, сваё сэрца і сваю душу. Але не дзеля сябе, не дзеля ўласнай перамогі ён імкнуўся знішчыць незразумелага ім монстра, якога прылашчыў і прыручыў сам у цясніне Смерці. Ён баяўся перадаць яго ў злыя рукі, у рукі, якія дадуць зверу волю і з яго дапамогай прынясуць незлічоныя беды людзям.

Мікіта спяшаўся. Адплываючы вясной 1475 года ў Цвер, ён верыў, што перахітрыў індыйскую пачвару, пакінуў яе ў Крыме. Але не. За Кіевам, калі на іх караван напалі рачныя разбойнікі, здань бясшумна паднялася з дняпроўскай вады і перабіла з паўсотні сваіх і чужых людзей, перабіла люта, без разбору. Потым яна знікла, расцяклася туманам па прыбярэжным чароце. Пасля таго здарэння многія купцы сталі касавурыцца на Мікіту, абыходзіць яго бокам, і толькі два маскоўскія гандляры, Панфіл і Сысой, не адыходзілі ад дзіўнага вандроўніка, усё выпытвалі яго пра шлях у Індыю, пра звычаі гэтай краіны, прасілі паказаць запісы падарожжа, прапаноўвалі грошы, каб іх выкупіць ці хаця б перапісаць. Аднак Мікіта не хацеў нават слухаць іх ліслівых слоў, бо свае запіскі ён вёз у Цвер, свайму князю.

У Магілёве, пакуль канапацілі і рамантавалі лайбы, ён наведаў Куцеінскі манастыр, пасля чаго з Панфілам і Сысоем выпіў па кубку мясцовага віна і ад гэтага пачастунку яму раптам стала млосна. А праз дзень, праплыўшы Дуброўну, ён зразумеў, што паміpае і што заморскі монстр застанецца непераможаным і зноў будзе напамінаць аб сабе дарэмнымі смерцямі.

Ён паміраў, але яго душа, якая столькі гадоў імкнулася прыстасавацца да ягоных задум і летуценняў, усё яшчэ не пакідала цела. Яна адна працягвала барацьбу з гусцеючай цемрай, якая высачэзнай хваляй насоўвалася на яго свядомасць, палала чорным колерам вечнасці, пастунова запаўняючы кожны закуточак яго цела, неадступна выцясняючы адтуль яго душу. Гэтая бліскучая чарната ўшчэнт разбівала яго жыццё на кавалкі, якія адразу крышыліся і пераўтвараліся ў прах, а іх месца займалі халодная цішыня і бязлітасны спакой. Яна ствapала пустэчу, у якой ужо бессэнсоўна было спадзявацца на дапамогу, чакаць праменьчыка цёплага, жывога святла.

Жыццё заканчвалася. Перад вачыма Мікіты мільгацелі малюнкі, якія не стасаваліся між сабой, якія ён і не імкнуўся разгадаць. Усё, больш нічога не выправіш, і, нічога не адчуваючы, ён назіраў заканчэнне свайго жыццёвага шляху, які пачынаў ужо абвальвацца ў чорную бездань; і ўвесь свет падаваўся яму гэткім жа пустым і чорным, як бясконцая прорва, што неадступна, усё хутчэй і хутчэй, насоўвалася на яго.

«А Русь ер тангрыд сакласын; олло сакла, худо сакла! Бу даніада муну кібіць ер ектур: нечык Урус еры бегляры акой тугіль; Урусь ер абодан болсын; расць кам дарэцъ. Олло, худо, бог, даныры», — шаптаў ён апошнія словы малітвы, не бачачы, як Панфіл перазтрасае яго клункі ў пошуках запісак. І як толькі Сысой сарваў з яго грудзей амулет Шывы, Мікіта зрабіў свой апошні ўсхліп, усхліп, больш падобны на ўздых аблягчэння.

## 7

Адвячоркам Віктар Станкевіч разам з маладжавым мужчынам, выпраўка якога паказвала, што ён ваенны, зайшлі ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы. Ля ўвахода іх сустрэў рэаніматолаг. Ён прапанаваў наведвальнікам апрануць халаты, бахілы і павёў іх у палату, у якой ляжаў Андрэй Кухар.

— Вось ваш міліцыянер, — прапусціўшы наперад сябе ваеннага, рэаніматолаг паказаў вачыма на адзінага хворага, які знаходзіўся ў палаце.

— Размаўляць ён можа?

— Пакуль не, аднак да раніцы, спадзяюся, павінен выйсці з комы.

— Канстанцін Сяргеевіч, — звярнулася да рэаніматолага немаладая медсястра, якая да гэтага ціха стаяла ля апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх. — Толькі што перад вашым прыходам хворы глыбока ўздыхнуў і, як мне падалося, некалькі разоў міргнуў вейкамі.

— Ён не размаўляў у часе сну? — пацікавіўся ваенны.

— Размаўляў, — сумелася жанчына і запытальна паглядзела на доктара.

— Не хвалюйцеся, расказвайце ўсё, што чулі, — заспакоіў яе Канстанцін Сяргеевіч. — Тут усе свае.

— Апоўдні ён некалькі разоў смяяўся, а нядаўна пачаў трызніць на незнаёмай мне мове. Я, як вы і казалі, запісала яго словы.

— Што яшчэ?

Жанчына перадала аркушык паперы ваеннаму, паціснула плячыма:

— Нешта мармытаў з хвіліну, потым заціх, глыбока ўздыхнуў і ўсё.

Станкевіч наблізіўся да Кухара, паслухаў работу яго сэрца, палічыў пульс, расплюшчыў вока і зазірнуў у зрэнку хворага:

— Думаю, што капітан зараз спіць і змястоўна паразмаўляць з ім можна будзе толькі раніцай.

— Што ж, пачакаем да раніцы, — крыху падумаўшы, пагадзіўся з хірургам ваенны і павярнуўся да выхаду з палаты.

На выхадзе з бальніцы Віктар Станкевіч пацікавіўся ў ваеннага:

— Паслухай, Коля, мне цікава, якімі тайнамі валодае гэты звычайны ўчастковы інспектар міліцыі?

— Мне гэта таксама цікава, — без ценю ўсмешкі адказаў Мікалай. — Тут іншае. На першай запісцы, што ты перадаў мне раніцай, напісаны словы малітвы.

— Малітвы? Вось не падумаў бы!

— Прычым малітвы старадаўняй і пераказанай на сумесі арабскіх дыялектаў. Тайны тут аніякай, адно цікава — адкуль звычайны вясковы хлопец ведае фарсі?

— Можа, ён служыў у Афганістане?

— Не, служыў ён танкістам у нас, у Беларусі.

— Можа, там і вывучыў словы ад якога-небудзь туркмена?

— Такіх слоў не ведаюць ні туркмены, ні таджыкі, ні афганцы. Гэта старадаўняя паўзабытая мова.

— А можа...

— Сяброў-мусульман у яго няма, у школе ён вывучаў нямецкую мову, у бібліятэцы цікавіўся гістарычнай літаратурай.

— Дык вы пра яго ўсё ведаеце!

— Служба ў нас такая, Віця, — ваенны ўсміхнуўся, зірнуў на сябра. Потым выцягнуў з кішэні ранішнюю запіску і пачаў услых чытаць: — «Ён — Бог, акрамя яго няма Бога, які ведаў бы ўсё тайнае і сапраўднае. Ён міласцівы, міласэрны. Ён не мае сабе падобных!» — вось прыкладны пераклад гэтай запіскі, што амаль поўнасцю адпавядае 22 аяту 59 суры, які чытаецца так: «Ён — Алах, няма бажаства, акрамя Яго, які ведае схаванае і сузіраемае. Ён міласцівы, міласэрны!»

— А на другой запісцы што?

— Думаю, што там таксама запісаны словы малітвы, — Мікалай выцягнуў паперку, разгарнуў яе, прабег па напісаным позіркам, пачаў чытаць: «А Русь ер тангрыд сакласын; олло сакла, худо сакла! Бу даніада муну кібіць ер ектур: нечык Урус еры бегляры акой тугіль; Урусь ер абодан болсын; расць кам дарэцъ. Олло, худо, бог, даныры».

— І сапраўды падобна на малітву.

— Яна і ёсць, — ваенны схаваў напісанае ў кішэню. — Вось нас і зацікавіла — адкуль звычайны міліцыянер ведае арабскую мову? Тут, або ён механічна завучыў гэтыя словы з нейкай гістарычнай кнігі, або мы нечага не заўважылі.

— Ну, чытаць кнігі — гэта ж не злачынства.

— Гледзячы якія кнігі, — усміхнуўся ваенны і працягнуў хірургу на развітанне руку. — Але, думаю, усё гэта дурнота.

— Будзем спадзявацца, што часовая, — пацiснуў працягнутую руку Віктар, так і не зразумеўшы, што за дурноту меў на ўвазе яго сябар і былы аднакласнік.

## 8

Першы раз Кухар прыйшоў у прытомнасць ноччу, і першае, што ён убачыў — спячую жанчыну ў белым халаце.

— О Алах! — міжволі вырваўся з яго вуснаў вокліч. Прагучаў ён ціха, амаль нягучна, аднак жанчына пачула яго, падняла галаву. Некалькі секунд яна напружана слухала цішыню палаты, потым паднялася з крэсла і наблізілася да хворага. Убачыўшы, што той ляжыць з расплюшчанымі вачыма, радасна ўсміхнулася: — Не памыліўся Канстанцін Сяргеевіч.

— Дзе я?

— У бальніцы.

Хворы заплюшчыў вочы і медсястра падумала, што ён зноў заснуў, аднак той, ледзь варочаючы языком, задаў наступнае пытанне:

— Колькі часу я тут?

— Прывезлі цябе заўчора вечарам, — абдумваючы кожнае слова, адказала жанчына. — Аперацыя прайшла ўдала, аперыраваў Станкевіч... — медсястра збіралася расказаць Кухару, які добры хірург яго аперыраваў, але спынілася,

убачыла, што той яе не чуе, што ён заснуў. Яна паправіла на ім коўдру, крыху пастаяла побач, павярнулася і села ў крэсла.

Другі раз Кухар прачнуўся ў пачатку дня. Сонца яшчэ не паднялося над горадам, аднак у палаце было светла і медсястра, пакінуўшы дзверы прачыненымі, размаўляла з некім у суседнім пакоі.

— Усё будзе добра, любая, — чуў ён пранікнёныя спагадай словы медсястры. — Ты не плач, не убівайся так. Ну што зараз зробіш? Што выправіш? Ты ж ужо не дзяўчынка, і сама пажыла, і дзяцей вырасціла. Ну будзе ў цябе адна нага крыху карацейшая за другую — гэта ж не смяротна! А нашы майстры навучыліся рабіць добрыя пратэзы, не горшыя за замежныя. Пад доўгай сукенкай і не заўважна будзе.

Праз нейкі час медсястра зазірнула і ў яго палату, убачыла, што ён не спіць, наблізілася да ложка.

— Што са мной? — запытаўся Кухар.

Жанчына азірнулася на расчыненыя дзверы, уздыхнула.

— Там ляжыць праваднiца з цягніка, якой учора прыйшлося ампутаваць ступню. Сорак гадоў кабеце, а яна ўсё хвалюецца, што муж яе бязногую кахаць не будзе.

— Са мной што?

— З табой? — медсястра на імгненне задумалася. — Віктар Мікалаевіч сабраў цябе па частках, сабраў акуратна, усё паставіў на месца, а як будзе далей — гэта ўжо ад цябе залежыць і як Бог дасць.

— Ногі, рукі на месцы?

— А куды ж яны дзенуцца? — стрымана ўсміхнулася жанчына. — Наколькі я ведаю, у цябе было выбіта плячо, зламана левая нага і некалькі рэбраў…

— Колькі дзён я тут знаходжуся?

— Крыху больш за суткі, — жанчына зноў па-добраму ўсміхнулася. — Можа, хочаш есці?

— Я лепш пасплю.

— Паспі, хлопец, паспі. Табе сон зараз лепей за любыя лекі.

Трэці раз Кухар прачнуўся апоўдні. Дзень быў у самым разгары. Сонечнае святло ахінала палату мяккім, па-восеньску лёгкім цяплом. Недзе ў кустах за акном бесклапотна чырыкалі вараб'і, і Кухару на імгненне падалося, што сёння нядзеля і ён спіць у сваёй дубоўненскай кватэры. Ён нават парадаваўся, што дзень такі добры і ён урэшце зможа з'ездзіць у Лугаўцы ў грыбы. Ён паспрабаваў падняцца, аднак пякучы боль ва ўсім целе вярнуў яго ў рэчаіснасць. Ён глуха ўскрыкнуў, не ад болю, ад нечаканасці, але яго вокліч пачула медсястра і праз імгненне яна была ўжо ля яго ложка.

— Што ж ты робіш, хлопец? Табе яшчэ некалькі дзён нельга будзе падымацца з ложка.

— Я забыўся, — шчыра прызнаўся Кухар. — Думаў, што знаходжуся дома, што праспаў.

— Гэта бывае, — жанчына паправіла на ложку яго загіпсаваную нагу, коўдру і, панізіўшы голас, па-змоўніцку паведаміла:

— З табой хоча пагутарыць нейкі чалавек.

— Пэўна, «даішнік»?

Медсястра пацiснула плячыма:

— Прасіў паклікаць яго, калі ты прачнешся.

— Хай заходзіць.

Медсястра згодна хітнула галавой і выйшла з палаты.

«Даішнік» з’явіўся ў палаце хвілін праз пяць. Малады, падцягнуты, у цывільнай вопратцы, ён зусім не нагадваў міліцыянера, ды і цікавіла яго не аварыя, а тое, якімі замежнымі мовамі валодае Кухар.

— Што? — не адразу зразумеў пытанне хворы. Ён уважліва паглядзеў на госця — ці не жартуе той? — і, убачыўшы па яго вачах і твары, што не жартуе, адказаў:

— У школе вывучаў нямецкую.

— А як вы патлумачыце той факт, што ў час свайго знаходжання ў коме, вы маліліся на сумесі арабскіх моў?

— Я маліўся? — разгублена рагатнуў Кухар. — Я ніводнай малітвы ніколі не ведаў і вучыць не збіраюся. Я не веру ў Бога!

— Верыць у Бога і ведаць малітвы — гэта не адно і тое, — госць быў сур’ёзным. Ён выцягнуў з кішэні некалькі лісткоў паперы, выбраў адзін з іх, патлумачыў:

— Вось Вашы словы, запісаныя медсястрой учора вечарам, — і прачытаў яму словы малітвы на сумесі стараславянскай і арабскай моў.

У палаце наступіла цішыня. Было чутна, як за адной яе сцяной плача жанчына, за другой — надрыўна стогне цяжкахворы. Першым загаварыў Кухар:

— Я не ведаю гэтых моў, ды і чаму я павінен маліцца за некага? Прабачце, вы хто?

Замест адказу Мікалай Кунцэвіч паказаў пасведчанне.

— Зразумела, — сказаў Кухар, нават не прачытаўшы яго. — Я, калі быў у коме, сніў нейкі дзіўны сон. Сутнасці яго я не памятаю, але там я, здаецца, быў нейкім вандроўнікам. Пэўна, прыснілася нешта такое, пра што я некалі чытаў. Вылезла з падсвядомасці.

— Аб нечым такім мне расказваў і Станкевіч, — Кунцэвіч падняўся з крэсла, на развітанне хітнуў галавой: — Выздараўлівай, капітан, — і, не азіраючыся, выйшаў з палаты.

**9**

Выпісалі Кухара з бальніцы ў адзін з ясных, пагодлівых кастрычніцкіх дзён. Ён выйшаў на бальнічны панадворак, на поўныя грудзі ўдыхнуў свежае, без звыклага паху лекаў, паветра, падняў угору галаву, напружана прыслухаўся — недзе там, у крохкім ад сонечнага святла небе, развітальна курлыкалі журавы, і яму раптам стала так шкада гэтых птушак, што ён ледзь-ледзь стрымаў камяк, падступіўшы да горла, аднак усё ж выказаў сваю горыч цяжкім уздыхам.

— Добры дзень, таварыш капітан, — нечакана зусім побач прагучала жаночае прывітанне.

— Дзень добры, — машынальна адказаў ён, апусціў галаву і паглядзеў у той бок, адкуль да яго данёсся голас — там, на лаўцы пад клёнам сядзела Таня і з лагоднай усмешкай назірала за ім. Ён таксама ўсміхнуўся ёй у адказ:

— Вельмі прыемна бачыць вас, Таня, тут сёння, хаця, скажу чэсна, для мяне гэта поўная нечаканасць.

— Мне нядаўна патэлефанаваў Ваш сябар, капітан Міклашэвіч і папрасіў сустрэць вас, заняць чым-небудзь на 30—40 хвілін, пакуль ён вырашыць тэрміновыя справы ў пракуратуры.

— Што ж, займайце, — Кухар усміхнуўся і зноў зірнуў угору. Але журавы былі ўжо далёка, і іх самотная песня ўжо ледзьве далятала да зямлі, затухала, і гэтае яе затуханне адазвалася невыразным болем пад яго сэрцам. На душы

стала горка і пагана, быццам праводзіў у далёкі шлях не клін птушак, а некага роднага і дарагога.

— Можа, пасядзім у кавярні? — прапанавала дзяўчына. — Вы ж, пэўна, у бальніцы маркоціліся па добрай каве?

— Я сумую па працы, — сур'ёзна адказаў Кухар, аднак тут жа спахапіўся, паправіўся: — А разам з вамі я гатовы піць не толькі каву, але і атруту.

Таня ветліва ўсміхнулася ў адказ, але прамаўчала.

У кавярні было амаль бязлюдна — рабочы дзень у самым разгары, таму Кухар з дзяўчынай селі за свабодны кутні столік, заказалі каву.

— Чым зараз будзеце займацца? — пацікавілася Таня. — У вас жа, пэўна, будзе працяглы адпачынак.

— Так, — без усялякага энтузіязму пагадзіўся міліцыянер. — Два месяцы на аздараўленне, потым — водпуск. Хаця баюся, што гэтага часу мне можа і не хапіць, каб знайсці адказы на шматлікія пытанні па маёй аварыі.

— А я чула, што вы перавысілі хуткасць і не справіліся з кіраваннем.

— Гэта афіцыйная версія, а неафіцыйную ведаю толькі я адзін, і яна жудасная, неверагодная.

— На дарозе быў чалавек, дзіця, і вы, каб не забіць яго, звярнулі з дарогі і ўрэзаліся ў дрэва?

— Нешта такое.

— Дык вы ж герой! — здзівілася Кухаравай сціпласці Таня. — Пра вас у газетах пісаць трэба!

— Калі я раскажу праўду — мяне прымуць за вар'ята і, калі і напішуць нешта, дык толькі ў рубрыцы «Трызненні вар'ята».

— Я не разумею вас, Андрэй.

— Я сам пакуль яшчэ нічога не разумею, аднак вам скажу, бо вы сястра Максіма і мне паверыце, не будзеце смяяцца — мяне спрабаваў забіць той, хто забіў вашага брата.

— Што?

Кухар пачакаў, пакуль афіцыянтка паставіць на столік кубкі з кавай і толькі, калі яна адышлася, ціхім голасам пачаў расказ:

— Я зараз разумею, чаму Максім хаваў усе свае напрацоўкі і запісы, чаму ён не хацеў пасвячаць вас у свае справы. Ён вас любіў, шкадаваў, баяўся наклікаць на сваю сям'ю зло. Ён наблізіўся вельмі блізка да разгадкі нейкай тайны, вось толькі якой?

— Аб тым, што Макс мяне бярог, я здагадалася ў той вечар, калі вы паехалі ад нас. Тады мне пазванілі і сказалі, каб я забылася пра ўсё і ніколі ні з кім не абмяркоўвала гэтыя тэмы, каб я ўсё выкінула з галавы. Інакш абяцалі пакараць і мяне, і маіх бацькоў. Я тады вельмі спалохалася.

— Зараз я разумею, чаму вы не пазналі мяне наступнай раніцай, — мужчына крыху памаўчаў, потым загаварыў аб іншым: — У бальніцы я меў шмат вольнага часу на роздум і разважанні, і тое, аб чым я мог бы вам расказаць, настолькі неверагоднае і бязглуздае, што я сам у яго яшчэ не да канца веру, хаця гэта і здарылася асабіста са мной. Апошні месяц я жыву, быццам у сне.

— Раскажыце, — гэткім жа паўшэптам папрасіла дзяўчына. — Я вам веру і, магчыма, чым-небудзь змагу дапамагчы.

— Я нават не ведаю, з чаго пачаць, — крыху сумеўся Кухар, — тут так усё пераплецена. Тым адвячоркам я вяртаўся дадому. Асфальт быў сухі, бачнасць — добрая, хуткасць — недзе каля сямідзесяці. Раптам пасярод дарогі з'явілася белая постаць нейкай здані са старажытным мячом у руках. Я разгубіўся, перапалохаўся, а яна ўзмахнула мячом і ўсё — больш я нічога не памятаю.

— Гэта неверагодна!

— Але гэта не ўсё. Калі я ляжаў у стане комы, то сніў дзіўныя сны. Быццам маю душу аднесла ў далёкае мінулае і яна ўсялілася ў нейкага Мікіту.

— Не, тут крыху не так, — запярэчыла Таня. — Хутчэй за ўсё ваша душа некалі належала гэтаму Мікіту, а ў стане комы проста абвастрылася гістарычная памяць і вы ўспомнілі мінулае, тое, што ваша душа ўжо некалі перажыла.

— Магчыма, вы маеце рацыю. Але я сніў, што і ў мінулым сваім жыцці, у Мікітавам целе, я сустракаўся з гэтай белай пачварай. Зараз я збіраюся пакорпацца ў архівах, каб дакладна разабрацца, хто такі гэты Мікіта, чым ён вядомы, дзе быў і што рабіў у сваім жыцці. Яшчэ я хачу больш ведаць пра царскага ваяводу Пятра Абаленскага, які згубіў свой скарб каля Лядава, і пра нямецкую арганізацыю «Аненербэ».

— Вы адпраўляецеся па шляху Максіма.

— Напэўна. Вось толькі Максім усё рабіў у адзіночку, а я спадзяюся на падтрымку Пашы Міклашэвіча. Мне будзе лягчэй, чым вашаму брату, бо я ўжо сутыкаўся з забойцам і ў адным сваім жыцці, і ў другім.

— А давай мы будзем на «ты», — прапанавала Таня. — Калі ты і на самай справе збіраешся ўвязацца ў бойку з невядомым, то так нам будзе прасцей мець зносіны.

— А ці патрэбныя нам гэтыя зносіны?

— Патрэбныя.

Кухар на імгненне задумаўся, потым хітнуў галавой:

— Я згодны, — і, зірнуўшы ў акно, засмуціўся: — Пашка прыехаў. Нам час развітвацца.

— Але ж ты тэлефануй, трымай мяне ў курсе спраў.

— Добра, — паабяцаў мужчына і падняўся з-за стала.

## 10

Патэлефанаваў Кухар сваёй знаёмай толькі праз два тыдні. Патэлефанаваў вечарам, знянацку.

— Добры вечар, Таня, — праз шум і трэск у трубцы данёсся да дзяўчыны яго далёкі голас. — Прабач, што доўга не званіў.

— Я ведаю, што ты зараз корпаешся ў архівах, — чамусьці гучна адказала Таня і, шчыльней прытуліўшы слухаўку да вуха, дадала: — Мне на мінулым тыдні тэлефанаваў Міклашэвіч.

— Зараз я ў вашым горадзе і званю табе з чыгуначнага вакзала.

— Ты тут? — шчыра абрадавалася дзяўчына. — Прыязджай тады да нас.

Праз паўгадзіны стомлены, даўно няголены, але шчаслівы Кухар стаяў перад уваходнымі дзвярыма хаты Камяневічаў. Убачыўшы яго з вусамі і невялікай бародкай, Таня шырока ўсміхнулася:

— Калі б я сустрэла цябе такога на вуліцы днём, то не пазнала б.

— А вечарам?

— Вечарам? — дзяўчына засмяялася. — Крый божа, сустрэць цябе такога вечарам! Аднак, што мы стаім на вуліцы, заходзь у хату.

Пакуль Кухар распранаўся ў вітальні, Таня аб нечым перашэптвалася на кухні са сваімі бацькамі. Потым выйшла да яго і прапанавала памыць рукі і павячэраць разам з імі.

— Я перакусіў ужо ў вакзальным рэстаране, — падзякаваў госць і зірнуў на наручны гадзіннік — Ды і апошні аўтобус на Дубоўну адпраўляецца праз дзве гадзіны, а я хачу расказаць табе пра сваю паездку.

— Ну давай хаця пап'ём чаю!

— Ад чаю не адмоўлюся.

Аднак пасля таго, як Кухар зайшоў на кухню, павітаўся з Танінымі бацькамі і сеў на табурэтку ля халадзільніка, гаспадар паставіў на стол бутэльку гарэлкі.

— Я думаю, што кілішак «Сталічнай» не зашкодзіць такому малайцу пасля працяглага падарожжа, — бадзёра сказаў ён.

— Ну, калі толькі кілішак.

За першым кілішкам быў другі, за другім — трэці і толькі потым Таня рашуча ўмяшалася ў цікавую гутарку мужчын пра спорт і палітыку.

— Тата! — дзяўчына з дакорам паглядзела на бацьку. — У Андрэя хутка аўтобус, а ён мне яшчэ не расказаў пра сваю паездку.

— Няхай тут расказвае.

— Табе яго расказ будзе нецікавы, бо расказваць ён будзе пра гісторыю.

— Гісторыю я і сапраўды не люблю, — пагадзіўся з дачкой бацька і неахвотна падняўся з-за стала. — Пайду тады ў залу глядзець разам з маці тэлевізар.

Калі бацька выйшаў, Таня агледзела стол, крыху падумала, потым села на бацькаву табурэтку і, зірнуўшы на Кухараў партфель, які той трымаў ля сваіх ног, пацікавілася:

— Пэўна, шмат старадаўніх тайнаў, палацавых інтрыг і сакрэтаў хаваецца ў гэтым партфелі?

— Інтрыгі мяне не цікавілі, да тайнаў — не дапускалі, аднак, на свае пытанні я ўсё ж знайшоў нейкія адказы. Заўтра буду іх аналізаваць, складаць лагічныя ланцужкі, каб потым прайсціся па кожным іх звяне і адказаць на галоўнае пытанне: «Хто забіў твайго брата і хацеў забіць мяне?»

— Што ты даведаўся?

— Я перагледзеў шмат старадаўніх рукапісаў, прачытаў шмат гістарычнай літаратуры і скажу, што сапраўднай гісторыі мы, напэўна, ніколі ведаць не будзем. Аднак я толькі спачатку звяртаў увагу на нестыкоўкі і супярэчанні ў апісанні тых або іншых падзей. Потым плюнуў на ўсё каментарыі гісторыкаў і запісваў толькі факты і сведчанні людзей.

— Расказвай, — Таня зручней уладкавалася на табурэтцы, паклала рукі на стол. — Пачынай пра Мікіту.

— Біяграфія цвярскога купца Мікіты амаль невядома гісторыкам, бо ў XV стагоддзі прасталюдзіны яшчэ не мелі прозвішчаў. Таму я не ўпэўнены, што тыя звесткі, якія я сабраў пра нашага Мікіту, праўдзівыя і дакладныя. Вядома, што ў 1468 годзе ад вялікага князя Цвярскога ён атрымаў грамату на дазвол гандляваць у Астрахані, і вясной таго ж года праз Клязьму, Угліч і Кастраму паплыў на чатырох стругах да гэтага горада. Аднак ля Астрахані яго абрабавалі татары хана Касіма і, каб не трапіць у даўгавую яму, ён адправіўся гандляваць у Персію, а потым і ў Індыю, — Кухар нахіліўся, падняў з падлогі на каленкі свой партфель, расшпіліў яго і выцягнуў папку з паперамі. Крыху пакорпаўшыся ў ёй, ён дастаў адтуль звычайны вучнёўскі сшытак:

— У Львоўскім летапісе пад 1475 годам чытаем: «…Того же году обретох написание... тверитина купца, что был в Ындее 4 годы, а ходил, сказывает, с Василием Папиным. Аз же опытах, коли Василей ходил скречаты послом от великого князя, и сказаша ми за год до казанского похода пришел из Орды; коли княз Юрьи под Казанью был, тогда его под Казанью застрелили…»

Я не разабраў імя цвярскога купца ў гэтым летапісе, але думаю, што гэта быў Мікіта. З летапісу вынікае, што ён быў у Індыі 4 гады. І, на самай спра-

ве, у 1470 годзе ён прыбыў у горад Джуннар — прывёз на продаж жарабца, за якога заплаціў сто рублёў і якога збіраўся выгадна прадаць. Але мясцовы раджа адабраў у яго каня і грошы, а самога купца кінуў у вязніцу. І толькі заступніцтва знаёмага мусульманіна Мухамеда выратавала Мікіту ад ганьбы. «Случилось Господне чудо на Спасов день. Господь Бог сжалился, не оставил меня, грешного, милостью своей», — пісаў потым аб гэтай падзеі ў сваім дзённіку Мікіта. Але ўсё, сказанае мной, не істотнае і мае да нашага расследвання толькі ўскоснае дачыненне. Галоўнае, што ў Джуннары Мікіта натыкнуўся на разваліны старой крэпасці, але пра тыя падзеі ты ўжо ведаеш, — расказчык спыніў свой аповед і, не падымаючы галавы, перагарнуў некалькі старонак у сшытку, пачаў чытаць:

— «...Се же написано не обретох, в кое лето пошел или в кое лето пришел из Ындеи, а сказывают, что деи Смоленьска не дошед, умер. А писание то своею рукою написал, иже его рукы те тетради привезли гости к Мамыреву Василью, к диаку великого князя на Москву».

Тлумачу гэты запіс: у 1475 годзе Мікіта з Кафы адправіўся па Дняпры на радзіму. Значыць, ён меў дастаткова грошай, каб не баяцца сваіх крэдытораў. Але да Смаленска так і не даплыў, раптоўна памёр. Ад чаго памёр здаровы мужык? Куды падзеліся яго рэчы і грошы? Чаму яго запісы аказаліся ў Маскве, у княжага дарадчыка дзяка Васільі Мамырава, а не ў Смаленску ці Цвяры? — на гэтыя пытанні я не шукаў адказаў, бо яны відавочныя. Тут для нас галоўнае іншае — амулет Шывы трапіў у Масковію і, хутчэй за ўсё, асеў у каліце дзяка.

— А можа, нехта з купцоў забраў яго сабе?

— Гэта малаверагодна. Яны маглі падзяліць Мікітавы грошы і, хутчэй за ўсё, так і зрабілі, а вось амулет быў адзін і на дзве часткі не дзяліўся, — Кухар усміхнуўся сваім думкам, аднак хутка зноў стаў сур’ёзны:

— А зараз я табе раскажу пра род Пятра Сямёнавіча Абаленскага. У архівах дакапаўся нават да пачынальніка гэтага роду — Канстанціна Абаленскага — Кухар зноў перагарнуў некалькі старонак сшытка:

— Дзмітрый Шчэпа, меў двух сыноў: Івана і Сямёна. Старэйшага Івана ён назваў Залатым, а малодшага — Сярэбраным. Чаму так? — аб тым гісторыі не вядома. Дык вось, Шчэпа быў не толькі ваяводам пры маскоўскім князе Іване III, але і лепшым сябрам дзяка Васіля Мамырава. Разумееш? З вялікай верагоднасцю, і амулет у род Абаленскіх трапіў праз гэтага ўсюдыіснага дзяка. Іншая справа, што ні купцы, ні дзяк, ні князь не ведалі сапраўднай яго каштоўнасці, яго разбуральнай сілы, і таму захоўваўся ён у іх як звычайны кавалак золата.

— А калі б ведалі?

— Калі б ведалі, то не ўцякаў бы князь Пётр са сваёй шматтысячнай арміяй з-пад Оршы ад невялікага атрада Філона Кміты ў 1567 годзе. Лепш бараніў бы паўднёвыя межы Масковіі ад татар у 1570 годзе, а так, як піша Карамзін, — расказчык пералісноў старонку: — «Славный воевода, от коего бежала многочисленная рать Селимова, который двадцать лет не сходил с коня, побеждая и татар, и литву, и немцев, князь Петр Семенович, призванный в Москву, видел и слышал от царя одни ласки, но вдруг легион опричников стремится к его дому кремлевскому, ломают ворота, двери и перед лицом, у ног Иоанна отсекают голову сему ни в чем не обвиненному воеводе».

— Адсеклі галаву? Божухна! — Таня ад жаху прыкрыла твар рукамі. — За што, калі ён быў такім слаўным ваяводам?

— Ну, не ўсяму напісанаму трэба верыць, — Кухар паклаў сшытак у папку, узяў другі, пералісноў яго старонкі, уздыхнуў:

— Я думаю, што гэтак цар маскоўскі пакараў свайго ваяводу за згубу яго падарунка — кнігі з царскай ліберэі. Іван Жахлівы быў вельмі злапамятлівы чалавек. І яшчэ вось якія думкі рояцца ў маёй галаве: магчыма, купца Мікіту забілі і абрабавалі ў Лядаве — гэта ж непадалёк ад Смаленска. У гэтай жа вёсцы князь Абаленскі згубіў сваю казну. Чамусьці і «Спадчына Продкаў» нешта там шукала і, калі б не наступленне Чырвонай Арміі, то, думаю, адкапала б. Пэўна, і нам трэба шукаць гэтае «нешта» ў Лядаве. Вось толькі дзе, у каго, як яно выглядае?

— А нашчадкі ў Пятра Абаленскага былі?

— Не было ў яго нашчадкаў. Быў, праўда, князь Міхайла Рапнін, але і яго ў час царкоўнага богаслужэння забіў цар Іван Васільевіч.

— За што? — міжволі вырвалася ў Тані пытанне.

— Той адмовіўся быць блазнам у час п’янай царскай оргіі.

— Колькі ж ты бруду перакапаў у архівах!

— Калі б толькі бруду! Там кожны лісток крывёй насычаны. Там нават бібліятэкары працуюць у пальчатках. — Кухар уздыхнуў. — Толькі мяне і блізка не падпускалі да сапраўднай гісторыі, да праўдзівага мінулага. Уяўляю, якім пылам і брудам яно пакрыта, колькі на ім крыві, гвалту і несправядлівасці!

У пакоі наступіла цішыня. Таня са шкадаваннем глядзела на Андрэя, які засяроджана корпаўся ў сваёй папцы і ніяк не мог знайсці патрэбны яму запіс. Урэшце яна не вытрымала:

— Ты на словах раскажы, што шукаеш.

— Ды там выпіска з аповеду вяземскага купца ў Пасольскім прыказе. Ага, вось яна, — Кухар выцягнуў са стоса папер і сшыткаў невялікі аркушык і пачаў чытаць:

— «В 22 день генваря в Посольском приказе явился вязьмятин торговый человек Стенька Рогожка, и в распросе сказал дьяку Висковатому:

По государеву де указу имали его с собой в Литву государевы люди, боярин князь Фёдор Оболенский с товарищи. И как де его те государевы люди отпустили из Дубовны в Могилёв с товары и для проведывания вестей и он де навещал Ивашку Хлеста в местечке Лядово, и в Могилёве жил 17 недель. И как поведал Ивашка, что пришел из обозу и под Речицы литовский гетман ксенжа Радивил в местечко Головчин, от Могилёва 25 верст. И ездил он в Могилев, а из Могилёва в Головчин к гетману для того, чтоб осмотреть гетманова войска и розведать вестей.

Да он же де был и в Глебовичеве маетности, Дубовне, Лядове. И в тех де вышеписаных городех, в Орше, и в Могилеве, и в Шклове, и в Глебовичеве маетности. В Дубовне ратных людей никого нет, только тутошние жильцы».

— І што табе дае гэта выпіска?

— Не ведаю, — шчыра прызнаўся Кухар. — Проста тут упамінаецца Лядава і маскоўскі лазутчык Івашка Хлёст. Пра князя Фёдара Абаленскага ў архівах я амаль нічога не знайшоў.

— Што ты будзеш рабіць заўтра?

Андрэй паклаў у партфель папку з паперамі, зашпіліў яго. Усё гэта ён рабіў спакойна, грунтоўна, засяроджана, і Таня разумела — зараз мужчына абдумвае сапраўдны сэнс яе пытання. Урэшце ён адказаў:

— Адасплюся, паразважаю над сабраным матэрыялам, потым з’езджу ў Лядава, прагледжу архівы іх сельскага савета.

— А калі будзеш у нашым горадзе?

Кухар падняў галаву, паглядзеў у бліскучыя, поўныя надзеі, вочы дзяўчыны.

— Міклашэвіч абяцаў на нейкі час пазычыць мне сваю «шасцёрку», — ён зірнуў на гадзіннік, падхапіўся з табурэткі і ўжо на выхадзе, пры развітанні, закончыў думку: — Думаю, што два-тры дні мне хопіць на асэнсаванне сабранай інфармацыі, потым я да цябе заеду і ўсё раскажу.

## Частка 3

### 1

Кухар стаяў ля акна і глядзеў на пусты ў гэты ранішні час двор свайго дома. Глядзеў і бачыў тое, чаго яму не хацелася бачыць больш за ўсё — свой апусцелы гараж. Але і не бачачы гаража, ён бы адчуваў крыўду і боль па сваёй разбітай машыне, і разам з тым ён быў удзячны ёй, як бывае ўдзячны чалавек другому чалавеку, які коштам уласнага жыцця выратаваў яго ад дачаснага падарожжа ў царства памерлых.

Андрэй уважліва агледзеў стары двухпавярховы цагляны дом з замшэлым дахам, цёмнымі вокнамі і зламанымі ўваходнымі дзвярыма, за якімі, як і ўва ўсім гарадку, не чулася ані голасу. Ён акінуў позіркам пустынныя вуліцы і тратуары, на якіх не было руху, і толькі нуда асенняй ночы, бы рэха апошняй навальніцы, паступова раствaралася ў нежывым святле вулічных ліхтароў.

Зусім нядаўна спякотная хваля ахінула яго сэрца, змыла з душы стомленасць двух мінулых тыдняў, растварыла цяжар у галаве, асвятліла розум. І зараз, стоячы ля акна і азіраючы шэрае наваколле, ён са здзіўленнем слухаў далёкае курлыканне журавоў. Іх жалобны, прыглушаны ранішняй сырасцю, голас ледзь прабіваўся праз аконнае шкло. «Так позна, у лістападзе!» — не пераставаў дзівіцца ён і разам з тым думаючы — а ці не сніць ён, ці не галюцынацыі ўсё гэта?

З месяц таму, яшчэ з бальніцы, зрэдку ён пачаў чуць развітальнае курлыканне нябачных птушак. Што яно азначае — ён не ведаў, аднак успаміны і сны так перапляліся ў яго галаве, так зрасліся ў адно цэлае, што ён ужо не мог адрозніць адно ад аднаго, і такія яго паводзіны насцярожвалі і хвалявалі суседзяў і сяброў. «Я, пэўна, страчваю розум», — думаў Кухар і пільна ўзіраўся ў цяжкае неба, спадзеючыся ўсё ж такі ўбачыць там запознены жураўліны клін. Але неба было безнадзейна пустым. «Упершыню я звярнуў увагу на курлыканне ў той фатальны дзень, потым — у дзень, калі да мяне прыходзіў афіцэр з органаў. Яшчэ два-тры разы яно мне пачулася ў сталіцы, і тымі днямі супрацоўнікі архіва адносіліся да мяне па-хамску, няветліва. Магчыма, так мяне нехта папярэджвае аб небяспецы? Але ж і ў дзень выпіскі з бальніцы я чуў курлыканне журавоў! Не, я ўсё яшчэ хворы і баюся, што ў мяне проста не хопіць здароўя, каб дабрацца да праўды, бо, каб пазнаць яе, трэба прайсці доўгі, нялёгкі шлях, на якім з кожным крокам мне даводзіцца губляць нешта важнае, дарагое, асабістае — каханне, сяброўства, давер да людзей, расчараванне ў жыцці. Не ператварыцца б самому ў тую пачвару, вайну якой я аб'явіў… Але што азначае гэта курлыканне? Чаму яго чую толькі я адзін?»

Учарашні дзень Кухар прысвяціў вывучэнню і аналізу прывезеных дакументаў, і чым глыбей ён паглыбляўся ў іх, тым больш упэўніваўся — тайна Гіблай затокі хаваецца не за дзвярыма міфічнай Залы Ведаў, а ў згубленым куфры маскоўскага ваяводы. Аднак, што за каштоўнасць там схавана, якая тайна, які сакрэт? — не дарэмна ж апрычнікі Івана Жахлівага за яго згубу адсеклі галаву Пятру Абаленскаму! Не, трэба зноў ехаць у Маскву.

А што шукалі эсэсаўцы ў Лядаве? Гэтых золата і самацветныя камяні не цікавілі. Іх можна было зацікавіць толькі нечым звышнатуральным, сапраўды дзіўным і фантастычным. Плёткам і чуткам яны не верылі, значыць, мелі нейкія сур'ёзныя дакументы. Якія? Не, трэба зноў ехаць у сталіцу, корпацца ў архівах.

Але спачатку трэба з'ездзіць у Лядава, пагутарыць са старажыламі, прагледзець архіўныя дакументы сельскага савета — магчыма, там адшукаецца нейкая нітачка. А, магчыма, скарб ваяводы даўно ўжо расталі мясцовыя сяляне, пакінуўшы нашчадкам на памяць аб ім толькі прыгожую легенду?

На дварэ пасвятлела. Кухар адышоў ад акна і з задавальненнем уладкаваўся ў глыбокае, мяккае крэсла. Заплюшчыў вочы. І раптам, нібы ў прадаўжэнне яго думак, успомніўся скарб раджы Джагдзіша, які вартаваў вялікі белы сабака. Успомнілася і смерць ганчара-індуса Калідаса. Няўжо тая здань зараз знаходзіцца тут, у Лядаве? Гэта неверагодна. А калі так, то што яна там вартуе, што ахоўвае? Не ўваход жа ў Залу Ведаў!

Яна хацела забіць мяне. За што? Не ведаю, бо я нават расказу настаўніка Баранава аб звышрозуме і вечнасці жыцця не паверыў.

Што аб'ядноўвае мяне і Максіма Камяневіча? Нічога!

Што ў нас ёсць агульнага? Нічога!

Што мы ведалі на момант сваёй смерці пра пачвару? Нічога!

Што ж тады справакавала яе нападзенне, дзе хаваецца разгадка?

Разбудзіў Кухара настойлівы званок тэлефона. Андрэй падхапіўся з крэсла і, праціраючы вочы, падняў трубку:

— Капітан Кухар...

— Хопіць спаць, капітан, — у трубцы пачуўся басісты голас Міклашэвіча. — Машыну я паставіў у тваім двары, ключы ў попельніцы. Спадзяюся, што да вечара ты зробіш свае справы і вернеш мне маю ластаўку непабітую і спраўную.

— Не хвалюйся, — канчаткова адыходзячы ад сну, заспакоіў сябра Кухар. — Я з'езджу толькі ў Лядава.

— Гэта мяне і палохае.

У Лядава Кухар прыехаў апоўдні і адразу накіраваўся ў сельскі савет. Але яго старшыня, маладая і ўжо мажная жанчына, расчаравала:

— Свае архівы мы доўга не захоўваем, — паведаміла яна ўчастковаму. — Ды і што ты, Андрэй Сяргеевіч, можаш з іх даведацца: склад сям'і, колькасць жыўнасці ў гаспадарцы ці плошчу зямельнага ўчастка?

— Хто і дзе жыў? Калі нарадзіўся чалавек і калі памёр?

— Ёсць і гэта, аднак пра канкрэтнага чалавека табе больш раскажуць нашы старажылы. Той жа Мішка Бабыль за пачак «Астры» выдасць табе біяграфію любога вяскоўца.

За два месяцы, што Кухар не бачыў Бабыля, той зусім не змяніўся — як і ў жніўні, яго галаву прыкрываў брудны капялюш, ногі хаваліся ў вялікіх гумавых ботах, а цела бараніла ад холаду старая, месцамі парваная ватоўка. Убачыўшы ўчастковага, Мішка шчыра абрадаваўся.

— Якія людзі наведваюць маё ўбогае жытло! — ледзь не кінуўся ён у абдымкі да госця. — А хадзілі чуткі, што ты разбіўся.

— Як бачыш — жывы, — Кухар паціснуў руку жывёлавода. — Як маешся, Мішка?

— Таксама, як бачыш — пакуль жывы.

— А я да цябе па справе, — Кухар выцягнуў з партфеля блок «Астры» і перадаў гаспадару. — Хачу запытацца ў цябе па сакрэце, ці ведаеш ты ў вако-

ліцы Лядава чалавека па мянушчы Хлёст? Магчыма, раней тут жыў нехта з такой мянушкай?

— А ён, гад, і зараз тут жыве, — Мішка ўзяў цыгарэты, падзякаваў, адразу адкрыў адзін пачак і з задавальненнем уцягнуў у сябе пах сыраватага тытуню. — Ведаеш ты, таварыш участковы, падыходы да сэрца калгасніка.

— Каго ж тут называюць Хлястом?

— У іх родзе ўсе Хлясты, — Мішка пашукаў у кішэнях запалкі, закурыў. Потым паказаў вачыма на суседні двор, патлумачыў: — Ваньку Хлястова ў вёсцы ўсе так называюць, а да гэтага і бацьку, і дзеда яго так называлі. Хлясты, яны і ёсць Хлясты!

— Ты жывеш па-суседству з ім, а таму і ведаць яго павінен лепш за іншых.

Гаспадар хмыкнуў, закашляўся дымам.

— Скрытны, сквапны, нелюдзімы. Я неяк пайшоў да яго, каб пазычыць рубель-другі да зарплаты, а ён мне нават веснічкі не адчыніў. «Не хочаш, Мішка, мець ворагаў — не пазычай грошы!» — вось што ён параіў мне ў адказ.

— А госці ў яго бываюць?

— Нікога не бачыў. Сын яго жыве ў Дубоўне, аднак праведвае бацьку раз у два гады, а то і радзей.

— А ў краму ці на пошту ён ходзіць?

— У краму ходзіць, — пагадзіўся Бабыль. — А пенсію паштальёнка перадае яму праз шчыліну ў веснічках.

— Баіцца каго?

— Можа, і баіцца, — гаспадар дакурыў цыгарэту, патушыў яе аб далонь. — Не дарэмна ж сабаку трымае на панадворку. Сабака ростам з цяля, з белай поўсцю, злосны.

— Сабака з белай поўсцю, — задумліва паўтарыў Кухар. Потым пацікавіўся аб іншым:

— А Гіблая затока зараз замерзла?

— Яе і ў лютыя марозы лядок толькі зверху крыху прыхоплівае, а так яна круглы год парыць сабе туманам.

Участковы падзякаваў Мішку за звесткі, развітаўся і пайшоў да Мірэі. Рэчка была пакрыта ледзяным панцырам і толькі невялікі яе ўчастак курэў белай парай.

— Што ж ты там хаваеш? — уголас запытаўся Кухар. — Колькі ты яшчэ забярэш да сябе ахвяр, перш чым дазволіш людзям даведацца тваю тайну?

Участковы не чакаў адказу, але раптам да яго слыху данеслася далёкае «курлы-курлы!» Ён нават падняў галаву, пашукаў вачыма ў празрыстым блакіце жураўоў, аднак неба было чыстае, нават аблокаў у гэты час на ім не было бачна.

Да дому Кухар ехаў павольна, не спяшаўся. Яшчэ ніколі на сваёй памяці ён двойчы за дзень не чуў жураўлінага курлыкання. Гэтая акалічнасць яго насцярожвала, яна яго нервавала, і калі перад сабой убачыў белую здань з мячом у руках, тармазіць не стаў. Наадварот, ён да ўпора націснуў на педаль газу, дзіка засмяяўся, па-воўчы ўзвыў і на ўсёй хуткасці ўрэзаўся ў белую, раптоўна ўзнікшую перад ім, перашкоду. Праз імгненне ён выскачыў з другога яе боку, прытармазіў, азірнуўся — белая пачвара бездапаможна расцякалася туманам па дарозе, а ўдалечыні, на пагорку, стаяў адзінокі чалавек у доўгім чорным плашчы і неадрыўна назіраў за падзеямі на шашы. Кухар спачатку хацеў развярнуцца, даведацца, хто гэты цікаўны, аднак чалавек раптам знік, бы растварыўся ў паветры.

— Я не баюся цябе! — сам сябе заспакоіў участковы. Ён даўно зразумеў, што і палонных на беразе Мірэі, і Максіма забіла не пачвара. Яны памерлі ад страху, а не ад удару мячом з кропелек туману. Не вытрымала сэрца.

Кухар адагнаў машыну сябру, пагутарыў з ім некалькі хвілін і, не спяшаючыся, пакрочыў да свайго дома. А калі ён падняўся да кватэры, яго перахапіў сусед па лесвічнай пляцоўцы.

— Андрэй, хвілін дзесяць таму мне патэлефанаваў нейкі дзіўны незнаёмец і прасіў перадаць табе, што ты не пакінуў яму выбару.

## 2

Наступным днём Кухар паехаў у суседні горад да Тані. Адвячоркам ён сышоў з аўтобуса на Дубовенскай вуліцы і адразу накіраваўся да хаты Камяневічаў, і не паспеў ён зрабіць дзесяці крокаў ад прыпынку, як яго паклікаў мужчынскі голас:

— А вы не да нас, Андрэй Сяргеевіч?

Кухар спыніўся, азірнуўся і адразу расплыўся ў прыветлівай усмешцы — яго даганяў Танін бацька.

Танін бацька спадабаўся Кухару яшчэ пры іх першай сустрэчы сваімі прастатой, адкрытасцю, шчырасцю. «Такі не падмане, не здрадзіць, не ўваткне нож у спіну», — падумаў ён тады і зараз, гледзячы на расквітнеўшы ад радаснай усмешкі твар немаладога мужчыны, ён радаваўся, што не памыліўся.

— Да вас, Васіль Сцяпанавіч. Вось зноў вырашыў з’ездзіць у сталіцу, а па дарозе праведаць вас. Як вы пажываеце? Як Зоя Пятроўна? Як Таня?

— Ну-у, жывём мы па-старому, — пры першых словах мужчыны Кухар заўважыў, як на яго твар насунулася лёгкая цёмная хмарка, — тут змен аніякіх. Здароўе таксама пакуль, дзякуй богу, не падводзіць. А Таня вось прыхварэла. Яшчэ днём учора была здаровай, вясёлай, рыхтавалася да сустрэчы з вамі, а вечарам, неяк раптам, у аднячассе, стала сумнай, зачынілася ў сваім пакоі і доўгі час адтуль не выходзіла. Выйшла ноччу, папіла са мной гарбаты і зноў пайшла спаць.

— Можа, прастудзілася?

— Не ведаю, — уздыхнуў Танін бацька. — Ды і наогул яна стала нейкай дзіўнай: я ёй учора паказаў бутэльку армянскага каньяку, які сёння збіраюся з табой пакаштаваць, дык яна не стала, як звычайна, лаяцца на мяне. Наадварот, пахваліла за гасціннасць.

— Не, дарагі Васіль Сцяпанавіч, — запярэчыў Кухар. — Я вас вельмі паважаю і нават люблю, але піць хмяльное сёння не буду. Не люблю я піць у дарозе, ды і сам, калі шчыра, адчуваю сябе тады не вельмі здаровым. А вось праз тыдзень, калі я вярнуся з першапрастольнай, мы з вамі і асушым вашу бутэльку. Тады будзе і час, і прычына.

— Ты хлопец, як заўжды, маеш рацыю, — пагадзіўся гаспадар.

Таня і сапраўды выглядала нездаровай. Яе запалыя вочы свяціліся нездаровым бляскам, цёмныя кругі пад вачыма і барвовы румянец на шчоках сведчылі аб унутраным жары. Ды і наогул, за ноч яна неяк раптоўна асунулася, састарэла. Нават голас яе змяніўся і ў ім з’явіліся не характэрныя для яе ранейшай ноткі нецярплівасці і раздражнёнexistence. І хаця, сустракаючы Кухара, яна выказвала радасць, той адчуваў сэрцам, што радасць яе няшчырая, штучная, напускная. «Недзе і сапраўды падчапіла вірус грыпу, — шкадуючы дзяўчыну, думаў Андрэй. — У горадзе заўсёды трэба быць асцярожным».

Кухар з гадзіну пасядзеў з гаспадарамі на кухні, выпіў два кубкі чаю, а калі да адпраўлення цягніка засталася гадзіна, падняўся і пачаў развітвацца.

— А я спадзявалася, што ты застанешся ў мяне на ноч, — пры развітанні прашаптала Таня. — Бацька спецыяльна для цябе набыў бутэльку каньяку.

— Мы з ім дамовіліся выпіць яго пры сустрэчы, калі я прыеду з Масквы, — шэптам, бы аб вялікай тайне, прызнаўся Андрэй і, убачыўшы, што з-за павароту паказаўся аўтобус, памкнуўся пацалаваць дзяўчыну. Аднак тая ад пацалунка ўхілілася, што некалькі азадачыла і засмуціла хлопца.

Ён развітаўся з ёй і шпаркімі крокамі накіраваўся да аўтобуснага прыпынку.

### 3

У горад Кухар вярнуўся праз тыдзень. Змэнчаны шляхам і часам, няголены, але радасны і шчаслівы. Яшчэ больш шчаслівы ён стаў, калі ўбачыў на пероне сярод натоўпу сустракаючых Міклашэвіча.

— Паша, а ты што тут робіш? — радасці Андрэя не было межаў. — Адкуль ты даведаўся, што я прыбываю гэтым цягніком?

Міклашэвіч некалькі імгненняў аглядаў свайго сябра, бы вагаючыся — паціснуць яго працягнутую руку ці не. Урэшце ўсё ж паціснуў, заўважыўшы пры гэтым:

— Цябе са сталіцы, пэўна, выселілі за бадзяжніцтва, — і потым, калі ўбачыў па твары Кухара, што той не пачуў яго жарту, дадаў: — А пра тваё прыбыццё я зусім не ведаў. Проста праводзіў сваю знаёмую ў камандзіроўку. — Міклашэвіч яшчэ раз агледзеў сябра, усміхнуўся:

— Ну і морда ў цябе, Кухар. Прама скажу — бандыцкая морда.

— Ды годзе табе, — крыху сумеўся Андрэй. — Часу не было пагаліцца, ды і электрабрытва сапсавалася тры дні таму.

— Добра, паехалі дадому.

— Я хацеў бы заехаць да Тані.

— У такім выглядзе? — Міклашэвіч у непаразуменні заківаў галавой. — Прыедзеш дамоў, прывядзеш сябе ў парадак, адпачнеш і тады, калі ласка, едзь куды хочаш.

— Угаварыў, — уздыхнуў Кухар. — Паехалі дамоў.

Сябры прайшлі па пероне, па мосце перайшлі чыгуначныя пуці, накіраваліся да стаянкі аўтатранспарту, і ўжо, сядаючы ў машыну, Міклашэвіч пацікавіўся:

— Ты, можа, хочаш есці?

— Паем дома.

Нейкі час ехалі моўчкі, думаючы кожны аб сваім. Першым загаварыў Павел:

— Што ты маўчыш? Раскажы, як з’ездзіў, ці знайшоў адказы на свае пытанні?

— Добра з’ездзіў, — Кухар падняў з-пад ног партфель, паклаў яго на каленкі, але расшпільваць не стаў. — Гэтымі днямі папрацаваў я слаўна, але і адказы ведаю амаль на ўсе свае пытанні.

— Праўда?

— Праўда.

— Хто ж тады забіў Камяневіча ля Гіблай затокі ў Лядаве?

— Ён сам памёр, ад нечаканасці і страху.

— Значыць, крыміналу там і сапраўды няма, — расчаравана ўздыхнуў Міклашэвіч.

— Крыміналу там поўна, толькі даказаць яго няпроста, — Кухар на імгненне задумаўся, паправіў на каленках партфель. — Але давай я табе раскажу ўсё па парадку.

— Будзь ласкавы.

— Пасля сваёй першай паездкі ў сталіцу я ўпэўніўся, што пад вадой Мірэі і сапраўды схавана нешта незразумелае для нас і, магчыма, небяспечнае. Што гэта? Вароты ў Залу Ведаў? — гэту версію я адкінуў адразу, бо ўжо вельмі яна фантастычная.

— Пяцьдзясят гадоў таму палёт на Месяц быў фантастыкай.

— Яно гэтак, але я нідзе не знайшоў дакументальных, хаця б ускосных, пацвярджэнняў існавання такой Залы. Таму я пайшоў іншым шляхам і звязаў у адзіны вузел казну, згубленую царскім ваяводам Пятром Абаленскім у 1564 годзе, і пошукі звышсакрэтнай нямецкай арганізацыі «Аненербэ». Яны існавалі рэальна, пра іх дзейнасць захавалася шмат дакументаў. Мне, праўда, паказвалі далёка не ўсё, але і таго, што я ўбачыў і прачытаў, хапіла, каб скласці мазаіку ў адзіны малюнак.

— Цікава.

— Я пачаў з казны і даведаўся, што разам з ёй князь Абаленскі згубіў нейкую вельмі каштоўную кнігу з царскай ліберэі, і гэтага цар не дараваў свайму ваяводу, адсек прылюдна яму галаву.

— Крута тады рашалі праблемы!

— Я таксама пра гэта падумаў і таму пачаў шукаць звесткі пра бібліятэку цара Івана Васільевіча Жахлівага. Я даведаўся, што такая бібліятэка існавала і што Соф'я Палеалог, бабуля цара, наклала на яе «праклён фараонаў». Таму я мяркую, што ў куфры разам з золатам ляжыць пергамент с запісам гэтага праклёну. Я перачытаў сведчанні многіх, хто меў дачыненне да царскай бібліятэкі ці шукаў яе, а іх дзясяткі, пачынаючы ад Барыса Гадунова і заканчваючы сённяшнімі скарбашукальнікамі і авантурыстамі. Адшукаў я паказанні панамара маскоўскай царквы Іаана Прадцечы Канона Восіпава, які, пэўна, апошнім бачыў ліберэю ў 1724 годзе. Аднак мяне больш за ўсё ўразіў артыкул у газеце «Труд» за 22 лістапада 1944 года, — Кухар расшпіліў партфель і амаль адразу выцягнуў з яго тонкі сшытак. Перагарнуўшы некалькі старонак, ён пракашляўся і пачаў чытаць:

— «В шкафах Государственной библиотеки СССР имени В. И. Ленина хранится много тысяч древних рукописей и рукописных книг. Среди других здесь находятся пять книг большого формата в старинных кожаных переплетах из личного собрания Ивана Грозного. Крупнейший специалист древнерусских рукописных книг профессор Г. П. Георгиевский говорит: «Книги хорошо сохранились. Листы их почти не пожелтели от времени. Изумительные рисунки, мастерски выполненные лучшими художниками XVI века, сохранили до настоящего времени яркость своих красок».

Прачытаўшы гэты артыкул, я зразумеў, што шукаць царскую бібліятэку — марная справа, што яе даўно раскралі і распрадалі, а тое, што засталося, раздалі па дзяржаўных бібліятэках.

— Ведаючы нашу любоў да друкаванага слова, я таксама аб гэтым падумаў.

— Аднак мае пошукі не аказаліся марнымі. Шукаючы інфармацыю пра бібліятэку, я даведаўся, што ў князя Пятра Абаленскага да студзеня месяца 1564 года быў магічны амулет бога Шывы і што менавіта яго ён утапіў разам

са сваёй казной у водах Мірэі. Гэта версія самая праўдзівая, бо такі артэфакт «Аненербэ» ніяк не магла прапусціць.

— А што ўяўляе з сябе гэты амулет? У чым яго сіла?

— Гэта звычайная залатая пласцінка, з аднаго боку якой адціснуты грыфон, а з другога — прадказальнік. А моц яго ў тым, што ўладар гэтага амулета набывае вялікую сілу над людзьмі, можа перасяляцца з аднаго цела ў другое, змяняць падзеі сучаснага і бачыць будучае. Той, хто ведае сапраўдныя ўласцівасці гэтага амулета, становіцца бессмяротным.

— А як супрацьстаяць яго ўплыву?

— Ніяк, ён усёмагутны.

— А калі яго ўкрасці і знішчыць, напрыклад — расплавіць?

— Ды ты што, Паша? Расплавіўшы пласціну, грыфон і прадказальнік змяшаюцца ў адно цэлае і тады ўладальнік амулета стане наогул непераможным.

— А так?

— Яго можна абяссіліць толькі адным спосабам — раздзяліць грыфона і прадказальніка. Як гэта зрабіць, я пакуль не ведаю.

— Стачыць напільнікам адзін бок пласціны, а апілкі выкінуць у рэчку, у тую ж Мірэю.

— Можа, і так.

Рэшту дарогі да Дубоўны сябры маўчалі і толькі, спыніўшы «Жыгулі» ля дома Кухара, Міклашэвіч папрасіў:

— Андрэй, ты служыў у арміі, ты міліцыянер, а таму паспрабуй мяне зразумець.

— Што здарылася, Паша? — адразу насцярожыўся Кухар. — Я ўвесь шлях адчуваў, што ты не дагаворваеш, нешта хаваеш ад мяне.

— Не едзь ты сёння да Тані, пашкадуй яе.

— Што з Таняй, Паша? Яна ў бальніцы?

— Не, яна не ў бальніцы, аднак, я думаю, зараз яе турбаваць не трэба.

— Ды што ты цямніш, што ходзіш вакол мяне, бы я нейкая інстытутка? Кажы прама, што здарылася?

— У яе гора, адразу памерлі бацька і маці, і пахавалі іх толькі ўчора. Няхай дзяўчына супакоіцца, няхай крыху прыйдзе ў сябе.

— Наадварот, я ёй зараз патрэбны!

— Не патрэбны, Андрэй, бо ў яе нешта з галавой і яна многіх сваіх родных не пазнае. А ты ёй хто? Брат? Жаніх? Так, выпадковы знаёмы.

Кухар сцішыўся, адкінуўся на спінку машыны, нервова засоп. Праз нейкі час ён папрасіў Міклашэвіча:

— Раскажы, Паша, як памерлі яе бацькі?

— Следства яшчэ не закончана, бо ёсць шэраг дробязных дэталей, якія не маюць пакуль тлумачэнняў, але асноўная версія такая: Танін бацька працаваў механікам на станцыі тэхабслугоўвання і там пазнаёміўся з саракапяцігадовай Валянцінай Кузьміной, псіхіятрам з паліклінікі. Адзін раз падрамантаваў ёй машыну, другі, а потым іх знаёмства стала больш шчыльным, бо дактары з паліклінікі кажуць, што апошнімі днямі неаднойчы іх бачылі разам. А дзён пяць таму ён наогул запрасіў яе да сябе ў госці. Там іх і застала Таніна маці, і ў парыве рэўнасці, падмяшала ў каньяк, які яны пілі, атруту. Васіль Сцяпанавіч і яго каханка памерлі на месцы, прама за сталом, а Зоя Пятроўна — у зале, на канапе, прычым не ад атруты, а ад разрыву сэрца. Таня ў гэты час была на працы, а калі вярнулася і ўбачыла цэлую хату нябожчыкаў... — Міклашэвіч уздыхнуў: — Не вытрымалі ў яе нервы, адбылося нейкае завіхрэнне ў галаве… Вось такія справы, Андрэй.

— А якія нестыкоўкі ёсць у гэтай справе?

— Нестыковак шмат, але ўсе яны нязначныя, дробязныя, маюць тлумачэнні, хаця не маюць доказаў. Напрыклад, дзе Таніна маці ўзяла атруту? Чаму ў яе крыві ёсць вельмі малы працэнт атруты, але памерла яна ад сардэчнага прыступу? Як яна магла пайсці на такі радыкальны крок, калі нават і застала свайго мужа са старонняй жанчынай у сваёй хаце?

Міклашэвіч замоўк. Маўчаў і яго сябар. Урэшце Кухар нягучна, нейкім стомленым голасам, прагаварыў:

— Я ведаю, хто забойца.

— Даказаць можаш?

— Пакуль не, — сказаў Кухар. — Аднак заўтра я табе прадстаўлю доказы.

— Што ж, тады давай пачакаем заўтра.

**4**

На наступны дзень з самага ранку Кухар з Міклашэвічам ехалі ў Лядава. Ранішняя шаша была пустыннай. Абапал яе чарнеў амярцвелы лес. Абвітыя сівым лішайнікам разгалістыя елкі выглядалі суровымі і непрыветлівымі, а невысокія, гнуткія бярозкі, якія яшчэ не паспелі скінуць сваё восеньскае ўбранне, наадварот, нагадвалі вясёлых дзяўчат-перасмешніц. І на ўсім: на дарозе, на дрэвах, на кустах, на траве ў прамянях узыходзячага сонца зіхацеў і пераліваўся рознакаляровымі зоркамі першы снег.

— Якая прыгажосць навокал! — у захапленні выгукнуў Міклашэвіч. — Нават не верыцца, што недзе ідзе вайна, што ёсць на свеце вылюдкі, здольныя забіваць мірных людзей.

Кухар маўчаў. Міклашэвіч скасіў на яго позірк, запытаўся:

— Андрэй, а ты ўпэўнены, што Ванька Хлястоў — забойца.

— Упэўнены! — рыкнуў Кухар. — Яго, гада, трэба было даўно арыштаваць. Да яго трэба было прыгледзецца раней, яшчэ пасля смерці Максіма Камяневіча. Гэта мой, Паша, недагляд, і смерць Таніных бацькоў — на маім сумленні.

— Які сэнс зараз махаць рукамі? Прыедзем у Лядава і там разбяромся.

Аднак у Лядаве сяброў чакаў неспадзяваны ўдар, удар, ад якога ў Кухара перахапіла дыханне, а ў Міклашэвіча прапала мова.

— Ды ўжо з тыдзень, як мы пахавалі на мясцовых могілках Івана Хлястова, — паведаміла ўчастковаму старшыня сельскага савета. — Паехаў, небарака, па нейкіх справах у горад, там і знайшлі яго памерлым на аўтобусным прыпынку. Людзей на хаўтурах было няшмат, а з родных — толькі сын. Праўда, была яшчэ нейкая незнаёмая мне дзяўчына, але яе больш цікавіла яго хата і, як мне падалося, яна дамовілася з сынам аб яе пакупцы.

— А куды дзеўся яго сабака?

— Сабака? — старшыня здзіўлена пацiснула плячыма. — Не было ў яго ніякага сабакі!

Кухар з Міклашэвічам вярнуліся да машыны. Моўчкі закурылі.

— Што зараз думаеш рабіць? — першым запытаўся Павел.

— Не ведаю, — уздыхнуў Кухар. — Круціцца ў маёй галаве нейкая здагадка, болем выпальвае мазгі, але спыніць яе я ніяк не магу — вельмі ўжо яна пякучая, да неверагоднасці дзікая.

— А ты раскажы. Разам і вырашым, наколькі яна дзікая.

Кухар адкінуў убок акурак, адчыніў дзверцу машыны і сеў на сядзенне. Міклашэвіч таксама заняў шафёрскае месца.

— Ну што там за думка? — нецярпліва запытаўся Павел.

— Ды вось усё думаю, з чаго пачаць, — Андрэй скрывіўся ў нядобрай ўсмешцы. — Ты толькі не перабівай мяне, даслухай да канца, а ўжо потым вырашым — што нам рабіць. Добра?

— Пачынай.

— Перад апошняй паездкай у Маскву я зайшоў да Камяневічаў і ўжо тады Таня была нейкая быццам сама не свая. Тым вечарам мы ўсё спісалі на прастуду. Яе бацька, Васіль Сцяпанавіч, меў бутэльку каньяку, які збіраўся выпіць са мной, але я адмовіўся, сказаў, што мы вып’ем яго пасля майго прыезду. І, як ні дзіўна, мая адмова больш засмуціла Таню, чым яе бацьку.

Потым, мяркую, было так: бацька Тані, занепакоены здароўем дачкі, запрасіў да сябе ў госці знаёмага псіхіятра, каб тая, быццам выпадкова, агледзела дзяўчыну і дала пэўныя рэкамендацыі. Пакуль чакалі Таню з работы, выпілі па кілішку каньяку, выпілі і атруціліся. Чаму атруціліся? Таму што ў каньяк, шпрыцом праз корак, была дабаўлена атрута. Хто яго туды ўвёў? Таня.

— Хто? — ад нечаканасці вытрашчыў вочы Міклашэвіч. — Ты што, здурнеў?

— Не, не здурнеў.

— Навошта ж ёй труціць сваіх бацькоў?

— Ты абяцаў маўчаць, — Кухар напомніў сябру пра яго абяцанне і, калі той прыкрыў рот далонню, прадоўжыў: — Таня спадзявалася разам з бацькамі атруціць мяне.

— Цябе? — Міклашэвіч ажно заёрзаў на сваім сядзенні ад дурнога смеху. — Ты ж збіраўся ажаніцца на ёй!

— Я табе расказваў пра ўласцівасці амулета Шывы, — Кухар не звярнуў увагі на дзіцячую весялосць сябра. — Калі Ванька Хлястоў зразумеў, што я не баюся душы раджы Джагдзіша, ён з дапамогай амулета сваю душу ўсяліў у Таніна цела. Не дарэмна ж ён прыязджаў у горад! Яго цела пахавалі на вясковых могілках, а душа яго засталася жыць у Таніным целе. Вось чаму Таня пры нашай апошняй сустрэчы была нібы сама не свая. Вось чаму яна хацела забіць мяне, а зразумеўшы, што і бацькі ўжо адчуваюць нешта з ёй няладнае, яна іх атруціла. Магчыма, гэта атрымалася і выпадкова.

— Маці яе памерла ад сардэчнага прыступу, — напомніў Павел.

— Яе маці, Зоя Пятроўна, пакутавала на цукровы дыябет, а цукар — натуральны антыдот той атруты. Дастаткова пакласці пад язык кавалак цукру і атрута амаль не падзейнічае на чалавека. У дыябетыкаў пастаянна павышаны ўзровень цукру ў крыві, таму Зоя Пятроўна адразу і не памерла, і Таня з душой Хляста дабіла яе ўжо потым, як прыйшла з працы.

— Дык зараз Таня — гэта Таня ці Хлёст?

— Напэўна, усё ж Хлёст.

— Як жа даказаць яго злачынства? Як пазбавіць яго амулета?

Кухар павярнуўся тварам да сябра:

— Зараз ты мне верыш канчаткова?

— Веру, — няўпэўнена хітнуў галавой Міклашэвіч. — Але ж ты не адказаў на мае пытанні.

Андрэй некалькі разоў глыбока ўдыхнуў і выдыхнуў паветра і, быццам рашаючыся на нешта вельмі важнае, загаварыў:

— Яго трэба выклікаць у паліклініку і ў час абследавання сарваць з яго шыі амулет. Тут патрэбны рашучы і жорсткі доктар, такі, як Віктар Станкевіч. А без амулета Хлёст будзе бяссільны і нават, калі ён будзе маўчаць, то псіхіятрычная бальніца яму будзе забяспечана на ўсё яго жыццё.

— Ён жа бессмяротны?

— Гэта жыццё вечнае, а бессмяротнасць мае мяжу, і Хлёст даўно ўжо яе пераступіў.

— А што рабіць з амулетам.

— Знішчыць, — цвёрда, адсякаючы ўсялякія сумненні, прагаварыў Кухар. — Як? Мы з табой аб гэтым ужо гаварылі.

## Эпілог

Перад самымі Калядамі Андрэй Кухар сустрэў у дубовенскім універмазе смаленскага настаўніка Грышку Баранава. Павіншавалі адзін аднаго з надыходзячымі святамі, разгаварыліся.

— Я чуў, што вы ўсё ж такі разгадалі тайну смерці Максіма Камяневіча? — пацікавіўся Грышка. — Але, калі шчыра, я не веру, што забіў яго Ванька Хлястоў.

— І ёсць прычыны для недаверу?

— Ванька ж ледзьве хадзіў, ды і ўзрост меў далёка не малады.

— У час нашай апошняй сустрэчы вы мне расказвалі пра сусветны розум, пра тое, што жыццё на гэтым свеце — гэта як вучоба для чалавечай душы ў пэўным класе Касмічнай школы, у якой чалавек спасцігае агульнакасмічныя каштоўнасці і паняцці Дабра і Зла. вы сцвярджалі — жыццё бясконцае!

— Я памятаю тую размову і слоў сваіх не выракаюся. Скажу нават больш — не адчуўшы на ўласнай скуры боль і несправядлівасць, не спасцігнеш у поўнай меры розніцу паміж Дабром і Злом, не зразумееш сэнс свайго зямнога быцця. Але ж Хлёст…

— А я хачу сказаць вам аб іншым, — не вельмі ветліва перапыніў настаўніка Кухар. — У Хлястова быў чароўны амулет, з дапамогай якога ён мог не толькі тварыць свае брудныя справы, але і пераўвасабляцца ў іншага чалавека.

— Амулет Шывы? — няўпэўнена запытаўся Баранаў. — Я думаў, што гэта прыгожая індыйская казка!

— На жаль — не, гэта не міф і не казка.

— Тады ўсё зразумела: магутная зброя ў руках дурня заўсёды служыць сілам Зла…

— Амулет мы знішчылі, а цела дзяўчыны, якая стала чарговай яго ахвярай, пахавалі на могілках побач з магіламі яе брата і бацькоў.

Грышка Баранаў спалохана паглядзеў на суразмоўцу, потым зняў шапку і перажагнаўся. Кухар жа нервова скрыгатнуў зубамі і змахнуў з вачэй раптоўна выступіўшыя слёзы.





Алесь ВЕТАХ

# АПАВЯДАННІ

## Там, дзе няма крыжа

І было тое яшчэ задоўга да Чарнобыля, калі і сонца радасна зіхцела, і дождж наталяў жывымі сокамі зямлю, і сады шчодра цвілі белай квеценню, і людзі насялялі гэтыя мясціны.

Па пыльнай дарозе, якая заварочвала ў невялікую лясную вёсачку, фактычна глухі засценак, басанож плёўся высокі, хударлявы чалавек у зрэбных штанах і выгаралай ільняной кашулі — яна абвісала на тонкіх, завостраных плячах, быццам ануча. Падарожны ледзьве перастаўляў збітыя, у струпах, ногі, сунуўся, абапіраючыся на доўгі ўсохлы кій, аднак ні на хвілю не супыняўся, маруднаю хадою набліжаўся да абжытага людзьмі кута, жадаючы аднаго — як мага хутчэй ступіць на падворак і папрасіць каўтануць хаця б глыток халоднай вады. Паволі ён прыдыбаў да крайняй хаты, пакрытай гонтаю, якая з паўночнага боку густа парасла цёмна-зялёным мохам; побач з гэтай драўлянай пабудоваю кусціўся бэз, а ў гародчыку перад вокнамі буяў язмін, крыху воддаль ад яго цягнулася ўгору танклявая вішанька, вакол якой раскашавалі касачы. Чалавек, здарожаны і змарнелы ад смагі, крануў веснiцы.

У апошняй з канца хаце жыла Манька Лугавая са сваёю дванаццацігадоваю дачкою, якая моцна накульгвала на левую нагу, і праз гэта яе тут, у лясным засценку, за вочы называлі то калечкаю, то кульгаўкаю. Манька хадзіла з кашом па агародзе і палола бульбу, рвучы зелле парсюкам, а Волька, яе дачка-падлетак, акурат сядзела ў цяньку на прызбе і перабірала чарніцы, калі на панадворак зайшоў доўгабароды чалавек з палатнянаю торбаю праз правае

---

*__Алесь Ветах (Бельскі Алесь Іванавіч)__ нарадзіўся 23 ліпеня 1963 года ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1986). Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. У 2000—2002 гг. узначальваў лабараторыю літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. З 2001 г. — галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура».*

*Выдаў кнігі прозы «Ружовая знічка» (1994), «Хроніка смутку» (1999). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (2000).*

*Выступае як літаратуразнавец і крытык.*

плячо — ці то жабрак, ці то валацуга, ці то нейкі непрыкаяны. На яго прадаўгаватым, счарнелым ад загару твары свяціліся буйныя кропелькі поту і стаяў выраз вялікай стомы ды пакуты: здавалася, незнаёмы падарожны, знясілены доўгай дарогаю, вось-вось упадзе на дол, рухне, бы сноп. Волька, знянацку ўбачыўшы чужога чалавека, схамянулася, падхапілася і хацела падацца праз сенцы ў хату. Але той адчуў яе ўнутраную ўтрапёнасць і намер, спыніўся, каб апярэдзіць спуджанае дзіця — прытуліў да грудзей руку з кіем і перасмяглымі вуснамі прашаптаў:

— Не бойся, дзевачка. Бог у хату! Бог з намі! Бог на векі вечныя!

І гэтае тройчы прамоўленае слова «Бог» падзейнічала гіпнатычна: Волька не скранулася з месца, зніклі сполах, хваляванне, і яна з цікаўнасцю аглядала незнаёмца: сухарлявага і тонкага, як кнот, з бруднымі кудламі на галаве і дзюбападобным носам. Падарожны ўбачыў, што дзіця больш не баіцца яго, і ціха папрасіў:

— Вады, дзевачка, вады прынясі!

Пасля гэтай просьбы ён дайшоў да прызбы і асунуўся пры ёй, чакаючы з нясцерпнасцю хвіліны, калі спатоліць смагу. Волька, адкінуўшы з пляча русую касу, пачыкільгала да сяней і зачэрпнула з вядра вады. Яна прынесла незнаёмцу паўнюткую кварту. Чалавек, зняможаны і даведзены цяжкай дарогай амаль да непрытомнасці, прагна, глыток за глытком, каўтаў ваду. Урэшце ён перавёў дых і дапіваў рэшту вады з заплюшчанымі вачыма. Па краях рота струменьчыкі сцякалі на бараду, а драбнюткія кроплі з кварты падалі на грудзі. Чалавек працягнуў Вольцы парожні драўляны кубак, сказаў: «Дзякую, дзевачка. Бог не забудзе тваю ласку». Ён сядзеў і не расплюшчваў вачэй: не то смакаваў усю асалоду павольнага павяртання да жыцця, не то быў у лёгкай дрымоце і гаварыў праз сон. Волька зноў, на гэты раз больш пільна, угледзелася ў аблічча незнаёмца. Скура на кончыку яго носа аблупілася, шчокі запалі, на высокім ілбе пралягалі тры неглыбокія зморшчыны, светла-русая барада здавалася густой мяцёлкай, вялікія загарэлыя рукі з доўгімі пальцамі — грабелькамі для дзіцячай забавы. То быў не дужа стары чалавек, але цяжка дакладна сказаць, колькі гадоў налічваў яго зямны век. Няўмольны час і валацужны, беспрытульны лад жыцця размылі і зрабілі неакрэсленым, таямнічым яго ўзрост.

Раптоўна незнаёмец разамкнуў павекі і ўбачыў дзяўчынку, якая назірала за ім. Ён спытаў:

— Цябе завуць Волька?

— Волька, — нясмела адказала тая.

Чалавек засунуў руку за пазуху кашулі і дастаў адтуль нацельны крыжык, тройчы перахрысціўся і пацалаваў яго. Затым ён узняўся на калені, нахіліўся ўперад. Дзяўчынка не варухнулася, глядзела ў яго блакітныя, быццам дзве маленькія крынічкі, вочы. Чалавек асцярожна, далікатна прыклаў да дзіцячай галоўкі свае рукі, і Вольцы ад дотыку яго шурпатых далоняў стала дужа добра, цёпла, лёгка. Ён з глыбокай унутранай прачуласцю пачаў шаптаць малітву. Волька адчула, як нейкая невядомая слодыч і лагода напаўнялі яе істоту. Усіх тых малітоўных слоў яна не магла разабраць, толькі асобныя: «Отче», «Боже», «Господи», «Мати», «Царице». Яна ўжо чула іх ад сваёй маці, калі тая малілася нанач перад абразамі. Вольцы не хацелася кратацца, яна, здавалася, так і стаяла б, слухала б гэты ціхі, манатонны голас, які закалыхваў яе. Дзяўчынка ўсім маленькім сэрцам была ў палоне малітвы. Яна не ведала, хто ён, гэты чалавек, але сваёй дзіцячай існасцю адчувала, што ён добры. Пашкадаваўшы дзяўчынку-калеку, незнаёмец сілай малітвы ратаваў яе. Скон-

чыўшы маліцца, чалавек сказаў: «Ідзі, дзіця, з Богам!» І — о, дзіва! — Волька не проста пайшла, а пабегла, як і ўсе яе дзяўчынкі-аднагодкі. Яна раптам на момант спынілася, бо не магла паверыць, што з ёй урэшце здарылася тое, аб чым яна марыла ўсе дзіцячыя гады, аб чым прасіла Бога ў слязлівых малітвах яе матуля.

Манька, калі ўвайшла з кашом зелля на падворак, ледзь не аслупянела, не магла даць веры сваім вачам: яе дачушка бяжыць насустрач, скача, як козачка. А Волька радасна выгуквала:

— Мамка! Глядзі! Я хаджу! Мамка! Я бегаю! Мая нага мяне слухае!

Волька кінулася ў абдымкі матулі. Тая прыгарнула дачушку, гладзіла яе парэпанымі рукамі па галоўцы, а затым наўзрыд заплакала. Дзяўчынка, прытуліўшыся да матчыных грудзей, сказала, паказваючы рукою ў бок незнаёмца:

— Гэта ён, святы чалавек, нагу маю паправіў.

Манька скрозь слёзы ўзіралася ў прыблуканага на іх падворак чалавека, які спачываў у цяньку пры хаце, адкінуўшы галаву і гледзячы ў распалены сонцам блакіт. І было шчасце жанчыны вялікае ды бязмернае, яно да самых краёў напоўніла мацярынскае сэрца. Манька, узрушаная пабачаным, не стрымала сваіх пачуццяў і кінулася да гэтага чалавека, нібы да жывога Хрыста, які ўчуў яе малітвы, з’явіўся нечакана і сваёю цудадзейнай сілай пазбавіў калецтва яе адзіную дачушку. Кабета пачала цалаваць яго рукі — і цалавала іх, плачучы ад вялікай радасці, і ўтрапёна шаптала гарачыя словы ўдзячнасці: «Дзякую табе, божы чалавек». Ён суцешліва паклаў правую руку на яе галаву і сказаў:

— Гэта вера твая ўратавала дачку тваю.

Манька быццам не чула тое, што ён кажа, у самазабыцці і душэўнай расчуленасці шаптала адно і тое ж: «Дзякую, дзякую…» Яна сэрцам адчувала, што чалавек перад ёю не такі, як усе, бо надзелены незвычайным дарам лекаваць і ацаляць людзей, і ён пасланы ім з дачкою нябёсамі — гэта значыць самім Госпадам. А збаўца яе Волькі мовіў:

— И кто напоит одного из малых сил только чашею холодной воды, во имя ученика, истинно говорю вам, не потеряет награды своей.

Слепые прозревают и хромые ходят, прокаженные очищаются и глухие слышат, мертвые воскресают и нищие благовествуют…

Приидите ко Мне, все труждающиеся и обремененные, и Я успокою вас.

Пакрысе шчаслівая, у радасным плачы, маці сціхла. Здалося, з яе душы зваліўся цяжкі камень, які душыў столькі гадоў, вярэдзіў і не даваў спакою. Манька паднялася і пайшла ў хату. Яна вярнулася адтуль, несучы таз з вадою. Жанчына стала на калені і абмыла навярэджаныя, загрубелыя ногі гэтага чалавека з дарогі, з Бог ведае якога свету. Затым мокрым ручніком працерла яго запылены, змарнелы твар і шыю. Ён увесь час сядзеў з заплюшчанымі вачыма, не варухнуўся, быў у маўчанні вялікім, а потым, быццам у трызненні, ціха прамовіў:

— Дзякую табе, Марыя.

Жанчына сумелася ў здзіўленні: адкуль ён ведае яе імя?! Няўжо бачыць людзей наскрозь? Здаецца, дачка ў яго прысутнасці гукала яе толькі мамкаю. Манька, яна ж Марыя Лугавая, забыла, калі яе так клікалі, як назваў гэты божы пасланнік. Для ўсіх тут, у засценку, яна была толькі Манька. Жанчына са шкадобаю, жалем глядзела на няшчаснага лёзнага бадзягу і быццам бачыла Хрыста на царкоўным абразе, які некалі даўным-даўно вісеў у іхняй царквекапліцы: на твары адбілася пячатка гэткай жа вялікай пакуты. Чалавек млява

варушыў вуснамі — мабыць, ён штосьці прамаўляў у сне. «Пэўна, напакутаваўся, багата перажыў, — думала яна. — Нейкая мачыха-злыбеда павяла ў няблізкі свет, змусіла шукаць долі-прытулку».

…Чалавек прачнуўся і ляжаў нерухома. Ён не мог згадаць, як апынуўся ў хаце, дзе востра пахла маладым сенам і зёлкамі, якія сохлі недзе пры печы. Сяннік, на якім ён спачываў, акурат дыхаў духмяным водарам, абуджаў адчуванне прысутнасці мяккага, лагоднага лета на гэтай грахоўнай зямлі.

Звярэджаны дарогай, ён выспаўся па-чалавечы — гэта значыцца ў ложку, адпачыў, аднак не кратаўся, бо там, за шчыльнаю занавескай, якая падзяляла хату на дзве паловы, ціха і ўзахлёб гаварыла Волька, паведамляючы пра тое, што пабачыла. І ён слухаў, што ўтрапёна і хутка апавядала дзяўчынка:

— Прыбегла, мамачка, як трактар пад’ехаў. Вяроўчыну на крыж накінулі. Дырэктар школы нашаньскае махае дзядзьку Ахрэму, трактарысту значыцца. Махае, каб ён ехаў. А той з кабіны выскачыў. І ніц перад ім на калені. Плача, кажа, што ехаць не можа. Тады дырэктар наш за руль залез і выцягнуў крыж. Няма, мамачка, цяпер крыжа таго. Павалаклі некуды.

Чалавек даведаўся, што пры дарозе ў засценак прыбралі крыж, які яшчэ ўчора сустракаў яго непадалёк ад крайняй хаты. Волька стала сведкаю гэтага зносу-руйнавання крыжа і цяпер не магла супакоіцца, перамагчы сваё хвалянне. Марыя, матуля яе, божкала са скрухаю, гаварыла з пачуццём агромністага гневу-абурэння і кляла, як умее гэта рабіць ці не кожная вясковая кабета:

— А Божачка! Мацер святая, заступніца наша! Што ж яны, антыхрысты клятыя, нарабілі? Хто іх паслаў? Каму ён тут замінаў? А каб жа Бог і ўсе святыя паслалі на іх, вырадкаў чортавых, кару несусветную! Каб жа на іх з неба хто дустам якім-небудзь пасыпаў!

Чалавек узняўся з ложка і выйшаў да гаспадыні з дачкою. Яны зразумелі, што незнаёмец пачуў гэтую скрушлівую вестку пра крыж. Волька ўсхапілася з-за стала, следам паднялася маці. І сказаў ён:

— Дзе няма крыжа, там памірае Бог і жыццё.

Ад гэтых слоў рабілася боязна, неяк не па сабе. Яшчэ больш палохала тое, што ён казаў далей. І мовіў ён гэтым людзям, каб ведалі: здарыцца штосьці жахлівае, абрынецца нейкая нечуваная бяда.

— Третий Ангел вострубил, и упала с неба большая звезда, горящая подобно светильнику, и пала на третью часть рек и на источники вод.

Имя сей звезде полынь; и третья часть вод сделалась полынью, и многие из людей умерли от вод, потому что они стали горьки.

Згадка пра гэты трубны голас з неба трывожыла вялікае і малое сэрцы, спараджала страх Божы. Гаспадыня пасля пачутага наклала на сябе крыж і тройчы выдыхнула: «Свят, свят, свят!»

Матуля выправіла Вольку на двор пагуляць, а сама пачала выстаўляць на стол згатаваныя стравы, каб накарміць гэтага чалавека цудадзейнага дару і багамольца. Пра тое, што Маньчына дачка перастала кульгаць і яе ацаліў божы чалавек, ужо ведаў амаль увесь пасёлак. Хто даваў веры, а хто і не. У большасці да іх прыбягалі дзеці, каб падзівіцца, як бегае-скача Волька. Назаўтра ж прыпёрлася з другога канца засценка Ганулля Макрыцкая — тая заўсёды хацела ўсё ведаць і ўсюды дапяць. Яна наведалася, каб пабачыць і спраўдзіць тое, пра што кажуць людзі. Навіна абрастала чуткамі, дадумкамі, нейкімі новымі падрабязнасцямі. А цікавіла Ганну-Ганулю многае, нават тое,

на што не мела адказу Марыя Лугавая. Пытанні сыпаліся, як з рога: «Ці праўда, што яе дачушку нейкі манах ацаліў? А як яго завуць? І ці праўда, што ён здалёку будзе — прыкандыбаў з закрытага манастыра? Ці ведае, што гэтага багамольца шукаюць? А ці Бог дапамог, а ці, можа, чары гэтага манаха?» Манька амаль нічога асаблівага не паведаміла, больш пацiскала на яе запытанні плячыма, але пра выратаванне дачкі сказала пэўна, дакладна: «Цуд, гэта Божы цуд». Так што Ганна і пайшла назад, не задаволіўшы ўсёй сваёй цікаўнасці, не маючы пацвярджэння таму, што кажуць пра невядомага мужчыну, які прыблукаў-прыбіўся да Манькавай хаты.

Цяпер тут, у гэтых сценах, ён, натомлены вандроўнік і божы чалавек, быў самым жаданым госцем. Адзінокай жанчыне чамусьці здавалася, што ведае яго даўно, проста яны шмат гадоў не бачыліся, таму вельмі хацелася, каб ён застаўся як мага даўжэй, а, магчыма, і назаўсёды. Яна не была б супраць, калі б на тое ягоная воля. «Пэўна, у яго анікога нямашака. То хай бы сабе колькі трэба жыў, сталаваўся, хадзіў туды-сюды пры хаце. Вару ж бульбу, буракі сабе і дачцэ, то і яму яды хопіць. А што, калі, крый божа, дзесьці сілы яго пакінуць ці прападзе без дай прычыны. Шкада, бо ўсё ж жывы чалавек», — у таемных думках разважала жанчына. У ёй загаварыла цяжкая бабская доля: калі б ён пагадзіўся, то хай бы лічыўся сабе і прымаком, як-ніяк, а хай бы ў хаце быў мужык; калі не гаспадар, дык хоць добры, талковы чалавек, з якім слоўцам можна перамовіцца, параіцца, як і што зрабіць.

Жанчына нясмела, няўпэўнена, з ледзь улоўным спадзевам у голасе прамовіла:

— Можаш, чалавеча, гасцяваць колькі хочацца, колькі душа зажадае. Хата вялікая, дык месца хопіць. Бульбачкі і малака ў нас досыць.

Аднак у гэтага чалавека была свая, толькі яму вядомая прычына, каб адмовіць, не адгукнуцца на яе шчырую прапанову займець прытулак. І ён сказаў:

— Дзякую за хлеб-соль. Але мне ўсё ж трэба ісці.

— Яно так — свет вялікі. А, калі не таямніца, куды, чалавеча, твая дарога вядзе? — не ўтрымалася і выдала сваю цікаўнасць жанчына, але ў яе голасе разам з тым чуліся і расчараванасць, і шкадоба ад таго, што пачула адмову.

— На Галгофу. Туды іду, Марыя.

Манька-Марыя, падумаўшы, што чалавек жыве або ў сваіх мроях або як бы крыху не ў сабе, усё ж папытала ў яго:

— Дзе ж яна, тая Галгофа?

— Яна паўсюль там, дзе людзі забыліся на Бога.

І ён пайшоў. Перад тым як пакінуць хату, перахрысціў гаспадыню і малую Вольку.

— Бывай, Марыя.

— З Богам, — адказала яна, і ў гэты момант жаночае сэрца праняла пачуццё невыказнага, шчымлівага жалю, што ён, даўшы радасць і надзею, цяпер пакідае яе з Волькаю, такіх адзінокіх і гаротных.

І ён рушыў па бязлюднай вуліцы: засцянкоўцы былі хто на сенажаці, хто ў полі, хто ў лесе. Толькі тоўсты, каржакаваты Юзік Варган тырчэў пры сваіх варотцах, усклаўшы на іх рукі, паліў смярдзючую папяросіну і выглядаў, хто ідзе па дарозе, быццам пільнаваў, каб штосьці сказаць ці запытаць. Ён убачыў барадатага, дзіўнага выгляду чалавека з кіем і ўжо здалёк вывучаў і ацэньваў яго. Можа, гэта чыстая выпадковасць, але Юзік, які заўсёды ведаў амаль кожную тутэйшую навіну, дасюль чамусьці не дачуўся, што гэты босы напаўжабрак-напаўстарац уратаваў ад калецтва Манькаву дачку. Чалавек, параўняўшы-

ся з хатаю Варгана, прыпыніўся, затым павярнуўся і, крыху схіліўшы галаву, перахрысціўся, прамовіў:

— Паздароў, Божа! Няхай у гэтай хаце будзе так, як Богу заўгодна!

— Мо хацеў, каб штосьці даў? — са з’едлівасцю сярдзіта папытаў Юзік. — Чаго тут блындаешся? Якая бура цябе прынесла? У калгас табе трэба! Дык там дадуць, калі працаваць з віламі будзеш. Ідзі, пабірушка, ідзі, куды ішоў!

Прысаромлены і адпрэчаны, чалавек з кійком патрухаў далей. Пры старой грушы-дзічцы велікаватыя дзеці грэбаліся ў пяску. Згледзеўшы босага незнаёмага чалавека з торбаю, самы большы з іх, рыжы з рабаціністым носам хлапчук, узрушыўся і з пагардаю выкрыкнуў:

— Глядзіце! Тарбэшнік клыпае. Жабрак! Жабрак!

Калі вандроўнік мінуў грушу-дзічку і кучу пяску, дзе бавіліся дзеці, рыжы задзіра, быццам сшалеў, пачаў лямантаваць: «Жабрак-даўбак! Жабрак-г…ўняк!» — і ўсе іншыя дзеці падхапілі гэтыя абразлівыя слоўцы. У адзін голас, хорам выгуквалі, паўтаралі іх, цвелячы дзівакаватага чалавека-барадача. Затым малы рыжы хуліган падняў каменьчык і шпурнуў яго ў незнаёмца. Астатнія дзеці таксама навыперадкі кінуліся хапаць каменьчыкі і, цэлячыся, папускаць наўздагон доўгабародаму чалавеку з кіем. «Агонь, батарэя, палі! Агонь!..» — імпэтна загадваў, верхаводзячы, рыжы камандзір. Шурпатыя, гладкія і пляскатыя каменьчыкі ляцелі ў падарожнага, бы ў жывую мішэнь, балюча ранілі яго. Але ён не зважаў на гэтых малых снайпераў-каменекідальнікаў і пабасаножыў па пыльнай дарозе.

Чалавек з кіем і торбаю, здаецца, прадчуваў, што засталося ісці яму няшмат, што падыходзіць да нейкай апошняй мяжы. Таму і не спыняўся, пачаў церабіць босымі нагамі. Можна было падумаць, што ён спяшае на другі канец вуліцы, каб як мага хутчэй і назаўсёды пакінуць гэты затулены лясамі глухі кут.

Насустрач чалавеку рухаўся, шпарка набліжаўся зялёны ўазік або, як яго яшчэ называюць, козлік. Машына прытармазіла, спынілася, і з яе выскачылі два міліцыянеры. Адзін з іх, спацелы і з мокрымі плямамі на сіняй кашулісарочцы, узрадавана выгукнуў:

— От і сустрэліся! Папалася, урэшце, басота, душа валацужная! А то амаль праз увесь раён прадыбаў і нідзе яго няма.

А другі, цыбаты, вузкагаловы і з маленькімі чорнымі вусамі, абрынуўся з нястрымнай раз’юшанасцю, пагрозамі:

— І хто ты такі? Адкуль? Чаму людзей баламуціш?

Хлопцам далі загад затрымаць чалавека, які валачыўся ад вёскі да вёскі, і быццам баламуціў людзей. Шукалі яго не адзін дзень пасля таго, як хтосьці з пільных людзей паведаміў куды трэба пра дзіўнага жабрачага выгляду чалавека і яго цуды: маўляў, аб’явіўся жывы Хрыстос.

Яго пасадзілі разам з двума мясцовымі злодзеямі. Міліцыянер, які сеў за руль, сказаў:

— Паедзеце, зладзюгі, з валацугам і багамольцам у каталажку. Там і прызнаецеся, колькі накралі. Кайцеся, пакуль не позна, бо ўсё адно цуду не будзе. Дык мо вам гэты святы грахі адпусціць!? — і зарагатаў.

А чалавек ціхім шэптам мовіў:

— Остерегайтесь же людей, ибо они будут отдавать вас в судилище и будут бить вас.

Не судите, да не судимы будете. Ибо каким судом судите, таким будете судимы; и какою мерою мерите, такою и вам будут мерить.

И не бойтесь убивающих тело, души же не могущих погубить…

Вусаты міліцыянер ледзь даслухаў гэтае ўзгадванне біблейскіх слоў, кінуў:

— Заткніся, прарок!

І той замоўк. І ён ехаў з нямою пакораю, рухаўся ў няволю, на здзек і глум, кіраваўся з двума вясковымі злодзеямі на суровы, жорсткі суд тых, ад каго залежаў ягоны лёс. Яму наканавана было прайсці крыжовы шлях. Гэта быў чалавек, які ішоў да іншых людзей, каб сказаць, нагадаць ім адну вялікую праўду-ісціну: Хрыстос паміж нас і ў кожным з нас.

## Паездка ў Жыровічы

***…калі ты і плоцццю й душой***
***нездароў,***
***і боль твой суняцца***
***не можа —***
***успомні, што ёсць***
***жыватворны Пакроў***
***Жыровіцкай Маці Божай…***

Зьніч

Бягуць, мільгаюць дні ў нескачонай спешцы, мітусні і тлуме, і гэты штодзённы кругаварот так закручвае, засмоктвае, нібы вір, што цяжка прыпыніцца, азірнуцца назад і падумаць пра самае галоўнае і важнае ў жыцці. Здаецца, там, за даляглядам, нас чакае штосьці лепшае, нейкі цуд ці свята, якое падорыць незвычайную радасць-асалоду. Жыві і спадзявайся! Час, наперад! Вось так мы і жывём, спяшаючыся немаведама куды: ці не да апошняй рысы-мяжы, за якой — ні цёплага сонца, ні звонка-зялёнага лета, ні бяскрайняга жытнёвага поля з вузкай сцяжынкай да лясных баравін.

Праз сваю занятасць, неадкладныя клопаты і абавязкі ніяк не выпадала знайсці вольны час на паездку да Жыровічаў — абранай Багародзіцай святой мясціны, куды штодня наведваецца процьма паломнікаў, экскурсантаў ды іншага вандроўнага люду. Збіраўся прыехаць сюды даўно. Упершыню хацелася пабачыць Жыровіцкі манастыр і Свята-Успенскую царкву яшчэ гадоў з дзесяць таму, аднак чамусьці тады жаданне не спраўдзілася, нават цяжка ўжо згадаць, што сталася прычынай і перашкодзіла здзейсніць задуманае. Пасля з жонкай мы запісаліся ў экскурсійную паездку ў Жыровічы, але праз хваробу малога сына яе давялося адкласці. Меў я спадзеў, што патраплю да святой мясціны, калі павязу студэнтаў на фальклорную практыку пад Зэльву, бо адтуль да жыровіцкіх муроў рукой падаць. Не атрымалася, аднак, выбрацца туды, нават у нядзелю не змог, бо двое хлопцаў-студэнтаў пачалі жлукціць смярдзючую самагонку, і давялося іх літаральна «пасвіць», каб, крый божа, не дапіліся да сініх чорцікаў і чаго-небудзь не вытварылі. Жончына сваячка з сям'ёй паспела двойчы з'ездзіць у Жыровічы, пасля захоплена апавядала пра ўбачанае, свае ўражанні, зведаныя адчуванні. Гэтая яе святочна-застольная справаздача яшчэ больш узмацніла маё памкненне падацца ў паездку і самому сэрцам дакрануцца да таго незвычайнага і дзівоснага кутка свету, дзе на грушы-дзічцы з'явіўся пастушкам абразок Божай Маці.

Чаму я хацеў наведаць месца цуду і вялікую святыню? Бадай, на гэты конт не трэба нічога тлумачыць таму, хто звяртаецца ў малітвах да Бога, шануе духоўныя традыцыі сваіх бацькоў ды продкаў. Напэўна, не зразумее пілігрыма

толькі той, хто далёкі ад веры і застаецца атэістам або закаранелым, непапраўным грэшнікам. Хіба можна жыць і не імкнуцца да чагосьці вышэйшага, горняга? Духаўздымным чалавек робіцца праз улучанасць у прастору сваёй зямлі, культурнае поле памяці. Ці не так?

Словам, сустрэча з Жыровічамі была для мяне жаданай і доўгачаканай. У думках і ўслых пры жонцы я не раз дакараў сябе, што дасюль не патрапіў да цудоўнай мясціны, не пабачыў святога нерукатворнага абраза Багародзіцы. Маўляў, жывём у Беларусі, часам марым пра замежную экзотыку, а сваіх цудаў не пабачылі. Вунь людзі з няблізкага свету знаходзяць час, магчымасць і прыязджаюць да святыні. Мабыць, мой унутраны покліч не быў такім моцным, як у многіх шчырых вернікаў ці кагосьці са сваім цяжарам пакуты, болем і надзеяй.

Аднак час ад часу абуджалася сумленне, пасля дакораў і папрокаў самому сабе з'яўляліся сорам і пачуццё віны перад памяццю спачылых бабулі, маці і ўсіх родзічаў-продкаў. Неаднойчы мая жыццёвая дарога пралягала побліз Жыровічаў, але яна так і не прывяла ў гэты святы куток нябеснай апякункі. І калі б я не ведаў мінулае, пра тое, як пакланяліся Багародзіцы ўсе жанчыны майго роду, то, напэўна, гэтак бы не перажываў, не маркоціўся, што сустрэча з Жыравам, як называла яго мая бабуля-набожчыца, яшчэ не сталася падзеяй майго жыцця. А хацелася б, каб было інакш, а менавіта: каб у бясконцай мітульзе дзён, за інертнасцю штодзённага існавання надыходзіў момант прасвятлення і хацелася рабіць сапраўдныя духоўныя ўчынкі. Калі ўнутраны голас паклікаў цябе ў дарогу да святыні, дык адкладзі ўсё астатняе на потым і спяшайся туды, дзе, магчыма, знойдзеш і адчуеш тое, што згубіў, азірнешся назад і, калі Бог дасць, знойдзеш адказ на пытанні «Чаму? Як? Навошта?», а галоўнае, ты зможаш адкрыць цуд і вышыню нябёсаў, якія ўздымаюць твой дух над імклівым кругабегам жыцця і тлумнай грахоўнасцю.

Абраз Божай Маці Жыровіцкай — наша сямейная святыня, якая шанавалася і да маёй бабулі, і да мяне, чалавека ўжо новага стагоддзя і тысячагоддзя. З ранняга дзяцінства я бачыў на покуці невялікую копію выявы Багародзіцы ў цёмна-карычневым драўляным акладзе. І не толькі сузіраў гэты абразок, але і, як тыя пастушкі, што дзівіліся зіхоткаму святлу на грушы, з ціхім хваляваннем і нават бояззю заміраў перад абліччам Божай Маці: мне здавалася, што Яна сапраўды мяне бачыць, слухае і чуе, таму, калі буду звяртацца да Яе, то адразу адгукнецца, адрэагуе на маё шчырае прызнанне ці просьбу. Станавіцца на калені насупраць покуці мяне ніхто не прымушаў, хоць у царкве, куды вадзіла мяне бабуля, разоў колькі ўкленчваў з ёю перад залаціста-вохрыстым алтаром, прыкладваўся, цалуючы, да плашчаніцы. Гадаваўся я ў сям'і камуніста, а бацька пасля гібелі любімага брата на фронце астыў да рэлігіі, веры. Хоць, праўда, зрэдку перад абразом Божай Маці, калі браў чарку, жагнаўся, але каб не бачылі жонка альбо цешча, прасіў выбачэння за нейкія правіны са зваротам «Даруй!» Аднойчы ён чагосьці плакаў, ціха, праз слёзы шаптаў малітву, што мяне вельмі ўзрушыла. І тое запомнілася на ўсё жыццё. У хаце нас, дзяцей, ужо не выхоўвалі ў рэлігійнай строгасці і аскетызме. Тым не менш штораніцы і штовечар я быў сведкам малітваў маёй бабулі Ганны, чуў, як яна просіць Божую Маці быць міласэрнай, дараваць грахі, не караць і пашкадаваць яе, гаротную. Калі яна занядужвала і ляжала хворая ў пасцелі, то тады малілася яшчэ больш утрапёна, прамаўляла пранікнёна-прачулыя словы з просьбай, каб Багародзіца, нябесная лекарка, зжалілася, забрала немач, паздаровіла, а Боженька змяніў гнеў-кару на літасць, не звёў яе дачасна ў магілу. І вось пад уражаннем бабуліных гаворак з Богам і Божай Маці ўсёй сваёй

істотай я верыў у Яе існаванне, жывую прысутнасць. Мне, малому хлопчыку, здавалася: я і жыццё маё ў руках Таго, Хто жыве там, на небясі, ды сочыць за кожным маім крокам і рухам. Яна, святая Маці, можа дапамагчы і паспрыяць, ацаліць і ўратаваць — гэткі цудатворны Вобраз склаўся ў маім уяўленні пад уплывам бабуліных шэптаў-малітваў і самога абразка з таемна-ўсёбачным позіркам Прачыстай Багародзіцы і Царыцы Нябеснай (так звярталася ў малітвах бабуля да Багамаці). Зрэдку мне пачынаў унізе балець жывот, і там то ўсчыналася рэзь, то пасля падоўгу ныла. А прызнацца маці, бабулі баяўся: здавалася, што гэты боль даймае-вярэдзіць мяне праз тое дрэннае, благое, што я ўчыніў — гэта значыць, пакутую праз свае грахі. І таму як мог цярпеў і трываў, але пасля, застаючыся сам-насам, таемна набліжаўся да покуці і з мальбой, надзеяй хрысціўся перад абразком Жыровіцкай Божай Маці. І такое паўтаралася неаднойчы.

А ён, гэты святы абраз, у пэўныя цяжкія жыццёвыя моманты быў ахоўнікам майго роду. Тут дастаткова распавесці хаця б адну гісторыю. Праўда, пачуў яе ўжо ў сталыя гады, а пачуў яе ў Кіеве ад сваёй стрыечнай сястры, якой прывёз у дарунак абразок Жыровіцкай Багамаці…

…Бацькаў старэйшы брат Фама (не той, што загінуў на фронце, а іншы, які нарадзіўся і гадаваўся не за савецкім часам) у дзяцінстве цяжка захварэў. Акурат у мястэчку лютавала нейкая страшная эпідэмія, якая асабліва не шкадавала дзяцей. Хлопчыка жудасна ліхаманіла. Ён літаральна згараў на вачах, губляў вагу, ператвараўся ў цень. Местачковы фельчар нічым не мог дапамагчы. На жаль, ён не абнадзеіў сплаканую маці, наадварот, сказаў, каб рыхтавалася з мужам да найгоршага, аднак папярэдзіў пра іншыя магчымыя наступствы: «Калі нават здарыцца цуд і ваш сын адужае хваробу, то будзе сляпы ці глухі». Яна, Варвара, малітоўна склала дрыготкія рукі, укленчыла перад абразком Божай Маці на покуці, пакорліва схіліла галаву і малілася цэлую ноч, просячы Яе ўратаваць сына. Няшчасная абяцала, што да канца дзён сваіх будзе дзячыць Ёй, лекарцы нябеснай, калі яе хлопчык выжыве і яго абміне нямогласць, доля хворага калекі. Малы акрыяў, паціху выздаравеў, і хвароба пры гэтым не дала ніякіх ускладненняў. Здарылася не інакш як цудадзейнае збавенне. Радасная маці напакавала цэлы вазок дароў: вытканыя абрусы і сурвэты, пахкі мёд і пчаліны воск, грэчку і проса… Яна запрэгла ў калёсы коніка, узяла на рукі сына і паехала да Жыровічаў, прыклалася з удзячнасцю да абраза Багародзіцы, а затым зрабіла ахвяраванні манастыру. Абразок дабратворна ўздзейнічаў і дапамагаў, ён уплываў і спрыяў, а ў гэта глыбока верылі мая бабуля і маці, якія маліліся аб нейкіх пільных патрэбах, на шчодры дождж у спёку, на сыход з хаты хвароб, суроку, сварак, звадаў і іншых непрыемнасцей.

Шчыра кажучы, я ўжо і не спадзяваўся, што да канца года, тым больш лета, мне надарыцца магчымасць паехаць у Жыровічы. Прапанова была зусім нечаканай. Увечары патэлефанаваў галоўны рэдактар часопіса, у якім я друкаваўся, і запрасіў наведаць жыровіцкія мясціны. Маўляў, аўтапілігрымку ладзіць былы міністр і амбасадар, ён і павязе нас на сваёй машыне. Крыху разважыўшы, я вырашыў не адпрэчваць гэты шанец і пагадзіўся на супольную паездку. А таму мусіў адкласці ўсе важныя і пільныя клопаты, і сярод іх самы адказны занятак, які перапыняць не дужа хацелася — напісанне падручніка. З міністэрства прыспешвалі, а час, як кажуць, падціскаў: трэба было з рукапісам закругляцца як мага хутчэй. За ўсё тое лета нават на радзіму я ні разу выбрацца не змог. Яшчэ трэба было нямала сядзець і карпець за пісьмовым сталом. «Нічога, праца і справы пачакаюць. Іх заўсёды ў цябе пад завязку. У Бога дзён многа», — параіла жонка, калі я засумняваўся, ці варта вось цяпер

усё раптам кінуць-рынуць і паехаць у Жыровічы. Пагаварыўшы з ёю, я пагадзіўся, што зрабіць перапынак на некалькі дзён усё ж такі не зашкодзіць, мае свой сэнс і карысць, бо нельга ўвесь час працаваць без пярэдыху, у напружанні, без пераключэння на адпачынак.

Выехалі мы са сталіцы дзесьці апоўдні. «Мерс» шпарка ляцеў, нібы белы птах, па роўнай, як абрус, шашы — за шыбамі зрэдку раптоўна вынікалізнікалі дарожныя знакі. Руліў, кіраваў легкавіком, праўда, не былы міністр, бо машына яго сапсавалася, а наш агульны сябар-журналіст. Усё ж такі эксміністр, напэўна, прызвычаіўся, каб яго вазілі, ды, падумалася яшчэ, неяк не пасуе яму, чалавеку паважна-саліднаму, роля аўтарамізніка ці кіроўцывадзілы, што круціць сюды-туды руль. Машына імчала напярэймы зыркаму жнівеньскаму сонцу.

Рушылі да Жыровічаў акурат напярэдадні свята Яблычнага Спаса. У царкоўных храмах яно адзначаецца як Праабражэнне Гасподняе. Першае слова ў гэтым спалучэнні, між іншым, азначае-сімвалізуе поўную перамену. Метамарфоза — такі сэнсавы адпаведнік набывае ў перакладзе з грэчаскай мовы, трансфармацыя — з англійскай. Праабражэнне — пераўвасабленне, кажучы больш па-беларуску. Ехаў я ў Жыровічы і не ведаў, што там адбудзецца сустрэча з чалавекам, які цалкам перайначыў сваё жыццё, знайшоў іншы сэнс у ім і абраў для сябе прыклад-ідэал на шляху ўнутранай трансфармацыі. Але пра тое крыху пазней.

Гамонячы амаль усю дарогу, мы неўпрыкмет мінулі паварот на Жыровічы, хутка праехалі рэшту дарогі да месца паломніцтва вернікаў і экскурсій цікаўнага люду. Ступіў я на тэрыторыю манастыра ў сцішанай маўклівасці, думаючы, як добра, што ўрэшце маю магчымасць быць тут. Няспешна мы падышлі да агромністай ліпы-векавухі, гаспадыні манастырскага двара. У засені гэтага пракаветнага цуда-дрэва, сведкі мінулага, як калісьці, амаль стагоддзе таму, я ўяўляў, як сюды заходзіла з уратаваным сынком на руках Варвара — прасветленая ў хвіліну свайго шчасця, аднак з пячаткай на твары былой пакуты. Божая Маці паклала канец яе бяссонніцы і трывогам, роспачы і адчаю, пазбавіла бяды і магчымага цяжкага гора. Багамаці злітасцівілася і выратавала хворае дзіця, узяла яго пад сваю нябесную апеку, жыватворны Пакроў. І вось зямная жанчына-маці ў ціхай радасці і лёгкай задумёнасці прарабіла доўгі шлях з-пад Слуцка да Жыровічаў, яна ішла-кіравалася ў храм Успення Багародзіцы, каб укленчыць з падзякаю лекарцы нябеснай за здзейснены цуд, суцяшэнне і надзею. Сапраўды, Усецарыца і Вялікая Маці была міласэрнай, спагадлівай у няшчасці і скрусе да звычайнай мястэчковай жанчыны, якая перамагла ліхі дух-прывід хаўтураў сілай сваёй шчырай малітвы. Вось гэтая памяць пра цудатворнае мінулае вяла мяне сюды, да месца з’яўлення Багародзіцы, Жыровіцкага абраза Божай Маці, духоўнага прытулку Жыровіцкіх Старцаў, манастырскай ліпы і гаючых крыніц. Святыня сустрэла сваім спрадвечным прамяністым святлом, лагодаю і пяшчотным смуткам. Кажу, як яно ёсць: вобраз Багародзіцы вабіў мяне сюды доўгі час, бо ён калісьці даўным-даўно адгукнуўся трымценнем майго маленькага сэрца, глыбока запаў у падсвядомасць і памяць. Мінула столькі дзён і гадоў, што не злічыць, а, здавалася, быццам клікала мяне да жыровіцкага ўлоння тая самая чулая дзіцячая душа.

Яшчэ завідна мы агледзелі тутэйшыя пабудовы і краявіды, паслухалі аповед паслушніка-экскурсавода пра жыровіцкія дзівы і цуды, а пасля ў манастырскай сталавальні нам зычліва прапанавалі вячэру-трапезу. Мелі мы запрашэнне і на начлег у пакоях, дзе заўсёды спыняюцца паважныя царкоўныя

асобы, госці манастыра і паломнікі. Уранку нас чакаў малебен і паездка да месца былой сядзібы Солтана, якому, як вядома, пастушкі прынеслі знойдзены цудатворны абразок Божай Маці. Напярэдадні сну мне захацелася застацца сам-насам і крыху пахадзіць па манастырскай тэрыторыі. У загуслых прыцемках я падаўся да старой ліпы, якая высока ўзняла свае густыя шаты, акаймаваныя бліскучымі зорачкамі ў жнівеньскім небе. Здавалася, маркотнае дрэва, зморанае за дзень ад прысутнасці цікаўных і дакучлівых наведвальнікаў, спачывае ў вечаровай прахалодзе, дрэмле ў зацішку самой вечнасці. Затым, нікуды не зварочваючы, я рушыў па бетоннай дарожцы паўз прымоўклыя муры і, праходжваючыся, апынуўся на добра асветленым лапіку манастырскага двара пры нейкім цагляным будынку. Знянацку стукнулі дзверы. Я сполашна здрыгануўся і адразу спыніўся. Адтуль, з сярэдзіны цёмнага будынка, да мяне выйшаў чалавек з вострай бародкай на авальным твары і ў акулярах з масіўнай аправаю. І — о, дзіва! — я адразу пазнаў яго, і ён мяне таксама, хоць мінула нямала часу, дзесьці гадоў каля дваццаці, як мы не бачылі адзін аднаго, па сутнасці, ад таго дня, калі скончылі ўніверсітэт. Гэта быў мой аднакурснік Пятро Лясун. Каго-каго, а яго не пазнаць было проста немагчыма. Я не мог, кажучы юрыдычнаю мовай, не ідэнтыфікаваць асобу былога таварыша хаця б па дзвюх незабыўных прыкметах — адмысловым, бульбінкаю, носе, выяўна акрэсленым шраме над вузкай, як шнурок, левай брывіной. Вось гэта адразу і кінулася ў аблічча раптоўна выніклага чалавека, памяць імгненна аднавіла той самы вобраз майго даўняга знаёмца. «Лясун, ты?» — хацелася радасна выгукнуць ад нечаканасці такой сустрэчы. Але замест згадвання прозвішча, ідэнтычнага імені ляснога духа-гаспадара, я прывітаўся з ім інакш:

— Здароў, Пятро! Колькі лет, колькі зім!

— Памажы, Маці Божая і ўсе святыя, калі ты тут, — вітаючы, адказаў былы аднакурснік.

— Спудзіў ты мяне, як зайца-шарака. І собіла ж табе насустрач выбегчы. Спрытны, хуткі, як і раней, — заўважыў я.

— Даруй, Божа! І ты выбачай, брат, бо не хацеў напужаць. Проста бачу, што хтосьці так позна ходзіць, быццам нешта шукае. Сяджу і сачу: чалавек крок запавольвае, узіраецца зацікаўлена навокал, а ўжо, лічы, ноч цёмная на двары, дык я і выйшаў напярэймы, каб што-небудзь падказаць ці куды трэба правесці, — апраўдваючыся, патлумачыў Пятро.

— А я і не думаў, шпацыруючы, што нехта за мною сочыць. Ці не вартаўнік ты часам? — пацікавіўся я. І, быццам удакладняючы, заўважыў: — Нездарма ж асочваеш, пільнуеш.

— Гасподзь паклікаў мяне, і я вось прыйшоў сюды. Пры манастыры я паслушнік, — адказаў мой былы аднакурснік.

— А мы тут з начлегам, — прамовіў я, аднак не патлумачыў, хто гэта «мы», з кім завітаў на агледзіны жыровіцкага светаладу з яго архітэктурай і ландшафтам. Але, завязваючы размову, сёе-тое далей сказаў Пятру: — Упершыню сюды прыехаў. Сёння намі манах Мікалай апекаваўся. Дык ён апавядаў, як пачынаў сваё манастырскае паслушэнства: на марозе ў холад лёд ломам дзёўб. І яшчэ распавядаў, як раней выпрабоўвалі самай цяжкай працай будучых манахаў. Прычым скідак не рабілі нікому. Патрэбна была вялікая вытрымка і трывучасць, каб адолець нягоды.

— Так-так, — добра ведаючы манаскую долю, пагадзіўся з пачутым мой суразмоўца. І, разважаючы, працягваў: — Што і казаць, былі святыя пакутнікі. Яны і ўмацоўваюць дух сваім прыкладам. Магчыма, брат Мікалай згадваў

старца Іераніма, афонскага манаха. Яшчэ юнаком ён трапіў на Святую гару, і там, на Афоне, прайшоў выпрабаванне цяжкай, непасільнай працаю. Праз хваробу ён не стрываў пакут, у яго здалі нервы: «Я хіба прыйшоў сюды, каб з мяне здзекаваліся?» У адказ пачуў «ад варот паварот», маўляў, ніхто яго тут за руку не трымае. Аднак Іеранім застаўся, знайшоў у сабе рэшту сіл і знёс усе нягоды, прайшоў праз пакуты. Зміры́ўся, сцярпеў, вытрымаў. У нас увесь свет вінаваты, а трывання, цярплівасці, разумення ўласнай грахоўнасці бракуе.

— Выбачай, Пятро, але, здаецца, бачу цябе і вачам не веру, што ты — гэта ты. Каб калісьці, як мы вучыліся, нехта сказаў, што вось тут і гэтак пабачымся, то не паверыў бы, — сказаў пад уражаннем нашай сустрэчы і гутаркі я. Аднакурснік Лясун, пачуўшы, як называю яго другі раз, глыбакадумна прамовіў:

— Гасподзь пазначае шляхі нашы, унікнуць іх немагчыма. Што наканавана, таму і быць. — А затым, быццам паведамляючы самае важнае для яго, папрасіў: — Толькі цяпер я Пётр, дакладней, паслушнік Пётр. Пятро застаўся там, у мінулым.

— Добра, як скажаш, — згадзіўся я, аглядаючы яго крыху здзіўленым позіркам, і ён, мабыць, гэта адчуў. І зноў спытаў, згадваючы, што чуў ад нашых агульных знаёмцаў пра Лесуна, спрабуючы хоць штосьці даведацца пра яго лёс: — Ці даўно ты тут? Казалі, што ты ва ўніверсітэце ці то ў Полацку, ці то ў Віцебску працаваў, дысертацыю пісаў і меўся абараніць. Пэўна, не выпадкова апынуўся за гэтымі мурамі, нешта ж здарылася. Ці не так?

— Летась Гасподзь прывёў мяне сюды, да манастыра. Аднак я рыхтаваўся да гэтага моманту ўсе апошнія гады. Перагледзеў дарэшты сваё бытаванне зямное і ўбачыў яго няправільнасць, хібнасць і нікчэмнасць. Я моцна грашыў, не па тым шляху ішоў і не туды кіраваўся. Свет мне бясоўскія спакусы засланілі, і я пачаў слепнуць. Вось і пакаяўся і далей штодня працягваю вытручваць з сябе бруд і псоту. Гасподзь даў мне шанец для ўратавання, перасатварэння і новага праведнага жыцця. Так, як я існаваў і рабіў, нельга. Ты пытаеш пра дысертацыю? — быццам удакладняючы, перапытаў жыровіцкі паслушнік і працягваў: — Пісаў і, як кажуць, нагою калыхаў. Тэма ў мяне была бясоўская, яна ў душы маёй спарадзіла дзікі разлад і буралом. Але згадваць, паўтараць не хочацца, як яна гучала: «Вобразы народнай дэманалогіі ў беларускай і славянскай міфалогіі: параўнальны аспект», — сказаў ён і паспешліва перахрысціўся: — Ты ж памятаеш, як я захапляўся ў студэнцкія гады вобразам ваўкалака. Вось ён і перавярнуў, перакуліў маё нутро. Як толькі чарку лішнюю браў, дык і пачынаў выскаляцца, завываць для пацехі, губляць чалавечае аблічча. Карцела ў ваўкалака абярнуцца і ў свет пабегчы, каб нікога не чуць і не бачыць. Захварэў я праз гэтую міфалогію з яе паганскімі багамі і духамі — розум памутнеў, ці што. Мабыць, нейкі зрух яшчэ ў дзяцінстве адбыўся, і дзівацтвы мае потым у знакі даліся: я бясконца маляваў Бабу Ягу з мятлой ды хатку на курыных ножках. Вось каб, як раней, у школках Закону Божаму навучалі, то мо і не захапіўся б усімі гэтымі ваўкалакамі, ліхаманкамі ды іншымі злыднямі. А так чым далей, то ўсё больш паганая нечысць маёю ўявай і душой завалодвалі. Аж пакуль не пачало дзеецца незразумелае, кепскае і паскуднае. Быццам аднавокае Ліха ў мяне ўбілася, Трасея ліхаманіць і калоціць. Агнея спальвала, што галава гарэла і пухла, Ламея косці ламаць пачала, а Д’ябал пачаў душу выварочваць. Я ж некалі захапляўся «Дэманам» Лермантава, дык у яго там ёсць пра гэты мой стан:

…И примешь за игру иль сон воображенья
Больной души тяжелый бред!

І вось хоць я і Лясун, а цяжар майго існавання выпаў мне нават праз такое прозвішча, аднак больш не захацеў, не пажадаў абагаўляць Пана Лесу, Перуна ды Ярылу, назаўсёды парваў з гэтай язычніцкай спадчынай і, дзякуй богу, выбавіўся з аблады невыноснага дэманічнага свету цемрашальства, пачаў шукаць іншую традыцыю, ісцінны шлях у жыцці-быцці, і прасвятленне сышло на мяне. — Ён далей узгадаў тое, што казаў Хрыстос: — «Я есмь путь и истина, и жизнь». — А затым узнавіў па памяці тое, што мовіў апостал Пётр, адчуваючы вялікую радасць і лагоду ад прысутнасці Бога: — «Хорошо нам здесь…»

Калі паслушнік змоўк, то я, намагаючыся далей падтрымаць гутарку, заўважыў:

— Што ж, выбар ёсць выбар, і гэта тое, што даецца і табе, і мне, і кожнаму чалавеку. Цяпер разумею, што ты шукаў сябе, сваю жыццёвую мэту. — А пасля зноў пацікавіўся: — Прабач, што, магчыма, пытаюся пра штосьці такое, аб чым не хацелася б ці нязручна казаць. Але ж ты ўсё-такі жыў сярод людзей, працаваў, меў штодня клопаты. Пэўна, табе давялося пакінуць за гэтымі мурамі тое, што больш не вернецца. Ці не будзеш шкадаваць?

Паслушнік гаварыў, быццам каяўся за ранейшае жыццё:

— Гасподзь правёў мяне праз розныя выпрабаванні, каб я аднойчы схамянуўся і адчуў: так жыць далей нельга. Шмат чаго перавярнулася за гэтыя гады. Я нават у БНФе адзін час быў — усіх нас, памятаеш, эйфарыя захапіла, на мітынгі стрымгалоў беглі. Не жаніўся, сям'і не стварыў. І вось доля, як у Дэмана: «Жить для себя, скучать собой…» Моцна запіў, зняверыўся, катаваў сваю душу. Добра, што спахапіўся і не рынуўся ў прорву. У адзіноцтве, самоце і п'янстве няма паратунку. Вось што я зведаў, пакуль не зразумеў, што жыццё павінна быць для кагосьці ці чагосьці. «И призови Меня в день скорби; Я избавлю тебя, и ты прославишь Меня». Гасподзь паклікаў, уратаваў, і я слаўлю яго.

— Але ж, Пётр, свет вялікі, і пэўныя магчымасці ў ім даюцца кожнаму. Ты ж быў таленавіты, на многае здатны. Нават на штосьці, як мне здавалася, вялікае. Чаму менавіта так захацелася перайначыць жыццё? Даруй, але гэта ўцёкі за муры ад сябе самога. Ты, мабыць, стаміўся, разгубіўся, паддаўся хвіліннаму адчаю? Няўжо не было сілы, каб узяць сябе ў рукі? — дапытваўся я, разважаючы пра лёс майго аднакурсніка.

Аднак ён вырашыў нічога больш не тлумачыць, не спавядацца, сказаў словамі з Бібліі:

— Ибо что пользы человеку приобресть весь мир, а себя самого погубить…

Я адчуў: няма сэнсу не пагаджацца з паслушнікам, у чымсьці яго пераконваць ці штосьці аспрэчваць. У ім нарадзілася, як цуд, і жыве вера, струменіць з душы святло Святога Пісання. Ён трымаецца абранага шляху, ведае, чаму і куды ідзе. Уласна кажучы, мы далей больш не гаманілі, бо ўсё і так было даволі ясна і зразумела. На развітанне ён сказаў: «Бывай, брат мой!» Нязвычна мне было пачуць гэткі правікнёна-сардэчны зварот. Каб жа ўсе мы так жылі і адчувалі адзін аднаго — братамі і сёстрамі! Якая была б магутная духоўна-чалавечая роднасць! Бо існуем, на жаль, інакш, думаем і паводзім сябе інакш: грэбуем, абражаем, ненавідзім… І не можам спыніцца ў бясконцым граху.

Сустрэча ў манастырскім двары з былым аднакурснікам і паслушнікам згадвалася некалькі дзён. Думаючы пра Пятра Лесуна, яго лёс і зроблены

выбар, я востра адчуваў: мы з ім знаходзімся на розных узроўнях успрымання і адносін да нашага тлумнага і шматклапотнага жыцця. «Ці тое раблю? Ці гэтак жыву? Навошта ўсе гэтыя мітрэнгі, няспынны бег па коле, нібы ў хамячынай кацёлцы? Ці змог бы вось так стаічна трымацца, як ён, чалавек, які сёння бліжэй за мяне да Бога?» — не давалі спакою пытанні, калі я суадносіў сваё і чужое, прымяраў на сябе тое, што, напэўна, зведаў мой аднакурснік. Але ў яго свой горкі вопыт і свой самотны шлях. Не давядзі, Гасподзь, каб лёс пачынаў цябе сурова выпрабоўваць і крыжаваць.

…Пасля паездкі ў Жыровічы душа нейкім чынам дзівосна пераўвасобілася, у ёй, здавалася, трымцелі водбліскі святла цудатворнага Жыровіцкага абраза Багародзіцы. Працаваць за пісьмовым сталом я пачаў з незвычайным імпэтам, натхнёна, бо нарадзіліся новыя думкі ды ідэі. У школьны падручнік былі ці не ўпершыню ўлучаны біблейскія прытчы і паэтычныя малітвы. Пасля менавіта гэтыя тэксты ўскладнілі праходжанне рукапісу навучальнай кнігі, але тое асобная тэма гаворкі.

Мінуў год, і сонца зноў шчодра пазалаціла жытнёвыя палі. Лета блізілася да схілу, даруючы людзям багаты садовы ўраджай і новы хлеб. Але, вядома, не хлебам адзіным жыве чалавек. Жыровічы зноў вабілі і клікалі. Прачнуўшыся зранку ў добрым самаадчуванні і настроі, я паглядзеў у царкоўны каляндарык, а потым радасна агалосіў перадсвяточную навіну: «Заўтра — Успенне святой Багародзіцы, ці так званая Першая Прачыстая». Затым міжволі сказаў услых пра сваё, адчутае і зразуметае: «Жыць трэба крыху інакш». І дадаў, што з’явілася адразу ў думках, прапанаваў з надзеяй на водгук: «Дык мо паедзем у Жыровічы?..»





Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

# ПАД ТРЫСТА КІЛЬ УРАЖАННЯЎ

## ПЛЁТКІ

Цётка Зіна вяртаецца з рынку з напоўненым кошыкам.
Там не толькі цыбуля з бульбай, там — пад трыста кіль ураджанняў.
А такога, згадзіцеся, не купіць ні за якія грошы:
Чуткі свежыя,
Байкі ляжалыя,
Плёткі, на сале падсмажаныя.
Яна іх дастае і разгортвае трапяткімі пальцамі,
Выкладае на спадачак з цёмна-ружоваю кветачкай
І, каштуючы кожную, сонечна ўсміхаецца,
І разводзіць рукамі,
І шэпча захоплена: «Дзетачкі!..»

— Мае дзетачкі, каб жа ты ведала:
Нінку ўсё ж кінуў Антось.
Той, каторы сантэхнік, яго яшчэ звольнілі з ЖЭКа.
А ў замужняй Марынкі
Новы з’явіўся хтось,
І дарэмна за ёй дурань Стасік
Са школы бегаў.
Аляксей Адамавіч
Нешта зусім знямог.
Дзе, скажы ты, яго дачка? — Два ж гады не ўбачыць!

---

***Латышкевіч Маргарыта Юр’еўна*** *нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. Скончыла філалагічны факультэт (2011), магістратуру (2012), а таксама аспірантуру (2015) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

*Працуе ў Вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору філалагічнага факультэта БДУ. Рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць».*

*Аўтар кнігі вершаў «Пульс навальніц» (2012) і прозы — «Яблыкі» (2016), друкавалася ў калектыўных зборніках «Мы — маладыя» (2012), «Кахаць і верыць», «Мост Дружбы» (абедзве 2013), «Мой дзень пачынаецца» (2015), «Першацвет» (2017).*

*Лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі ў намінацыі «Дэбют» (2017).*

А Васюк, піяка,
Зноў на вачах, як бяльмо.
Хоць схапіла б яго міліцыя
На гарачым.

Плёткі пырскаюць з вуснаў
Упрост у настылы чай,
Плёткі тонуць, такія бездапаможныя,
У ім.
А з-пад цёці-Зінінай усмешкі
На мяне паглядае адчай,
А з-пад плётак — шэптам — самотнае:
«Яшчэ трошачкі
пасядзі?..»
У цёці Зіны нядаўна загінуў адзіны сын.
Яе кошык — проста нагода пайсці да людзей,
Каб нязначныя словы бурылі
Душэўную стынь,
Каб расходзілася гаворка —
Быццам кругі па вадзе.
Хтось бяду сустракае маўчаннем,
Хтось — топіць бяду ў віне.
Цёці Зіне прасцей загаворваць сваю бяду.
І таму я п'ю свой агідны настылы чай
І запэўніваю:
— Ды не,
Ды што там,
Я яшчэ няхутка пайду.

## СОН

Адася ў школку водзіць бацька,
трымаючы за руку,
і Адась пералічвае бацькавы крокі — сваімі.
Ён ад бацькі займеў
упартасць высокіх скул,
светлы колер вачэй
і доўгія лыткі сухія.
Ён ад бацькі займеў таксама
(хоць звонку і не відаць)
безупынны і дужа занепакоены розум
і таму начамі падоўгу не можа спаць,
і глядзіць на столь,
і задумваецца пра рознае.
Бо начамі цені сыплюцца са сцяны
з ціхім шоргатам
напаўпразрыстых крыльцаў,
Бо Адась навучыўся

адшукваць чужыя сны —
да таго, як яны пачынаюць з падушак ліцца.
А ўранку маці
змушана доўга яго будзіць,
ды Адась не здаецца,
І нават сеўшы на ложку,
не расплюшчваючы вачэй,
цягне просьбы бясконцую ніць:
— Ну яшчэ зусім-зусім трошкі!..
А пасля па святле ліхтароў
бацька ў школку яго вядзе
і — з марознаю парай —
кідае рэдкія фразы.
І Адась побач з ім — і паўсюль, і адначасова —
нідзе,
глядзіць — і не бачыць,
думаючы пра ўсё адразу.
Ад пяшчоты ў бацькавым сэрцы
ўстае гарачынь,
і, паклаўшы сваю далонь
на Адасёў пампон,
ён пытае наўмысна строга:
— Верабей, ты чаго маўчыш?
— Проста я дасынаю твой
непабачаны сон.

## НА РАЦЭ

Брат мяне пасадзіў на выратавальны круг
і сказаў —
з вышыні шасці год,
дарослы і недасяжны:
— Ты запомні, дурная, гэта — папраўдзе важна.
Ты трымайся мацней
і проста
глядзі ўгару.

Круг — са мною на ім — пацягнулі
па светлай вадзе
брат і сябар ягоны,
абсыпаныя пяском.
Ну а мне, пасажыру,
засталося ў неба глядзець,
вочы звужваць на сонца,
што ціха ішло на схон.

Сонца ў пырсках вады і —
да звону —

у маёй галаве.
Саслабелыя рукі так прагнуць
сустрэць ваду.
Я слізгаю ўніз і думаю з жахам:
«Упаду!»
І я падаю ў неба,
вышыванае
па рачной канве.

А рака прымае,
закалыхваючы,
кладзе на дно,
як драбніцу сваю,
як кроплю крыві сваёй.
Я працягваю рукі да сонца —
яно з-пад вады відно,
цягне промні свае да мяне,
бы каласы —
асцё.

Мяне выхапіла з вады
кола цёплае матчыных рук.
І да гэтай пары,
калі патанаю
ў журбе,
пра калыску рачную нагадваю я сабе —
і трымаюся як мацней,
і проста гляджу ўгару.

## НАВАЛЬНІЦА

А ты сядзела на самым версе,
замкнёная мною ў вежы,
і слухала:
вось бурчыць
навальніца
на голас мядзведжы.
І слухала:
вось звініць
на вокнах густою аблогай
сталёвае пер’е
з крыла навальнічнага бога.

А ты сядзела на самым версе,
да неба — бліжай:
калі маланкі ігла
густыя хмары праніжа —
пакой затапляе

святлом
раз’юшанай сіні…
Скажы мне,
ты шэптам тады
чагосьці ў неба прасіла?

Ці сытага золата бляску,
Ці пяшчотнасці аксаміту,
Ці то дарагіх камянёў,
адмыслова аправай спавітых?

Ля ног тваіх кіну ўсё гэта,
каб толькі ты мела спачын.

…і ты ўсміхнулася светла,
і ты папрасіла —
*ключы*.

* * *

Пахне соллю пер’е ў крылатых птахаў,
Пахнуць хвалі марскія — сумам.
Адысеі вяртаюцца па Ітаках,
Кожны — з сэрцам, працятым шумам

Гэтых хваляў, гэтых валоў салёных,
Што хрыпяць і шалеюць у скалах.
Адысеі так прагнуць вярнуцца дадому,
Толькі — мора здаецца ім мала:

Мала солі, раструшчанай у пенных грэбнях,
Мала ветру ў ветразях белых.
Мала дробных ззяючых месяцаў срэбных,
Што штурмуюць барты ашалела.

Мора кліча і да сябе вяртае,
Соль намёртва ўядаецца ў скуру.
Адысеі адвечна свой шлях шукаюць,
Шлях дадому — пад небам хмурным.

Крылы чаек ніколі не ведаюць стомы,
І спяваюць адвечна хвалі:
Адысеі толькі ў дарозе — дома.

Руш-ш-шым далей,
Далей,
Далей.
*Ш-ш-ш.*



**Арына ГАРДЗЕЙ**

# АКРАЎКІ

*Апавяданні*

## Птушачка

— Ты што нарабіла, нягодніца? — надрывалася высокая гужаватая старая, што выразна нагадвала высахлую палку. — Дзе ты!? Разбіць такую вазу! Цябе ненавіджу і бацькоў тваіх, хай будуць яны на тым свеце праклятыя!

Зачыніліся старыя дзверы. У вугольчыках сонечнага святла, што цьмелі на падлозе, танцавалі парушынкі. На пацёртым дыване драмала грузная камода. Забомкаў чатыры разы гадзіннік з маўклівай зязюляй. Прачыніліся дзверы вычварнай да беднаты шафы. Дзесьці ў самай яе глыбіні, схаваўшыся за анучамі, якія пахлі цвіллю і старасцю, усхліпваў маленькі камячок у мятай кофце і аблезлай сіняй спаднічцы. Вось апусціў ён ножкі на падраную драўлянымі іголкамі падлогу. Паказаўся заплаканы сэрцайка-твар з двума рудымі каласкамі. Глядзелі на паўцёмны пакой велізарныя шкляныя пацеркі, быццам злёгку афарбаваныя шэрым. Ціха, імкнучыся не ўвагнаць чарговую стрэмку, маленькая фігурка прайшла да кульгавага ложка з трыма цаглінамі замест адной з ножак. Худыя рукі, скрозь якія працягваліся ледзь бачныя блакітныя нітачкі, пацягнулі крэсла і пакінулі яго каля падаконніка. Блытаючыся ў павуцінні пыльных фіранак, дзяўчынка расчыніла акно ў сад і апынулася на вуліцы, што ўжо некалькі гадзін удыхала сонца і выдыхала халодны вецер. На падлозе, адштурхнутыя белай аблезлай рамай з трэснутым шклом, ляжалі чарапкі, змяшаныя з карычнева-чорнай зямлёй. На ярка-блакітных керамічных аскепках спрабавалі паляцець у сіняе з марознымі ўзорамі неба зграйкі птушак, падобных да ластавак.

* * *

— Глядзі, глядзі, ён зараз пішчаць будзе! — з захапленнем крычаў хлопчык, круцячыся з птушанём, сціснутым у руках. — Ён пяе грамчэй за ўсіх птушак у двары!

Цяпер хлопчыкі згуртаваліся вакол карычнева-шэрага камячка, які натапырыўся і спужана пішчаў.

---

*__Гардзей Арына Тарасаўна__ нарадзілася 5 верасня 1995 г. у Мінску. Скончыла Юрыдычны каледж Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2015). Зараз — студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Творы друкаваліся ў часопісе «Маладосць».*

— Пішчаць ён пішчы-ыць, — удумліва працягнуў тонкі галасок, — вось толькі ў двары птушкі пяюць яшчэ гучней за тваю!

— Так!

— Я чуў…

— Я таксама!

— І я… — прамовіў нехта, хоць і трапіў сюды ўпершыню.

— Магу паспрачацца, што крылцы ў птушаняці твайго зусім слабенькія, — прашапяляў даўгалыгі, з адтапыранымі вушамі, хлопчык і раптам надламаў шэрае, злёгку затушаванае карычневым крыло.

Маленькае цельца перастала пішчаць і вырывацца на волю. Яно закрычала і заплюшчыла чорныя вочы-пацеркі.

— Што ж вы робіце!? — раптам падбегла дзяўчынка. Рудаватыя валасы, расплеценыя ветрам, прыліпалі да мокрага ад слёз твару. — За што вы з ёю так!?

— Забірай яе, — прагугнявіў нехта з хлопцаў, працягваючы птушаня, якое ўжо маўкліва зажмурылася. — Усё роўна мы знойдзем птушку, якая будзе спяваць грамчэй за ўсіх…

Гэтага маленькі цень ужо не чуў — дзяўчынка бегла настолькі хутка, як магла, па брудна-белай дарозе, прыціскаючы да сябе замоўклую птушку, захутаную ў край мятай кофты, пакуль дрэнныя ліхтары вылівалі памыі свайго непатрэбна мігатлівага святла.

* * *

— Навошта ты збегла!? — зноў надрывалася старая. — Мне яшчэ не хапала, каб ты захварэла! І так столькі на цябе марную, няўдзячная! Вон адсюль!

Дзяўчынка моўчкі пайшла ў свой пакой, дзе ўжо даўно трэба было запаліць печ, і стала ў кут, павярнуўшыся да сцяны тварам. Нарастаў шум хуткіх крокаў. Галава ўціснулася ў вузенькія плечы, нібы чакаючы ўдару.

— Гэта табе за непавагу! — злева болем загарэлася чырвоная палоска. — Гэта табе за ўцёкі! — там жа зачырванела метка іншай.

Раптам недзе штосьці запішчала.

— Гэта што!? Што гэта ты, нягодніца, прыцягнула ў хату!?

— Нічога, нічога!

— А гэта табе за хлусню! — на белай скуры запунсавелі пялёсткі слядоў, пакінутыя моцным ударам далоні. — Адказвай! Каго прыцягнула!?

Птушка, якую схавала ў скрынку пад крэслам, быццам усё зразумела і замоўкла.

— Нікога, нікога, клянуся, бабуля, нікога! Толькі не…

* * *

— Як жа гэта вы давялі дзяўчынку да такога стану? — здзіўлена глядзелі на старую рыбіныя вочы скрозь акуляры з жоўтымі лінзамі. — Я павінен паведаміць пра гэта.

— Доктар, мілы, вы не разумееце! — раскідвала ветлівасць старая, затуляючы краем шалі разадраную да крыві левую руку. — Я ж так імкнуся зрабіць ёй добра! Гэта ўсё спадчыннасць. Бацька яе быў благі чалавек! Усё вырываўся з роднага дому. Сустрэў сваю жоначку невядома дзе і вылецеў з цёплага гнязда. Яна і загубіла майго роднага, майго адзінага! Хоць я дала яму ўсё! Усё! — без слёз зарыдаў у далоні шкілет, абцягнуты жоўтай скурай.

— Спадчыннасць… Гэта, вядома, важна і важка… Менавіта дзякуючы ёй усе жывыя істоты захоўваюць у сваіх нашчадках характэрныя рысы віду…

— Я ўсё раблю для сваёй унучачкі, доктар! — імгненна адклеіўся ад далоняў маршчыністы твар з зусім сухімі вачамі. — Дзеці заўсёды разумеюць усё тое, што для іх робяць бацькі, але бывае ўжо зусім позна.

— Такая пераемнаць забяспечваецца перадачай генетычнай інфармацыі…

Амаль спарахнелае цела падышло да камоды і выцягнула некалькі паперак:

— Вазьміце, калі ласка, гэта вам за дарогу і намаганні, так бы мовіць… Дарма толькі ехалі да нас у такую далячынь.

— Дзякуй, канечне, — рукі ў стэрыльна белай тканіне кашулі схавалі грошы ў нагрудную кішэнь. — Дзяўчынка яшчэ некалькі гадзін будзе спаць. Сачыце, каб ёй было цёпла і яна прымала ўсе лекі строга па раскладзе, які я вам пакінуў.

— Да пабачэння, доктар! — соладка праспявала тое, што некалі было чалавекам і з грукатам зачыніла дзверы: — Вось дурань! Толькі грошы змарнавала!

* * *

— Хопіць маўчаць! Не маўчы! Адказвай мне! А ну, адказала мне, паршыўка! Як табе хапае нахабства маўчаць, калі я пытаюся!? — касцяны каркас сціскаў фігурку, якая быццам раставала на маленькім ложку. — Якога чорта ты парвала кофту!? Навошта табе гэта спатрэбілася!? Адказвай!

Дзяўчынка сціснулася і закрыла галаву рукамі.

— Зноў прыцягнула дадому нейкую жывую брыдоту? Толькі я даведаюся!

Жаўтаватыя рукі з высахлымі ручаямі вен адчынілі дзверы:

— Хутка буду. І без глупстваў!

Тонкія ножкі апусціліся на падлогу. Хістаючыся, дзяўчынка падышла да скрынкі пад крэслам і хутка адкінула верхнюю кардонку. У куточку сядзела шэра-карычневае птушаня, якое натапырылася і адвяло ўбок крыло, перавязанае кавалкам тканіны, адарваным ад кофты. Побач ляжалі некранутыя зярняткі ўпотай узятага проса. Слабенькія рукі падхапілі камячок і паклалі на падаконнік. Адчынілі акно. Ціха ўлезла ў пакой цемра і пачала павольна з’ядаць адзіную крыніцу святла — дзве свечкі на стале.

— Ляці, птушка! — прамаўляла дзяўчынка, змахваючы цёмныя пасмачкі з твару. — Ляці, ляці хутчэй! Ляці! Ляці, птушачка, чаго ж ты… — зазвінелі ў голасе слёзы.

— Вось яно што! — раздаўся крык за спінай. — Вось што ты прыцягнула! Хочаш, каб паляцела твая птушачка? Так атрымлівай!

Халодная рука на імгненне сціснула птушаня ў руках і выкінула ў бяззубую пастку адчыненага акна.

— Што, задаволеная!? Маўчыш? Ты яшчэ і крала ў мяне ежу!? Каб адсохлі твае рукі! А ну спаць! Каб вочы мае цябе не бачылі, няўдзячная!

Зачыніліся старыя дзверы. Яшчэ толькі напалову згарэлі свечкі. Тварсэрцайка клапатліва спрабавала сагрэць слабае жаўтаватае святло. Кіпцюрамі невядомай страшнай жывёліны выглядалі дзве швабры ў куце.

* * *

— Нічога ж сабе! І як гэта адбылося?

— Хтосьці падпаліў ложак, на якім спала старая, і падпёр дзверы швабрамі звонку. Кажуць, яна спала ў пакоі без вокнаў. Напэўна, да іншага свету рыхтавалася — гэта і загубіла. Выбіць дзверы, натуральна, не змагла. Так і згарэла.

— І хто ж гэта мог зрабіць? Тое дзяўчо?

— Гэтая птушачка? Ёй, кажуць, старая жыцця не давала. Але гэта не дзяўчынка, дакладна. Хутчэй, нехта пачуў пра грошы, якіх у гэтага шкілета было зашмат.

— Чаму ты ўпэўнены, што гэта не ўнучка?

— Не магло гэтае дзіцятка нарабіць такой шкоды. Яна ж ледзь не лапкі жукам-павукам бінтавала. Хутчэй шукаць яе трэба, можа, схавалася дзе ці ад жаху збегла… Ці што яшчэ дрэннае, крый божа…

— Глядзі, не наступі! Камяк каляровы нейкі!

— Развярні… Спіць яно ці што?

Захутанае ў кавалак тканіны, ляжала дохлае птушаня з мутнымі вочкамі-пацеркамі, быццам прыціснуўшы да сябе перавязанае крыло.

— Знойдзецца гэтае дзяўчо! Пойдзем ужо з гэтага папялішча, жахліва!

Дохлае птушаня, захутанае ў кавалак тканіны, прыжмурыла шкляныя вочы, прыціснула да сябе зламанае крыло — моцны вецер непакоіў зямлю, уздымаў попел. На былой падлозе, адштурхнутыя яшчэ ўчора белай аблезлай рамай з трэснутым шклом, ляжалі абсмаленыя чарапкі, змяшаныя з карычнева-чорнай зямлёй. На чорна-блакітных керамічных аскепках бясконца спрабавалі паляцець у чорнае з сіняватымі расколінамі неба зграйкі птушак, падобных да ластавак.

## Акраўкі

### 1

Я стамілася бачыць цябе паўсюль. Твае ярка-блакітныя вочы непакояць мяне, асабліва калі сонца расцвітае пунсовым макам заходу на халоднай зямлі. Кожны раз я прыходжу на гэты кляты бераг, але ты толькі моўчкі абдымаеш мяне сваімі рукамі з тонкімі венамі вербаў. Штодзень я тут, пакуль працінае вецер — бязважкая, чакаю ў цемры, пакуль шэрымі лілеямі не зацвітуць мае далоні, пакуль доўгія цёмныя валасы ліхтары ахінуць залатым напаўпразрыстым святлом, пакуль мае сінія вочы, якія бабуля называе «вадзяністымі», не напоўняцца чорнай рачной вадою. Дождж і снег не пужаюць, наадварот, яны шчодра ссыпаюць празрыстыя дыяменты на маю галаву, і сплятаецца сам тонкі вянок з ветрагонак. Праўда, бабуля кажа, што я ўсё гэта прыдумала, што ты — маё хворае ўяўленне. Але як жа можаш не існаваць, калі я чую, бачу, адчуваю?

Я веру ў цябе, бо ніхто не верыць у мяне.

Я чакаю цябе, бо мяне не чакае ніхто.

### 2

«Аліса, Аліса! Ну колькі можна марыць!? Калі ты так на працы будзеш марудзіцца — пальцы разам сшыеш!» — у глыбіні калідора звінеў тонкі, крыху надламаны голас.

«Ну што, зно…»

«Ясачка мая! Ты не ўяўляеш, каго я сустрэла!» — ссохлыя рукі накідвалі на плечы цёплую чырвоную хустку, хаця па вуліцы язмінавым водарам разлівалася лета.

«Не ўяўляю», — адазвалася дзяўчына, гледзячы на густы туман, які павольна выпіваў ваду з лужын.

«Дык уяві! — стройны ў маладосці, цяпер сагнуты, сілуэт наблізіўся да балетнага станка, які размяшчаўся ў тым жа шырокім і светлым пакоі, дзе сядзела Аліса. — Сустрэла мужчыну, які быў закаханы ў мяне, калі я яшчэ працавала ў тэатры! Як мяне любіў глядач, як жа мяне тады любілі!..»

«Вось я і бачу, што да гэтага часу ты ўсё закідваеш ногі на гэты няшчасны станок».

«Адкуль столькі з’едлівасці ў табе? Вось калі я была маладая… Любілі, любілі, любілі мяне… Як і я цябе люблю, Аліса».

«Калі б вы мяне любілі — былі б побач, а ты не бавіла б час на невядомых мерапрыемствах для былых балерын з рознымі прайдзісветамі. Дрэнная з мяне швачка, бабуля: спадніцу табе з лепшай тканіны сшыю, а ўласнае жыццё буду па акраўках шукаць і нават так і не збяру... А вы шаўкоў набралі ўжо?»

«Навошта?»

«Труну аббіваць».

«Аліса! Бессаромніца! А ну прэч з вачэй!»

«Ну канечне, з хлопцам замінаю спаткацца. Усё, больш не буду».

«Аліса, куды ты пайшла, Аліса!? — ужо ў зачыненыя дзверы крычала жанчына з даўно пасівелымі валасамі, у якія ўчапіліся нягнуткія пальцы. — Ну што рабіць з ёю, што!?»

## 3

«Марта, вы сапраўдная прыгажуня! — рассыпаўся ў прыемнасцях каржакаваты мужчына гадоў шасцідзесяці. — Як толькі я пабачыў вас у той вечар, адразу ўспомніў усё: вашыя рухі, гэтую плаўнасць, тонкасць, гнуткасць! Як вы луналі па сцэне! Ведаеце, убачыў вас, нават граць ні на чым не хацеў, прагнуў пець! Чулі: «Не шый ты мне, матуля, чырвоны сарафан?..»

«Таксама рада вас бачыць, Гаральд, — усміхалася Марта ў адказ, — а ці не памятаеце, у якой пастаноўцы вы мяне ўбачылі ўпершыню? Мне так трэба гэта ведаць!»

«Пастаноўцы? Хм-м-м… Памятаю толькі, непараўнальная Марта, што бачыў вас Жызэллю з тонкімі ручкамі, якая кахала і пакутавала пад чароўныя гукі музыкі…»

«Дзіўна! Але ж праходзьце, калі ласка! Алісы зараз няма, напэўна, бліжэйшыя гадзіны яна і не з’явіцца. Усё размаўляе на рацэ са сваім выдуманым хлопцам… Ах, гэтае хісткае юнацтва!»

«Нічога, пазлуецца і перастане», — жмурыў выцвілыя вочы Гаральд і ўсміхаўся пятнаццаццю зубамі.

«Праўду вы казалі, што прысутнасць маёй унучкі будзе толькі перашкаджаць… А я яшчэ і крычала на вас. Прабачце, калі ласка».

«Нічога, нічога…»

«Што ж, раскажыце, чым вы займаецеся, акрамя таго, што іграеце на нашых балетных вечарынах і спяваеце рамансы?»

«З вялікім задавальненнем, непараўнальная! Ніколі, ніколі не забываў я вашага чароўнага аблічча, таму шукаў вас доўгія гады, пакуль мне не дапамог Яго вялікасць Выпадак…»

«Бабуля, прымай мае прабачэнні разам з гэтай смачнай прыгажосцю! Можа, і госцю нашаму таксама спадабаецца».

Аліса прайшла ў пакой і разгарнула на стале вялікі пакунак з вялікім салодкім ярка-чырвоным сэрцам:

«У нашым жыцці і так любові не хапае, так хай салодкае дасць магчымасць забыць пра гэта. Выбачай мне».

«Аліса, Алісачка, — у надзеі зазвінеў голас Марты, — родненькая мая, сядай побач з намі, не злуйся, калі ласка, як і я не крыўдую… Гаральд, давайце пакуль крыху вып’ем і паслухаем пра вашыя незвычайныя пошукі, і, як ні дзіўна… мяне. Пачынайце».

«Ну, калі неверагодная Марта хоча, то і спрачацца не магу… Вашае здароўе!..»

Зазвінелі срэбныя лыжкі аб шкляны посуд.

«Навошта ты гэта зрабіла!?»

Цяпер ад ложка да балкона і назад хутка хадзіў Гаральд, пакульгваючы зацёклай нагой. Аліса хутка збірала рэчы Марты.

«Забіць мяне пры сведках вырашыла? Ох, сэрца…»

«Хутка прыедзе дапамога, бабуля!»

«У цябе яшчэ духу хапае зваць мяне так!?» — асядаў голас.

«Я не разумею, што адбылося, не разумею, не разумею!»

«Атруціла ты мяне! Труну шоўкам... Сарафан чырвоны... І я маладою была...»

Гаральд раптам спыніўся і ціха сказаў Алісе:

«Ідзі сустракай хуткую дапамогу, я чую гэты жудасны гук сірэны, пакуль пабуду з Мартай тут, бо зусім не арыентуюся ў гэтых вашых вуліцах…»

«Шоўкам… Чырвоным…»

«Аліса, яна страціла прытомнасць, хутчэй!»

**4**

Я стамілася бачыць цябе паўсюль. Але ты адзіны, з кім я магу размаўляць і радавацца бясконца. Прабач, што не было мяне тут апошні час. Я сумавала, праўда. Сумавала па кропельцы лесу, які рассыпаўся аксамітна-зялёнымі іголкамі па самым краі смарагдавага акіяна травы. Мне не хапала гэтай пясчанай сцяжынкі, што стужкай збірала доўгія сінія валасы рачулкі, сплятаючыся ў вузел каля самага гарызонта. І нават ліхтар сумна апусціў сваю бліскучую галаву… Ты запытаешся, канечне, чаму мяне не было. Ведаеш, так страшна атрымалася: бабуля трапіла ў лякарню з моцным атручваннем. Але мы ўсё ж паспелі. Абвінавацілі, як заўсёды, мяне. А потым высветлілася, што знікла нешта каштоўнае з кватэры. Абвінавацілі зноў мяне. Пакуль праз некалькі тыдняў не злавілі гэтага Гаральда ў іншай жанчыны, якая ў мінулым была вельмі вядомай мастачкай, а зараз жыла і ўпівалася хіба што самотай… І ён з той жа атрутай…

Бачыш, як жыццё збіраецца па акраўках? А да канца ты іх усё роўна не збярэш ніколі.

Дарэчы, мне, як і раней, бабуля і бацькі кажуць, што я ўсё гэта прыдумала, што ты — маё хворае ўяўленне. Але як ты можаш не існаваць, калі я так цябе люблю?

Я веру ў цябе, бо ніхто так і не паверыў у мяне.

І я буду чакаць цябе, бо мяне не чакае ніхто.

## Зорка мора

### 1

Вакзал драмаў, захінуўшыся ў халодны туман. Спалі пуці, пероны… Спалі і нешта бачылі, напэўна, узгадваючы лепшыя часы, калі цягнікі яшчэ працяжна крычалі, паведамляючы пра сваё з’яўленне, а сотні туфлікаў і чаравікаў пераступалі з шэрых пляцовак у вагоны і выпраўляліся ў падарожжа. Але гэта было даўно, і цяпер у спакойны сон забытага вакзала штодзённа ўразаўся пакутлівы стогн толькі аднаго цягніка, які быццам не разумеў, куды ён трапіў і чаму вакол няма ніводнай душы. Вось, баязліва ўскрыкнуў і хутка ўзяў напрамак ў іншы бок — там жывыя.

Але я таксама жывы. Адзінота зусім не загаіла мае раны, але я настолькі прызвычаіўся, што нават забыў прывітацца. Імені ў мяне няма: страціў недзе разам з набыткамі цывілізацыі, калі яшчэ гэты горад быў поўны людзей. Ды і яно зусім вам не спатрэбіцца, як і мая знешнасць. Ну каму цікавыя мае чорныя ўскудлачаныя валасы і незвычайна зялёныя вочы? Каму трэба чалавек, што жыве на пустым вакзале?

Але як пустым…

Некалькі разоў на тыдзень сям-там праходзяць міліцыянты і глядзяць, ці на сваім месцы паперкі са штампамі і замкі, якія ўжо колькі год вісяць на танных дзвярах. Перашкода дрэнная, улічваючы тое, што гэтыя кавалкі дрэва, афарбаваныя белым, больш падобныя на фіранкі, чым на тое, чым яны павінны быць.

Зноў забыў расказаць галоўнае: ужо даўно я не магу вярнуцца дадому. Прыехаў сюды працаваць, прыехаў не адзін, а з сябрам. Прарабілі пэўны час, а потым мой дружа назаўсёды застаўся на гэтым вакзале — бязглузды выпадак — трапіў пад цягнік. І адбіўся ў памяці толькі зварот да мяне. Напэўна, хацеў паведаміць, а я часам і думаю, што… Звычайна гэта бывае па начах, па чорных-чорных начах, калі цемра разліваецца морам і топіць шпалы і рэйкі, якія нават і не блішчаць — поўня таксама захлынаецца ў гэтай бязважкай вадзе. А я застаўся нібы вадамерка, што ўсё скача і скача па гладкай і матавай паверхні. Намагаюся выжыць, не пераўтварыцца ў тапельца, не застацца на гэтым вакзале ў адубелым пакоі са шнурком ад зношаных чаравікаў і спакушальна вялікай колькасцю труб.

«І што? — запытаецеся вы. — Што перашкаджае ў наш хуткі час вярнуцца дамоў?»

«Літаральна — Нішто, — адкажу я. — Горад апусцеў імгнення, калі з’явілася Перспектыва. І жыццё назаўсёды спынілася Тут, каб пачацца Там. І маё брыдкае паляванне за ежай пачынаецца з турыстаў, якія з агідай ходзяць па сухой шэрай зямлі, падобнай да попелу… Чуеце гук?»

«Не, — адкажаце вы. — Не настолькі страшна, каб так звяртаць увагу!»

А гэта павінен быць сігнал набліжэння адзінага цягніка, што яшчэ наведвае апошні адкрыты вакзал у гэтым клятым горадзе.

Гуку не было.

Цягнік так і не прыехаў.

Вакзал цяпер заснуў, як і надзея вярнуцца дамоў — назаўсёды.

### 2

Пачатак майго «вакзальнага» жыцця я памятаю добра, але настолькі, што апошнім часам прагну страціць памяць і свядомасць, каб гэтыя брыдкасць і мярзота больш не віліся цмокамі вакол мяне, апаляючы агнём і без гэтага

адкрытыя раны. Пакуль задаволеныя, ружовыя, з ільснянымі тварамі людзі ссыпаліся ў вагоны, каб хутчэй знікнуць з гэтага горада, я сядзеў пад зашмальцаванымі дзвярыма. Сядзеў і трымаўся за тое месца, дзе павінен быў быць страўнік, які, здаецца, пераварыў сам сябе, і цяпер толькі дзясяткамі іголак упіваўся ў пустое нутро. Але чаму маё сэрца дагэтуль б'ецца, чаму я яшчэ жывы, хоць амаль і не жыву, знаходзячы заробкі на гадзіну ці толькі кавалкі недаедзенага ў сметніцах — сам не ведаю. Але не трэба так глядзець на маё адзенне, якое я штодзённа стараюся чысціць. Не трэба з узнёсласцю сытасці выплёўваць агідлівасць на мяне, толькі пабачыўшы. Заўсёды лёгка разбірацца ў тым, чаго не ведаеш.

…Але чаму ж… Мае літасцівыя ў звычайных умовах людзі, пабудзьце суддзямі, вам жа так гэта часам падабаецца…

Мінула некалькі год як вакзал стаяў пусты. Ежы не было ўжо каля тыдня. Спачатку я яшчэ трымаўся, а цяпер пачаў усё часцей страчваць прытомнасць ды бачыць незвычайныя малюнкі замест цемры.

Зранку пашанцавала трохі пад'есці. Неяк прайшоў дзень. На маім целе, здавалася, назаўсёды застануцца палоскі ад лаўкі, на якой я доўга праспаў. Прачнуўся ад цяпла, якое светлае пясочнае сонца сыпала на разамлелыя дахі. На імгненне мне падалося, што я дома, дзе мая каханая пяшчотна шэпча штосьці мне, лёгка кранаючы прыгожымі пальцамі мой гарачы лоб. Я хачу адчуць яе — і хапаю паветра агрубелымі рукамі без пазногцяў, я хачу пабачыць яе — і перад вачыма толькі бездапаможна блізкае неба, я хачу пачуць яе — а гэта толькі вецер...

…Няма цябе, ты, бог бяздушны! Усё не чуеш мяне, не чуеш людзей! Напэўна, памёр, падавіўшыся чарговым крыжам неахопных памераў, якія праз гады пераплавяць на зброю, каб назаўсёды пахаваць цябе…

Я збіраўся заткнуць вушы, пакуль цішыня не разарвала маю стомленую галаву, пакуль не лопнулі мае налітыя крывёй вочы. І раптам пачуў, як стукаюць абцасы. Звычайныя абцасы на жаночым абутку.

Але адкуль тут жанчына? Адкуль тут людзі?

Думкі спраўдзіліся. Па пероне няўпэўнена рухалася тонкая постаць. Доўгія чорныя валасы блішчэлі жоўтым ля скроняў. Светлая скура выглядала бледнай, нібы сонца выпіла ўсе колеры, пакінуўшы толькі холад на паверхні спакойнай вады вачэй, на ледзь бачных вуснах, на цёмнай вопратцы. Больш нічога я не заўважыў. Яна, пастаянна азіраючыся, ішла. Ішла ў тупік. І я ведаў гэта. Разанула ўнутры. Горача. Млосна. Толькі тут я зразумеў, што не належу сам сабе. Праз імгненне я стаў драпежнікам. Жывёлай, у якой сліна станавілася пенай на знямелых вуснах, пенай, пунсовай ад прагі крыві. Ліхаманкава ўзнікла думка — у яе могуць быць таксама і грошы! Дрыжачымі рукамі я выцягнуў шнурок з левага чаравіка і па-звярынаму ціха пайшоў за цёмным сілуэтам. Нейкім звышнатуральным пачуццём жанчына зразумела, што за ёй сочаць, і паскорыла крок. Але я ведаю, о, як я добра ведаю, што яна ўжо не выйдзе! Я не бег, я павольна, адстукваючы кожны крок, ішоў за ёй. Цяпер я не жабрак, я — бог, я — абсалют, па маім твары, нібы струменьчык крыві, спаўзае ўсмешка. Яна адчувае гэта, якая разумніца.

А цяпер… Тры. Два. Ад. Зін. На. Цяг. Ва. Ю. Пят. Лю.

Вугал — прыпынак. Вочы — цунамі. Вусны — нітка. Вокліч — шэпт:

— Да-па-ма-жы-це…

Зноў! Зноў прытомнасць пакідае мяне. Малюнкі ў цемры. З памяранцавага гарызонту замест сонца на мяне глядзяць любыя светла-блакітныя вочы.

Мілая мая, я так па табе сумую..! Не пакідай мяне хаця б у непрытомнасці! Пачынаецца чырвоны дождж. На дрэвах вокамгненна чарнеюць лісты. Я не магу забіць чалавека! Нават за грошы. Як я вырашаю, ці жыць гэтай жанчыне альбо памерці ў гэтым свінарніку? Як я магу забраць жыццё?

Ніяк.

Дурань, а не абсалют.

— Прабачце, калі напужаў вас, — хрыпла выдавіў я гук з горла. — Хацеў толькі папярэдзіць, што ідзяце не ў тым напрамку. Давайце я лепш пакажу, як выйсці адсюль… Што? Эх, шаноўная, цягнікоў тут ужо даўно няма, вам бы такой прыгожай на аўтамабілях ездзіць…

Калі зграбная постаць схавалася за ненадзейнай агароджай, я сеў на шэры кавалак пліткі і заплакаў у першы раз.

Горыч. Страх. Адчай.

Дзе ты, мой шлях у бушуючым моры? Воблачны попел зусім зацягнуў неба, а без пуцяводнай зоркі стомлены карабель хутка пойдзе на дно…

### 3

— *Не выказаць словам мой боль,*
*Позірк твой — марская соль*
*На мае крывавыя раны.*
*Паўсюль, паўсюль падманы…*

Адкуль гэты голас? Няўжо я памёр і трапіў у пекла з такімі паэтамі, якія катуюць грэшнікаў сваімі вершамі? Што за раны, што за падманы? О, лепш засмажце мяне хутчэй, дзе ж вашыя вялікія патэльні?!

— *Яна — ідэал прыгажосці, —*
*Мне не шкада для смерці маладосці!*
*Адмовіла разам жыццё правесці…*
*Забыў, што там далей…*
*Халера бяры цябе, трэба паесці!*

Я расплюшчыў вочы. Перад маім ложкам-лаўкаю нешта робіць хлопец, напэўна, гадоў дваццаці. Ён пабачыў, што я ўжо не сплю, і павярнуўшыся тварам да пуцей, працягвае дэкламаваць невядома што сярод раскіданых аркушаў з нейкага нататніка і вантробаў вытрыбушанага чамадана:

— *Млодыя годы праходзяць дарма,*
*І каханне маё табе нібы турма.*
*Заб'ю сябе зараз, і на магілкі*
*Прынясеш ты васількі…*

— Хлопча, тут не ходзяць цягнікі! — не вытрымаў я.

— Сапраўды? — павярнуўся да мяне гэты дзівак у капелюшы.

— Сапраўды.

— Але… Мне цікавая ўжо вашая постаць. Што вы звычайна робіце?

— Жыву на вакзале і дзіўлюся, што яшчэ жывы.

— Мо есці хочаце? — хлопец дастаў з чамадана вялікі кавалак хлеба. — У мяне ёсць яшчэ. Так, кажаце, на вакзале жывяце? Ціка-а-ава! А адкуль вы?

— З горада Энска, што ў Эрскай краіне.

— Не можа быць! — роўныя белыя зубы ўпіліся ў лусту хлеба. — Я таксама адтуль! Як прыемна пабачыць чалавека з роднай зямлі. Можа, вы яшчэ і па-эрску размаўляеце?

— Калі шчыра, то ў гэтым сэнсе я амаль непісьменны… — чамусьці засаромеўся я.

Хлопец раптам павярнуўся да мяне спінай і громка запытаў:

— А вы кахалі калі-небудзь?

— Вядома.

— А так, як я — бязмежна, неабсяжна, да хрусту костак? — запытаўся юнак і адразу працягнуў: — Вам хочацца дамоў?

— Канешне! — падскочыў на месцы я, гатовы бегчы настолькі хутка, наколькі дазволіць мне стомлены арганізм.

— Тады давайце напішам дыктоўку!

— Што? — я адразу сеў, разгублены такім жорсткім жартам.

— Дарэмна вы так! Я быў і буду безнадзейна закаханым у адну настаўніцу мовы... Карацей, мы дамаўляемся: калі вы напішаце — я асабіста адвязу вас дадому. А калі не атрымаецца — пакіну тут. Згода?

— Згода, — адказаў я, разумеючы, што гэта немагчыма, бо мовы гэтай як тады не ведаў, а зараз яшчэ і не памятаю.

— Ну што ж, слухайце тэкст, — засмяяўся хлопец, зняўшы капялюш, пад якім хаваліся прыгожыя светлыя валасы. Любімы аўтар маёй Ядвісі… Дарэчы, чытаю з аркуша, які ўкраў у яе на памяць:

*«…На паверхні вады плавала блёклае сонца. У бліскучым люстры адбіваліся чорныя воблачныя слупы. Згаслая зорка то абдымала светам некалькі караблёў, што спяшаліся на бой, то хавалася ад ветру з невытлумачальным сумам. Акіян дыхаў цяжка, захлынаючыся сам сабой — хваляваўся за воінаў, якім лёсам было наканавана ў цяжкім узбраенні назаўсёды трапіць у ваду. А пакуль яны жылі, спаборнічалі, кахалі дзеля таго, каб пераўтварыцца ў прах. Злавесная цішыня на імгненне ахапіла страшны далягляд: лямантуе з берага маці-Зямля; сіняе неба змяшалася з цьмянай вадой; паветраныя слупы хутка адрываюць кавалкі скуры акіяна, які раве ад болю, узнімаючы ў густую ад гукаў прастору мноства сваіх вялікіх рук-хваляў, і б’е па ўласным твары, пераразаючы жылы караблёў, якія сутаргава намагаюцца застацца на паверхні. Але тайфун нічога не заўважае сваім адзіным ужо амаль закрытым вокам і нават не глядзіць на кропкі, што толькі былі людзьмі, так і не зразумеўшымі, плывуць яны ці ляцяць…»*

«Як жа гэта напісаць? — сумна думаў я. — І трапіўся вось жартаўнік…»

— Вы што, не выспаліся яшчэ за ўвесь час!?

— Яшчэ як выспаўся, — адказваю я. — Толькі пачакай, я збяруся з думкамі…

Сабраць насамрэч было што. Некалі маці расказвала мне пра гэтую мову. Мая каханая заўсёды любіла глядзець на мора і ведала столькі вершаў пра яго гэтымі словамі. Але нашто мне гэта ўсё было, калі сусвет існаваў у толькі адных вачах? Але хто мне, шчасліваму юнаку, мог сказаць, што праз пэўны час я буду такім, і што адзіны акіян, які я буду бачыць штодзённа — бязмежная роспач. Але я вырашыў:

— Давай!

— Ну нарэшце! — зарагатаў хлопец. — Першы сказ: «*На паверхні вады плавала блёклае сонца... На паверхні… вады…»*

Не ведаю, колькі часу прайшло, але я перадаў гэтаму жартаўніку пакрэмзаны аркуш з крывымі літарамі.

— Цудоўна! — шэрыя вочы ўпіліся ў несамавітыя знакі. — Ох…

Я пачаў верыць, што гэта сапраўдная прапанова. Ужо не падавалася, што чалавек толькі смяецца з мяне. Але… У маім жыцці больш не засталося чаго

губляць. І таму я чакаў, калі Зорка мора схаваецца за аблокамі, пакінуўшы мяне сярод шторму аднаго.

— Я не ведаю, навошта вы пагадзіліся на гэтую дыктоўку… Вы ж яе не здолелі напісаць!

Зараз ад хуткасці ўдараў маё сэрца спыніцца назаўсёды.

— Дамова ёсць дамова, — хлопец закрываў чамадан. — Паэт я па жыцці таму, што безнадзейна закаханы… І гісторыю маю на спевы пакладуць… Вось, які радок выдатны! Бывай, дзівак!

Словы зніклі. У вачах пацямнела. Навошта, навошта я пасмеў на гэта спадзявацца! Да апошняга не верыў, што ён пойдзе. Але вось капялюш хутка знік недзе за той злашчаснай агароджай. І ты бывай!

Я зусім стаміўся. Сеў каля ўваходу і закрыў твар рукамі. Хаця б штосьці абараніць мяне ад гэтага горада, які забівае мяне. Плакаць я больш не магу. Раптам зноў сцямнела — некуды засабіралася і мая прытомнасць — ідзі, ідзі, я толькі рады… Бывай, бывай назаўсёды, мая адзіная зорка мора!

* * *

— Ну што ты ўсё спіш, халера цябе бяры! Усе рэшткі свайго жыцця прапусціш, несамавіты ты такі! — хтосьці трос мяне за плечы.

Перада мной зноў стаяў гэты светлавалосы хлопец. Шэрыя вочы ўсміхаліся. Капялюш ляжаў недзе на плітцы.

— Я вяртаюся дадому. І ты са мной разам едзеш! Ці я звер які, каб пакідаць цябе тут аднаго паміраць?!

Дужыя рукі падхапілі мяне. Астатняга не памятаю, акрамя палёў каля майго роднага горада, па якіх я часта хадзіў разам з маёй Зоркай мора… Вось яна, яе прыгожыя рукі, стомленая ўсмешка, рассыпаныя па плячах цёмныя валасы, нібы тая ноч… Як жа я сумаваў па табе!..

Вакзал драмаў, захінуўшыся ў халодны туман. Спалі пуці, пероны… Спалі і нешта бачылі, напэўна, узгадваючы лепшыя часы, калі цягнікі яшчэ працяжна крычалі, паведамляючы пра сваё з’яўленне, а сотні туфлікаў і чаравікаў пераступалі з шэрых пляцовак у вагоны і раз’язджаліся ў розныя бакі. Але гэта было даўно, і цяпер спакойны сон забытага вакзала нішто не турбавала, парушыць цішыню мог толькі нейкі мінак, які быццам не разумеў, куды ён выпадкова трапіў і чаму вакол няма ніводнай душы. Баязліва азірнуўшыся, ён хутка ўзяў напрамак у іншы бок — там жывыя…



*Да 200-годдзя з дня нараджэння*

**Аляксей Талстой**

# МАРНА ТЫ ЛІЧЫШ, МАСТАК!..

## ВАЎКІ

Калі ў вёсках пусцее,
Змоўкнуць песні сялян
І сівы забялее
Над балотам туман,
Па хваёвых іголках,
Па палях воўк за воўкам
Адпраўляюцца ўсе на спажыву.

Сем ваўкоў ідуць смела.
Перад імі ідзе
Восьмы воўк, поўсці белай;
У таемнай хадзе
Воўк апошні, дзявяты,
З акрываўленай пятай
Ён за імі ідзе і кульгае.

Іх нішто не пужае.
Ці на вёску ім шлях,
Ды й сабака змаўкае;
А мужык... Ён здаля
І дыхнуць не пасмее:
Ён ад страху бялее
І чытае ціхутка малітву.

Храм ваўкі абыходзяць
Асцярожна кругом,
Да папа ў двор заходзяць
І варушаць хвастом,
Ля карчмы водзяць вухам
Ды імкнуцца падслухаць:
Ці не дзеюцца грэшныя рэчы?

Вочы іх нібы свечкі,
Зубы — камень драбіць.
Ты трынаццаць карцечаў
Клакам дбайна набі
І страляй па іх смела,
Найперш дасца воўк белы,
А за ім і астатнія лягуць.

Калі ж вёскі і гоні
Певень збудзіць паўсюль,
Ты пабачыш спрасоння
Дзевяць брыдкіх бабуль.
Першай будзе сівая,
А другая кульгае,
У крыві... з намі Боская сіла!

* * *

Небам ціхмяна ляцела душа у пакоры,
Сумныя вейкі яна апускала дадолу,
Слёзы, спадаючы зоркамі з іх у прасторы,
Светлай і доўгай віліся за ёй чарадою.

Ціха свяцілы сустрэчныя ёй задавалі пытанні:
«Скуль гэты сум? І пра што тыя слёзы дакору?»
Ім адказала: «Зямлі не забыла ў расстанні,
Шмат я пакінула там і пакутаў, і гора.

Тут жа ўсё сонм асалоды між гукаў харальных,
Праўднікаў душы не ведаюць смутку і злосці —
Ты адпусці на зямлю мяне зноў, о стваральнік,
Там шкадаваць мне было б і суцешыць кагосьці!»

* * *

Ён па струнах вадзіў, і спадалі
Валасы на шалёныя вочы,
Гукі скрыпкі так дзіўна гучалі,
Ліючыся ў маўклівасці ночы.
Іх аповед, што праўда, ілжывы
Развіваў немагчымасць здарэння,
І змяінае скуры адлівы
Спакушалі і грызлі сумленне;
Вінавачання чуўся ў ім голас,
І рыдалі ў адказ апраўданні,
І ў знямозе змагалася воля
З усё большаю сілай жадання,
І ў туманных з'яўляліся хвалях

Берагі паўзабытай айчыны,
Незямныя там словы гучалі
І ўсё вабілі ўзад без спачыну,
І так білася сэрца трывожна,
Так яму ўсё было зразумела:
Тое шчасце, што ўзяць было можна,
Беззваротна кудысь адляцела,
Да сябе там без літасці прорва,
Як здалося, ахвяру цягнула,
А на сцежцы, блакітнай і зорнай,
На паўшляху быў месяц прыснулы;

Гукі ў спеве дрыжэлі так звонка,
Замíралі, цягнуліся вяла;
Беглым полымем сіняя жжонка
Твар музыкі штораз асвятляла...

* * *

Марна ты лічыш, мастак, што палотнаў сваіх ты стваральнік!
Вечна лунaлі яны над зямлёю, нябачныя воку.
Не, і не Фідзій стварыў алімпійца славутага — Зеўса!
Гэта чало хіба выдумаў Фідзій, ільвіную грыву,
Ласкавы, царскі той позірк з-пад змроку брывоў граманосных?
Не, і не Гётэ вялікага Фаўста стварыў, да якога,
Ў даўнім германскім адзенні, ды ў праўдзе глыбокай, сусветнай,
Так ён падобны да вобраза вечнага ў свеце ад слова да слова.
Той жа Бетховен, калі ён знаходзіў свой марш пахавальны,
Браў ён з сябе гэты шэраг акордаў, што кроілі сэрца,
Плач несуцешнай душы над загіблай вялікаю думкай,
Светаў яскравых падзенне ў бязмежную бездань хаосу?
Не, тыя гукі рыдалі заўсёды ў небнай прасторы,
Ён жа, глухі для зямлі, незямныя падслухаў рыданні.
Шмат у прасторы нябачных нам форм і нячутных нам гукаў,
Шмат ёсць цудоўных у ім спалучэнняў святла, як і слова.
Ды перадасць толькі той іх, хто ўмее і бачыць і слухаць,
Хто, улавіўшы малюнка хоць рыску, сугучча ці слова,
Цэлае з ім уключае стварэнне ў той свет наш здзіўлёны.
О, акружы сябе змрокам, паэт, акружыся маўчаннем,
Ты, калі будзеш самотны, сляпы, як Гамер, і глухі, як Бетховен,
Слых жа душэўны мацней свой напружвай і зрок свой душэўны,
І як над полымем граматы тайнай сляпыя радочкі
Раптам з'яўляюцца, так раптам з'явяцца перад табою абрысы,
Выйдуць са змроку ярчэйшыя фарбы, больш значныя формы,
Зграбныя слоў спалучэнні ў ясным сплятуцца значэнні...
Ты ў той жа міг сузірай, і глядзі, прытаіўшы дыханне,
І, узнаўляючы ўсё, мімалётную памятай мрою.

## МАДОННА РАФАЭЛЯ

На радасць юнаму Хрысту,
Яго Марыя прытуліла;
Любоў нябесная зацьміла
Яе зямную пекнату.

А ён у провідзе глыбокім,
Са светам ведучы ўжо бой,
Глядзіць уперад — ясным вокам
Галгофу бачыць прад сабой.

* * *

У кляштары пустэльным ля Кардовы
Карціна ёсць. Стараннаю рукой
Намаляваў на ёй мастак суровы,
Як прад кумірам з вераю святой
Ляжыць пакутнік, каты ж адмыслова
Здзіраюць скуру. Выгляд сцэны той
І ланцугі, пакора без ратунку
Сціскаюць грудзі і вярэдзяць думку.

Ды ў дні тугі, паўстаючы нанова,
Свідруе ўпарта розум мне яна,
І мука ўся пакутніка святога
Мне сёння зразумелая да дна.
Мая душа пазбаўлена ад сховаў,
На ёй жа тканка голая адна,
І кожны да яе жыццёвы дотык
Ёсць люты боль і страшныя згрызоты.

***Пераклад з рускай Пятра ЖАЎНЯРОВІЧА.***



# ПАЭТЫЧНЫЯ ГАРЫЗОНТЫ АЛЕКСЫ СТЭФАНОВІЧА

*Калі даследчыкі ўкраінскай літаратуры зрабілі першую (і адзіную) спробу напісаць біяграфію паэта Стэфановіча з яго слоў, той папрасіў пазначыць толькі год нараджэння, маўляў, гэтага дастаткова. Іронія не была характэрна для гэтага чалавека. Сучаснікі помнілі яго як сціплага, замкнёнага, недаверлівага. Такія рысы характару трымалі воддаль ад людзей. Напрыканцы жыцця паэт па-філасофску бачыў у сваёй існасці толькі пачатак...*

*Першае беларускае знаёмства ўсё ж абавязвае да падачы традыцыйнай біяграфічнай віньеткі. Алекса Стэфановіч (укр. Олекса Стефанович; 1899—1970) нарадзіўся ў сяле Міляцін (цяпер Ровенская вобл. Украіны) у сям'і праваслаўнага святара. Скончыў духоўную школу і духоўную семінарыю, настаўнічаў. З 1922 г. у Чэхаславакіі. Вучыўся на філасофскім факультэце Карлава ўніверсітэта ў Празе (1922—1928). Выкладаў ва Украінскім вольным універсітэце. У час вайны працаваў хатнім настаўнікам, перабіваўся выпадковымі заробкамі. Пасля былі Германія і ЗША, дзе А. Стэфановіч працаваў на фабрыцы, з выхадам на пенсію — у праваслаўнай суботняй школе.*

*Творча сфарміраваўся ў Чэхаславакіі, стаў адным з яркіх прадстаўнікоў т. зв. «Пражскай школы» ўкраінскай паэзіі. Тут выдаў зборнікі «Вершы» (1927) і «Stefanos» (1938). У калег Стэфановіча, прадстаўнікоў мадэрновай пісьменніцкай генерацыі, пераважаў гісторыясофскі пачатак, першынствавала тэма гераічнага мінулага, ваярскія матывы. Пры ўсёй светапоглядной і ідэйна-эстэтычнай блізкасці з «пражанамі» паэт, у адрозненне ад іх, аддаваў перавагу вершаванай тэхніцы, асваенню новых форм. Як тыповы перфекцыяніст — прагнуў і шукаў новых, найбольш дасканалых магчымасцей мастацкага самавыяўлення. Сямейнае выхаванне і першыя этапы адукацыі прадвызначылі моцны рэлігійны складнік ягонай паэтычнай практыкі.*

*Аналітычны навуковы exegesis пры рэпрэзентацыі творчасці Алексы Стэфановіча ўжо традыцыйна звязаны з такімі характарыстыкамі, як эстэтычная полісемія, семантычная закрытасць, незвычайны моўны код і інш. Украінскія даследчыкі, як правіла, вызначаюць найперш рамантычную і сімвалісцкую дамінанты ў яго паэзіі.*

*Прапанаваныя вершы розных гадоў і краін напісання ўзяты з трэцяга зборніка Стэфановіча «Выбраныя творы» (Таронта, 1975). Пры гэтым мы кіраваліся вядомай логікай рэпрэзентатыўнасці і ўлучэння ў нацыянальны кантэкст: на першых этапах знаёмства выбраць творы, якія здольны выклікаць у чытача паралелі з беларускай літаратурнай класікай, тым самым увачавідкі падмацаваць тэзіс пра генетычную еднасць славянскіх народаў; на чарзе — больш шырокая прадстаўленасць аўтарскай індывідуальнасці, мастацкая рэцэпцыя і літаратуразнаўчы аналіз.*

***Мікола ТРУС***



## Алекса СТЭФАНОВІЧ

# СІНЕЧА ДАЛЕЧЫ

* * *

Калі ў далечы гай квітнее,
То здаецца вачам,
Што чароўнае царства сіняе
Разгарнулася там.
А набліж яго валадарання —
Дзесь падзенецца сінь…
Далячынь таму толькі сіняя,
Што яна далячынь.

*Прага, 1928.*

### З ЛІСТА

Нядаўна стрэнутаму лету
Яшчэ й не сніўся лістапад:
Як сонца плыне да зеніту,
Яно не думае пра спад.

А зморшчыны на бронзе ліку
І ўся захмаранасць яго —
Ад чорных дзён маіх без ліку,
А не ад веку маяго.

За мною ўся раскоша маю,
Ды колькі здужаю нясу:
І здань кастрычніцкая гаю,
І лістападаву красу.

*Прага, 1934.*

* * *

Не даверыла сонцу ты
Яшчэ цела на лета паталу, —
У палудзень на бераг прыйдзі
І аддайся жарснаму палу!

У бялейшай за снег галізне
На зялёную ляж абалоню

І пад стрэлы яго сябе,
Сваё лона падстаў, як далоню.

Хай пратне тваё цела наскрозь
Сонца стрэламі. Рану
Хай, схмялелае, лашчыць скрозь
Выцалоўвае да бязцяму!

І няхай, як агонь, апячэ, —
Не пужайся, белая Леда:
Бо каханне любоў працячэ
Малаком, як золатам-мёдам.

А як схоча, сп’янелае ўшчэнт,
Залюбіць, загалубіць да смерці,
То ці ж гэта найгоршая смерць —
Ад любошчаў сонца памерці?!

*Прага, 1931.*

* * *

Бабіна лета лятае па ветры.
   Бабіна лета…
Штосьці пахучае у паветры
   Сагрэта?..
Голле, шляхетна спавітае
   Злотам?..
Хмарка яснее, ці птахі нам свецяць
   Адлётам?..

*Прага, 1925.*

## ЗАЙЧЫКІ

Мяце і мяце.
Кругом такая пустка:
Мінулася капустка,
Нічога нідзе.

Мароз — без паслабкі:
Крыху — і заплачуць…
Бадзёрацца, скачуць,
Пахукваюць ў лапкі…

Дыхнуць і патруць.
І гэта дарэмна…
Ах, як непрыемна,
Што лапак не чуць!..

*Прага, 1936.*

* * *

Пустэля…
Толькі каменне…
Толькі каменне, імгла.
Цяжка лягла
На небасхіле скляпення
Сівога неба скала.
Пустэля.

## ХРЫСТОС

Мудрасць людская дастала б да месяца,
Каб скласці ўсе кніжкі у стос,
Але па-над ёй усё роўна высіцца
Недасяжны людству Хрыстос.

Ад расстрэлу — распаду атаму
Святло лютых пабоішчаў звыш.
На яго (толькі целу Распятаму)
Цень гіганцкі кідае крыж.

Прыузняўся над вірам разладу,
Пераможны у паняверцы,
Ён вартуе, як роўны Госпаду,
Яшчэ верыць у людства сэрцы.

*Мітэнвальд, 1947.*

## МАЛІТВА

Хай гневу дзясніца скіне
Апошнюю з кнігі пячаць.
*Гряди, яко нóщний скимен,*
*Гряди в нощі, яко тать.*

Пшаніца твая патанае
Ў бязмежным моры палоў.
*Гряди, яко лев, рикаяй,*
Як леў, гатовы на лоў.

Не ў Ясафат-даліне,
У славе страшнай *гряди*, —
*Гряди* па маёй Украіне
І там, вялікі, судзі.

Звядзі ўваскрэсну загібель —
Ласку сваю раскінь.
Ачысці, выкупай, выбель.
Амінь, тры разы — амінь.

*Прага, 1940.*

***Пераклад з украінскай Міколы ТРУСА.***

# У КАЛЯРОВЫХ АСКОЛКАХ ШКЛА

*Горад Хучжоу — з правінцыі Чжэцзян. Тут у кастрычніку 1963 года і нарадзіўся кітайскі паэт і літаратуразнаўца Ван Цзянчжао. Насельніцтва Хучжоу крыху болей за мільён… Малы горад па кітайскіх мерках. Дзе яму дужацца з Шанхаем і Пекінам, насельніцтва якіх складае 24 і 21 мільёны чалавек адпаведна. А ў Цзянцзіні — болей за 14 мільёнаў. Не шмат меней — у Гуанчжоу, Ухані… Крыху меней за дзесяць — у Ханчжоу, Дунганю, Шэньяне, Чунцыні… Болей за пяць — у Сіані, Нанкіне, Сучжоу. Блізка да гэтага — у Харбіне, Даляне, Цзінані… Так што, Хучжоу не ўваходзіць нават у першую сотню гарадоў Кітая… І ўсё ж яго гістарычная памяць не меней цікавая, чым у астатніх вялікіх паселішчаў Паднябеснай. Побач з Хучжоу — возера Тайху, трэцяе па велічыні з прэснаводных вадаёмаў краіны. Адсюль вытокі ракі Сучжаухэ, якая працякае праз цэнтр Шанхая…*

*Тут, у Хучжоу, жыў легендарны паэт Лу Юй, які лічыцца стваральнікам першага пісьмовага трактата пра чай — «Чайны канон». Без яго запісаў нельга ўвогуле ўявіць развіццё чайнай культуры. Хучжоу ў Кітаі славіцца яшчэ і вырабам пішучых пэндзляў. Існуе выказванне паэта Дай Бяоюаня: «Я наведаў амаль усе прыгожыя гарады краіны, але, думаю, што толькі Хучжоу падыходзіць для пражывання на ўсё жыццё». З горадам сваімі лёсамі звязаны такія легенды кітайскай культуры, як Су Дунпо, Ван Сянчжы, Мі Фу, Ван Шыпэн.*

*Такі горад, такія вытокі — у Ван Цзянчжао і яго паэзіі. Кандыдат навук па гісторыі замежнай паэзіі, доктар гісторыі неапаэзіі Кітая. Зараз займае пасаду прафесара Інстытута замежнай літаратуры Пекінскага ўніверсітэта замежных моў. Аўтар манаграфій «Літаратурная дружба паміж Кітаем і Расіяй: руская савецкая літаратура і літаратура Кітая XX стагоддзя», «Мадэрнісцкая паэзія Кітая XX стагоддзя» і многіх літаратурна-крытычных і гісторыка-літаратурных артыкулаў. На кітайскую мову пераклаў кнігі вершаў Аляксандра Блока, Барыса Паплаўскага. Выступіў у ролі рэдактара шэрагу кніг серый «Руская культура Сярэбранага веку», «Руская думка». Адрэдагаваў кітайскае выданне пяцітомнага Збору твораў Марыны Цвятаевай.*

*Як паэт выступаў і працягвае выступаць у часопісах «Народная літаратура», «Часопіс паэзіі», «Кітайскія пісьменнікі», «Майстры» і інш. Вершы Ван Цзянчжао змешчаны болей як у 30 калектыўных зборніках. Зараз творы нашага кітайскага сябра ўпершыню гучаць па-беларуску. Перакладчык — Мікола Мятліцкі. «…Па нявернай дарозе / на захад крочыў заклеймаваны паэт. / І пасля сямі сутак бадзяння заўважыў, / што дом заўжды за спіной» (з верша «Снежаньскі госць», 10 кастрычніка 1998 года). І апошнія радкі з гэтага твора: «Стань на дыбачкі. / Ці чуеш гук снегу?». Ван Цзянчжао, як і многія яго папярэднікі (сярод іх Су Дунпо, які жыў у родным горадзе кітайскага паэта — нашага сучасніка), шукае свае ўласныя мастацкія сімвалы праз уважлівы зварот да навакольных пейзажаў. Ён словам з ювелірнай дакладнасцю выяўляе галоўныя мастацкія фарбы і колеры. Часам карціны, падказаныя блізкай прасторай, разбіваюцца, рассыпаюцца, асколкамі разлятаюцца ў розныя бакі… Галоўнае, як на мой погляд, у такіх абставінах — не згубіць сябе, свае эстэтычныя перакананні. Дзеля гэтага трэба быць моцным. І тады можна будзе паспрабаваць утрымаць «лёс у далоні»… Што і імкнецца зрабіць цікавы кітайскі паэт Ван Цзянчжао, які пачынае свой шлях да беларускага чытача.*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***



# ВАН ЦЗЯНЧЖАО

## ЛЮСТРА НЕБА

### СНЕЖАНЬСКІ ГОСЦЬ

**1**

Паветрам блакітным растала цямрэча начы
і скрозь месяца вушы
спакушае паўночныя ліхтары,
не набліжаецца — у сапраўднасці.

**2**

Да астатняй рабрыны Бога падобны
нахабна паголены клён
стаіць на парывістым, сіберным ветры…

**3**

Цёмна-зялёныя паштовыя скрынкі
адна за адной мільгаюць па баках маставой.
Чакаюць аб’едкаў пачуццяў
іх уздутыя жываты.

**4**

Па нявернай дарозе
на захад крочыў заклеймаваны паэт.
І пасля сямі сутак бадзяння заўважыў,
што дом заўжды за спіной.

**5**

Убогі з разяўленым чорным ротам,
ротам, які шырэй гэтага свету…
Выцвітае асляпляльна бялюткі снег.

**6**

За пер’е лягчэй зоркі плывуць
у міг падзення анёла.

**7**

Блакітная душа сляпой жанчыны,
што грае на піяніна,

трывала абвязаная водарасцямі
музыкальнага ўрока.
У розніцу прадае яна белае цела —
кожны дзень націскае
на чорныя клавішы.
Спакуслівы гук.

**8**

Цвіце наперадзе могільнік —
здалёк падобны на заход сонца.
Здзівішся рэдкай цішы —
калі свішча вецер паўночны.

**9**

Сцюдзёны вецер твар абвявае —
быццам цераз паветра прыцьмелае
прыклеілі на цёмна-фіялетавы
ватны халат
жоўтую этыкетку.

**10**

Віртуальнае начное неба з’яўляецца на экране камп’ютара.
Месца для прыпынку шукаеш ты на зменлівай дарозе.

**11**

У архітэктурны ансамбль уцінаюцца рэйкі.
У бясконцасць працягнуты пуць.
Міг развітання з радзімай прыгадвае
зmoраны падарожжамі блудны сын у запозненым цягніку.

**12**

Аднойчы ноччу без вестак
прапала мая каханая.
Поўня-аэрастат
нябачна плыве над галінамі.
Рука, што за нітку тузае,
уся ў каляровых асколках шкла.

**13**

Страціўшы розум Ван Гог,
абвязаны плюшчамі атрутнымі,
пачаў мурлыкаць
элегію Рыльке.

**14**

Канец снежня.
Як дазнацца,

каго выпускаць
з клеткі пустой?

**15**

Стань на дыбачкі.
Ці чуеш гук снегу?

## ЖАНЧЫНА

Калі жанчына зрабілася
метафарай белага снегу,
ціха паплыла
папяровая ласка
пад гук зарападу.
У зімовым пакойчыку
глядзяць вочы ў вочы
праз люстра бесперапынна,
быццам адзінота
прадузята глядзіць на самоту,
націскаючы пяшчотную кнопку пачуццяў.
Пекінскі смутак…

Пачуцці схаваў за руінамі сэрца,
якія ўраз бы сагрэлі дзяўчатам вулічным
замёрзлыя паясніцы
і анямелыя позіркі…
Туманная ноч здранцвела,
але робіцца яснай.
Магчыма, рассеецца і смуга.

## ЯБЛЫЧАК

Па медным даху бягуць дажджавыя кроплі,
асвятляюць свет ліхтарыкі яблыкаў
забыцця…

…Кастрычнік, брат восені — ад аднае і тае ж маці,
нараджаюцца ў аднachacce і ўраджай, і страта.
Беспрытульны сабака выбег з клуба і брэша,
не ведаючы, куды скоціцца гэты свет.

Імчацца суцемкі,
няма ліхтароў,
бліскоча яблычак…

## УЧАРАШНЯЙ НОЧЧУ

Учарашняю ноччу вецер
выглядваў
з патакі летняй спякоты.
Вярба ля акна
галавою ківае.
А тvae ручкі, якія чырыкаюць,
быццам птушка,
па пенападобнай клавіятуры
барабаняць.
Іерогліфы чорнымі пёркамі
спадаюць з экрана.
Падумаў і выкрасліў нарэшце канец,
той, што не лез у раман,
і зрабіў з яго нейк
антылірычны верш —
на адлегласці ростані зорак з зоркамі;
і змусіў вымысел памкнуцца з варотаў
насустрач люстраным каштоўнасцям жыцця.

Я патрапіў у царства сну
і, нібы праз сон, дазнаўся,
што
Бог
неразумны,
ад любові якога
нарадзіўся вялікі рой зямных пчол.

## ЛЮСТРА

Люстра велічынёй з неба
у сапраўднасці і ёсць само неба,
якое разгадвае паўсядзённасць нашу.
Праз воблакі і туман
душ нашых таямніцы раскопвае,
як рабаўнік — магілы.
Пра Бога, каму варта і пакланіцца, звонка спяваюць
прыхільнікі, паказваючы на неба.
А само ранішняе сонца
падобнае на бестурботнага дурасліўца,
які топча пяшчотны лотас
сваімі бязлікімі босымі ножкамі.

***З кітайскай. Пераклад Міколы МЯТЛІЦКАГА.***

Ірына ЧАСНОК

# МЕТАНАРАТЫЎНА АКЦЭНТАВАНАЯ НАРАТЫЎНАЯ СТРАТЭГІЯ Ў РАМАНЕ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА «ПОШУКІ БУДУЧЫНІ»

«Пошукі будучыні» (1943—1944) — адзін з апошніх класічных раманаў К. Чорнага, у якім, на думку многіх айчынных літаратуразнаўцаў, пісьменніцкі талент выявіўся напоўніцу. Ужо неаднаразова заўважалася, што ў рамане выкарыстоўваюцца прыёмы і спосабы стварэння тэксту, напрацаваныя Чорным у папярэдніх творах.

Нашу ўвагу прыцягнула наратыўная стратэгія (сукупнасць наратыўных працэдур, якія вытрымліваюцца, або наратыўных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для дасягнення пэўнай мэты ў рэпрэзентацыі наратыву [4, с. 79]) у рамане. Менавіта ад стратэгіі ў многім залежыць наратыўная арганізацыя твора: выяўленне ў ім асноўных нараталагічных катэгорый, выкарыстанне пэўных прыёмаў.

***Метанаратыўнасць.*** К. Чорны працаваў на стварэнне савецкага ваеннага метанаратыву (пад метанарацыяй маем на ўвазе феномен існавання канцэпцый, якія прэтэндуюць на ўніверсальнасць, дамінаванне ў культуры, «легітымуюць» пэўны лад мыслення [3, с. 459]). І гэтага ад яго патрабаваў сам час. Ішла вайна. Трэба было падтрымліваць баявы дух людзей. Неабходна было верыць у бездакорную рацыю сваіх, каб перамагчы.

Імператывам часу і галоўнай тэндэнцыяй усёй культурнай сітуацыі 1940-х гг., калі ствараліся «Пошукі будучыні», зрабілася метанаратыўнае мастацкае маўленне: з інтэнцыямі агульнасці, супольнасці, выразнай акцэнтаванасці ўсіх мастацкіх сэнсаў.

Разам з тым, метанаратыўнасць у дадзеным выпадку не перашкодзіла выяўленню нацыянальнага і агульнафіласофскага. Як заўважыла Л. Сінькова, «у рамане «Пошукі будучыні» К. Чорны знайшоў такі маштаб мастакоўскага погляду на лёс беларуса, пры якім канкрэтыка падсавецкага жыцця «згубілася» сярод найвялікшых, неабвержных трагедый ХХ стагоддзя, трагедый у лёсе тутэйшага чалавека» [2, с. 113].

***Наратар і мастацкі час.*** У спецыфіцы хранатопу таксама трэба падкрэсліць маштабнасць, аперыраванне цэлымі эпохамі як прыкмету метанаратыўнасці, сродак падкрэслівання пэўнай людской агульнасці, паяднанасці гэтым часам, прасторай, гісторыяй (супольна перажытымі падзеямі). У рамане К. Чорнага «Пошукі будучыні» наратар вызначаецца суб’ектнасцю. У тэксце апавядальнік (наратар ад першай асобы) даволі часта падкрэслівае сваю прысутнасць і сваё «я» (часам «мы»). Тым не менш ён не бярэ прамога ўдзелу ў асноўных падзеях, а застаецца своеасаблівым сведкам-назіральнікам.

Аднак наратар самапрэзентуе сябе як аднавяскоўца Волечкі Нявады. На яе пытанне, паводле тэксту, «*адказалі мы ўсе хорам»* [6, с. 29]. Апавядальнік у адным з эпізодаў быццам нясе рыдлёўкі з іншымі героямі па просьбе Кастуся Лукашэвіча і канстатуе, што яны, дзеці, былі ўжо гаспадарамі.

Сама гісторыя, якая гучыць у творы, аддалена ад часу расповеду. Раман пачынаецца з наўмыснага падкрэслівання часавай дыстанцыі наратара і аповеду: «*І даўно гэта было. Час быў такі, што нашы бацькі былі на вайне. Ішла вайна з*

*немцамі 1914—1918 гадоў. Усе мы былі або малыя, або самыя зялёныя падросткі. […] Мы былі ў полі»* [6, с. 27].

Гэта веданне наратарам «наперад» садзейнічае таму, што ў творы часам сустракаюцца праспекцыі — «апярэджванні» ланцужковага ходу падзей, падказкі наконт будучага:

— *Чаго глядзець, — сказала Волечка і рухава сабралася рушыць дадому.* ***Я*** *вельмі добра* ***аж дагэтуль памятаю*** *тыя яе словы:* ***хіба яна магла тады падумаць, што гэта едзе на растрэсенай фурманцы яе лёс****?* [6, с. 28] (вылучана намі. — *І. Ч.*);

«*Яны абое належалі да таго пакалення, якое не ведала сапраўднага маленства. Але затое перад імі стаяла ўжо іхняя маладосць. А каб хто ім сказаў, што другое пасля іх пакаленне (іх дзеці) ужо і маладосці мець не будуць, што іх маладосць з'есць чужы прышэлец?»* [6, с. 62]

Разам з тым, падобныя прыклады, выкладзеная наперад інфармацыя — хутчэй выключэнне ў тэксце, а не правіла. Наадварот, наратар імкнецца заінтрыгаваць чытача. Адзін з распаўсюджаных прыёмаў у творах К. Чорнага — убачыць «нейкага чалавека» і далей паступова яго разглядаць і раскрываць. Пазней жа «нейкія» людзі абавязкова распазнаюцца як свае або чужыя.

Часта наратар ведае думкі герояў, але не заўсёды: «*Не ведаю, ці прыйшла немцу ў галаву думка, што калі ён так жвава ўзяўся за паперу, а не ляжыць з паблеклым тварам, то ён перамог ужо сваю хваробу»* [6, с. 36]; «*Можа ўжо і многа часу прайшло, як Нявада сачыў за падарожнымі*» [6, с. 100].

М. Тычына, вядомы даследчык творчасці К. Чорнага, пісаў: «Пакуль ён асабіста апавядае аб тым, што асабіста вядома яму, яго асоба раствараецца сярод эпічнага «мы», «нас» або прарываецца ў лірычным «я» («Я вельмі добра аж дагэтуль памятаю…»), як ён толькі пераходзіць да апавядання аб тым, што створана ў яго творчым уяўленні, яго асоба знікае па-за яшчэ больш эпічным «яны», «людзі», «некаторыя»» [5, с. 106]. Відавочна, што ў гэтым выпадку літаратуразнаўца атаясамлівае «я» з асобай самаго пісьменніка. На наш погляд, гэта наратарскае выяўленне хутчэй сведчыць пра імкненне падкрэсліць у творы агульнасць з людзьмі, калектыўнасць мыслення. Але сустракаюцца і сказы, дзе «я» з «мы» стаяць побач.

Калектыўнае наратарскае «мы» ў тэксце сустракаецца не радзей за «я». Возьмем хоць бы самы пачатак: «*кожны з нас*» [6, с. 27], «*наша мястэчка»* [6, с. 28], «*нам дзіўна было»* [6, с. 28], «*у нашых душах»* [6, с. 28], «*адказалі мы ўсе хорам»* [6, с. 29]; «*Добра было слухаць чужую каманду, але як яе адразу паслухаць? Мы ж былі гаспадары! Нашы ж бацькі былі на вайне! […] Перашкаджаючы адзін аднаму, мы капалі вялікім гуртам магілу невядомаму нам чалавеку. Пасля мы патурбавалі немца. […] Цяжка было нам апусціць труну ў яму, але нас быў вялікі гурт. […] Мы ішлі за возам. Хлапчук сказаў да Волечкі…»* [6, с. 30].

Калі ідзе гаворка пра Волечку Няваду, то і тут для наратара важна падкрэсліць характэрную для таго часу тэндэнцыю да агульнасці людзей: «***Усе*** *бачылі, як Волечка стаяла тварам на захад. […]* ***Усе*** *заўважылі[…] Неўзабаве* **мы** *бачылі»* [6, с. 28] (вылучана намі. — *І. Ч.*). Прыналежнасць антрапаморфнага наратара да калектывісцкай культуры выяўляецца і ў зваротах да чытачоў: «*Браткі мае, што гэта быў за тон!*» [6, с. 44]

Прыём абмежавання чытацкага ведання часта выкарыстоўваецца з мэтай стварэння інтрыгі. Напрыклад, не ведае многага наратар тады, калі распавядаецца загадка пра Паліводскага.

Часта наратар ведае не больш за астатніх вяскоўцаў з Сумліч, каб падкрэсліць агульнасць з імі. Напрыклад, так гаворыцца пра Сымона Ракуцьку: «***Падазравалі****, што з ім нешта здарылася ў жыцці непрыемнае і,* ***можа****, нават цяжкае.* ***Можа*** *на яго ўпала была якая цяжкая навала, і ён ратаваўся, бараніўся, як мог, і, напэўна, усімі спосабамі даводзіў, што ён справядлівы чалавек і што пакутаваць не*

*павінен*» [6, с. 78]. Затым яшчэ раз пацвярджаецца выказаная намі думка пра пазіцыянаванне наратара як сведку-аднавяскоўца: «*Вось гэта гісторыя,* ***як яе чулі і ведалі ўсе***» [6, с. 79].

Суб’ектны наратар быццам знікае і дае персанажам існаваць самастойна ў дыялогах, з эксплiцытнага перыядычна становіцца імпліцытным. Аднак усё роўна ў аповедзе яскрава выяўляюцца адносіны да герояў — напрыклад, шкадаванне да Волечкі: «*Волечка, малая гаспадыня гэтай хаты*» [6, с. 38]. Паводле В. Шміда, наратар можа валодаць рысамі індывідуальнай асобы [7, с. 39]. Эмоцыі наратара выяўляюцца і ў наступным прыкладзе: «*Каб хто чуў, як пасля гэтага рагатала Волечка!*» [6, с. 45] (калі Кастусь Лукашэвіч дапамагаў ёй). Праз вобразы малой Волечкі і Кастуся, згодна з А. Адамовічам, пісьменнік «апаэтызаваў само званне чалавека» [1, с. 393]. Літаратуразнаўца слушна адзначыў, што ў пэўныя моманты, апрача аўтарскага сур’ёзнага роздуму, адчуваецца і ціхая аўтарская ўсмешка [1, с. 393].

Зноў у тэксце спецыяльна падкрэсліваецца прысутнасць наратара падчас былых падзей у краіне, ён выступае ўдзельнікам той эпохі: *«Тады не было яшчэ ні пагранічнікаў, ні пагранічных застаў і можа нават і цвёрда вызачанай дзяржаўнымі планамі засылкі шпіёнаў. Хто ведае* ***з нас, простых людзей****…* (імкненне паказаць сябе часткай калектыўнага цэлага. — *І. Ч.*) *Можа тады аб гэтым толькі пачыналі думаць у міністэрскіх кабінетах. А ўрэшце — за факты не паручуся, чаго не ведаю, таго не скажу»* [6, с. 64].

Наратар у пэўны момант адкрыта гаворыць пра час цяперашні (калі непасрэдна разгортваўся аповед пра мінулыя падзеі): *«Скажу прасцей: ад год той, першай за нашу памяць вайны з немцамі і да дзён нашых, сённяшніх, калі ўжо вырысоўваецца як бы канец і Вялікай Айчыннай вайне, за ўсю гэту жорсткую эпоху, на мільёнах дзіцячых ілбоў мы бачылі і бачым маршчыну старасці»* [6, с. 81]. Зноў адзначаем выступ ад «я» і адначасова атаясамліванне сябе з астатнімі, з народам, з пакаленнем — «мы».

У тэксце ёсць і іншыя часавыя маркёры, асабліва калі ўсё паказваецца ў гістарычным зрэзе: *«Іх думкі не пакідалі аж да сямнаццатага верасня трыццаць дзявятага года»* [6, с. 97]; «*Канчаўся ўжо трэці тыдзень вайны, калі Лізавета падышла да бацькавай хаты*» [6, с. 165].

Калі ў пачатку твора наратар сам незаўважна апярэджваў ход падзей і мог выпадкова прагаварыцца, што чакае чытача ў тэксце далей, то пазней такія прадчуванні ўжо ўкладаюцца ў думкі персанажаў. Напрыклад, падаецца прадчуванне новай вайны тады, калі Нявада сустракае на скрыжаванні невядомага чалавека: «*Можа ўвесь свет такі дзікі, што чалавеку не можна гаварыць праўду і баяцца другога чалавека. І можа ўжо скора пачнецца тая зноў навала? Можа ўжо зноў тут блізка ходзіць той вялікі злодзей, што ўкраў у яго Волеччына маленства*?»

У «Пошуках будучыні» наратар першасны; недыегетычны [7, с. 47] — нягледзячы на аповед ад першай асобы і пазіцыянаванне сябе аднавяскоўцам Волечкі, наратар фігуруе ў аповедзе, а ў гісторыі няма ніякай яго ролі. Асабовы наратар быццам сведка падзей. Такая форма выкарыстоўваецца хутчэй для доказнасці і пераканаўчасці тэксту. Абмежаваны хранікёр у творы чаргуецца з усёведаючым. Эксплiцытны наратар чаргуецца з імпліцытным, дыегетычны з недыегетычным. Відавочна, што наратар асабовы, антрапаморфны.

Усе гэтыя характарыстыкі наратара і выступ апавядальніка з «мы»-пазіцыі з’яўляюцца прыёмамі-сродкамі метанаратыўна акцэнтаванай наратыўнай стратэгіі.

***Збыткоўнасць інфармацыі ў рэпліках герояў.*** Спецыфічны стыль К. Чорнага выяўляецца і ў тым, што часта ў рамане вялікая колькасць інфармацыі абрушваецца на чытача праз другаснага наратара-персанажа, які распавядае пэўную ўстаўную міні-гісторыю. Напрыклад, пра немца многае мы даведваемся са слоў фельчара:

*— Ага, — зразумеў нарэшце фельчар, — ты рад, ты шчаслівы, што ачуняў і ўжо здаровы? А ты думаў, што памрэш, адзін сярод чужых людзей?... аж ты ўбачыў, што гэтыя людзі цябе ратавалі і паставілі на ногі? Ты кажаш, што ў цябе ёсць дом, сын, якому цяпер ужо дзесяць год? Ён таксама, як і ты, завецца Густаў Шрэдэр? Тое, што ён ёсць на свеце і што ты ачуняў, радуе цябе? Ага, ты хочаш чым-небудзь аддзякаваць нас усіх і найбольш гэтую малую? Ну дык яна завецца Волька* [6, с. 41].

Такія доўгія рэплікі, у якіх змяшчаецца ўжо і адказ таго, з кім гавораць, адносна сярэднестатыстычнай нормы падаюцца празмернымі. Калі фельчар другі раз распавядае пра немца хворай Волечцы і Кастусю, яго рэпліка займае каля трох старонак.

Пра лёс польскага афіцэра Паліводскага даведваемся ад персанажа, які выступае ў ролі другаснага наратара, — ад карчмара. Цікава, што расповед не індывідуалізаваны. Ён выконвае найперш інфарматыўную функцыю, як і ў выпадку з фельчарам, што распавядаў гісторыю жыцця немца Густава.

Са слоў Волечкі даведваемся пра ўсё, што адбывалася ў апошні час у Сумлічах. Гэта празмерна для аднаго выказвання персанажа. Тут знаходзім не аналітычныя развагі, а менавіта інфармацыйны выклад, занадта груваcткі для таго, каб персанаж выдаваў яго запар.

Падаецца збыткоўнай і рэпліка Гертруды, калі яна распавядае і пра тое, што Густаў добраахвотна пайшоў першы раз на вайну, і пра дарма аддадзенае золата, пра праклёны Густава з-за душэўнага парывання, пра змаганне сына за ўвесь свет для Германіі.

Аднак падобная збыткоўнасць інфармацыі ў рэпліках таксама з'яўляецца своеасаблівым індыкатарам метанаратыўна акцэнтаванай стратэгіі. Відавочна, што на першым месцы ў рамане стаіць данясенне ідэалагічнага зместу. Нездарма знаўца творчасці К. Чорнага А. Адамовіч адзначаў, што пісьменнік у сваіх ваенных творах «нянавісцю ўзбройвае чытача» [1, с. 388].

***Падзейнасць і пункты гледжання.*** Згодна з тэорыяй В. Шміда, паўнавартасная падзейнасць (адна з асноўных катэгорый наратыву) вызначаецца рэлевантнасцю (значнасцю) у межах мастацкага свету, непрадказальнасцю, кансекутыўнасцю (уплывае на далейшы ход), незваротнасцю (змены не павінны анулявацца), непаўтаральнасцю [7, с. 12—13].

Унутраная (псеўда)падзея — прасвятленне, якое адбываецца з адмоўным персанажам-немцам — аказваецца зваротнай, а таму несапраўднай. Густаву, на вачах якога ляжала пячаць вялікай праўды, падавалася, што рэчы яго душаць. Ён аддаў іх малой выратавальніцы з думкай, што «*усё золата, якое толькі ёсць на свеце, — нікчэмная драбяза і непатрэбшчына перад самім жыццём»* [6, с. 42].

Аднак, разам з тым, і ў пачатку рамана не ствараецца ілюзія, што немец станоўчы герой. Пасля сцэны яго душэўнага парыву адразу ж фельчар канстатуе, што аддадзены скарб — рэчы, знятыя немцам з мёртвых або параненых афіцэраў. Пры гэтым фельчар дае яскравую характарыстыку ворагу і пасля прачытання яго ліста да родных, калі прыехаў лячыць хворую Волечку: «*Вы чуеце, як яго ўжо точыць чарвяк, што ён так ірвануўся душой? От бо нямецкая душа! Ніякіх там парываў, а ўсё павінна быць вылічана: колькі аршын радасці, колькі ўдзячнасці, колькі сяброўства і колькі дабра другому, каб не перадаць лішне»* [6, с. 56].

Падзеяй, завершанай у творы, становіцца менавіта змена погляду Кастуся Лукашэвіча, які ўжо ні пры якіх умовах не шкадуе больш ворага, гатовага пасля зробленага яму дабра зноў прыходзіць на чужую зямлю з мячом. Хоць у «Пошуках будучыні» і так з самага пачатку сустракаем словы хлопчыка: «*Табе добра, у цябе немец, чорт яго бяры, яны з гармат смалілі па нашай вёсцы і нас у свет выгналі, а ў мяне хворы бацька ўчора памёр на дарозе, хворы і з дому выехаў, і маці памерла на тым тыдні, пры дарозе пахавана, і сястра памерла*» [6, с. 29].

А, напрыклад, у іншым рамане К. Чорнага «Млечны Шлях» амаль да фіналу не гучаў адкрыты пункт гледжання з абвінавачваннем немцаў.

У «Пошуках будучыні» ў пачатку рамана мы даведваемся і пра тое, што немец абрабаваў мёртвых савецкіх афіцэраў, таму меў золата. Нарабаваны Шрэдэрам скарб нават быццам душыць Кастуся — наратар гэтым падкрэслівае контраст паміж беспрынцыпнасцю ворагаў і прынцыповасцю сваіх.

У вусны Сымона Ракуцькі, які выратаваў Паліводскага, укладзены словы — выяўленне аўтарскай пазіцыі:

*— Які ты к чорту граф, калі ты ў крыві і няшчасны. І князь, і цар, і міністар, кожны той, хто камандуе людзьмі, хто мае права ў руках, каб саджаць іх у турмы і там рабіць з імі што сам захоча, кожны, хто стаіць над людзьмі, толькі датуль граф, пакуль у яго з парэбрын кроў не ідзе* [6, с. 68].

І часта падобнае назіраем у іншых выпадках. Адразу бачна, чый пункт гледжання супадае з аўтарскім.

Такім чынам, раман будуецца на псеўдападзейнасці і падзейнасці. Тое, што спачатку выглядала як падзея, аказваецца незавешаным або паўтараецца (Нявада глядзіць на Лізу і думае, што і яна такая не па гадах сталая; Волечка зноў пакутуе ў хаце, у якой пакутавалі ў маленстве). Гэта важны прыём пабудовы сюжэта ў «Пошуках будучыні».

З вуснаў Люцыяна Акаловіча гучыць асобны міні-наратыў — гісторыя яго жыцця і жыцця яго сям'і; яго бацькі, які марыў пра Польшчу ад мора да мора, смяяўся са слова «Беларусь» і ненавідзеў усё, што не з'яўлялася польскім. Распавядае персанаж і пра Паліводскага, які вербаваў людзей служыць Германіі і, такім чынам, Польшчы. Маці яго спалілі, бацьку павесілі, а сам персанаж як вораг сутыкнуўся з Нявадам і быў пабіты на скрыжаванні дарог: «*За плячыма ў мяне ганьба, а перад вачыма пустэча*» [6, с. 139]. Тут мы бачым яскравы падзел герояў на добрых і дрэнных і празрысты аўтарскі пункт гледжання. «*Ужо няма ні Чырвонай Арміі, ні Сталіна, ні ўлады, і ўжо немцы ідуць і ідуць наперад*», — агучвае адмоўны Акаловіч. У словы персанажа ўкладзены думкі, якія аўтар аспрэчвае праз асуджэнне Акаловіча іншымі, станоўчымі героямі.

Усе немцы паказваюцца ў творы вельмі адназначна. Як тыя, хто па сваёй волі прыходзяць ваяваць з мэтай разбагацець. Такія і Шрэдэры старэйшыя, і Шрэдэр малодшы.

У дачыненні ж да сваіх наратар выкарыстоўвае перабольшванні пры адборы падзей. Ліза Ракуцька няпраўдападобна перакусіла шыю немцу ў танку, а таксама кінула гранату ў другога ворага.

«Агітацыйная» публіцыстычнасць у рамане часта ўзнікае там, дзе ёсць эпічнасць: «*Горкая практыка паказала, што ваяўнічае геройства народа нараджаецца і выпрацоўваецца не ад замілаванасці да рэк крыві на полі вайны, а ад неабходнасці сцерці з твару зямлі такую погань, якая ў нашы дні ў вобразе Гітлера заявіла, што нармальны стан мужчыны вечна быць у вайне*» [6, с. 64].

Наратыўная будова «Пошукаў будучыні» вызначаецца наступнымі асаблівасцямі: наратар часта выступае з «мы»-пазіцыі, перыядычна выяўляецца ў тэксце як эксплiцытны; у рамане інфарматыўнае нярэдка замяшчае выяўленчае (шмат празмернага выкладу інфармацыі адным героем); асноўная гісторыя будуецца на цікавым спалучэнні падзейнасці і псеўдападзейнасці; пункты гледжання станоўчых персанажаў супадаюць з аўтарскім. Усе пералічаныя прыёмы садзейнічаюць раскрыццю асноўнай, метанаратыўна акцэнтаванай наратыўнай стратэгіі ў творы.

Аднак, нягледзячы на апраўданыя ваенным часам агітацыйныя мэты, метанаратыў у творы забяспечвае найперш выяўленне беларускай нацыі як асобнай, вельмі характэрнай і моцнай, са сваёй уласнай гісторыяй. Метанаратыўная стратэгія ў дадзеным выпадку прывяла не да безумоўнай адпаведнасці савецкаму сацрэалізму, а да стварэння сапраўднага нацыянальна-філасофскага рамана.

## Спіс літаратуры:

1. Адамовіч, А. Класік беларускай прозы // Кузьма Чорны. Чалавек — гэта цэлы свет: успаміны, эсэ, артыкулы, інтэрв'ю, дакументы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2016. — С. 375—394

2. Корань, Л. Кузьма Чорны / Л. Корань // Цукровы пеўнік: літ.-крытыч. арт. — Мінск: Маст. літ. — 1996. — С. 65—114.

3. Коротченко, Е. П. Метанаррация // Постмодернизм. Энциклопедия / Под ред. А. А. Грицанова, М. А. Можейко. — Мн., 2001. — С. 459— 461.

4. Ткачук, О. М. Наратологічний словник / О. М. Ткачук — Тернопіль: Астон, 2002. — 173 с.

5. Тычына, М. А. Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення / М. А. Тычына; навук. рэд. В. Ул. Івашын. — Мінск: Бел. навука, 2004. — 168 с.

6. Чорны, К. Пошукі будучыні // Выбраныя творы / Уклад. і прадм. М. Тычыны; камент. М. Тычына, Я. Янушкевіч — Мн.: «Беллітфонд», 2000. — С. 27—178.

7. Шмид, В. Нарратология / В. Шмид. — Москва: Языки славянской культуры, 2003. — 312 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 5 снежня 2016 года.

### Рэзюмэ

**Ірына ЧАСНОК**

### Метанаратыўна акцэнтаваная апавядальная стратэгія ў рамане Кузьмы Чорнага «Пошукі будучыні»

УДК 821.161.3

У артыкуле разглядаецца наратыўная стратэгія ў рамане «Пошукі будучыні» К. Чорнага. Даследуецца роля наратара і спецыфіка выяўлення мастацкага часу, вылучаюцца катэгорыя падзейнасці і пункты гледжання ў творы. Вызначаюцца такія асаблівасці наратыўнай будовы, якія садзейнічаюць стварэнню метанаратыўнасці: выступ наратара з «мы»-пазіцыі; частае замяшчэнне выяўленчага інфарматыўным; пабудова гісторыі на цікавым спалучэнні падзейнасці і псеўдападзейнасці; супадзенне пунктаў гледжання станоўчых персанажаў з аўтарскім.

**Ключавыя словы:** наратыўная стратэгія, метанаратыўнасць, наратар, гісторыя, мастацкі час, падзейнасць, пункты гледжання.

### Summary

**Iryna CHASNOK**

### Metanarratively accentuated descriptive strategy in Kuzma Chorny's novel «The Search of the Future»

The article takes up the issue of narrative strategy in Kuzma Chorny's novel «The Search of the Future». It deals with the role of the narrator and the specificity of fictional time expression, picks out the category of eventness and points of view in the book. The article determines peculiarities of narrative structure contributing to the metanarrativity of the novel: narrator's appearence from «we»-position; frequent substitution of decorative by informative; arrangement of the plot on the curious combination of eventness and pseudo-eventness; coincidence of author's and protagonists' points of view.

**Keywords:** narratire strategy, metanarrative, narrator, history, fictional time, eventness, points of view.

Алена ВОСТРЫКАВА

# ПОЛІФАНІЧНАЯ ДЫЛОГІЯ ПРА ПЕРШУЮ СУСВЕТНУЮ ВАЙНУ:
## раманы Мілаша Вацлава Кратахвіла «Еўропа кружылася ў вальсе» і «Еўропа ў акопах»

Ваенная тэма — скразная для творчасці чэшскага пісьменніка XX стагоддзя М. В. Кратахвіла. Шмат разоў ён звяртаўся да падзей Трыццацігадовай вайны ў Еўропе, але апошнія раманы творцы прысвечаны Першай сусветнай. У 1970-я гг. пісьменнік закончыў дылогію «Еўропа кружылася ў вальсе» (1974), «Еўропа ў акопах» (1977), да напісання якой рыхтаваўся трынаццаць гадоў, вандруючы па розных гарадах свету і назапашваючы ўражанні.

Дзеянне першага рамана храналагічна адбываецца паміж Першай рускай рэвалюцыяй 1905 г. і пачаткам Першай сусветнай вайны. Другі раман апісвае ваенныя падзеі 1916 г. Па словах аўтара, першай кнігай ён спрабаваў паказаць, як пачалася вайна, а другой — імкнуўся выклікаць у чытача самую моцную агіду да бессэнсоўнай смерці [3]. Кратахвіл сам усведамляе, што многа піша на гэтую тэму. У пасляслоўі да дылогіі ён казаў, што пісьменнік можа змагацца з вайной двума спосабамі: альбо зрываючы з яе маску з пустымі вачніцамі і агаляючы перад людзьмі яе пачварнасць, альбо дэманструючы чытачам сапраўдныя жыццёвыя каштоўнасці, іх непахісны сэнс [3]. На думку чэшскага творцы, антываенная тэндэнцыя з’яўляецца цалкам натуральнай у Еўропе, паколькі часы нагнятання небяспечнай мілітарысцкай атмасферы чаргаваліся з сапраўднымі войнамі, пачынаючы з 1912 г. і да нашых дзён. На пытанне, чаму пісаў пра Першую, а не пра Другую сусветную вайну, раманіст адказваў, што сэнс гэтага прамежку гісторыі поўнасцю выкрышталізаваўся, агаліліся карані і ўвесь складаны працэс яе развіцця, сэнс падзей.

Кратахвіл неаднойчы зазначаў, што добра ведаў, пра што пісаў: нарадзіўся ён у 1904 г., дзяцінства да 1916 г. правёў у Вене, таму для яго не была чужой атмасфера старой аўстра-венгерскай манархіі, успрыняцце якой дапаўнялася дзякуючы ўплыву бацькі, гісторыка-архіварыуса. Сам пісьменнік таксама стаў прафесійным гісторыкам: скончыў універсітэцкі курс, трохгадовую вышэйшую школу архіварыусаў і пятнаццаць гадоў папрацаваў у архівах. Як аўтар, які сцвердзіўся ў гістарычным жанры, Кратахвіл і ў папярэдніх сваіх творах засноўваўся на архіўных дакументальных матэрыялах, але так прама, як у дылогіі, у тэкст іх не ўводзіў.

Аўтар актыўна працуе з гістарычнымі дакументамі. Яны становяцца вельмі значным складнікам мастацкага тэксту. Часта ўводзяцца з дапамогай мантажу і ідуць адразу адзін за адным. Мы можам лічыць гэта наватарствам, своеасаблівым эксперыментам, які ён праводзіць на старонках сваіх раманаў. Дакументы становяцца неабходным ілюстратыўным матэрыялам пры стварэнні вобраза эпохі. У дылогіі М. Кратахвіл набліжаецца да жанру літаратуры факта. На гэта ўказваюць вельмі многія чэшскія літаратуразнаўцы [2, с.186—187]. У тэксце раманаў чаргуюцца аўтарская нарацыя і ўрыўкі з дзённікаў, прыватныя лісты і дыпламатычная перапіска, артыкулы з венскіх, рускіх, чэшскіх, нямецкіх, англійскіх, сербскіх газет, сапраўдныя спісы прапаўшых без вестак, пералік ваенных караблёў, якія ўдзельнічалі ў марской бітве. Аўтар у пасляслоўі канстатуе, што ўсё

гэта ўзята з арыгіналаў без змяненняў. Без аўтарскіх змен падаецца і светапогляд гістарычных персанажаў, на чым настойвае Кратахвіл.

Увядзенне ў мастацкі тэкст дакументаў спрыяе праўдзіваму апісанню эпохі. А паколькі аўтарам падаюцца процілеглыя погляды, то можна меркаваць, што перад намі складваецца цэласная карціна жыцця і гістарычных падзей 1905—1916 гг., якія ахоплівае раман. Дакументальнасць аповеду надае і скарыстанне аўтарам такіх уставак, як табліца заработнай платы перад Першай сусветнай вайной, спісы загінуўшых. Кратахвіл указвае на тое, што ён не першы, хто такім чынам арганізуе матэрыял і скарыстоўвае ў тэксце твора дакументы. У якасці сваіх папярэднікаў пісьменнік называе Дос Пасаса і яго раман «Сорак другая паралель» і Сартра з яго «Дарогамі свабоды» [3].

Перапіска і лісты, мемуары як від дакументаў адыгрываюць у рамане вельмі значную ролю. Гэта лісты імператараў і простых людзей, у іх абмалявана рознае стаўленне да вайны, смерці, свету. Лісты супрацьпастаўляюць герояў і іх жыццёвую пазіцыю. Мемуары і перапіска перадаюць настроі іх аўтараў, сведчаць пра добрыя і дрэнныя рысы характару, звычкі. Кратахвіл быў упэўнены, што такім чынам ён стварае мікрапартрэты эпохі і яе прадстаўнікоў.

Раман падае палітычныя падзеі таго часу звонку і знутры. Мы даведваемся пра Балканскія войны і іх падаплёку, пра стварэнне агульнагерманскага саюза, у які ўваходзіць адзін з персанажаў — Шэнбек-Манесман. Ён піша кнігу пра «агульнагерманцаў» і разважае пра тое, што вайна — непазбежная неабходнасць. Вельмі падрабязна ў раманах апісваецца сустрэча яго з братам і размовы пра тагачасную палітыку і вайну, з якіх вынікае, што нямецкі фашызм зараджаўся яшчэ ў тыя часы. Ужо тады многія немцы думалі пра тое, што ва ўсіх ёсць калоніі, а ў немцаў — няма. Пісьменнік спрабуе таксама рэканструяваць думкі і псіхалагічны стан нямецкага імператара падчас яго знаходжання на караблі «Гогенцолерн» перад самым пачаткам вайны, падае неаднойчы яго ўнутраныя маналогі. Апісвае думкі і пачуцці манархаў пасля смерці Франца Фердынанда. Чырвонай ніццю праз дылогію праходзяць роздумы аўтара пра тое, што становіцца штуршком вялікіх гістарычных падзей. З аднаго боку, імператары ўпэўнены, што лёсы народаў вырашаюць яны. З другога, Кратахвіл расказвае пра імператарскага ад'ютанта гвардзейца Бранка Бедэнковіча, які пакутаваў ад таго, што менавіта ён даставіў загад пра пачатак вайны і вінаваціў сябе. Перад чытачом раскрываецца закулiссе міжнароднай палітыкі, адносіны паслоў.

У дылогіі выводзіцца на сцэну цэлы шэраг персанажаў, што стварае яскравую поліфанічнасць аповеду. Пісьменнік камбінуе і адначасова супрацьпастаўляе розныя погляды на тагачасныя падзеі. Цэнтральнага героя, як гэта было ў папярэдніх раманах Кратахвіла, няма. Галоўным героем становіцца сама эпоха. Яе вобраз ствараецца з дакументаў. Лёсы ж асобных людзей у першым рамане дылогіі яе толькі ілюструюць. У другім рамане ў цэнтры ўвагі шматлікія персанажы, якіх мы ўжо добра ведаем па рамане «Еўропа кружылася ў вальсе». Усіх іх чакае жахлівы трагічны фінал. Гэтыя людзі, прадстаўнікі розных краін і саслоўяў, гавораць і дзейнічаюць за ўсю Еўропу і так вымалёўваецца адзінае цэлае і агульны сэнс. Дылогія ўяўляе сабой мазаіку, якая складваецца з самастойных, узаемапранікаючых элементаў, якія ілюструюць галоўную думку.

Аўтарам створана цэлая галерэя персанажаў. Усе яны прадстаўляюць розныя сацыяльныя слаі: ад імператараў, буйных прамыславікоў, чыноўнікаў да звычайнага рускага мужыка, якога прымусам забіраюць на вайну. Прычым у іншых раманах, напрыклад, у дылогіі пра Яна Гуса, героем быў адзіночка, а народ ствараў фон. Тут не так. З аднаго боку, персанажы выступаюць як раўнапраўныя і раўнацэнныя, а з другога, сацыяльныя нізы супрацьпастаўляюцца сацыяльным вярхам. Перад намі вобраз усёй Еўропы — як у вертыкальным, так і ў гарызантальным зрэзах. Большасць сцэн адбываецца ў Вене (Аўстра-Венгрыя), частка — у Германіі, Францыі, Расіі, Англіі. Цэнтр цяжару рамана не ў індывідуальных лёсах, а ў

агульназначных грамадскіх падзеях, якія ўведзеныя персанажы ўдала ілюструюць. Кратахвіл піша пра знікненне і паміранне старога свету, парадку, пра неабходнасць сацыяльнага прагрэсу, бессэнсоўнасць вайны. Усё гэта выражаецца праз лёсы герояў, якія тым не менш у традыцыйным сэнсе не ствараюць сюжэта.

У першую групу персанажаў мы можам вылучыць тых, хто мяркуе, нібы вырашае лёсы Еўропы: імператар Аўстра-Венгрыі Франц Іосіф, германскі імператар Вільгельм II, рускі цар Мікалай. На думку Ёзафа Грабака, Кратахвіл стварае гэтыя вобразы дастаткова карыкатурна [1, с. 189]. Такім чынам пісьменнік указвае на іх месца ў гісторыі. Асабліва недарэчнай з'яўляецца сцэна на курорце, калі ў нагу Франца Іосіфа ўпіваецца цвік з абутку. Яму вельмі балюча, але ён лічыць за сорам спыніцца і выняць цвік, бо за кустамі хаваецца ахова. Імператар не можа паводзіць сябе не «па-імператарску», як звычайны чалавек. Асобы манархаў характарызуюцца, галоўным чынам, праз дакументы альбо апісаннем таго, як яны жывуць, праводзяць свой дзень. У дылогіі паказана, што імператары — слабыя людзі, якія прыкрываюць сваю слабасць думкамі пра велічнасць. Вельмі часта імператары і рускі цар апісваюцца ў дылогіі як героі музея васковых фігур. Характэрнай у гэтым сэнсе становіцца сцэна, дзе паказана наведванне архіварыусам Каванам паноптыкума і тыя пачуцці, якія яго ахопліваюць. Паноптыкум становіцца сімвалам сыходзячага са сцэны свету.

Да другой групы персанажаў мы можам аднесці прадстаўнікоў сярэдніх сацыяльных слаёў: обер-лейтэнанта Камарэка, венскага чыноўніка Шэнбека і яго берлінскага брата, які ўвайшоў у сям'ю буйных капіталістаў, геніяльнага імправізатара-апавядальніка Ганспетэра, гвардзейца Бедэнковіча, архіварыуса Кавана (дарэчы, прататыпам архіварыуса быў бацька самога Кратахвіла). Каван паказаны ў дылогіі тым чалавекам, які «привык следить за слабеющим пульсом того, что уходит, пока однажды не уйдет окончательно».

Трэцюю групу персанажаў складаюць сацыяльныя нізы: рускі мужык Сяргей Трафімавіч Злоткін, англійскі салдат-пехацінец Дональд Гарвей, які ў мінулым, мірным жыцці, быў афіцыянтам.

Сам аўтар у пасляслоўі да твора крыху інакш падзяляў дзеючых асоб сваіх кніг, вылучаючы асоб-«стваральнікаў» гісторыі, якія за кулісамі тузаюць за ніці гэтых каранаваных лялек, і натоўпы «ананімных» людзей, якія нясуць на сваіх плячах увесь цяжар і ўсю славу жыцця на зямлі.

Акрамя таго, сярод усіх персанажаў мы можам вылучыць рэальных гістарычных асоб (перш за ўсё імператараў) і персанажаў, выдуманых аўтарам, якія дзейнічаюць у будзённым асяродку і заняты звычайнымі жыццёвымі клопатамі. Аднак іх пачуцці і думкі сведчаць пра настроі самых шырокіх народных слаёў еўрапейскага кантынента. Можна таксама сцвярджаць, што паводзіны выдуманых герояў арганічна спалучаюцца і ўваходзяць у дзеянні гістарычных постацей.

Важным у дылогіі з'яўляецца рэфлексіўны складнік. Архіварыус Каван становіцца ў рамане «Еўропа кружылася ў вальсе» галоўным носьбітам рэфлексіі. Значныя размовы Кавана з графам і саноўнікам Гартэнбергам, маналогі Гартэнберга, якія той прамаўляе для Кавана. У рамане «Еўропа ў акопах» гэтую ролю бярэ на сябе пляменнік Кавана — Янура, які пісаў на фронце дзённік у форме лістоў для свайго дзядзі. Другі раман рэфлесіўна больш насычаны. Таксама вылучаюцца маналогі берлінскага Шэнбека пра перавагу нямецкай расы — яны паказаны як папярэднік гітлераўскага фашызму. Шэнбек даказвае, што вайна — дабро, а не зло. Апанентамі гэтай ідэі ў раманах выступаюць Каван і Янура.

У першым томе Кратахвіл падрабязна апісвае два самазабойствы: салоннага дэндзі Ганспетэра і графа Гартэнберга, нашчадка аднаго з самых старажытных арыстакратычных радоў і набліжанага да венскага двара саноўніка. Пра смерць Гартэнберга Каван думае так: «Следовательно, война неминуема. Гартенберг знал, что дело дойдет до войны, и не захотел этого дожидаться. Не захотел дожидаться конца того, частицей чего была его жизнь. Эстет? Слабохарактерный

человек? Или, наоборот, человек с твердым характером? Просто он был таким, что накануне “этого” избавился от жизни также, как избавляются в прихожей от перчаток и трости» [3]. Лёс астатніх герояў твора застаецца незавершаным, развіваецца і да свайго лагічнага фіналу прыходзіць у другой частцы дылогіі. Амаль усе персанажы гінуць, яны паказаны чэшскім творцам як ахвяры бессэнсоўнай вайны, якую развязалі імператары. Цікава, што ўсе без выключэння персанажы (імператары ў тым ліку) намаляваны ў раманах як прадстаўнікі сыходзячага часу, але самі яны, за выключэннем герояў-самазабойцаў у першай частцы дылогіі, гэтага не разумеюць. Носьбітам апакаліптычных настрояў, чалавекам, які разумее надыход канца старога свету паказаны ў дылогіі граф Гартэнберг, які разважае: «Все это исчезнет. Погибнет. Ничего не останется, кроме осколков разлетевшихся вдребезги воспоминаний с острыми краями, которые будут ранить сердце. Все ценности, на которых мы воспитывались и росли, чтобы вырасти такими, какие мы есть, будут вывернуты наизнанку, а сколько их вообще на свалку повыбрасывают! А это неминуемо приведет к тому, что соответствующим образом изменится и наше отношение к людям, вещам, миру, к самим себе» [3]. Чэшскі даследчык Грабак падкрэслівае, што «людзі новага часу ўвогуле не апісаны ў дылогіі» [1, с. 182]. Магчыма, такім чалавекам мог быць рускі мужык Сяргей Злоткін, які збягае з фронту ў невядомым кірунку. Далейшы яго лёс не паказаны пісьменнікам.

Канец старой эпохі і старых каштоўнасцей сімвалічна прадстаўлены праз пахаванне імператара Франца Іосіфа. Паказана, што ён быў кіраўніком дзяржавы, якая развальваецца, што добра разумее ў рамане венскі міністр Шпіцмюлер, які з акна свайго кабінета назірае за пахавальнай цырымоніяй. Яшчэ на пачатку дылогіі Вацлаў Каван разважае пра змену старога і новага ў жыцці народаў: «Каван вдруг подумал о том, как трудно, вероятно, делать революцию. Точнее, удачную революцию. Ведь для этого необходимо разорвать лиановые, как в джунглях, сплетения врожденных навыков, традиций, впитанных с молоком матери, отношений, ставших машинальными; вероятно, и в самом деле сначала надо все вырубить, выкорчевать, уничтожить, чтобы построить затем нечто новое, не обремененное прошлой жизнью» [3].

Галоўная тэма, якую ўздымае аўтар, — гэта тэма вайны, яе жорсткасці і бессэнсоўнасці. «От войны ничего не спасет — ни прошлое, ни мечты о будущем», — падкрэслівае аўтар [4]. Ён выкарыстоўвае цытаты пра вайну з розных кніг, выступленняў палітыкаў, выказванняў звычайных людзей. Янура ў дзённіку піша, знаходзячыся ў варонцы ад бомбы: «…война, которая швыряет меня, как теннисный мячик, нашпигована самочинной взрывной, уничтожающей силой. Она пробудила в людях звериные инстинкты, показала, что можно ввергнуть человечество в бездну преступлений, если умело этими инстинктами руководить» [4].

Тэма жыцця і смерці — таксама адзін з ідэйных цэнтраў кнігі. Каштоўнасць жыцця людзі пачынаюць разумець перад тварам смерці, як Злоткін, які падчас рускай рэвалюцыі 1905 года выпадкова забіў хлопчыка, страляючы паверх галоў. Як Камарэк, які атрымаў ад былой нявесты на фронце лісты. Яго лісты-адказы не дайшлі да Ірэны, а засталіся ў кішэні забітага ўжо адрасанта, а цела яго самога не было ідэнтыфікавана.

Жыццё і смерць супрацьпастаўляюцца аўтарам. Асабліва відавочна гэта ў сцэне, дзе архіварыус Каван даведваецца пра хваробу і смерць бацькі якраз у той момант, калі яго жонка нараджае дзіця. Побач з тэмай жыцця і смерці ў раманах дылогіі ўзнімаецца тэма пахавання чалавека. Кратахвіл апісвае пышнае пахаванне Франца Іосіфа, пахаванне «па трэцім разрадзе» Франца Фердынанда і яго жонкі, паколькі тая па крыві не належала да імператарскай сям’і, пахаванне графа Гартэнберга, пахаванне паручыка Немета. Камарэк з болем гаворыць пра «пахавальны маскарад» і ўсклікае: «Те, кто остался, вспоминайте о живом!»

Тэме жыцця і смерці прысвечаны многія старонкі дзенніка Януры ў рамане «Еўропа ў акопах». Так, ён піша Кавану: «Я достиг одного: понял и признал естественность, более того — необходимость смерти, которая в силу этого удивительнейшим образом включается в закономерный круговорот природы, что — если додумать все до конца — в какой-то мере даже успокаивает… Но вот что мне так и не удалось: это не избавило меня от первоначального инстинктивного отвращения к смерти, от ее чувственного неприятия!.. Ежели в моей мирной, моей “настоящей” жизни — коли можно так выразиться — познал осмысленность смерти, но не утратил страха перед ней, то здесь (на войне) я познал бессмысленность смерти, а от страха смерти избавился» [4]. Увогуле ў дылогіі шмат апісанняў смерці на вайне, прычым гэта вельмі жахлівыя, натуралістычныя карціны. Так расказваецца пра смерць Дональда Гарвея ў водах Ла-Манша і падрабязна падаецца апісанне таго, у што ператварылася яго цела. Пісьменнік паказвае татальнае вынішчэнне ўсяго падчас ваенных дзеянняў: «И все это било, уничтожало, разрывало, разворачивало и убивало людей, произведения их рук и природу верденского края. Крепости постепенно превращались в пыль, окопы сравнивались с землей, деревни становились руинами, а руины — кучами разбитого кирпича, от бывших лесов оставались только белые обломки расщепленных снарядами стволов, а земля, лишенная кустарников и трав, оголенная до коричневого однообразия, усеянная воронками, обсыпавшими ее, как оспины, стала похожа на лунный пейзаж, оцепенелый, бесцветный, безжизненный, вода на дне воронок и глянцевитая грязь отражали низко нависшие тучи, окоченевшие тела недавно убитых и обглоданные ветрами скелеты торчали из вязкой жижи на полях сражений, полуистлевшая мертвая плоть насыщала воздух сладковатым запахом» [4].

У раманах вельмі важны матыў адзіноты. Ён увогуле ўласцівы творчасці Кратахвіла. Для многіх персанажаў гэта складнік свайго самаадчування ў гэтым свеце. У дылогіі таксама прысутнічае тэма мастацтва. Персанажы разважаюць пра функцыі мастацтва, пра Пікасо і Кандзінскага. У «Еўропе ў акопах» пра мастацтва разважае паручык Габерланд. Часта апісвае аўтар і пачуццё страху. Напрыклад, страх імператара Вільгельма ІІ перад пачаткам вайны, страх людзей на самой вайне.

У дылогіі адчувальна цікавасць Кратахвіла да тэмы канца манархіі ў Аўстра-Венгрыі. Гэтаму прысвечаны старонкі, звязаныя з імператарам Францам Іосіфам. Свет, які знікае, сімвалізуе ў рамане венскі вальс. Ён гучыць у пачатку першай часткі, калі апісваецца прыдворны баль. Гучыць ён і ў канцы рамана «Еўропа кружылася ў вальсе». Обер-лейтэнант Камарэк, які трапляе на венскі баль, пранікаецца адчуваннем непахіснасці існуючага свету і ладу жыцця: «Сколько бы он ни силился, ему не удалось бы вообразить, будто может погибнуть, исчезнуть мир, который сам сумел создать себя в столь величественном обличьи» [3]. Дарэчы згадаць таксама маналог паэта і драматурга Ганспетэра, які нічога не друкаваў, але рэгулярна выступаў з прамовамі на свецкіх раўтах. Дык вось ён разважае пра гібель «Тытаніка», на якім танцуюць вальс у той час, як ільдзіна ўжо ўрэзалася ў борт карабля. Так узнікае вобраз эпохі і Еўропы перадваенных часоў, якія пісьменнік называе ў сваім рамане «гадамі зацішша».

Ёзаф Грабак параўноўвае і ставіць у адзін шэраг дылогію Кратахвіла з пенталогіяй чэшскага пісьменніка Уладзіміра Нэфа, дзе таксама паказана жыццё апошніх прадстаўнікоў манархіі. Грабак робіць высновы пра большую глыбіню раманаў Кратахвіла, паколькі ён выкарыстоўвае наватарскія наратыўныя метады дакументальнага адлюстравання рэчаіснасці [1, с. 187]. Аднак літаратуразнаўца падкрэслівае, што дылогія пра Першую сусветную вайну ўяўляе сабой сінтэз літаратуры факта і белетрыстычнага аповеду, паколькі ў раманах прысутнічае і багаты мастацкі вымысел. Спалучаюцца аўтэнтычныя дакументы і аўтарская рэфлексія [1, с. 188]. Так аднаўляецца атмасфера часу.

У раман уведзена руская тэма. Яна звязана з падзеямі 1905 года, з расстрэлам мірнай дэманстрацыі перад Зімнім палацам. Апісваецца лёс хлопчыка Грышы і жыццё яго сям'і. Гэты хлопец стаў дакорам жыцця Сяргея Злоткіна, які выпадкова падстрэліў яго, пацэліўшы ў дрэва, з якога хлопчык назіраў за падзеямі ў горадзе. Смерць дзіцяці ад яго рукі зламала жыццё Злоткіна, усё перавярнула, адняло ў яго смех, прагу да жыцця, адбіла ахвоту якіх-небудзь стасункаў з людзьмі. Да Расіі адчувае вялікую цікавасць архіварыус Каван, які ўвасабляе біяграфічны пачатак у творы. Яшчэ рэвалюцыйныя падзеі падаюцца праз успрыманне чэшскага піваварa Алоіса, які становіцца іх сведкам. Ён назірае забойствы на вуліцах. Рускім падзеям гэтага года прысвечана таксама перапіска імператара Вільгельма II і рускага цара Мікалая II. У ліставанні высокіх асоб гаворка вядзецца пра народны рух, руска-японскую вайну. Такім чынам, чытачу падаецца перспектыва «зверху» і бачанне «знізу». Трэба заўважыць, што яны істотна адрозніваюцца.

Кантраст — адзін з найбольш частотных мастацкіх прыёмаў у дылогіі. У раманах шмат кантрасных сцэн: напрыклад, вобраз мабілізацыі ў рускай і чэшскай вёсках, пахаванне Франца Фердынанда і Франца Іосіфа. Дарэчы, многія дакументы, якія прыводзяцца аўтарам у творы, падбіраюцца ім менавіта па прынцыпе кантрасту.

Таксама трэба зазначыць сімультаннасць дзеяння: аўтар паказвае многія падзеі паралельна, як яны адначасова адбываюцца ў розных месцах. Такі ж прыём выкарыстоўваецца пры падборы дакументальных газетных матэрыялаў: напрыклад, Кратахвіл бярэ дзень 31 кастрычніка 1905 года і дае газетную справаздачу за гэты час пра падзеі ў розных гарадах (пагромы ў Адэсе, разгон дэманстрацый у Вене і Празе).

Звяртаецца пісьменнік і да іроніі. Менавіта праз гэтую прызму паказваюцца некаторыя гістарычныя падзеі, а таксама вобразы, напрыклад, вобраз дзядзечкі Камарэка, старога генерала, які ўводзіў свайго пляменніка ў вышэйшы свет і сватаў яму багатую, але не вельмі прывабную дзяўчыну.

Дылогія становіцца завяршэннем раманнай спадчыны Мілаша Вацлава Кратахвіла. У раманах «Еўропа кружылася ў вальсе» і «Еўропа ў акопах» ён панаватарску падыходзіць да падачы матэрыялу, выкарыстоўвае паліфанічнасць у сістэме вобразаў і іх іерархічнай арганізацыі. У наратыўнай плыні твора чэшскі пісьменнік спалучае шматлікія дакументы і аўтарскі аповед. Галоўнымі тэмамі раманаў становяцца тэма вайны, жыцця і смерці, адыходу старога светапарадку, а таксама руская тэма.

## Спіс літаратуры:

1. Hrabák, J. Miloš V. Kratachvíl / J. Hrabák. — Praha: ČS, 1979. — 219 s.

2. Slovník české literatury 1970—1981. — Praha: ČS, 1985. — 504 s.

3. Кратохвил, М. В. Европа кружилась в вальсе; пер. с чеш. И. Инова / М. В. Кратохвил [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://royallib.com/read/milosh_kratohvil/evropa_krugilas_v_valse_perviy_roman.html#0. — Дата доступа: 15.03.2017.

4. Кратохвил, М. В. Европа в окопах; пер. с чеш. О. Малевича / М. В. Кратохвил. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://royallib.com/read/milosh_kratohvil/evropa_v_okopah_vtoroy_roman.html#0. — Дата доступа: 15.03.2017.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 10 красавіка 2017 года.

**Рэзюмэ**

**Алена ВОСТРЫКАВА**

**Поліфанічная дылогія пра Першую сусветную вайну: раманы М. В. Кратахвіла «Еўропа кружылася ў вальсе» і «Еўропа ў акопах»**

УДК 821.162.3

Дылогія становіцца завяршэннем раманнай спадчыны Мілаша Вацлава Кратахвіла. У раманах «Еўропа кружылася ў вальсе» і «Еўропа ў акопах» ён панаватарску падыходзіць да падачы матэрыялу, выкарыстоўваючы поліфанічнасць у сістэме вобразаў і іх іерархічнай арганізацыі. У наратыўнай плыні твора чэшскі пісьменнік спалучае шматлікія дакументы і аўтарскі аповед. Галоўнымі тэмамі раманаў становяцца тэма вайны, жыцця і смерці, адыходу старога светапарадку, руская тэма.

**Ключавыя словы**: М. В. Кратахвіл, чэшскі гістарычны раман, дылогія пра Першую сусветную вайну, наватарства, сінтэз аўтарскага аповеду і розных дакументаў, поліфанія, тэма вайны, жыцця і смерці, адыходу старога светаўладкавання, руская тэма.

**Summary**

**Alena VOSTRYKAVA**

**Polyphonic Dilogy about the First World War: novels of Milash Vaclav Kratokhvil «Europe was spinning in a waltz» and «Europe in trenches»**

Dilology was the completion of the novelistic work of the Czech writer M. V. Kratochvil. In it, he is innovative in approaching the presentation of the material. Uses polyphony in the image system and their hierarchical organization. The author combines numerous documentary materials and author's narrative. The main themes of the novels are the theme of war, life and death, the death of the old world, the Russian theme.

**Key words:** M. V. Kratokhvil, Czech historical novel, Dilology about the First World War, innovation, syntech of author's narrative and various documents, polyphonic, the theme of war, life and death, the death of the old world, the Russian theme.



Анжэла МЕЛЬНІКАВА

# ПАТЭНЦЫЯЛ КЛАСІЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

***Вабішчэвіч, Т. І.*** *Станаўленне нацыянальнай паэтычнай традыцыі (1900—1910-я гг.): фактары, механізмы, этапы / Т. І. Вабішчэвіч. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — 254 с.*

2017-ы — шчодры на юбілеі: 135-годдзе Янкі Купалы і Якуба Коласа, 130-годдзе Алеся Гаруна, 100-я ўгодкі смерці М. Багдановіча. Падобныя даты — нагода для пераасэнсавання спадчыны паэтаў, запатрабаванасці класікі ўвогуле. Як вядома, статус класічных, агульнапрызнаных нацыянальнай супольнасцю маюць тыя творы прыгожага пісьменства, з якімі звязаны кардынальны прарыў у мастацкай свядомасці, асэнсоўванне істотных для нацыі і літаратуры праблем. Творы пісьменнікаў-класікаў заўжды актуальная для нацыянальнай культуры, кожнае наступнае пакаленне звяртаецца да іх у пошуках адказу на важнейшыя пытанні часу.

Больш за два дзесяцігоддзі ў беларускай інтэлектуальнай прасторы актыўна абмяркоўваюцца праблемы шляхоў развіцця беларускай літаратуры, яе месца і ролі ў еўрапейскай культуры. Раз-пораз разгараюцца цікавыя дыскусіі на гэты конт.

Відавочныя паралелі паміж сітуацыяй развіцця мастацкага слова пачатку XX і XXI стагоддзяў. Пачатак XX стагоддзя — час актыўнага нацыянальнага самаўсведамлення, культурнага будаўніцтва, канцэптуалізацыі нацыянальнага. З канца 1980-х гадоў вядзецца адлік чарговаму беларускаму адраджэнню. Як і сто год таму літаратуразнаўцы і крытыкі разважаюць пра тактыку і стратэгію развіцця літаратуры, захаванне яе як актуальнага культурнага феномена, павышэнне яе сацыяльнай значнасці. Сёння змяняюцца як мастацкія практыкі, так і каналы распаўсюджвання мастацкіх твораў. Пачатак XX стагоддзя — з'яўленне беларускамоўнай перыёдыкі, што істотна змяніла літаратурны ландшафт, наш час — час інфармацыйных тэхналогій, калі адбываецца істотная трансфармацыя характару сацыякультурных камунікацый.

Цікавым і прадметным уяўляецца асэнсаванне вопыту папярэднікаў, асэнсаванне таго, як і якім чынам беларуская літаратура, літаратурна-крытычная думка пачатку XX стагоддзя рэагавала на выклікі часу, якім чынам адбыўся кардынальны прарыў у развіцці літаратуры. У гэтым кантэксце хацелася б звярнуцца да манаграфіі Таццяны Вабішчэвіч «Станаўленне нацыянальнай паэтычнай традыцыі» (2009), якая якраз і прысвечана даследаванню знакавага, ключавога ў развіцці беларускай літаратуры перыяду — пачатку XX стагоддзя, часу, калі адбываецца станаўленне нацыянальнай традыцыі, засвойваюцца еўрапейскія мастацкія практыкі, выпрацоўваецца стратэгія развіцця літаратуры на будучае.

Нягледзячы на даволі прадстаўнічы корпус навуковых тэкстаў, дзе грунтоўна, на высокім тэарэтычным узроўні асэнсоўваецца гэты этап развіцця нацыянальнай паэзіі (работы У. Гніламёдава, В. Рагойшы, В. Каваленкі, І. Багдановіч,

В. Максімовіча, Т. Чабан, А. Каўкі, А. Лойкі, І. Штэйнера А. Яскевіча і інш.), Т. Вабішчэвіч акрэслівае новыя ракурсы даследавання, абумоўленыя і прадыктаваныя сённяшнім часам, звяртаецца да новых метадалагічных стратэгій.

У цэнтры ўвагі — асноўныя для ўсведамлення спецыфікі станаўлення, развіцця і функцыянавання беларускай літаратуры пытанні: «Якім чынам, насуперак чаму, з якіх крыніц і якіх элементаў, дзякуючы якім механізмам фарміравалася паўната, мадэрная шматмернасць, мастацка-прафесійная дасканаласць і самабытнасць нацыянальнай класікі» (с. 14).

Работа ўяўляе бясспрэчную навуковую вартасць і з той прычыны, што сваім пафасам яна звернута і да праблем сучаснасці. Аўтар праводзіць слушныя паралелі паміж сітуацыяй пачатку XX і XXI стагоддзяў: «Тыя цяжкасці, якія паўставалі перад паэтамі-«нашаніўцамі» ў канкрэтна-гістарычных умовах пачатку XX ст., прымушаючы нацыянальных аўтараў абіраць тыя ці іншыя стратэгіі літаратуратварэння, сёння рэхам адгукаюцца ў мастацкіх задачах, якія імкнуцца вырашыць прадстаўнікі маладой беларускай генерацыі» (с. 6).

У манаграфіі вядзецца гаворка пра такія важныя праблемы, як «эстэтычны і духоўны патэнцыял класічнай спадчыны», «перагляд навуковых уяўленняў пра нацыянальны літаратурны канон», «вызначэнне перспектыўных кірункаў далейшага мастацкага развіцця», станаўленне беларускай нацыянальнай ідэі, нацыянальнай ідэнтычнасці.

Відавочна, што зварот да твораў класікі заўсёды актуальны таму, што пастаянна існуе неабходнасць у пераасэнсаванні набыткаў выпрабаванай часам мастацкай спадчыны праз прызму тых надзённых праблем, якія ставіць пэўная культурна-гістарычная сітуацыя. В. Жураўлёў у свой час слушна адзначыў, што творы класікаў выступаюць важнейшым крытэрыем «у вызначэнні сапраўдных і ўяўных маральна-этычных і эстэтычных каштоўнасцей і вельмі дзейснай, аўтарытэтнай, пабуджальнай і рэгулятыўнай сілай у наладжванні дыялогу паміж мастацкім набыткам мінулага і наватарскім рухам бягучай сучаснасці».

У першым раздзеле манаграфіі ў сацыялагічным і рэцэптыўна-эстэтычным аспекце разглядаецца функцыянальны аспект гісторыі літаратуры, праблема ўзаемаадносін «літаратура — грамадства», «аўтар — твор — чытач», адна з ключавых пры асэнсаванні развіцця літаратуры, якая ў нас пакуль даследавана слаба. Т. Вабішчэвіч адзначае: «Менавіта пачатак XX ст. азнаменаваны звышістотнай для нацыянальнай літаратуры падзеяй — «нараджэннем» чытача». Аўтар прыводзіць шматлікія важныя дакументальныя сведчанні сацыяльнай запатрабаванасці твораў на беларускай мове ў пачатку XX стагоддзя, піша пра рэалізацыю задачы выхавання з сялянства, якое выступала ў той час асноўным носьбітам этнакультурнага кода, «высокаадукаваных носьбітаў нацыянальнай мовы і культуры, здольных забяспечыць паўнавартаснае функцыянаванне беларускай мадэрнай нацыі» (с. 22).

Таццяна Вабішчэвіч падкрэслівае ўнікальнасць тагачаснай культурнай сітуацыі ў Беларусі, піша пра «своеасаблівы сацыяльны выклік паэтычнаму слову», які заключаўся ў з'яўленні «высокай» літаратуры пры «наяўнасці нацыянальнага «нізавога» ці «сярэдняга» чытача і амаль поўнай адсутнасці чытача «элітнага», высокаадукаванага. У гэтым кантэксце прыклад найноўшай беларускай паэзіі досыць рэдкі для гісторыі сусветнага вербальнага мастацтва» (с. 24).

У другім раздзеле часткі першай манаграфіі аўтар разглядае «мастацтва-insitus (творы непрафесійных мастакоў. — *А. М.*) як субстрат класічнай паэзіі» і робіць падагульненне, што «адна толькі простасць не магла забяспечыць паўнаты беларускай літаратуры як з'явы мадэрнай: каб дасягнуць прафесійнай сталасці, не затрымацца на ўзроўні наіву, патрабавалася прайсці праз этап складанасці» (с. 81).

У першым раздзеле другой часткі манаграфіі «Сяргей Палуян — канструктыўны крытык традыцыі» асэнсоўваецца плён літаратуразнаўчай дзейнасці адна-

го з самых знакавых літаратараў пачатку XX стагоддзя. Т. Вабішчэвіч зазначае, што роля С. Палуяна заключаецца ў акрэсліванні перспектыўных задач беларускага руху — імкненні да стварэння «высокай» культуры. Менавіта з дзейнасцю С. Палуяна звязаны, па словах аўтара, «мадэрны пералом» у беларускім мысленні: «Арыентацыя на «высокую» культуру цывілізаванай нацыі і мадэрны ўзровень эстэтычнага мыслення (з уласцівымі яму псіхалагізмам, увагай да экзістэнцыйных перажыванняў асобы, інтэлектуальнай ускладненасцю зместу) выразна прасочваецца ў палуянаўскіх рэцэнзійных артыкулах» (с. 90).

З'яўленне М. Багдановіча ў беларускай літаратуры ацэньваецца Т. Вабішчэвіч як «культурная рэвалюцыя» (с. 118). Яго роля, па сцверджанні даследчыцы, заключаецца ў замацаванні ў беларускай паэзіі «новай для «нашаніўства» ўніверсальна-эстэтычнай, сацыяльна нейтральнай мадэлі мастацкай усёахопнасці, заснаванай на «высокай» прафесійнай паэтыцы ва ўсёй яе разнастайнасці і складанасці» (с. 115). Такім чынам, С. Палуян і М. Багдановіч накіравалі беларускае паэтычнае слова на «ўніверсальна-эстэтычную мадэль літаратурнага развіцця» (с.117).

Таццяна Вабішчэвіч робіць сур'ёзны ўнёсак у даследаванне спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, абраўшы ў якасці вывучэння «мадэрнізацыйную тэндэнцыю» ў творчасці паэтаў, адыход ад «простасці», «вясковасці», «правінцыйнасці» да «высокай» класічнай універсальнасці. Што забяспечвала перспектывы развіцця нацыянальнага мастацкага слова, уводзіла яго ў еўрапейскі кантэкст.

Надзвычай слушнымі падаюцца наступныя высновы адносна плёну здзейсненага М. Багдановічам: «Асновай Багдановічавай літаратурна-мадэрнізацыйнай праграмы можна лічыць канцэпцыю еўрапеізацыі нацыянальнага мастацкага слова» (с. 148), «атрыманне нацыянальным пісьменствам статусу паўнамоцнага суб'екта агульнаеўрапейскага мастацка-інтэлектуальнага працэсу» (с. 145).

Як вядома, М. Багдановічу належыць шэраг публіцыстычных, літаратурнакрытычных артыкулаў, рэцэнзій, дзе выкладзены погляды аўтара на спецыфіку беларускай культуры («На белорусские темы», «Белорусское возрождение», «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця», «За сто лет», «Новый период в истории белорусской литературы», «За тры гады», «Сталецце руху беларускага народа», «О гуманизме и неосмотрительности», «Хто мы такія?», «Аб веры нашых прашчураў», «Голос из Белоруссии»).

Цывілізацыйны код Беларусі акрэсліваецца М. Багдановічам як еўрапейскі, а нацыянальае адраджэнне пачатку XX стагоддзя бачыцца паэту вынікам «агульнаеўрапейскага прагрэсу» («Белорусы», «Белорусское возрождение»). Т. Вабішчэвіч слушна падкрэсліла: «Еўрапеізацыя-самабытнасць, паўнагучна артыкуляваная як мастацкая праблема ў праграмнай дзейнасці М. Багдановіча, звязала ў адзін вузел усе найбольш значныя пытанні фенаменалізацыі нацыянальнага паэтычнага слова» (с. 166—167).

Такім чынам, устаноўка на апрабацыю еўрапейскага мастацкага вопыту нашымі літаратарамі — свядомая, мэтанакіраваная. Яна была абумоўлена не толькі патрэбамі літаратурнага развіцця, але і грамадскімі. Беларускія пісьменнікі ўсведамлялі, што літаратура — адзін з найважнейшых фактараў духоўнага самавыяўлення нацыі, таму першараднай задачай нацыянальнага прыгожага пісьменства лічылі пераадоленне правінцыйнасці, маргінальнасці, этнаграфізму і бытавізму, далучэнне да буйных заходніх літаратур.

Нашы пісьменнікі адчувалі вострую патрэбу ў філасофскім, эстэтычным, мастацкім паглыбленні беларускай літаратуры. Паказальна, што першымі пра неабходнасць выхаду пісьменства на сусветную арэну загаварылі менавіта дзеячы нацыянальна-адраджэнскага руху М. Багдановіч («За тры гады», 1913) і В. Ластоўскі («Па свайму шляху», 1914), што звязана з імкненнем сцвердзіць паўнавартаснасць нацыянальнай літаратуры.

Пошук новых мастацкіх практык, мадэрнісцкія тэндэнцыі ў літаратуры гэтага часу — праяўленне тэндэнцыі да аўтанамізацыі, згодна з П. Бурдзьё, імкненне сцвердзіць Беларусь як паўнавартасны суб’ект гісторыі, чыннік еўрапейскага прагрэсу.

Беларускія пісьменнікі выступілі творцамі еўрапейскіх стратэгій. У межах «арыентацыі на Еўропу» адбывалася абнаўленне жанравых, стылёвых форм, актуалізацыя перш за ўсё эстэтычных каштоўнасцей.

Абапіраючыся на літаратурна-крытычную спадчыну паэта, Т. Вабішчэвіч падрабязна прасочвае выпрацоўку ідэйна-эстэтычнай праграмы М. Багдановіча. Даследчыца адзначае адпаведнасць творчасці беларускага аўтара тагачаснаму еўрапейскаму мысленню, «кантэксту мадэрнай эпохі». Нацыянальнае ўспрымалася М. Багдановічам як сусветна значнае. Вядома, што зыходным прынцыпам параўнальнага літаратуразнаўства якраз і з’яўляецца канцэпцыя цэласнасці літаратуры, прызнанне існавання «агульназначных асаблівасцей еўрапейскага мастацкага мыслення», якое «ў кожнай з краін праяўляе сябе па-свойму, і, акрамя таго, у кожнай з краін ёсць свае ўласныя цэнтры прыцягнення, свае ўласныя выдатныя мастакі, што адхіляюцца ад агульнага шляху і вызначаюць адрозненне адной нацыянальнай традыцыі ад другой» (Р. Уэллэк, О. Уоррэн).

Можна ўзгадаць словы М. Тычыны: «У гісторыі беларускай літаратуры не было перыядаў, калі б яна развівалася па-за сусветным кантэкстам». Важнае значэнне адыгрывае тут і геаграфічнае становішча нашай краіны.

Таццяна Вабішчэвіч падкрэслівае, што «М. Багдановіч разглядае еўрапеізацыю беларускага паэтычнага слова як аднаўленне ранейшага — нармальнага, «здаровага» — рэчышча мастацкага развіцця. Для паэта гістарычная еўрапейскасць беларускай культуры не падлягае сумневу. Шлях, які прапануе М. Багадновіч, — гэта «вяртанне ў Еўропу», «адраджэнне, рэанімацыя гвалтоўна перарванай еўрапейскасці беларускай культуры» (с. 151).

Багдановічаву еўрапеізацыю беларускай літаратуры Т. Вабішчэвіч называе «эстэтычным запаветам» паэта (с. 149). Даследчыца акцэнтуе ўвагу на такім важным аспекце здзейсненага паэтам, як стварэнне тэарэтыка-аналітычнага фундаменту нацыянальнай паэтычнай традыцыі» (с. 165).

У кнізе выкарыстаны значны, прадстаўнічы аб’ём навуковай літаратуры, што сведчыць пра глыбіню арыентацыі аўтара ў праблеме. Тут работы даследчыкаў мадэрнага, ідэнтычнасці, працы літаратуразнаўцаў. У манаграфіі Т. Вабішчэвіч на высокім навуковым узроўні разглядаюцца актуальныя і ключавыя для айчыннага літаратуразнаўства пытанні, у новым ракурсе даследуецца творчасць пісьменнікаў-класікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Сяргея Палуяна, Алеся Гаруна.



**Васіль СТАРЫЧОНАК**

# «І Ў ТОН АДЗІН З ЗЯМЛЁЮ Я ПЯЮ...» (метафарычная парадыгма ў мастацкім дыскурсе Якуба Коласа)

Творчасць Якуба Коласа — гэта дзівосны, багаты і непаўторны свет, у якім месціцца родная зямля, народ, яго жыццё і гісторыя. Разнастайная спадчына песняра ўвасобіла хараство народнай фантазіі, глыбіню, мудрасць, узвышанасць мар, імкненняў і спадзяванняў чалавека. У гістарычна праўдзівым і панарамным паказе жыцця беларускага народа выявіўся яскравы і непаўторны талент пісьменніка, яго ўменне знайсці неабходныя словы для выражэння самых разнастайных праяў жыцця чалавека.

Асаблівасць мастацкіх тэкстаў Якуба Коласа ў шырокім выкарыстанні вобразна-выяўленчых сродкаў, якія выступаюць у якасці асноўнага канструктыўнага прыёму, дамінанты ідыястылю наогул. Сярод такіх сродкаў вядучае месца займае метафара, якая выкарыстоўваецца з мэтай дасягнення пэўнага эстэтычнага ўздзеяння, стварэння мастацкага вобраза, выражэння сваіх меркаванняў, пачуццяў, каштоўнасных ацэнак. Метафарычная парадыгма ў мастацкім дыскурсе Якуба Коласа — гэта парадыгма розуму, працяг радыуса дзеяння думак і меркаванняў, абавязковы кампанент аўтарскай мадэлі свету. У такую даволі разгалінаваную парадыгму ўключаюцца розныя структурныя тыпы метафар, разнастайныя па сэнсавым і тэматычным напаўненні, канататыўных прыметах, напрамках метафарычнага працэсу, сістэмных сувязях з першаснымі значэннямі.

У дыскурсе Якуба Коласа дамінуючую ролю выконваюць філасофска-экзістэнцыяльныя найменні, скіраваныя да роздуму чалавека пра час і сябе, свой жыццёвы шлях, месца і ролю чалавека ў грамадстве і Сусвеце. Разважаннямі аб хуткаплыннасці чалавечага жыцця — маленькім звяне ў бясконцым ланцугу — напоўнены многія маналогі Лабановіча: *«Колькім людскім пакаленням свяцілі гэтыя зоркі! Людскія пакаленні даўно сышлі з твару зямлі, і вецер даўно парасдзімаў іх магілы і разнёс па свеце прах касцей іх, а яны, спакойныя зорачкі, кожную ясную ночку будуць свяціць сваім немяцежным бляскам, неўспагадныя на ўсе мітусенні і трывогі ўсхваляванай душы чалавека. А мы перабудзем свой век, колькі нам прызначана, гэты страшэнна кароткі міг, малюпасенечкае звенца ў бясконцым ланцугу жыцця, і ніякага следу не захаваюць па нас бязлітасныя часы. І ці варта так прырастаць да гэтага жыцця, да гэтага нязначнага моманту ў ходзе часаў?».* Тое, што чалавечае жыццё — часцінка пылу, пылінка, — вядома і герою «Новай зямлі»: *Міхал пачуў, што ён — пылінка, А век людскі — адна хвілінка.*

Жыццё чалавека часцей за ўсё параўноўваецца з дарогай. Дарога — гэта старажытны вобраз-сімвал, прасторава-часавая метафара, якая шырока выкарыстоўваецца ў фальклоры, царкоўнай кніжнасці, шматлікіх творах мастацкай літаратуры. Матыў дарогі, які прысутнічае ў калектыўнай нацыянальнай свядомасці, сімвалізуе такія працэсы, як рух, пошук, перамены, няспыннасць, бясконцасць, адкрыццё новых гарызонтаў: *Нам дарогі ўсе адкрыты, Наш прастор бясконцы; Зноў пайшла раўней мая дарога, зноў вачам адкрываюцца новыя абразы свету, іншыя галасы чуе маё вуха, іншыя думкі родзяцца ў маім сэрцы.* З дарогай таксама звязана ўзнёсла-трывожнае ўсведамленне невядомасці шляху, яго непрадказаль-

ных змен, абмежаванасці і кароткасці чалавечага жыцця: *І куды ты нясеш мяне, няведамая дарога?; Будзе ж такі момант, калі я ступлю на парог свайго дома, і скончыцца мая дарога. «Таксама будзе, — разважаў Лабановіч, — такі момант, калі я ступлю апошні крок майго жыцця, апошні момант, а там — смерць, там — канец!.. А далей што? Далей — цёмная і жудасная ноч нябыту».*

У сукупнасць паняццяў, вобразаў, сімвалаў, звязаных з ідэяй шляху, уключаюцца і другасныя ЛСВ полісемантаў *каляіна, цаліна, бездарожжа: Панёс ён людзям песень дар — Агонь душы і сэрца жар, Панёс пяснярскай* ***каляінай****; А таму, пакуль ты яшчэ вольны, пакуль служаць ногі, ідзі! Ідзі ўперад па* ***бездарожжы****, па* ***цаліне****, пракладвай новы след.*

Філасофскае гучанне матыву дарогі спрыяе раскрыццю ідэйнага зместу твора, часам выступае ў якасці кампазіцыйнага прыёму ўсяго твора. Так, ростані для галоўнага героя трылогіі «На ростанях» Лабановіча — гэта роздум аб сваім жыцці, пошукі шляхоў да лепшай долі, змена месца жыхарства і адлучэнне ад людзей, якіх ён зведаў і ацаніў, перагляд прывычнага ладу жыцця, праверка сябе. У імя высакароднага служэння народу герой нязменна шукае верную, правільную дарогу. Дзе ж яна, гэтая дарога? Пакуль што малады настаўнік не ведае. Ён не толькі ўпэўнены, што яна ёсць: *«Шмат на гэтай дарозе ям і калдобін, розных патырчак і злыдняў. Але калі ты чэсны і свядомы чалавек і перад табою паўстаюць цяжкасці, уразумей іх сваім розумам і адчуй сэрцам, не бойся, не адступайся ад праўды і ніколі, ні пры якіх умовах, не пагаджайся з тымі, хто зневажае народ, чыніць здзекі. Не паддавайся ні на якія спакусы і абяцанні, накіраваныя на крыўду народа».* На сваёй жыццёвай дарозе, насычанай падарожжамі, пераездамі, пошукамі шчасця, Лабановіч трапляе ў розныя сітуацыі, сустракаецца з рознымі людзьмі, у адносінах з якімі выяўляе маральную высакароднасць.

Стэрэатып дарогі часта выкарыстоўваецца ў паэме «Новая зямля», героі якой зведалі пошукі-падарожжы, пераезды, блуканні і быццам бы ўвесь час знаходзяцца ў напружаным чаканні новай дарогі:

Дарогі, вечныя дарогі!
Знаць, вам спрадвеку самі богі.
Калі красёнцы жыцця ткалі,
І вашы лёсы вызначалі,
Няма канца вам, ні супыну;
Вы жывы кожную часіну.

Дарогі ў паэме адухаўляюцца і атаясамліваюцца з унутраным станам чалавека: яны могуць быць задуменнымі, смутнымі, строгімі, трывожнымі, маўклівымі, поўнымі чараў спадзявання і страхамі цёмнага знікання… Дарога — гэта няспынны і бясконцы рух наперад, цярністы шлях пакут і блуканняў, пошукі будучыні.

Матыў жыццёвага шляху чалавека, яго планіды, умоў яго пражывання і жыццядзейнасці рэпрэзентуецца і іншымі сродкамі. У даволі шырокім кантынууме экзістэнцыі чалавека вылучаюцца дзве супрацьлеглыя групы. У першай прадстаўлены другасныя намінацыі, у якіх актуалізуецца цяжкасць, суровасць, безвыходнасць жыцця чалавека, у другой — намінацыі з указаннямі на прыгажосць, веліч жыцця, яго моц, сілу, нязломнасць.

Цяжкі лёс, які выпаў на долю чалавека, у дыскурсе Якуба Коласа атрымаў вербальнае выражэнне ў словах *крыж, хлеб, астрог, холад, ноч, непагода, безгалоўе*: *Не жыву, а гнію, Прападаю, як мыш... Глянь на долю маю, Глянь на цяжкі мой* ***крыж****; Ох, дачушка,* ***хлеб*** *твой горкі, горка твая доля!; Маё жыццё —* ***астрог****; Марнелі нашы гоні У* ***холадзе*** *жыццёвых* ***непагод****; Жыццё наша —* ***ноч*** *і* ***цьма****; Жывём сяктак, і можна б жыць, калі б не тое* ***безгалоўе****, што над табой, як ноч, вісіць.*

У сэнсавых структурах полісемантаў *ціск, бізун, ярмо, ковы, путы* ўвага акцэнтуецца на прымусе, няволі, насіллі: *Сотні гадоў жылі мы пад панскім* ***ціскам****; Лад тут ладзіў* ***бізун****; Бо што жыццё без жаднай мэты? Прыйдзі ж*

*ты, міру пасланец! Прыйдзі, знімі **ярмо** тамлення, З народа крыж пакут знімі*; *Дакуль жа быць у цёмных **ковах** І вечны страх з сабой насіць?; Вы ішлі наперад віхрам-бураломам, Разбівалі **ковы**, векавыя **путы***.

Прадказальнымі з'яўляюцца другасныя ЛСВ у назоўнікаў *цемната, гразь, плесня, яма,* якія ўказваюць на невуцтва, адсталасць, заняпад, амаральнасць, цяжкасці жыцця: *Цяжка жыць у **цемнаце**, У знявазе чорнай, здзеку; Не будзе сэнсу з цябе хлопча: У **гразь** жыццё цябе затопча; Ён не бачыць **плесні** заскарузлага ў сваёй старадаўнасці вясковага жыцця; Ці ж толькі свету, што ў ваконцы? Або так міла тут бясконца? І там мы будзем жыць таксама, Няма ўжо горшай, як тут, **яма***.

Блізкімі да гэтых субстантываў па іх сэнсавым напаўненні з'яўляюцца другасныя ЛСВ полісемантаў *цяжар*, *імжа, палын, ком, навала, фуз,* якія характарызуюць псіхалагічны стан чалавека, яго дрэнны настрой, смутак, трывогу, горкае пачуццё ад крыўды, няўдачы і інш.: *На сэрца кладзецца Дум горкіх **цяжар;** Прымі ж ты падзяку за ўсе твае дары: За ціхія думы, за ясныя мары, Што ты навяваў мне ў імшыстым гушчары, Зганяючы з сэрца **імжу**; О, сэрца звадлівыя згукі! Вас жывіць сокамі **палын**; Прыезд паноў іх непакоіць І сее ў сэрцы **ком** трывогі; Па тону пытанняў ён пачуў, што на яго насоўваецца нейкая **навала***; *Трэба абавязкова паехаць да сябра і крыху праветрыцца і скінуць той **фуз**, які патрошку пачынае ўжо набірацца.* Сюды ж уключаюцца найменні са значэннем бурнага, выяўлення ўнутранага стану, уздыму, душэўнага хваляванне, яркіх пачуццяў, страсцей (*кіпенне, бурленне, разліў, маланка, бліскавіца, гром): Юнацтву ўласціва **кіпенне, бурленне**; **Разлівамі тугі** Звінеў наш сум на гуслях-самаграях*; *Жахнула **маланка** Нясцерпнага **гневу***; *Гурт людзей ішоў спакойна, як далёкая хмара, ды ў гэтым спакоі хаваліся **бліскавіцы і громы** затрыманага **гневу***.

У другой групе прадстаўлены намінацыі, другасныя ЛСВ якіх лёгка выводзяцца з семантыкі першасных ЛСВ назоўнікаў *ранак, раніца, вясна, паэма, прастора* з указаннямі на лепшае, свабоднае жыццё, яго прыгажосць і веліч: *Надыдзе светлы, сонечны **ранак** свабоды*; *Жыцця светлага ты **раніца**; Ужо глядзіць к нам на палеткі Жыцця новага **вясна**; Нашы дні — **паэмы** былі, Сказ нідзе нячуты*; *Дзяцінства ясных мар Прывабны **скарб** і дар*; *«А дзе ж такія шырокія **прасторы** жыцця?» — запытала Аленка.*

Разнастайныя выявы жыцця чалавека ў коласаўскім дыскурсе параўноўваюцца з кроснамі і ўсім тым, што звязана з працэсам ткацтва. Ва ўступе да паэмы «Сымон-музыка» раскрываецца матыў сатканага з нітак жыцця, якое злучае быццё і небыццё:

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,
Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і выткана жыццё
І злучана быццё і небыццё, —
Збіраўся скарб, струменіўся няспынна,
Вясёлкавым ірдзеннем мне спяваў,
І выхаду шукаў
Адбітак родных з'яў
У словах-вобразах, у песнях вольнаплынных.

Вобраз ткання, які ўвасабляе ідэю стварэння свету і жыцця, лічыцца адным з дагістарычных сімвалаў. Фрэйм «Тканне» ў творах Якуба Коласа аб'ядноўвае розныя лексічныя адзінкі, звязаныя з кроснамі і яго дэталямі, шматлікімі працэсамі ткання, матэрыяламі для ткацтва і тканымі вырабамі (кросны, чаўнок, паставы, воўна, нітка, ніць, клубок, кудзеля, кужаль, пража, пасма, вэлюм, настольнік, палатно, ручнік, ткаць, снаваць і інш.). З ткацтвам асацыіруецца і «праца» вядомага мастака зімняга пейзажу — марозу:

*Эх, мароз, мароз траскучы!*
*Шклечкі краскамі ты ўбраў,*
*Толькі ж холад твой пякучы*
*Краскі ў полі ўсе пабраў.*
*Тчэш красёнцы ты прыўдала;*
*Лёд — аснова і вуток,*
*Снег — і цэўкі, і сукала.*
*Іней — зоры — твой чаўнок.*
*Для чаго ж у зімні холад*
*Ты красёнцы лета тчэш*
*І пад свой хлодны молат*
*Сэрца жар мой ты кладзеш?*

Метафарычныя найменні ткацтва выкарыстоўваюцца ў малюнку апісання надыходу восені. Дзякуючы прыёму адухаўлення восені надаюцца рысы жывой істоты. Таму восень, як і чалавек, займаецца цяжкай і марудлівай працай ткацтва і пры гэтым можа клыгаць, ныць, прасці, пець песні, слаць абрусы…

Восень **ткала** ўжо красёнцы
Мяккай чырвані ў лістах,
Восень **спеў вяла** бясконцы,
З ветрам ходзячы ў кустах;
Восень **прала кужаль** тонкі —
Павуціння белы лён;
Восень шэрыя заслонкі
**Моўчкі клала** на адхон.
Восень шла ў сырым тумане
Восень **клыгала** ўгары,
Восень **пела песні** зрана,
Восень **ныла** ўвечары;
Восень **слала** дзень свой хмурны…

Метафары ткацтва *кудзеля, воўна, вэлюм, красёнцы, чаўнок* удала выкарыстоўваюцца аўтарам пры апісанні часавых вымярэнняў: вечара, раніцы, ночы, надыходу дня: *А ноч косы расплятае, Мрок вылазіць з-за кустоў І на ліпы **воўну** сцеле, Іх мяняючы абрыс — Нібы з прасніцы **кудзеля**, Голькі спушчаны наніз; І ноч незаметна, Бы ўдоўка ўсясветна, У **вэлюм** адзелася шэры; Зоркі ў небе — неба вочкі, Месячык — вартаўнічок, Хмаркі — ветравы **сарочкі**, Неба шыр — **пастаўнічок**, Дзе ноч-цьма снуе **красёнцы**, Дзе **чаўночак** ладзіць сонца, Каб усплыў на іх дзянёк; Прыглушаны гоман у **воўне** тумана, Дзе купал хавае Ісакій».* Вечар — добрая нагода для сустрэч сяброў, каханых, ён спрыяе ўсталяванню добрых адносін, нараджэнню («тканню») шчаслівага пачуцця кахання: *А вечар чуткі, гутарлівы Разносіць гоман, смех шчаслівы І ў сэрцы паліць парыванні І тчэ красёначкі кахання.*

Назоўнікі *ніць, нітка* з першасным значэннем ‘тонкая ссуканая пража’ ў дыскурсе Коласа ўжываюцца ў метафарычных варыянтах ‘тое, што выцягнулася ў выглядзе простай лініі’, ‘тое, што злучае адно з адным, служыць для сувязі’, ‘тое, што яднае душы герояў твораў’: *Ён глядзіць, як бы чаруе, Ён шукае тую ніць, Каб заслону цемраную Ёй адсунуць, адсланіць; Спрала зорачка кудзелю, Зладзіў месячык красёнцы, А дзянёк саткаў на сонцы З нітак красачку лілею; А дарога у пяць нітак Павіваецца, бяжыць; Гэй, дарогі, ніці-кросны, Тканкі кола І зямлі!*

Найменні ткацтва — неад’емная частка многіх пейзажных замалёвак: *А настольнік — пласт імшысты, Ды прыгожы, ды іскрысты, З густам вытканы і чысты. Тыя ніткі зямля прала, Тую пражу сонца ткала; Вось з-за лесу ўстала сонца. Рассыпае каснікі, Рассыпае ручнікі...*

Адметнай рысай почырку Якуба Коласа з’яўляецца арганічнае ўпляценне ў канву твораў шматлікіх пейзажных апісанняў. Пісьменнік адухаўляе і ачалавечвае

з'явы прыроды. Чытаючы радкі, можна яскрава ўявіць елку «ў пары з хваіною, абняўшысь цесна над вадою, як маладыя ў час кахання, у апошні вечар расставання», «крынічкі вузенькае ложа», усход сонца, летнюю раніцу, у чырвань апрануты лес, ніці белай павуцінкі, белыя кілімы зімы… Захапленне бязмежнасцю прыроднай стыхіі, яе магутнасцю і веліччу часам набывае глыбокі філасофскі роздум. Аўтар параўноўвае жыццё чалавека і жыццё прыроды, паказвае іх цесную сувязь і роднаснасць. «Прырода... з людзьмі жыве супольна, згодна», — падкрэслівае паэт. Дынаміка прыродных з'яў, іх пастаянны рух і зменлівасць часцей за ўсё перадаецца дзеяслоўнымі метафарамі. Так, вецер *«гуляе над купчастымі макушамі палескіх пушчаў», «апявае славу пахаваных у курганах-магілах ды складае людзям песні аб сейбітах буры і змагання», «высмоктва апошнія сокі з зямлі, «страшная бура завывае над цёмнаю пушчай»,* рака *«няветла пахмурнее, задрыжыць, затрасецца тысячамі хваль і сярдзіта шпурляе чаўны ... ды голасна ўсхліпвае ў прыбярэжных чаратах», «снег пад палазамі рыпіць, стогне і плача сялянскім плачам».* У коласаўскіх кантэкстах можна пачуць шэпты чаротаў, смех ручайка, смех і рыданне лесу, гамонку зор, гоман хвалі з хваляй, песню завірухі, голас вясны, стогн зямлі, аднатонныя песні восені, шэпт і ўсмешку сонца... У творах Коласа прырода набывае характар асаблівага персанажа, які ўспрымаецца як вялікая і таямнічая кніга быцця, непарыўна звязаная з жыццём чалавека.

Значанае месца ў творчасці Якуба Коласа займаюць алегарычныя апавяданні «Казкі жыцця», якія называюць кнігай жыцця. Яны пашырылі ідэйна-тэматычныя і жанравыя межы беларускай прозы, бо скандэнсавалі ў сабе алегарычнасць і філасофскую мудрасць прытчаў, павучальнасць баек, фантастычнасць казак, вобразнасць фальклорных твораў. Апавяданні пранізаны мяккім лірызмам, задумёнасцю, казачнай загадкавасцю, мудрасцю, роздумам аб чалавеку і яго жыццёвым прызначэнні, сэнсе чалавечага існавання. У іх пісьменнік імкнецца абагульніць разнастайныя жыццёвыя з'явы, раскрыць складанасці навакольнага свету, паказаць адзінства чалавека і прыроды («Адзінокае дрэва», «Вадаспад», «На чужым грунце», «Камень», «Хмарка», «Тры браты», «Жывая вада»). У казках жывёлы і птушкі размаўляюць чалавечым голасам, дрэвы перамяшчаюцца ў прасторы, рачулкі, хмаркі, камяні, светлячкі жывуць, думаюць, па-філасофску разважаюць. Надзяляючы прыроду рысамі чалавека, Якуб Колас у вершы-запеве да казак сцвярджае адзінства чалавека і Сусвету, бясконцасць і непарыўнасць жыцця:

Не ў адной толькі нашай душы
Зерне ёсць харaства —
Аб ім казку складае ў душы
Колас нівы, трава.
Не ў адным толькі сэрцы людзей
Іскра праўды гарыць —
Аб ёй песню пяе салавей,
Аб ёй рэчка журчыць.
У той песні, шырокай, як свет,
Чутны ветрык і гром.
Дык прымі ж ты прывет,
Свет бязмежны, мой дом.

Кожны герой казак ствapae пэўны асацыятыўны вобраз, што звязана са шматвяковымі народнымі традыцыямі і ўяўленнямі. Так, дуб сімвалізуе мужнасць, вечнасць жыцця, крумкач — увасабленне чагосьці трагічнага, матыль — легкадумнага, свіння — носьбіт такіх рыс, як абмежаванасць і тупасць. Белая Хмарка, што пакінула свой край і асудзіла тым самым сябе на бадзянне па шырокім свеце, увасабляе людзей «перакаці-поле», якія страцілі свае карані, згубілі бацькаўшчыну. Такіх людзей перасцярагае пісьменнік у казцы «Крыніца». Пакінуўшы свой край, крыніца вярнулася на радзіму ў вобліку кропелек расы, якія ад прамянёў сонца высахлі і бясследна зніклі.

У пранізаных народнай мудрасцю радках «Казак жыцця» сцвярджаюцца агульнавядомыя і вечныя ісціны, якія ўспрымаюцца як коласаўскія афарызмы: *«Лепш быць няшчасным, але відушчым, чымся шчаслівым, ды сляпым»; «Не воля аднаго, а воля ўсіх толькі і можа мець сілу і права»; «Гэты сум, гэтая туга — адвечныя спадарожнікі тых, хто многа разважае, хто жыве адзін з сабой, а можа, і праўда — такое ўжо жыццё, што не дае задавальнення»; «І хто ведае: можа, чым часцей наведваюцца да нас нягоды, тым глыбей пачуванне цаны жыцця, тым ясней яго светлыя моманты».* Яны вучаць пафіласофску адносіцца да жыцця, прымушаюць выступаць супраць расліннага існавання чалавека, яго бяздзейнасці, духоўнай слепаты, заклікаюць жыць ярка і хвалююча.

У канве мастацкіх тэкстаў Якуба Коласа выключную ролю адыгрываюць метафары, перанос у якіх ажыццяўляецца на чалавека. Чалавек як часціца свету жывой прыроды параўноўваўся з жывёламі, дрэвамі, раслінамі, прадметамі побыту і артэфактам, наміруючы гэтыя параўнанні ў пэўных славесных формах. Сярод вялікай колькасці такіх славесных форм важнае месца займаюць другасныя анімістычныя намінацыі, якія адносяцца да ліку найбольш старажытных і характарызуюцца высокай частотнасцю ўжывання. Іх утварэнне звязана з рознымі семантычнымі працэсамі, якія грунтуюцца на агульных законах чалавечага мыслення і фармальна-лагічных адносінам паміж паняццямі.

У якасці сферы-крыніцы (сферы-донара) анімістычных намінацый часцей за ўсё выступаюць найменні жывёл (зоамарфізмы). Жывёлы, уцягнутыя ў свет чалавечых атаясамліванняў і прыпадабненняў, выступаюць у якасці эталонных носьбітаў тых ці іншых якасцей чалавека (яго разумовых здольнасцей, псіхічнага стану, паводзін, узросту, сацыяльнага і сямейнага становішча, прафесійных навыкаў і мн. інш.). Зоамарфізмы ў залежнасці ад іх канататыўнага (эмацыянальна-экспрэсіўнага) зместу размяркоўваюцца па дзвюх асноўных групах: з пеяратыўнай (адмоўнай) і меліяратыўнай (станоўчай) канатацыяй.

З яркай адмоўнай канатацыяй ужывае Якуб Колас зоамарфічныя найменні *псіна, кныр, таракан* ‘брыдкі, агідны чалавек’, *барбос* ‘злы, грубы чалавек’, *гад, змей* ‘нягоднік, агіднік, падступны чалавек’, *чарвяк, тля* ‘нікчэмны, агідны, шкодны чалавек’, *павук* ‘хітры, крыважэрны чалавек’, *клешч* ‘небяспечны, шкодны чалавек’, *моль* ‘эгаістычны, карысталюбівы чалавек’, *жаба* ‘хцівы, карыслівы чалавек’: *А ўсё праз варожага псіну Найшло на людзей ліхалецце; Спі сабе, як добры пан, А што ходзіць прус-псяюха Або злодзей-таракан, — Пагадзіцца з гэтым трэба; Наперадзе ўсё ліха, зло. І здзекі панскага барбоса; Гляньце ж на рукі чорнага гада, На рукі, што спушчаны ўніз; Ляснічы — змей, ну, аж шалее, Жыўцом грызе сваю ахвяру; Даволі вам гнуцца ў постаці слуг Для прагных сваіх павукоў; Ды лопне вусень ненаедны, Фашысцкі клешч, ліхі павук!; І нівы паела і пашы Фашысцкая тля; Эх вы, дармаеды, Моль вы, вош людская!; Ты шашні строіш патаёма! Лайдак ты, кныр няшчасны, лгун! Праціўна гэтай слізкай жабе Раскрыць душу сваю ў бядзе; Вы [ворагі] — трупныя чэрві, вы — смецце.*

Жорсткі чалавек, эксплуататар, прыгнятальнік для Якуба Коласа — гэта п’яўка, паразіт: *І як ні кляў ён гэту п’яўку, Ды мусіў даць рубля за справўку; А вось шкурнікі, паразіты, даносчыкі, накшталт язэпаў, брылёў, жывуць.*

У сэнсавых структурах полісемантаў *карова* і *вяпрук* актуалізуецца сема ‘непаваротлівасць, нязграбнасць, паўната’: *Здавалася, што гэта не чалавек танцуе, а нейкі добра ўкормлены вяпрук убег у пакой; Уставай, вяпрук. У краме крупы даюць; «А ты дзе быў, карова ты? Чаго глядзеў?» — накінуўся на Андрэя п’яны Антось.*

Унадлівы чалавек у Якуба Коласа асацыіруецца з катом, непрыгожы — з малпай, неразумны — з савой, баязлівец — з трусом: *І не таго пан Богут варты, Марцовы кот ён, воўча косць; «Знайшоўся кавалер... малпа старая!» — гэты*

*камплімент яна пасылае пану Зыгмусю; Прыехаў з маткаю старою, Якую зваў часцей савою*; *На ўсё сяло найбольшым трусам быў Мікола Гляк. Такога палахлівага і баязлівага чалавека, як ён, цяжка знайсці.*

Станоўчая характарыстыка чалавека ўласціва некаторым найменням птушак і рыб. Як правіла, яны выкарыстоўваюцца ў значэнні ‘ласкавая назва жанчыны, дзяўчыны, юнака’ (часта ў памяншальна-ласкальнай форме): *Ганна! Ганна! Я жартую; Ну, спыніся, не ўцякай! Хоць разочак пацалую... Ганна, рыбка, пачакай!*; *Па вас бачу, галубок, што нявесела; Ці ёсць іскра агню божага, Мая ластаўка далёкая?*

У Якуба Коласа, як наогул і ў беларускай моўнай карціне свету, *кіт* — гэта ўплывовы, дасведчаны чалавек, які мае выключна важнае значэнне ў якой-небудзь справе: *Нібы яго на трон узнеслі, І ён — дзяржавы панскай кіт.*

У зыходную паняційную базу ‘артэфакты’ ўключаюцца шматлікія прадметныя таксанаміі, якія рэпрэзентуюць такія субсферы, як «прылады працы», «прадметы гаспадарчага ўжытку», «абутак» і інш. Другасныя ЛСВ, як правіла, арыентаваны на выражэнне адмоўнай канатацыі. Так, у субстантывах *даўбешка, тапор, слуп, лямец, халява, жупан* утрымліваюцца ЛСВ ‘тупы, няздольны чалавек’, ‘не вельмі кемлівы, дурнаваты чалавек’, ‘некультурны, маладасведчаны чалавек’: *Прамову пачаў пракурор: «Бачце, хто перад вамі? Пракляцце, даўбешка, фашысцкі тапор!»; «Стаіць, слуп стары, каб яму вочы калом пасталі!» — гаворыць швачка; Ці даўно яму самому, калі вучыўся ён у семінарыі, крычалі мешчанчукі: «Лямец, лямец! На якой бярозе ты лапці павесіў?»; Хлопцу страшна і цікава: Што замысліў гэты пан, Гэта доўгая халява, Шыты золатам жупан?*

Бесхарактарнага, бязвольнага чалавека пісьменнік параўноўвае з анучай, прыслужніка — з падэшвай, капрызнага, наравістага, свавольнага чалавека — з качаргой, старога чалавека — з пнём: *Лапко пакруціў галавою: «Ануча я, а не чалавек!»; Што пхаешся, панская падэшва?*; *Пабіў у сваёй хаце вокны, міскі, гаршкі. Нікому не давала спуску качарга; Ты ж паслухай, стары пень, ці малоціць хто?*

Некалькі найменняў чалавека суадносяцца з фітонімамі — назвамі дрэў, раслін, пладоў. У іх увага акцэнтуецца на высокім росце, сіле чалавека (*дуб*), а таксама на характары чалавека, ад якога можна чакаць усякіх непрыемнасцей (*фрукт*): *У Жарстака было сем сыноў, і чацвёра з іх такія ж дубы, як і бацька; «Ах ты, мядзведзь цельшынскі! — крыкнуў радасна Турсевіч. — Ну, ідзі, ідзі, брат... Ах ты, фрукт гэтакі!»*

У працэс метафарызацыі Колас актыўна ўключае найменні нябесных свяціл (сонца нязменна выступае ў якасці сімвала святла, жыцця, цёплыні), а таксама высакародных металаў і цвёрдых горных парод, якія ў другаснай функцыі характарызуюць станоўчыя якасці чалавека, яго цвёрды, рашучы характар: *Ну, добра ж, **сонейка**-дачушка, Вось зараз я іду да вас!*; *«Братка ты мой! — гаворыць адзін. — Твой Алесь **золата**, а не чалавек»; Мы ўсе адзіны, — непераможны **граніт.***

Магістральная лінія развіцця другасных анімістычных ЛСВ у назоўнікаў *руіна, пляга, скула, скура* прадвызначаецца семантыкай першасных ЛСВ, якія ў другаснай функцыі актуалізуюць такія прыметы, як ‘старасць’, ‘хваравітасць’, ‘прыкрасць’, ‘непрыемнасць’, ‘злосць’: *І што сталася з дзяўчыны! Што зрабіла з яе цьма? Адна форма, стан **руіны**, А Ганусі ўжо няма...; Ой, абармот жа, абармот! Забіць бы гада, ды за плот. Як носіць свет такую **плягу***; *Вось Арцюшок — о, гэта **скула**! Ну і шкадлівы ж быў, хамула*; *Сволачы яны, **скуры** прадажныя*.

Адной з прымет ідыястылю Якуба Коласа з’яўляецца шырокае выкарыстанне персаніфікаваных намінацый, другасныя ЛСВ якіх утварыліся па мадэлі «чалавек»→«чалавек». Спецыфіка такіх намінацый заключаецца ў тым, што ў выніку семантычнай дэрывацыі не адбываецца істотнага зрушэння дэнататыўнай

суаднесенасці, а назіраецца частковая трансфармацыя семантыкі, змена канататыўнага зместу слова. У якасці крыніцы матывацыі могуць выступаць найменні чалавека, звязаныя з яго прафесійнай дзейнасцю, родам заняткаў, нацыянальнай і этнічнай прыналежнасцю, рэлігійнымі перакананнямі, сваяцкімі адносінамі.

Семантычны патэнцыял найменняў асоб па прафесіі вызначаецца сфарміраванымі ў нацыянальнай свядомасці стэрэатыпнымі ўяўленнямі ў адносінах да таго ці іншага віду прафесійнай дзейнасці. Станоўчымі якасцямі характарызуюцца другасныя ЛСВ *дыпламат* ‘чалавек са здольнасцю дзейнічаць тонка, умела’, *палітык* ‘чалавек, які выяўляе такт і далікатнасць у адносінах з другімі людзьмі’, *артыст* ‘пра таго, хто валодае высокім майстэрствам у якой-небудзь галіне, таленавіта што-небудзь робіць’, *спявак* ‘той, хто добра спявае’, *суддзя* ‘чалавек, які выказвае якую-небудзь думку, дае ацэнку каму-, чаму-небудзь’: *Пракоп, як і кожны чалавек, крыху дыпламат; Ксёндз Ксаверый Пацейкоўскі і Ян Галандзеўскі дыпламаты, хітрыя палітыкі і людзі пранырлівыя; З вялікім натхненнем спевака заліваўся Лазар, надаючы свайму голасу самую тонкую лірычнасць; Ксёндз Пацейкоўскі не толькі служка пана Бога, але і спрытны і таленавіты артыст каталіцкай царквы; Прыхілен дзядзька быў да дзетак. Ён быў настаўнікам, суддзёю.*

З адмоўнай канатацыяй ужывае Колас словы *шкурнік* ‘эгаіст, той, хто клапоціцца толькі пра асабістую выгаду’, *прыслужнік* ‘той, хто прыслужваецца перад кім-небудзь’: *А вось шкурнікі, паразіты, даносчыкі, накшталт Язэпаў, Брылёў, жывуць*; *А вы, прыслужнікі драпежнага Ваала, Зноў вострыце загнутыя дзюбы*.

Адмоўнай канатацыяй характарызуюцца другасныя ЛСВ, утвораныя ад найменняў людзей па месцы жыхарства: *азіят* ‘карэнны жыхар Азіі’ → *зневаж.* ‘нягоднік, мярзотнік’, *ізгой* ‘чалавек (у Старажытнай Русі), які страціў сувязь са сваёй сацыяльнай групай’→‘адшчапенец’, *вандал* ‘прадстаўнік старажытнагерманскага племені’→‘разбуральнік культуры, варвар’: *Ці ж чалавек ён? Азіят, Душа зацятая, ліхая, Такіх паноў і свет не знае; Скрозь цемру ночы і змрочнасць лясоў, па глухіх дарожках і тропках накіраваліся яны, два ізгоі, у бок сваіх вёсак; Біць будзем крэпка, упарта Дзікіх вандалаў, начніц!*

Адмоўная канатацыя выяўляецца ў структурах полісемантаў *вампір* ‘бязлітасны эксплуататар, вораг’, *балван* ‘дурань’, *чучала* ‘неахайны, брудны, дрэнна апрануты чалавек’: *Капайце яму, далакопы, Каб у яе халодны жвір Упаў навек тыран Еўропы, Крывавы прывіды і* ***вампір****; Точыць на нас зубы Злы фашыст —* ***вампір****; Не праймеш словамі* ***балвана****, І згодзен я тут з капітанам; Ну паглядзі ты [Кузьма] на сябе: на каго ты падобен у гэтым рызмане? Дзе ж ёсць другое такое* ***пудзіла*** *на свеце? Не чалавек, а* ***чучала****!*

Семантыка некаторых другасных ЛСВ лёгка прадказваецца зыходнымі значэннямі полісемантаў. Параўн.: *брат* ‘сын у адносінах да другіх дзяцей гэтых жа бацькоў’→‘чалавек, якога яднае з іншымі агульнасць радзімы, класавых інтарэсаў, умоў і інш.’, *сябар* ‘той, хто звязаны з кім-небудзь сяброўствам’→‘прыхільнік, абаронца чаго-небудзь’, *чараўнік* ‘вядзьмар, чарадзей’→‘той, хто захапляе, зачароўвае чым-небудзь’, *манах* ‘член царкоўнай абшчыны’→‘мужчына, які вядзе адзінокі, аскетычны спосаб жыцця’: *Абраць другога дэлегата, Каб ён стаяў за свайго брата; Сяброў перамогі Заклікаў на сход правадыр; «Мілы мой друг! Мала таго, што галава твая міністэрская, дык ты яшчэ і чараўнік, адным словам — кудзеснік!» — натхнёна прамовіў Лабановіч*; *Калега — манах. Ён любіць глуш і адзіноцтва і хоча жыць пустэльнікам.*

У дыскурсе Якуба Коласа прадстаўлена група антрапамарфічных найменняў, утвораных па мадэлі «назвы чалавека» → «назвы прыродных з’яў, жывёл, артэфактаў і інш.». Дамініруе ў гэтай мадэлі другасны ЛСВ ‘вецер’, адзначаны ў *назоўніках бабыль, вандроўнік, жартаўнік, штукар, дзіця:* ***Бабыль****-вецер на світанні Пойдзе ў свет шырокі, Пойдзе ў злосці, буркатанні Аглядаць валокі;*

***Вандроўнік****-вецер выганяе На неба стадка лёгкіх хмар; Бывала, чуць толькі ўзыдзе сонца, гэты* ***жартаўнік*** *і* ***штукар*** *вецер зараз і падкрадзецца, але так, каб не чуў стары дуб, і пачне баламуціць дубовых сынкоў; Эх, гуляюць віхры ў полі, Ветравыя* ***дзеці****.*

У рэцыпіентную сферу такіх назваў чалавека, як *асілак, крапак, сын, сябар, бабулька*, часта ўключаюцца другасныя ЛСВ ‘дрэвы’: *Стаяць у вадзе па калошы Старыя асілкі дубы; І дуб-крапак і куст маліны Стаяць у мудрым задуменні*; *Дуж ты, дуб стары, Сын вякоў сівых!; Дубы, сябры мае самоты, У высі неба мкнуць узлёты; Журботныя постаці бабулек-бяроз паапускалі сваё гнуткае, як лён, веціе.*

У эпіцэнтры коласаўскіх апісанняў часта знаходзяцца знаёмыя паэту шумлівыя і гаманлівыя рэкі, ручаі, якія атаясамліваюцца з свавольнікам, штукаром, жэўжыкам, царыцай: *Страшэнны* ***штукар*** *і* ***свавольнік*** *гэты Нёман*; *Тая рака, што цякла тут, была па справядлівасці* ***царыцаю*** *рэк; Звоніць, скача, як дзіцятка, Гэты* ***жэўжык****-ручаёк*; *А ён [ручаёк]* ***жэўжык-пястун****, Гучным смехам дрыжыць.*

Утварэнне другасных ЛСВ, як вядома, звязана з падабенствам асацыяцый і ўражанняў, што ўдзельнічаюць у мадэліраванні новага зместу, які вызначаецца двухпланавасцю і цеснай суаднесенасцю паміж зыходным і вытворным ЛСВ. Такую двухпланавасць можна выявіць у найменнях *вандроўніца, сірата, дзіця, бадзяга, хаўруснік, гаспадар,* якія ў сваіх другасных функцыях называюць хмару, колас, вераб’я, ваўка, мяшок, трактар: ***Вандроўніцы****-хмары, Нябёсаў украсы! Зрадніўся я з вамі Ў далёкія часы; Светлыя хмаркі —* ***дзеткі*** *прастору — Ціха па небе плывуць; Спее адзінокі колас* ***сіратой***; *І верабей з усёй* ***раднёю*** *Не шкне, схаваўшысь пад страхою; Там ходзіць страшны воўк-****бадзяга****; Стаіць у рове* ***хаўруснік*** *спраў яго [Сымона] — мяшок; Трактар — палёў* ***гаспадар****.*

Даволі распаўсюджаныя ў дыскурсе Якуба Коласа з’яўляюцца метафары, якія грунтуюцца на вонкавым падабенстве прадметаў або з’яў, на параўнанні, супастаўленні новага прадмета з ужо вядомым і вылучэнні агульных іх прымет. Падабенства паміж прадметамі можа быць самым разнастайным. Нагадаем некаторыя прыметы падабенстваў, якія выкарыстаны Якубам Коласам:

1. Агульны знешні выгляд. Як правіла, у якасці дэфініцый метафар узяты выразы ‘тое, што нагадвае…’, ‘тое , што падобна на…’, ‘тое, што мае форму…’ (лапка, плех, фальбоны, брыжы, горла, кацялок, крыло, ліхтар, жывот): *Скрозь лапкі хвоек і галінкі Сям-там паднімаліся ў неба стромкія яліны і сосны. Іх пакінулі знарок — абсемяняць аголены плех і заводзіць новы лес; Часамі хмурнаю вясною Цяплом павее, ціішынёю, І хмарак сівыя фальбоны Падуць, апусцяцца на ніз; У той лужок дайсці б да свету, Дзе хмызу сцелюцца брыжы; Пад мостам у горле каменным Зажора, віры і затор; Хоць сябры трохі пабойваліся і падазрона кідалі потайкам позіркі на людзей у кацялках, але Лабановіч не мог утрымацца, каб не пажартаваць; Толькі ветракі, растапырыўшы ўгары два крылы ў бок сяла, мелі такі выгляд, як бы іх уразіла нейкая навіна; Не для ўсіх скончылася шчасліва: хто сіняк зарабіў, хто ліхтар на ілбе, а хто дык і рэбер не далічыўся; Драбіны былі высланы саломаю, і вулей ляжаў, як пан у вагоне першага класа, жыватом угару; І Млечнага Шляху пракос У холадзе дрэмле.*

2. Акругласць (*клубок*): *Адплывалі хмары-горы белымі* ***клубкамі.***

3. Дугападобнасць (*дужка*): *Панна Ядвіся часта ўскідала на яго свае цёмныя выразныя вочы з-пад тонкіх* ***дужак*** *броваў.*

4. Выцягнутасць, прадаўгаватасць (*пасма*): *То там, то сям доўгімі кудламі звісалі* ***пасмы*** *сівога моху.*

5. Грывастасць (*грыва*): *А гэты ветрык дураслівы Траве зялёнай чэша* ***грывы****.*

6. Валасатасць (*мох*): *«Я казаў бы, — пачынае Дзед, абросшы* ***мохам****, — Картаплянішча ад лесу Высеяць гарохам».*

7. Сеткаватасць (*сетка*, *сетачка*): *Старасць прыгнула яго крэпкі стан і кінула на твар і на высокі лоб цэлую* ***сетку*** *маршчын; Трасецца* ***сетачка*** *сняжынак.*

8. Спіралепадобнасць (*завіток*): *А лепшы кут пад тоўстым вязам, Дзе рэчка робіць* ***завіткі.***

9. Развілістасць, разгалінаванасць (*рог, рагач*): *Месяц* ***рог*** *спускае правы У лес густы*; *Ён між парканін Схаваў трайню,* ***рагач****, дзве восі, Тайком украўшы ад Антося*.

10. Асляпляльнасць, зыркасць (*журавіны*): *Але жывуць мае ўспаміны, І ты ў маіх стаіш вачах, Як недасяжны Млечны Шлях, Дзе свецяць зорак* ***журавіны***.

11. Тонкасць, завостранасць (*страла*): *У прасветы хмар заслоны Сыпле сонца* ***стрэл*** *мільёны, — Шле зямлі дары*.

12. Колер, бляск (*золата, пазалота, алмаз, рубін, брыльянт*)*: Зззяюць хмаркі ў* ***пазалоце****; Высока ўзніманіся вязы, ліпы і клёны, абсыпаныя* ***золатам*** *восені;* ***Алмазамі, рубінамі*** *сляды дарог яго гараць;* ***Брыльянтамі*** *пабліскваe раса.*

У коласаўскім метафарыконе сустракаюцца лакатыўныя найменні, звязаныя з лакалізацыяй аб'ектаў у прасторы. Як правіла, такія найменні ўказваюць на размяшчэнне ў верхняй частцы прасторы. Параўн.: *галава* 'купал сабора', 'верхняя насенная частка раслін', *парашут* 'вершаліна, макаўка дрэва', *страха* 'густая крона дрэў', *брыль* 'невялікі навес над чым-небудзь': *Угары, высока над дамамі, Пазалачонымі крыжамі Бліщчалі цэрквы і касцёлы, Узняўшысь к небу* ***галавамі****, На сонцы ззяючы вярхамі; Ціха калоссі, схіліўшы* ***галовы****, Шэпчуць у межах палёў; Ідуць касцы, звіняць іх косы, Вітаюць іх буйныя росы, А краскі ніжай гнуць* ***галовы****, Пачуўшы косак звон сталёвы; А хвоек там — мільён* ***папах****, Дзясяткі тысяч* ***парашутаў****; Ціха пранёсся вецер над борам, У лясной спыніўся* ***страсе***; *На другі дзень у двор бальніцы, Дзе ганак звешвае свой* ***брыль****, Пад'ехаў, стаў, аўтамабіль.*

Коласаўскія квантытатыўныя метафары засноўваюцца на падабенстве памеру, аб'ёму, працягласці, на колькасных паказчыках.У лік лексічных сродкаў, якія рэпрэзентуюць квантытатывы, уключаюцца полісеманты, звязаныя з воднай плынню (акіян, мора, паток, разводдзе), лясным масівам (лес), вялікімі будынкамі, прадпрыемствамі, гарадамі (гмах, волат). Як правіла, актуалізуюцца такія прыметы, як 'вялікая колькасць, мноства чаго-небудзь', 'вялікая прастора чаго-небудзь', 'што-небудзь неабсяжнае, неабдымнае', 'нязмерная маса чаго-небудзь': *Люблю я зялёнае* ***мора*** *ржаных каласоў; Даставайце з вышак сані — Гайда сцежкі праціраць І па белым* ***акіяне*** *Ўздоўж і ўпоперак гуляць; І Наталька злілася з гэтым людскім* ***патокам*** *і загубілася ў ім*; *Бурнае* ***разводдзе*** *людскога жыцця ўваходзіла ў новыя берагі*; *Нагайкі, расстрэлы І* ***лес*** *мітынгаў цэлы; Выйдзі на поле, глянь, падзівіся —* ***Гмахі*** *бязмежных палёў; І ўзнікаюць* ***волаты*** *— заводы, фабрыкі і цэлыя гарады.*

Даволі вялікую групу складаюць метафары з рэцыпіентным значэннем 'покрыва; тое, што пакрывае, ахутвае сабой што-небудзь'. У такіх сінкрэтычных метафарах у залежнасці ад кантэкставага акружэння могуць актуалізавацца семы 'размяшчэнне зверху', 'ахутванне', 'ахінанне', 'агортванне', 'вонкавае падабенства', 'падабенства па колеры'. У коласаўскім дыскурсе прадстаўлены некалькі тыпаў такіх найменняў:

1. 'Зялёнае ўбранне, покрыва дрэў, іх лістота' (*адзежа, вопратка, кажушок, плашч, світка, убор, коўдра*): *Адзенуць новую адзежу Дубы, сталёвыя камлі; Так ласкава глядзяць узгоркі, груд У вопратках расліны адмысловай; Апранула зямлямтка Кажушок зялёны*; *Дубы зялёны плашч адзелі*; *Спыніўся ён і, як каршун, Зірнуў на лес, што ў сіняй світцы, Замлеў у песні чуткіх струн*; *А як прыгожы ў час вясны Бярозак першыя ўборы; Балота маўчыць панура, закрыўшыся зялёнаю коўдраю.*

2. 'Снегавое покрыва' (*адзенне, накідка, вата, пасцель, попел, шаты*): *Ляжыць зямля ў адзенні белым*; *Лес, ахінуўшы свае плечы белаю накідкаю,*

*урачыста захоўвае цішыню і спакой; Вецер пасмы снежнай ваты сушыцца вывесіў на шчыт; Выйшла з халоднай пасцелі зямля; Усё змяшалася ў тумане, У белым попеле снягоў*; *Першы снег сець-бель мярэжыць Сцеле шаты на дарогі*.

3. ‘Покрыва, цемра ночы’ (*андарак, полаг, сарафан, сарочка, сутана, штора*): *Дзень памрэ, і ночка зляжа, Чорны ўздзеўшы андарак; Скрозь полаг цьмы ірдзяцца зоры*; *Ночка ў чорным сарафане Робіць свой агляд; Адзенне хмаркі пазнімалі І самі леглі спаць на ночку, Адзеўшы лёгкую сарочку*; *Але знімае ноч сутану І беліць пасмы валасоў І блеску светлых абрусоў; Паслухай — шолах поўніць норы, Зірнуў — там ноч спускае шторы, І гасне ў мроку небасхіл*.

4. ‘Паласа, пасма туману, хмар і пад.’ (*валакно, валаконца, воўна, намітка, невад*): *Белыя валокны сцелюцца над долам; Хмурна ж наша, хмурна лета, Сцелюць хмары валакно, Сонцам поле не сагрэта, Дробны дождж сячэ ў акно; Хмаркі захад чуць заслалі Тонкім валаконцам; Кашлатыя хмары, як шапкі-папахі, Развешвалі чорную воўну; Там, пад наміткай тумаяоў, Відзен гай сасновы*; *Рассцелюць тут свае срэбраныя невады грымотныя хмары, дажджу нальюць у канал*.

5. ‘Небасхіл’ (*амшары, руно, скляпенне): Ночкай вынікнуць стажары, І бяздонныя амшары Зоркі высцелюць руном; А зоркі ў бяздонным скляпенні Глядзелі праз навісь галін.*

6.‘Тое, што пакрывае, ахутвае сабой што-небудзь’ (*кужаль, парча, покрыва*): *Восень прала кужаль тонкі, павуціння белы лён; Усходзіць сонца з-за Блужскага бору І сцеле на ўзгоркі парчу залатую; Бясшумна засцілаецца балота чорным покрывам ценю*.

Свет гукаў чалавека і прыродных з’яў у творах Якуба Коласа прадстаўлены ў арганічным адзінстве. Як правіла, голас чалавека атаясамліваецца з разнастайнымі гукамі прыроднага і расліннага свету. У працэсе метафарызацыі субстантывы *гаворка, размова, голас, гоман*, *песня, напеў, спеў, плач*, *літанне*, якія ў першасным значэнні звязаны з вусным маўленнем, размовай чалавека, яго манерай гаварыць, выкананнем голасам музычнага твора, тыпам гучання, у другасных сваіх значэннях указваюць на гукі, што ўтвараюцца прадстаўнікамі жывёльнага і расліннага свету (дрэвамі, раслінамі, птушкамі, ветрам, завеяй і інш.): *Колькі шуму ў нашым збожжы, **спеву** і **гаворкі**; І лес жалобную **гаворку**, Свой **гоман** восені канчае; Што мілей **размовы** збожжа На палёх у летні час?; Зноў зацвітуць лугі, даліны, І атрасуць свой сон лясны І ў **гоман** радасны птушыны Свае далучаць **галасы**; У комін вецер **песенькі** Напявае тонкім **голасам;** На елачцы дрозд прымасціўся і высвіствае свае **песні***; *Ідуць смела і сурова Пад **напеў** пургі*; *Вясёлы спеў Прыветлівы Вады ў руччах Пачуецца*; *Мне так мілы буры, **плач** асенняй ночкі; Яшчэ больш гучна, яшчэ з большым натхненнем правяць салаўі раннія **літанні***.

У якасці сферы-донара могуць выступаць гукі, звязаныя з выкананнем музычных твораў, і самі музычныя творы. Гарманічнае спалучэнне некалькіх музычных гукаў, выкананне пэўных мелодый пераносяцца на нечым падобныя шум ветру ці буры, шэлест лістоты: *Водгулле-гром пакацілася па глыбокіх ярах, як грознае суладдзе **хору** вятроў; Бура выводзіць **акорды** глухія; Шумець век векам будуць хвоі І **гімны** славы вам складаць.*

У метафарах, экстрапаліраваных у квантытатыўную сферу, могуць адзначацца ментальныя, псіхалагічныя прыметы: *І раптоўна разбілася **глыба** Неадступных чаканняў, трывог; Васілю стала лёгка і добра, і ён пачуў у сабе **прыліў** вялікай сілы і шчасця.* Квантытатыўныя метафары могуць ускладняцца семамі руху: *Як спакойна ў разлогах Ходзіць **хмарак карагод**; А матылькі сваім убраннем Касуюць тут усіх дазвання І не лятаюць — **танцы правяць***.

У коласаўскай метафарычнай парадыгме нязменна прысутнічаюць індывідуальна-аўтарскія намінацыі, у якіх сінтэзуюцца асаблівасці нацыянальнай карціны свету і індывідуальнае светаўспрыманне пісьменніка, яго жыццёвы вопыт, моў-

ная кампетэнцыя. Змест індывідуальна-аўтарскіх метафар выяўляецца ў кантэксце, які валодае вялікімі магчымасцямі для ўнутранай перакадзіроўкі семантыкі слоў і прырашчэння новых сэнсавых адценняў.

У межах невялікіх кантэкставых фрагментаў вылучаюцца генітыўныя метафары, у якіх адзін з назоўнікаў выступае ў форме роднага склону. Увага пісьменніка часцей за ўсё засяроджваецца на часавай прымеце: *Далёка ты!* ***Заслона часу,*** *Як нерухомая імгла, Яго рукой сатканым пасам Між намі шчыльна прылягла; Сышлі са сцэны прэч магнаты,* ***Абломкі*** *выцвіўшых* ***вякоў****; Змятаць з дарогі* ***Вякоў*** *старых* ***парогі****; Цёмныя* ***віры прошласці;*** *І мыслі раптам скаканулі У* ***багны часаў*** *і* ***прастораў****, Бо ім няма граніц, запораў.*

У генітыўных метафарычных канструкцыях могуць выражацца розныя квантытатыўныя паказчыкі: *Сыпле ноч з свае сявенькі* ***зорак рой***. Такія паказчыкі часта выражаюць меру і ступень выяўлення ўнутранага стану чалавека, яго ментальных характарыстык: *І дзе той куток, Што даў бы Цімоху* ***Спакою шматок***; *Нядобрых* ***думак і дагадак*** *У ім віхрыўся цэлы* ***жмут****; Цэлы* ***жмут думак і пачуццяў*** *калыхнуўся ў Васілёвым сэрцы; Але ў сваёй рабоце чэрпаў малады настаўнік і поўную* ***чару*** *высокага* ***задавальнення****; Разбіта* ***чара асалоды...*** *Мой любы, дарагі!*

Выкарыстанне генітыўных метафар дапамагае аўтару больш дэталёва перадаць паводзіны чалавека, яго пачуцці, псіхалагічны стан, адносіны да іншых людзей, абставіны жыцця: *Пракоп цэлымі гадзінамі не спаў і разважаў, прапускаючы праз* ***сіта самакрытыкі*** *свае паводзіны, няяснасць і неакрэсленасць свайго стану; З вачэй сыпаліся* ***іскры злосці****; З гэтых палацаў разыходзіліся* ***ніці нянавісці і злобы****; Сам ты, закуты ў ланцуг, Піў* ***сок*** *горкіх* ***дум****; У турме тут* ***сэрца струны*** *Жаласна зазвоняць*; *І я стаю на* ***скрыжаванні*** *Сваіх* ***пісьменніцкіх дарог***; *Яны не здрадзяць свайму краю І* ***помсты*** *вострацъ* ***тапары***.

Генітыўныя метафары лічацца ўдалым прыёмам апісання прыродных з'яў, якія ў радзе выпадкаў атаясамліваюцца з жыццём чалавека: *І ўсё тут поўна мяккіх чараў: І роўнядзь ціхая палёў, І* ***постаць*** *стромкіх* ***тапалёў***; *Лашчыць сонца* ***твар узгоркаў****, Сушыць след іх слёз*; *Прыгожа павіваюцца дарожкі ў полі, гэтыя* ***красёнцы людскога клопату*** *і працы, а паабапал іх нахіляецца жыта.*

У творах Якуба Коласа выкарыстоўваюцца разгорнутыя метафары, у структуры якіх фіксуецца некалькі другасных намінацый, звязаных паміж сабою па прынцыпе счаплення. Такія метафары ўтвараюць блокі з некалькімі мастацкімі вобразамі, якія паслядоўна пашыраюцца, перацякаюць адзін у другі і выступаюць у якасці структуратваральнага элемента моўнай кампазіцыі твора. Параўн.: *Былых* ***настояў адгалоскі І водгук мар*** *яе былых Нясуць гарчэчы ёй* ***кіліх****;* ***Туману шоўк*** *бялявою* ***заслонаю*** *Павіс над* ***шклом*** *знямелых азярын; Над намі ноч-****аблога*** *Навісла цемраю густою І гнула цяжкаю* ***пятою****, Як неадхільная* ***навала****, Усё, што жыццё асвятляла; Шмат было няяснага ў той* ***павуціне****, якую* ***выткалі*** *для іх трох царскія юрысты-****павукі***; ***Ходзяць*** *па полі* ***сіроты-вятры****, К зямлі прыпадаючы* ***чалом****; Пакуль прайшоў ён* ***круг турботы*** *І* ***санітарную кадрыль****, Дык адмахаў з паўсотні міль*; *Быстрыя цёмныя вочкі яго пазіралі ўдумліва, але ў іх часамі блукаў затоены* ***агеньчык****, гатовы разгарэцца ў адпаведныя мінуты* ***пажарам*** *рашучых* ***учынкаў***.

Такім чынам, метафарычная парадыгма ў мастацкім дыскурсе Якуба Коласа даволі разгалінаваная і ўключае практычна ўсе тыпы метафар, якія ў разнастайных кантэкставых сітуацыях не толькі намінуюць новы прадмет, але і характарызуюць яго з пункту гледжання нейтральных, пейаратыўных або меліяратыўных паказчыкаў. Метафара як адна з канстант дыскурсу пісьменніка з'яўляецца адной з бясспрэчных асаблівасцей індывідуальнага стылю пісьменніка, найбольш прадуктыўным сродкам выразнасці мастацкага слова.

Асноўны лейтматыў коласаўскіх метафар — жыццё чалавека, якое параўноўваецца з дарогай, кроснамі і працэсам ткацтва, з жывёламі, дрэвамі, рас-

лінамі, прадметамі побыту і артэфактамі. Такія эзістэнцыяльныя метафары дазваляюць зрабіць філасофскія абагульненні пра напружана-імклівую плынь чалавечага жыцця, яго бачныя і нябачныя сувязі з навакольнай і галактычнай прасторай. Метафара актыўна выкарыстоўваецца для апісання прыродных з'яў, якія адухаўляюцца, атаясамліваюцца з чалавекам і служаць для выяўлення шматлікіх аспектаў жыцця чалавека, яго разнастайных сувязей і адносін (як велічных, узнёслых, так і драматычных, суровых, цяжкіх). Такога роду антрапамарфічныя найменні часта ўтвараюцца па мадэлі «назвы чалавека (*вандроўнік*, *бабыль, жартаўнік, штукар, хаўруснік*, *гаспадар, бадзяга, пястун, свавольнік )»*→ «назвы прыродных з'яў (*вецер, дрэва, ручай, рака, хмара, колас*), жывёл, артэфактаў і інш.».

У метафарычнай парадыгме дамініруюць другасныя намінацыі, утвораныя на аснове вонкавага падабенства прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці. У працэсе метафарызацыі часцей за ўсё актуалізуюцца такія прыметы, як ‘агульнае вонкавае падабенства’, ‘дугападобнасць’, ‘прадаўгаватасць, выцягнутасць’, ‘валасатасць’, ‘сеткаватасць’, ‘спіралепадобнасць’, ‘развілістасць, разгалінаванасць’, ‘тонкасць’, ‘завостранасць’, ‘колер, бляск’ і інш. Да гэтай групы прымыкаюць лакатыўныя метафары, заснаваныя на пэўным падабенстве размяшчэння ў той ці іншай кропцы прасторы, а таксама квантытатыўныя метафары, арыентаваныя на выражэнне агульнасці ў памеры, аб'ёме, працягласці.

Індывідуальна-аўтарскія метафары выкарыстоўваюцца з мэтай разбурыць аўтаматызм успрымання інфармацыі і ўлавіць тонкія, часам нябачныя асацыятыўна-вобразныя падабенствы аб'ектаў у пэўны момант быцця. Такія метафары — гэта сімбіёз рацыянальных і пачуццёвых, прыземлена-канкрэтных і абстрактных, зрокава-наглядных і скрытых уяўленняў пра неабсяжны і непаўторны свет, у якіх выяўляецца глыбіня і характар уласнага асацыятыўна-вобразнага мыслення творчай асобы, яе талент, уменне выкарыстаць багатую палітру вобразна-выяўленчых сродкаў і стварыць па-сапраўднаму вартасныя, каштоўныя, каларытныя творы.



**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД ЧАСАМ І ЛЮДЗЬМІ



Сваё 80-годдзе нядаўна сустрэў выдатны пісьменнік, грамадскі дзеяч Мікалай Чаргінец. То якраз і ёсць мажлівасць азірнуцца на пройдзены ім вялікі творчы шлях. Усяго Мікалаем Іванавічам напісана звыш пяцідзесяці твораў. Яго раманы перакладзены на многія мовы, а самыя значныя занесены ў спіс лепшых сусветных твораў. Раман «Сыны», у прыватнасці, перавыдаваўся больш як 20 разоў. Па раманах «Бег ад смерці», «Вам — заданне», «Маёр Ветраў» зняты мастацкія фільмы, пастаўлены шэраг спектакляў. Чатырохсерыйны фільм «Маёр Ветраў», у аснову якога пакладзены аднайменны раман, стаў папулярным на тэлевізійных экранах многіх краін.

Творчасць Мікалая Іванавіча ацэнена па вартасцях. Ён — лаўрэат Міждзяржаўнай прэміі «Звезды Содружества» за 2012 год. Так высока адзначаны яго выдатны ўклад у развіццё літаратурнай спадчыны СНД. За стварэнне твораў аб гераічных здзяйсненнях савецкага народа ў абароне сацыялістычнай Радзімы, аб гісторыі і жыцці Узброеных Сіл СССР Чаргінец прызнаны лаўрэатам многіх міжнародных, саюзных і рэспубліканскіх прэмій, сярод якіх медаль імя Аляксандра Фадзеева. Прэмія імя Валянціна Пікуля Міжнароднай асацыяцыяй пісьменнікаў-баталістаў і марыністаў прысуджана яму за раман-дылогію «За секунду да выстралу». Міжнародная літаратурная прэмія імя Сяргея Міхалкова «Облака» — таксама ўзнагарода за гэтыя творы, а Міжнародная літаратурная прэмія імя Вялікага князя Юрыя Даўгарукава — за раман «Маёр Ветраў». За раман «Сыны» Чаргінцу прысуджана літаратурная прэмія «Залатое пяро Расіі». Гэты ж раман, а таксама раман «Вам — заданне» адзначаны Спецыяльным дыпломам Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Літаратурная прэмія «Русь адзіная» прысуджана яму за кнігі апошніх гадоў, а таксама за вялікі ўклад у справу яднання рускага і беларускага народаў. За кнігі апошніх гадоў Мікалай Іванавіч узнагароджаны прэміяй «Молодая гвардия». Чаргінец — лаўрэат прэмій імя Валянціна Распуціна, Міхаіла Шолахава, неаднаразовы пераможца міжнародных і рэспубліканскіх літаратурных конкурсаў. Ёсць у яго і ўрадавыя ўзнагароды.

За рознапланавыя дасягненні ў галіне культуры і навукі ў 1998 годзе занесены ў кнігу рэкордаў Гінеса. У 2005 годзе Кембрыджскім бібліяграфічным цэнтрам за выдатнейшы ўклад у міжнародныя адносіны, а таксама за значны ўклад у мастацкую літаратуру яму прысвоена званне «Міжнародны прафесіянал 2005 года». У 2008 годзе Амерыканскі бібліяграфічны інстытут назваў Чаргінца «Чалавекам года».

Аднак пра кожнага пісьменніка, як вядома, найперш гавораць ягоныя творы. Канешне, каб хоць коратка адзначыць усе мастакоўскія набыткі Мікалая Іванавіча, нават некалькіх артыкулаў не хопіць. Таму разгледжу толькі некаторыя з іх, ужо дзякуючы якім, як на маю думку, можна атрымаць уяўленне пра адметнасць яго таленту, шырыню творчых памкненняў і адкрыццяў. Пачну ж з таго, як ён уваходзіў у літаратуру.

## Дэтэктыў — класічны, проза — рэалістычная

За пяро Чаргінец узяўся, калі вучыўся на тагачасным аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вучобу сумяшчаў з працай інструктарам фізічнай культуры на Мінскім прыборабудаўнічым заводзе. Перайшоўшы ў міліцыю, адразу сутыкнуўся з новымі рэаліямі. Таму ў газетных допісах, карэспандэнцыях, замалёўках, нарысах расказваў пра калег па службе, знаёміў чытачоў з некаторымі судовымі справамі. Працягваў пісаць і пасля таго, як перавёўся на юрыдычны факультэт. Гэта таксама былі газетныя матэрыялы.

Аднойчы нехта з калег прапанаваў яму напісаць што-небудзь сур’ёзнае, напрыклад, аповесць. «А чаму б і не паспрабаваць?!» — падумалася Мікалаю Іванавічу. Так паступова ў яго нарадзілася аповесць «Чацвёрты след», якая спачатку была змешчана ў часопісе «Неман», а потым выйшла асобнай кнігай у выдавецтве «Беларусь». За першай былі другая і трэцяя: «Трывожная служба» і «Следства працягваецца». Аб’ядноўвала гэтыя творы тое, што малады пісьменнік моцна прытрымліваўся падзей, якія адбываліся ў сапраўднасці. У «Чацвёртым следзе» нават зрабіў невялікае тлумачэнне: «В основу повести […] положены события, имевшие место в Минске несколько лет назад».

Адметнасць гэтых твораў аднак і ў іншым. Ва ўсіх трох чытач сустракаецца з аператыўнікам крымінальнага вышуку капітанам Ігарам Ветравым. Для пісьменніка ж — вельмі важна знайсці менавіта свайго цікавага літаратурнага героя, вакол якога далей і будзе развівацца асноўнае дзеянне. Дарэчы, Ветраў перайшоў і ў аповесць «Фінал Краба», але ўжо ў чарговым званні, пра што сведчыла і назва часопіснага варыянта твора — «Здагадка маёра Ветрава». Нават сёння, калі майстэрства Чаргінца дасягнула вялікіх мастацкіх вышынь, гэтая аповесць на фоне ўсяго створанага ім не губляецца. У ёй праўдзіва і пераканаўча расказваецца пра будні работнікаў міліцыі

«Фінал Краба» — класічны дэтэктыў, у якім вытрыманы ўсе асноўныя законы гэтага жанру. Зразумела, ёсць у ім завязка, сама па сабе інтрыгуючая. Дзейнічаюць як вопытныя ахоўнікі парадку, так і тыя, што ў гэтай справе робяць толькі першыя свае крокі. Назіраюцца неаднаразовыя выпадкі, калі, здавалася б, адзіны няправільны шлях расследавання злачынства прыводзіць у тупік. Толькі пазней работнікі вышуку выходзяць на злачынцу, якога настойліва і пакуль што безвынікова шукалі. У дэтэктыве, напісаным таленавіта, усё настолькі лагічна праўдападобна, што застаецца толькі здзіўляцца таму, наколькі аўтар здатны будаваць такія сюжэтна-кампазіцыйныя ходы, што з кожнай чарговай старонкай чытацкі інтарэс усё больш узрастае.

Важны і такі момант. Ён тычыцца ўжо стаўлення Чаргінца да літаратуры як да чалавеказнаўства. Усебакова выпісваючы характары станоўчых персанажаў,

ён гэтаксама патрабавальна паставіўся і да тых, хто стаў на шлях злачынства. У гэтым сэнсе — несумненная яго мастакоўская ўдача вобраз Крокета. Ён жа Кляшнёў, ён жа Фралоў, а галоўнае, карыстаючыся цяперашнім паняццем, — аўтарытэт у крымінальным свеце «медзвяджатнікаў» — Краб.

Увогуле, каб выкрыць шматаблічнага злачынцу, спачатку трэба было пераканацца, што некалькі асоб, якія трапілі ў поле зроку праваахоўных органаў (перш за ўсё Крокет і Краб), — адна і тая ж асоба. Першым здагадаўся пра гэта Ветраў як больш вопытны аператыўны работнік, якога цяжка абвесці вакол пальца. Усебакова раскрываючы характар Ветрава, Чаргінец імкнецца пераканаць чытача (і гэта яму добра ўдаецца) у тым, што ў праваахоўных органах, за рэдкім выключэннем, працуюць тыя, хто сумленна выконвае свой абавязак.

Аповесць «Фінал Краба» таму і стала значнай вяхой у творчасці Мікалая Іванавіча, што ён паступова пачаў упэўнена адыходзіць ад дакументальнага матэрыялу. А перайшоўшы на мастацкія абагульненні, стварыў праўдзівыя вобразы тых, хто стаіць на варце закону, як і тых, хто парушае яго. Фінал злачыннай дзейнасці мацёрага злодзея, які практыкаваўся на ўскрыцці сейфаў, стаў свайго роду пралогам для з'яўлення ў творчасці Чаргінца цэлага цыкла твораў пра тых, хто сумленна нясе сваю службу і днём і ноччу. Сярод іх і раманы «Вам — заданне» і «За секунду да выстралу».

## Тугія вузлы лёсаў, дастойная развязка

Як вядома, крытыкі, літаратуразнаўцы ставяцца да розных дылогій і трылогій далёка не адназначна. Некаторыя з іх, не задумваючыся, вітаюць з'яўленне падобных форм твораў, не без падстаў на тое лічачы, што разгортванне дзеяння ў прасторы і часе дазваляе пісьменніку больш глыбока раскрыць чалавечыя характары, прасачыць эвалюцыю іх развіцця, паказаць жыццёвы шлях не аднаго пакалення літаратурных герояў. Іншыя ўпэўнены, што раманіст, ідучы такім шляхам, свядома «расцягвае» свае творы і, як вынік, колькасць іх старонак далёка не заўсёды адэкватна іхняй якасці. Увогуле, свая праўда ёсць і ў першых, і ў другіх. Канчатковы вынік можна зрабіць толькі пасля ўважлівага знаёмства з канкрэтнай дылогіяй і трылогіяй.

Што тычыцца дылогіі Чаргінца, якая складаецца з раманаў «Вам — заданне» і «За секунду да выстралу», — гэта той выпадак, калі колькасць перарастае ў якасць. Прасцей кажучы, Мікалай Іванавіч, пакарыўшы значную творчую вяршыню ў першым з названых раманаў, у другім не толькі ўтрымаў яе, а і ўзняўся яшчэ вышэй. Вынікам гэтага «ўзыходжання» стаў шматпланавы твор, які часава ахоплівае падзеі ад пачатку Вялікай Айчыннай вайны да канца 70-х гадоў мінулага стагоддзя.

Важна і тое, што лёсы галоўных герояў раскрываюцца не толькі на фоне вызначальных падзей, а адлюстраваны ў цесным перапляценні, паколькі многія з персанажаў да ўсяго знаходзяцца ў сваяцтве. На гэта звярнуў увагу яшчэ Васіль Быкаў, аналізуючы раман «Вам — заданне». У рэцэнзіі «Наука побеждать», змешчанай у «Литературной газете», Васіль Уладзіміравіч пісаў: «Это многоплановое произведение, по-видимому, задумывалось автором как традиционный семейный роман — с обстоятельным и неторопливым исследованием характеров в их семейных и бытовых сцеплениях, как это и принято в современной и классической литературе, имеющей немало великолепных примеров такого рода». Разам з тым Быкава-крытыка дапаўняў Быкаў-празаік, які ведаў, адштурхоўваючыся не толькі з вопыту сучаснай літаратуры, а і з уласнай творчай практыкі, што час прынёс адчувальныя змены нават у такі, здавалася б, непахісны асяродак, як той, які трымаецца на сваяцкіх адносінах, таму далей развіваў сваю думку такім чынам:

«Но известно, что наш XX век с его отличительными от предыдущих времен, порой лихорадочными и сумбурными ритмами жизни семейные рамки тесны и недостаточны. И уж они совершенно не в состоянии выдержать напора тех бурных страстей и ошеломляющих событий, которыми изобиловала минувшая война». Быкаў, зыходзячы з гэтага, разумеў, якую цяжкую задачу паставіў перад сабой Чаргінец. Аднак не мог і не вітаць яе, бо пасля ўжо прачытання рамана «Вам — заданне» пераканаўся, наколькі маштабная задума аўтара адпавядае адэкватнаму ўвасабленню.

Ужо ў першай кнізе дылогіі сюжэтныя вузлы завязаны туга, а лёсы персанажаў пераплецены не менш моцна — сапраўды ствараецца адчуванне іх прыналежнасці да адной сям'і. Аднак навідавоку і іншая, не толькі сваяцкая сувязь. Усе яны — сыны і дочкі адзінай савецкай сям'і. Канешне, як і ў кожнай сям'і, аказаліся ў ёй і тыя, хто не вытрымаў суровых ваенных выпрабаванняў, стаў на шлях здрады, супрацоўніцтва з фашыстамі, але іх адзінкі. Як бы ні спрабавалі сучасныя інквізітары ад гістарычнай навукі сцвярджаць, што, маўляў, на франтах, у партызанах і падполлі адбывалася ўсё далёка не так, як гэта падносіла дзесяцігоддзямі савецкая гістарыяграфія, намаганні іх марныя. Бо засталася сувязь пакаленняў. Жывыя сведчанні непасрэдных удзельнікаў тых памятных падзей. Нарэшце, гэтую праўду даносяць сучаснікам (і данясуць нашым патомкам) творы, падобныя дылогіі Чаргінца.

Уцешна ўжо тое, што Мікалай Іванавіч у рамане «Вам — заданне» не толькі праўдзіва расказаў пра барацьбу савецкіх людзей з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, а і звярнуўся да тэмы, якая да яго амаль не кранілася: удзел у Вялікай Айчыннай вайне былых супрацоўнікаў міліцыі. Хоць, калі гаварыць пра раман у цэлым, іхнія лёсы не заўсёды ўдаецца вычленіць, вылучыць з асяродку іншых, ім падобных. Да і наўрад ці гэта неабходна. Уся вялізная краіна ўзнялася на абарону Айчыны ад ворага, таму ў творы такі шырокі ахоп падзей: фронт, падполле, партызанская дзейнасць і разам з тым тыл, куды ў шпіталі трапляюць раненыя. Лёсы ж галоўных персанажаў настолькі пераплецены, што часам здаецца (на гэта звярнуў увагу і Быкаў), што аўтар надта часта карыстаецца элементам выпадковасці. Праўда, калі пасля прачытання рамана ў памяці ўзнаўляеш асноўныя сюжэтныя хады, разумееш, што, карыстаючыся падобным прыёмам, аўтар, нягледзячы ні на што, не далёкі ад ісціны. Адбывалася многае з таго, што ў мірны час ні ў якім разе адбыцца не магло. Звыклага ж укладу жыцця пазбавіліся тысячы і тысячы людзей. Тыя, хто жыў побач, былі раскіданы на сотні кіламетраў адзін ад аднаго, а потым у сілу розных абставін, зноў перамясціліся з месца на месца. У гэтым калейдаскопе і адбывалася самае неверагоднае.

Падобны лёс наканаваны оперупаўнаважанаму крымінальнага вышуку Аляксею Купрэйчыку, які, не паспеўшы адгуляць сваё вяселле, узяўся за зброю, каб неўзабаве стаць камандзірам палкавой разведкі. Яго ж стрыечнаму брату, участковаму міліцыянеру Пятру Мачалаву давялося ўзначаліць роту. Менавіта яны, як і многія іншыя, паскорана праходзяць навуку перамагаць, якой няма ні ў адным падручніку. Дый калі б былі такія падручнікі, наўрад ці змаглі б яны прадбачыць, якой будзе будучая вайна. Няпростае гэтае ўваходжанне ў свет насілля, слёз, смерці і для юнага Валодзі Славіна, які стаў падпольшчыкам.

На першы погляд, яго ўклад у барацьбу з ворагам не такі і вялікі. Аднак Славін здзяйсняе свой першы важны крок на шляху пераадольвання няўпэўненасці ў сабе, пачынае разумець, што пры жаданні здатны ўнесці свой уклад у разгром фашызму. Чаргінец, расказваючы пра Славіна, канешне, меў на ўвазе і тых падпольшчыкаў (прозвішчы асобных з іх мы, на жаль, ніколі не даведаемся, бо яны рана загінулі), якія пад кіраўніцтвам Мікалая Кедышкі, Захара Гало і іншых, хто стаяў на чале мінскага камуністычнага падполля, як маглі, набліжалі светлы Дзень Перамогі. Безумоўна, пры напісанні гэтага рамана дапамаглі

Чаргінцу і ўражанні ад уласнага ваеннага маленства. У сілу ўзросту сам ён не мог удзельнічаць ва ўсенародным супраціўленні захопнікам, але ведаў, што ў родным горадзе пастаянна «руіны стралялі ва ўпор» па гітлераўцах. Цягам часу ўбачанае тады, пачутае, стала магутным каталізатарам памяці і дапамагло яму стварыць вобраз Славіна, які адначасова ўвабраў у сябе рысы людзей, якія сталі прататыпамі.

Як і патрабавала таго аўтарская задума, усе героі рамана паказаны ў развіцці. Вайна для большасці з іх не закончылася з выгнаннем фашыстаў з роднай зямлі. Яна працягвалася ў заходніх раёнах Беларусі, дзе за зброю ўзяліся тыя, хто не прыняў савецкую ўладу. У сваёй азлобленасці яны не толькі запалохвалі мясцовае насельніцтва, але і забівалі ні ў чым не вінаватых людзей. З гэтымі бандытамі давялося сутыкнуцца і Славіну, які прыняў актыўны ўдзел у выкрыцці і разгроме банды мацёрага злачынцы Федзькі, які дзейнічаў настолькі нахабна, упэўнена ў сабе, што спецыяльнай групе, у якую ўваходзіў і Славін, нічога не заставалася, як укараніцца ў логава ворага.

Элементы дэтэктыва, што з'явіліся ў рамане разам з гэтай сюжэтнай лініяй, надаюць усяму дзеянню вастрыню. Яна яшчэ больш узмацняецца, калі пошукавая група, якую ўзначальвае Пётр Мачалаў, выявіла на аддаленым хутары, размешчаным у лесе, двух бандытаў. Каб схаваць свой сапраўдны твар, адзін з іх маскіраваўся пад старшыну Савецкай Арміі, а другі — і зусім пад маёра, Героя Савецкага Саюза.

Раман заканчваецца на аптымістычнай ноце: для большасці персанажаў жыццё складваецца больш-менш паспяхова. На родную зямлю вяртаецца і пасталеўшы Уладзімір Славін. Аднак пісьменнік не збіраўся ставіць кропку ў яго лёсе, завяршаючы твор такімі словамі: «Да, для Славина, как и для всех наших людей, окончилась Великая Отечественная война. Однако о покое он пока не мог даже и помышлять. Впереди его ждали иные тревоги, иные волнения. Борьба продолжалась». Як і ў лёсе іншых персанажаў, пра што сведчыў апошні радок: «Конец первой книги».

## Пошук выйсця з лабірынта

Другая кніга не прымусіла сябе чакаць: праз год, у 1983-м, яна выйшла ў тым жа выдавецтве «Мастацкая літаратура». Як і папярэдняя, мела вялізны для сённяшняга дня наклад — 90 тысяч асобнікаў. Для тых гадоў — таксама. Дастаткова сказаць, што былі часы, калі кнігамі Чаргінца «Мастацкая літаратура» не толькі пакрывала ўсе свае выдавецкія выдаткі, а і яшчэ мела прыбытак. Мікалай Іванавіч станавіўся ўсё больш запатрабаваным аўтарам, прызнаным майстрам гераіка-патрыятычнага жанру ў беларускай літаратуры, а тым больш таго кірунку, які мае дэтэктыўную аснову.

Яна навідавоку і ў рамане «За секунду да выстралу». Размеркаваны ў Сібір пасля вучобы лейтэнант Славін літаральна адразу вымушаны расследаваць забойства: у адной з машын знойдзены труп. Шафёр сцвярджае, што ён да гэтага забойства не мае ніякага дачынення. Дый не здагадваўся аб наяўнасці такога «пасажыра». Поўная нечаканасцей і служба маёра Пятра Мачалава, які ў зруйнаваным фашыстамі Мінску ўзначаліў аддзел міліцыі. Не паспеў дэталёва пазнаёміцца са сваімі абавязкамі, як паступіла паведамленне, што «неизвестные напали на одиноких стариков, проживающих в своем доме, убили хозяина и ограбили квартиру».

І гэта толькі пачатак. Той жа Славін, расследуючы забойства, на адным з закінутых таежных скрыжаванняў у буфетчыцы пазнае былую асведамляльніцу СД у акупіраваным Мінску Латаніну, на сумленні якой нямала загінуўшых падполь-

шчыкаў. Выдала яна і бацьку Славіна. Цяпер, узяўшы іншае прозвішча, адчувае сябе ў бяспецы і спадзяецца, што яе ніхто ў такой глухамані не знойдзе. Разам з тым працягваюцца разбоі ў Мінску. І калі Славіну не ўяўляе вялікай цяжкасці выкрыць Латаніну, дык Мачалаву даводзіцца папрацаваць нямала. Пройдзе не так і шмат часу, і шляхі іх сыдуцца. Славін таксама прадоўжыць сваю службу ў Мінску.

«За секунду да выстралу» — перш за ўсё дэтэктыў, у якім назіраецца складанае перапляценне лёсаў, прысутнічаюць вострыя драматычныя, а то і трагічныя выпадкі, пастаянна даюць аб сабе знаць сітуацыі, што часам нагадваюць лабірынт, з якога выбрацца вельмі складана, паколькі святло, што «запальваецца» на выхадзе, нечакана гасне, а, здавалася б, правільны ход аказваецца памылковым. Перад намі не тое чціва, што захоплівае чытача з невысокімі эстэтычнымі патрабаваннямі, які жадае як-небудзь «забіць» вольны час, а раман, што займае не толькі вастрынёй сюжэта, але і дазваляе пры гэтым нанова асэнсаваць для сябе такія, здавалася б, простыя і разам з тым значныя ісціны, як сумленнасць, прыстойнасць, абавязак, і тыя, што знаходзяцца на супрацьлеглым полюсе і таксама сведчаць пра тое, колькі, на жаль, у чалавеку яшчэ шмат такога, што можа прывесці да злачынства.

Мікалай Чаргінец лішні раз пераконвае, наколькі добра ён ведае жыццё. Перш за ўсё жыццё Мінска пасляваенных гадоў. Нават той, хто ў гэтым горадзе ніколі не жыў, праз вобразы шматдзетнай Мані Жовель, прадаўца піва старога Муляра і некаторых іншых персанажаў адчуе саму атмасферу таго часу, калі людзям даводзілася літаральна выжываць, прыстасоўвацца да абставін, у некаторых выпадках не асабліва абцяжарваючы сябе цвёрдымі маральнымі прынцыпамі. Аўтар рамана «За секунду да выстралу» застаецца не толькі аналітыкам, для якога важна спасцігнуць сутнасць з'яў, а і псіхолагам, які выдатна адчувае дынаміку развіцця характараў. А яшчэ (і гэта галоўнае) заўсёды, пра каго б ні расказваў, бачыць у ім перш за ўсё чалавека, а потым ужо, калі адбудзецца больш дэталёвае знаёмства, паказвае, наколькі гэты чалавек адпавядае гэтаму званню ці зусім не варты яго.

Чалавеказнаўчыя пачаткі ў гэтым рамане не менш моцныя, чым у папярэднім, а часам па сваёй выразнасці, пераканальнасці нават пераўзыходзяць іх. Узяць хоць бы эпізод, калі Мачалаў убачыў хлопчыка, які тануў. Рызыкуючы ўласным жыццём, ён спрабуе выратаваць яго. Ад свайго намеру не адмаўляецца і тады, калі шанцаў на гэта па сутнасці ўжо няма. Балюча становіцца на сэрцы, калі даведваешся, што хлопчык памёр. Разам з тым разумееш, наколькі гэты трагічны момант узвысіў героя, лішні раз засведчыўшы, што людзі ў міліцэйскіх пагонах — гэта людзі гонару, высокага абавязку, маральнасці і чалавечнасці.

Не менш значную нагрузку нясе эпізод, калі Славін сутыкаецца адзін на адзін з мацёрым бандытам Солахам. Чаргінец нікольki не ідэалізуе свайго героя. Спачатку лейтэнант дапусціў недаравальную памылку: «Он вышел из-за дерева, готовясь к рукопашной схватке, а Солох в этот момент выстрелил», раніўшы яго. Іншы б на месцы Славіна пасля ўсяго гэтага, не задумваючыся, прыстрэліў бы бандыта. І ніхто б яго за гэта не асудзіў бы. Аднак Славін не такі. Ён прывык нават у самай складанай сітуацыі дзейнічаць так, каб ніколі не пакутавала сумленне за паслабленне самому сабе. Таму і не забівае Солаха, а толькі страляе яму ў плячо.

Дылогія ў свой час мела ашаламляльны поспех у чытачоў. Абодва раманы, не паспеўшы з'явіцца на кніжных паліцах, сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Адразу дало свае вынікі ўменне Чаргінца пераконваць у навуцы перамагаць. Пагадзіцеся, такое дадзена далёка не кожнаму пісьменніку, асабліва, калі ён працуе ў жанры гераіка-прыгодніцкай літаратуры. Але талент ёсць талент. Незалежна ад таго, у якой творчай сферы ён раскрываецца.

## У Афгане, як у Афгане

Не мог Мікалай Іванавіч не звярнуцца і да падзей афганскай вайны. Ягоныя раманы «Тайна Черных гор» і «Сыновья» — на дзіва праўдзівыя і па-мастацку дасканалыя. Тым не менш у другім з названых твораў заўважаецца больш глыбокае пранікненне ў сутнасць падзей, непасрэдным удзельнікам якіх быў і сам, а таксама куды больш скрупулёзна расказваецца, як тое, што адбывалася ў гэтай краіне, адгукнулася ў лёсах савецкіх людзей. Пісьменнік пастаянна праводзіць паралель з мірнай рэчаіснасцю. Тым самым як бы супастаўляе тое, што назіралася ў той час у самай гарачай кропцы планеты, і тое, з чым развіталіся тыя, хто выконваў свой інтэрнацыянальны абавязак. Пры гэтым, як на ратным полі, так і ў мірным жыцці, праяўляюцца не толькі гераізм, смеласць, сумленнасць, прыстойнасць. І там і тут прысутнічаюць таксама подласць, баязлівасць, абыякавасць, здрада. Апроч таго ў «Сыновьях» у адрозненне ад «Тайны Черных гор» у значна большай ступені паказаны паўсядзённыя будні барацьбітоў за свабодны Афганістан — як савецкіх воінаў, так і афганцаў, якія падтрымліваюць новую ўладу. Будні ж гэтыя, на жаль, у большасці сваёй — пастаянныя баі, размініраванне мясцовасці, а за імі даволі часта смерць маладых байцоў, якія, кажучы словамі паэта Мікалая Маёрава, адыходзяць «недолюбив, не докурив последней папиросы».

Такі лёс і аднаго з галоўных герояў «Сыновей» — мінчаніна Мікалая Колбіка, у якім, як і ў яго сябру Паўле Чайкіну, а таксама ў іх маці Веры Фёдараўне і Ніне Цімафееўне, пазнаюцца канкрэтныя людзі. Хоць дакументальнасць асновы твора добра адчуваецца не толькі ў прывязцы да тых, хто жыў ці жыве сёння. На ўсё трэба глядзець больш шырока. Чаргінец умела стварае тыповыя характары сваіх персанажаў у тыповых для таго часу абставінах. Гэтаксама смела можна сцвярджаць, што і камандзір батальёна падпалкоўнік Бунцаў, у жыцці і паводзінах якога прысутнічае шмат таго, што пражыў сам Мікалай Іванавіч, канешне ж, не спісаны аўтарам з самога сябе. Гэта таксама вобраз збіральны і, як і іншыя персанажы, пераканаўчы, праўдзівы. Як і праўдзіва, пераканаўча ўсё тое, пра што расказваецца ў гэтым рамане, пачынаючы з яго першых старонак, на якіх і адбываецца знаёмства з Мікалаем Колбікам, і завяршаючы апошнімі, калі тыя, хто выжыў, вяртаюцца на Радзіму.

Гаворачы пра Колбіка, пісьменнік грунтоўна прасочвае працэс станаўлення гэтага юнака. Спачатку Мікалай «рос слабеньким и болезненным. Однако в профессионально-техническом училище, куда […] поступил после окончания восьмого класса, возмужал, увлекся мотоциклом». Адносна Колбіка можна сказаць, што за гэты час адбылося і мужанне іншага плана, у нечымі нават больш важнага. Мікалай рана сфарміраваўся як асоба. А яшчэ зразумеў, што паняцце «абараняць Радзіму» — адно з самых святых на зямлі. Гэтаму нямала спрыяла выхаванне ў сям'і, а яшчэ прыклад старэйшага брата, які нядаўна вярнуўся з арміі. Таму Мікалай і рвецца менавіта ў ваенна-паветраныя войскі, служба ў якіх, як ён пераканаы, дапаможа яму найлепей раскрыцца, праявіць сябе.

Праўда, калі такое імкненне будучага прызыўніка шмат у чым можна растлумачыць яго празмернай юнацкай рамантычнасцю, дык першыя тыдні знаходжання ў арміі засведчылі, што гэта ўзважаны крок: «Я возненавидел бы себя, если бы отказался ехать в Афганистан. Ведь еще месяц назад нам говорили: если кто не хочет ехать туда, то может отказаться, его после окончания учебки направят в одну из частей, находящихся в Советском Союзе. Пойми, я иначе не могу». Так ён у думках гаворыць маці, якая прыехала да яго ў Ташкент. У думках, бо не хоча, каб яна лішні раз хвалявалася, а ўслых суцяшае: «Я уже взрослый мужчина. Ты не волнуйся, все будет нормально. Писать тебе буду каждый день, и ты мне пиши ежедневно. Договорились?»

Тым не менш, сапраўдным мужчынам Колбіку яшчэ трэба стаць. І Чаргінец пераканаўча паказвае пераўтварэнне гэтага персанажа з бязвусага хлапца ў смела-

га і рашучага байца. Паколькі ідзе вайна, гэты працэс адбываецца не толькі хутка, а і ўвогуле паскоранымі тэмпамі. Параўнаўшы, якім быў Мікалай у першыя дні свайго знаходжання ў Афганістане, з тым часам, калі ён паспеў ужо дастаткова панюхаць пораху, дык гэта неба і зямля.

З цеплынёй і любоўю расказвае Чаргінец пра камандзіра батальёна Бунцава, камандзіра роты Бачарова, нампаліта батальёна Шукаліна, начальніка штаба Місніка і іншых. Розныя ў іх воінскія званні, але нязменна прысутнічае тое, што аб'ядноўвае гэтых і іншых сумленных людзей: бездакорнае выкананне свайго воінскага абавязку, а яшчэ ўменне і жаданне дзейнічаць не столькі па статуце, колькі ўлічваючы канкрэтныя абставіны. У гэтым яны адрозніваюцца ад некаторых з тых, хто, праходзячы службу ў Савецкім Саюзе, не ведае і не хоча ведаць баявых рэалій. Адзін з іх — безыменны падпалкоўнік, які ўзначальвае камісію, што прыехала для праверкі. Даходзіць да таго, што ён загадвае падняць батальён па трывозе і правесці начныя стрэльбы. Бунцаў спрабуе пераканаць яго, што ў гэтым няма ніякага сэнсу: «Мы здесь столько провели ночных стрельб, что на всю оставшуюся жизнь хватит». Ён прыводзіць доказы, наколькі гэта небяспечна: «А знаете ли вы, что до полигона ночью идти не имеет смысла, противник часто минирует дорогу. Стрельба же на самом полигоне демаскирует, и нас могут обстрелять душманы. Нужны ли нам неоправданные потери?» «Прошу выполнять мои требования, — сухо ответил подполковник и вышел из кабинета».

Няёмка становіцца, калі даведваешся, як павёў сябе гэты «стратэг», калі непадалёку ад КП разарвалася некалькі ракет: «Все продолжали работать, как ни в чем не бывало. А проверяющий от неожиданности бросился на земляной пол, покрытый толстым слоем пыли. Мало того, падая, он уронил табурет, и в панике, когда снова рядом разорвалась ракета, укрыл табуретом голову». Але Бунцаў, трэба аддаць яму належнае, аднёсся да ўсяго стрымана: «Комбат в этом проявлении страха со стороны подполковника увидел обычное человеческое чувство: «А кому не страшно в первый раз, да еще ночью?»

Здавалася б, маленькі эпізод, але як шмат паказана. З аднаго боку, бачна, што тыя, хто збіраецца бяздумна камандаваць людзьмі, самі часта нікчэмныя; з другога — навідавоку высакародства сапраўднага байца, які не толькі смела прайшоў праз многія баі, аднак і разумее, што кроў людская — не вада, лепш бы марна яна не пралівалася. Бунцаў належыць да камандзіраў, з якіх, хай не падасца гэта банальным, трэба браць прыклад. Чаргінец не шкадуе ўхвальных слоў, каб больш расказаць пра тых, хто, падобна Бунцаву, для падначаленых — не толькі камандзір, а і старэйшы таварыш. Ужо гэтага эпізоду дастаткова, каб пераканацца, наколькі аўтар «Сыновей» цвяроза падыходзіць да ацэнкі падзей, што адбываліся ў Афганістане. Ён прытрымліваецца праўды і толькі праўды. Яму няма неабходнасці ў тым ачарненні, да якога апускаюцца тыя, хто спрабуе падаць савецкіх салдат як звычайных акупантаў, аднак не замоўчвае пры гэтым таго негатыўнага, што, на жаль, часам там назіралася.

Гэтаксама праўдзіва расказваецца і пра мірнае жыццё. Знайшлося ў рамане і месца ілжэафганцу, нейкаму Алёфіну. Можна напаткаць тут і звычайных гнюсных ананімшчыкаў, якіх не спыняе нават тое, што яны паклёпнічаюць на сям'ю, у якой ваюе, а потым гіне ў Афганістане сын. Выкрывае пісьменнік і некаторых чыноўнікаў, для якіх таксама няма нічога святога, і якія прыніжаюць сваім бюракратызмам, адсутнасцю спагады. Гэта само жыццё — жыццё, што ажывае пад пяром сумленнага грамадзяніна і пісьменніка.

У рамане ўсебакова аналізуюцца і цяжкія выпрабаванні, што выпалі на долю не толькі самога Мікалая Кобліка, а і яго маці. Пачаліся яны для Веры Фёдараўны яшчэ задоўга да таго, як яе сына прызвалі ў армію. Пра гэта Чаргінец гаворыць на дзіва лаканічна, у нечым нават пратакольна суха: «Тысяча девятьсот сорок пятый год. Уже кончается война, и вдруг страшное известие: в Венгрии погиб отец.

Прошло два года. Мама шестилетней Верочки поехала на могилу мужа. Автокатастрофа… И Верочка осталась одна…».

Здавалася б, самы час падрабязней пагаварыць аб яе выхаванні, пра тое, як яна ўваходзіла ў самастойнае жыццё. Аднак у творы вытрыманы ранейшы стыль: «Затем детский дом, учеба в школе, студенческие годы… И вот и это счастливое время, когда Вера выходит замуж. Появились дети. Трое сыновей. Казалось бы, счастье наконец улыбнулось, но горе уже подстерегает ее. В аварии погибает муж, затем она теряет своего первенца… И порок сердца — это, пожалуй, самое малое, чем могла она заплатить судьбе, чтобы пережить все это…»

Толькі пазней, калі разам з аўтарам заглыбішся ў жыццё гэтага персанажа, пачнеш разумець, чаму Чаргінец да гэтага быў такім нешматслоўным. Усё, што было з Верай Фёдараўнай да Афганістана пры ўсёй яго нейкай зададзенасці, драматычнасці не столькі трагічна і страшна, як тое, што адбываецца цяпер. Аўтар «Сыновей» пастулова падрыхтоўвае чытача да таго, што абавязкова будзе тое, у параўнанні з чым пережытае раней падасца толькі маленькай часткай выпрабаванняў, якія выпалі на долю гэтай жанчыны. І тады сон, што прыйшоў да яе адразу пасля вяртання з Ташкента, дзе яна пабачылася з сынам і праводзіла яго ў Афганістан, не ведаючы, што тым самым развітваецца з Колем назаўсёды, набывае асаблівы ракавы сэнс: «Она стоит в каком-то незнакомом полутемном помещении и замечает большую черную змею, которая, извиваясь, ползет к Коле. Отчетливо виден из змеиной пасти длинный язык-жало. Вере Федоровне стало страшно. Змея вот-вот подползет к сыну, а Коля безмятежно спит. Она хочет закричать, предупредить его, но только беззвучно открывает рот. Вера Федоровна лихорадочно шарит по полу, хочет найти какой-нибудь предмет, чтобы прогнать змею. Ей попадается мягкий, матерчатый чехол от зонтика. Вера Федоровна видит, что змея подползла к чехлу и начала влезать в него.

«Господи, как же такая огромная змея может поместиться в маленьком чехле?» — с ужасом смотрит Вера Федоровна. А змея полностью скрылась в чехле. И тогда Вера Федоровна хватает змею и начинает давить ее. Она чувствует холодное, извивающееся тело змеи, которая пытается вырваться и при этом издает какой-то пронзительный звук. «Как звонок звенит», — подумала Вера Федоровна и проснулась».

Змяя гэтая, калі прасочваецца ўсё кароткае і гераічнае жыццё Колбіка, успрымаецца нейкім страшным сімвалам. І не для аднаго яго, які склаў сваю галаву ў баі, а і для іншых хлопцаў, сярод якіх аказаліся і тыя, з кім ён сябраваў ці проста служыў. Сюжэтныя лініі, што прасочваюць іх лёсы, у нечым успрымаюцца свайго роду раманам у рамане. Гэта, аднак, не азначае, што яны адасоблены ад асноўнага дзеяння, а якраз з'яўляюцца яго арганічным працягам. Разам з тым можна гаварыць і пра другі твор, што сюжэтна вырастае з першага, бо хлопцам, якія служылі з Мікалаем, даводзіцца прайсці праз афганскі палон, перажыць там катаванні, здзекі, прыніжэнні. Аднаму Лявонаву і Аляксею Мікалаеву ўдасца выжыць, а астатнія загінуць.

Тады адбылося тое, што ў Савецкім Саюзе замоўчвалася, як і іншая праўда пра Афганістан. Толькі праз замежныя «галасы» прасочвалася інфармацыя, што на адной з буйнейшых пакістанскіх ваенных баз, на якой утрымліваліся савецкія ваеннапалонныя і афганцы, таксама напаткала няволя, адбылося паўстанне. У выніку яго ўся база ўзляцела ў паветра: «Взрыв был такой силы, что даже за многие километры от базы вылетали стекла из окон домов, а люди выскакивали из них, считая, что началось землетрясение».

Старонкі аб пакістанскім палоне ў жанравых адносінах прымыкаюць да палітычнага рамана. Аўтар расказвае пра тых, хто нават у самых зверскіх умовах не зламаўся. Адначасова ён выкрывае тых барацьбітоў за дэмакратыю, хто прывык, прыкрываючыся двайнымі стандартамі, выступаць у ролі праваахоўнікаў. Канешне, паняцці «дэмакратыя», «правы чалавека», як і «двайныя стандарты»,

у творы не фігуруюць. У час напісання рамана яны яшчэ не атрымалі шырокай агалоскі. Ды сутнасць ад гэтага не мяняецца. Радуе іншае: Чаргінец па сутнасці абагнаў свой час, закрануўшы праблему, на якую літаратура яшчэ не звяртала ўвагі. Тым самым ён стаў першапраходцам. Дарэчы, пасля гэтага ў падобнай ролі ён выступае неаднаразова, ускрываючы парокі буржуазнага грамадства ў самым розным іх праяўленні.

Усе гэтыя заакіянскія дабрадзеі кшталту амерыканца Роберта, англійскага лорда Нікаласа Бетэла, той жа амерыканскай разведчыцы Людмілы Торн, якая праходзіць пад сваім прозвішчам у ролі перакладчыцы, і іншых нічым не адрозніваюцца ад тых, хто і цяпер спрабуе прымусіць увесь свет жыць па ўласным узоры. Аднак карта ўсіх гэтых паноў біта. Савецкіх салдат, як і іх аднагодкаў, на мякіне не ашукаеш. Сярод іх не знайшлося тых, каму б захацелася пакаштаваць даброты замежнай цывілізацыі, у першую чаргу амерыканскай. У нечалавечых умовах яны не толькі выжылі, а і, знайшоўшы агульную мову, паднялі паўстанне.

Раман «Сыновья», як і многія іншыя кнігі Чаргінца, неаднойчы перавыдаваўся (гэта пры тым, што першы наклад яго, як і «Тайны Черных гор», быў для Беларусі — агромністы — 180 тысяч асобнікаў), само па сабе ўжо сведчыць аб запатрабаванасці гэтага твора. Ёсць і яшчэ не менш прыемны факт. У 1989 годзе (ён быў і годам выхаду «Сыновей» у выдавецтве «Мастацкая літаратура») аддзел сацыялогіі Дзяржаўнай кніжнай палаты БССР прапанаваў чытачам спіс усіх 140 мастацкіх і дакументальна-мастацкіх кніг, што выйшлі тады ў рэспубліцы. Пасля аналізу 1503 атрыманых анкет ЭВМ паставіла «Сыновей» на трэцяе месца. Першая была названа кніга «Знак бяды. Раман. Кар’ер. Аповесць» Васіля Быкава, а другой — «Хатынская аповесць. Публіцыстыка» Алеся Адамовіча. Што ж, чытач аддае перавагу сапраўднай літаратуры. Дарэчы, годам раней кніга Чаргінца «Загад № 1» у выніку правядзення такога ж апытання заняла другое месца. Пасля «Аповесцей» Быкава. Сам жа Мікалай Іванавіч сваім любімым творам лічыць дылогію «За секунду до выстрела» і раман «Сыновья».

## Боль, які суцяшэнню не падлягае

Сапраўды, як сведчыць раман «Вам — заданне», Вялікая Айчынная вайна не адпускае Чаргінца ад сябе. Добра, што да яе па-ранейшаму ўважліва ставяцца і іншыя беларускія пісьменнікі, бо зверствы фашыстаў забыццю не падлягаюць. Таму пра самую страшную вайну ў гісторыі чалавецтва і напісана так шмат. Хоць, бадай, адначасова і мала. Тэма гэтая — як той сусветны акіян — чым глыбей у вір яго пагружаешся, тым больш адкрываецца нязведанага, а тое, што ведаў да гэтага, паўстае ў іншым, часам нечаканым ракурсе. Таму падзеі Вялікай Айчыннай вайны яшчэ асэнсоўваць і асэнсоўваць.

Важны і такі аспект. Безумоўна, гаворачы аб падзеях Вялікай Айчыннай, нельга не разглядваць іх у кантэксце ўсёй Другой сусветнай вайны. Хоць, калі добра разабрацца, падыходзіць да ўсяго ў такім ракурсе — гэта ў большай ступені задача гісторыкаў, якія даследуюць гэтыя праблемы. У пісьменнікаў задача крыху іншая: пэўныя падзеі, з’явы разглядаць праз лёсы людзей, паказваючы, што вайна для савецкага народа і сапраўды была ўсенароднай, з’яўлялася менавіта Вялікай Айчыннай, паколькі ад зыходу яе залежаў лёс усёй Айчыны. Таму ні ў якім выпадку нельга абяляць тых, хто стаў на шлях здрадніцтва, служачы захопнікам.

Падобныя думкі, канешне, не новыя, аднак пасля прачытання рамана Чаргінца «Операция «Кровь» над гэтым хочацца задумацца яшчэ раз. Асабліва прыемна, што дзякуючы яму з’явілася добрая магчымасць па-новаму, у больш шырокім аспекце спасцігнуць тыя старонкі ўсенароднай барацьбы з фашызмам, да якіх беларуская літаратура амаль не звярталася, а калі і звярталася, то асэнсоўвала іх

не так грунтоўна, як таго хацелася б. Перш за ўсё гэта тычыцца ўдзелу ў барацьбе з фашызмам яўрэяў, а таксама раскрыцця зверстваў гітлераўцаў у адносінах да дзяцей, якіх захопнікі выкарыстоўвалі ў якасці донараў для нямецкіх салдат і афіцэраў.

Аднак калі глядзець у цэлым, дык новы раман Чаргінца, канешне ж, таксама аб Вялікай Айчыннай вайне як найбольш гераічнай старонцы ў гісторыі Савецкага Саюза. Пісьменнік праўдзіва расказвае аб народнай мужнасці і народнай трагедыі. У творы створаны яркія, запамінальныя вобразы тых, хто са зброяй у руках змагаўся за вызваленне роднай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Разам з тым вельмі праўдзіва паказаны і тыя, хто аказаўся па другі бок барыкад, у цяжкі час думаючы толькі пра сябе, дбаючы аб асабістым уратаванні, ні ў што не ставячы жыцці іншых людзей. Дзякуючы вялікаму пісьменніцкаму майстэрству Чаргінца і першыя, і другія выпісаны ўсебакова, з глыбокім спасціжэннем іх характараў, з уменнем падрабязна паказаць, як і чаму той ці іншы чалавек паводзіў сябе ў пэўных абставінах, здзяйсняючы той, а не іншы ўчынак.

Пачатак рамана лаканічны, вытрыманы ў рамках рэалістычнага пісьма. Нічога лішняга, усё, здавалася б, вельмі проста, нават у пэўнай ступені прысутнічае тэлеграфны стыль апавядання, але навідавоку тая інфармацыя, якая адразу дазваляе ўбачыць, хто ёсць хто: «Розе было всего пять, а ее брату и сестре гораздо больше, когда началась война. Две еврейские семьи жили в небольшом кирпичном доме по улице Сторожевской. В семье Левиных, кроме Розы, было еще двое детей — девятилетний Исаак и двенадцатилетняя Сара. Родители старались воспитывать детей так, чтобы они были дружными и трудолюбивыми. Отец Михаил Исаакович работал мастером по ремонту обуви, а мама Эмма Самуиловна — аптекарем. Жили не богато и не худо. В доме было что поесть и что надеть». Гэтаксама лаканічна гаворыцца і пра суседзяў Левіных — Рабіновічаў. А ў суседнім доме жылі Статкевічы, у якіх было шасцёра дзяцей.

Тры звычайныя мінскія сям'і. Яны шмат у чым падобны між сабой, аднак у нечым, канешне, і розныя, са сваімі характарамі і лёсамі. Цяпер жа ўсе яны апынуліся ў віры такіх падзей, што выратавацца можна толькі цудам. Хоць да гэтага трэба імкнуцца, інакш смерць прыйдзе яшчэ хутчэй, а так, магчыма, і абыдзе бокам.

Дзеянне ў рамане імкліва набірае абароты. І ўжо не толькі ў акупіраваным Мінску адбываецца яно, а і пераносіцца ў Берлін, Маскву… Тым самым пачынаецца панарамнае адлюстраванне і ўспрыманне вайны праз неардынарныя людскія лёсы. Аднак ёсць у творы і два месцы, на якіх пільней за ўсю сканцэнтроўваецца ўвага чытача, бо пра гэта падрабязна расказвае пісьменнік: мінскае гета і інтэрнат для дзяцей, што знаходзіцца ў вёсцы Сёмкава пад Мінскам.

Калі пра тое, што адбывалася ў гета, можна прачытаць і ў іншых аўтараў, дык пра зверствы фашыстаў, якіяператварылі дзяцей у донараў крыві для нямецкіх салдат і афіцэраў, да Чаргінца так падрабязна ніхто не расказваў. Дый пра мінскае гета да рамана «Операция «Кровь» былі ў асноўным толькі сведчанні тых, хто перажыў гэты жах, а таксама дакументальныя матэрыялы, заснаваныя на ўспамінах і архіўных звестках. Не адмаўляючы важнасці ўсіх гэтых публікацый, нельга не адзначыць, што нікому не ўдавалася так праўдзіва перадаць атмасферу насілля над тымі, каго гітлераўцы лічылі людзьмі другога гатунку.

Раман невыпадкова названы менавіта так — «Операция «Кровь». Хоць гэта і шматпланавы мастацкі твор, але ўсё, пра што расказваецца ў ім, у той ці іншай ступені мае дачыненне да вызвалення дзяцей, у якіх фашысцкія нелюдзі забіраюць кроў. Так актывізацыя партызанскага руху (аб гэтым у рамане таксама гаворыцца падрабязна) спрые таму, што павялічваецца магутнасць атрадаў народных мсціўцаў, на якіх і ляжа асноўная задача па вызваленні хлопчыкаў і дзяўчынак, асуджаных гітлераўцамі на пагібель. Перакладчыца Ірэна Караблёва, якая ўстанавіла сувязь з партызанамі, перадае ім сакрэтныя дакументы. Асаблівая роля

адводзіцца савецкай разведчыцы, якая выступае пад імем Ганны Фішар, законнай спадчынніцы маёнтка ў Сёмкаве.

Вельмі цікавы і вобраз Леаніда Цвяткова, які, так ужо атрымалася, таксама пайшоў на службу да фашыстаў. Хоць яго ў нейкай ступені можна і зразумець: «Был выбор отправиться в Германию, где батрачить, или в полицию. А у меня мать болела, отец умер в сороковом. Кроме меня в семье еще трое, я старший». Зразумець можна, але апраўдаць?! Добра яшчэ, што Цвяткоў своечасова спыніўся. Адбылося гэта дзякуючы яго добрай знаёмай. Цвяткоў бязлітасна помсціў тым, хто праліваў нявінную людскую кроў. У рамане заўважаецца далейшае развіццё гэтага вобраза. Хто ведае, магчыма, Чаргінец цягам часу і вернецца яшчэ да Цвяткова. Ва ўсякім разе, расказаць пра яго будзе што. Адступаючы, гітлераўцы завербавалі Леаніда і забралі з сабой. Гэтым ён падзяліўся з тымі, з кім даўно ўстанавіў цесную сувязь. Аднак новы раман можа быць, а можа і не быць, таму што толькі самому пісьменніку вядома аб яго творчых планах.

Цяпер жа ёсць цудоўны твор, у якім сказана новае слова аб Вялікай Айчыннай вайне. Тое, пра што расказаў Чаргінец, абпальвае сэрца сваёй бескампраміснай праўдай, якая настолькі страшная, што часам міжвольна ловіш сябе на думцы: а магчыма, было б лепш, калі б усяго гэта не ведаў. Але тут жа становіцца непамысна. Так лёгка стаць тым страусам, які гатовы хаваць галаву ў пясок, каб толькі не бачыць таго, ад чаго хоча любым спосабам пазбавіцца.

Праўда, узноўленая на старонках рамана «Операция «Кровь», канешне, абпальвае цябе, аднак боль гэты, нягледзячы ні на што, неабходны. Для таго ён патрэбны, каб зразумець, а як было ім, ні ў чым невінаватым, а часам і заблудным, гатовым перад страхам смерці пайсці на ўсё, каб толькі самім выжыць. Выжыць любой цаной. Нават цаной жыцця такіх жа няшчасных.

Старэйшыя пакаленні памятаюць фільм «Звычайны фашызм». Звярыны воблік фашызму ўвасабляў і «ліберал» гаўляйтар Беларусі Вільгельм Кубэ. Гэты «чалавекалюб» на адной са сваіх нарад прапанаваў такое вырашэнне яўрэйскага пытання:

«— Господа, у нас есть еще возможность улучшить результаты уничтожения этих нелюдей. Надо вселить мысль в головы прибывшим из Германии евреям, что у них есть хороший шанс после нашей победы вернуться на родину. Но чтобы это заслужить, им следует присоединиться к уничтожению белорусских и привезенных из других стран евреев. Например, в домах тех, кто направляется на работу, остаются старики, дети. У немецких евреев есть шанс обнаружить ценности и уплатить оккупационным властям контрибуцию. Не стесняйтесь, Готтенбах (начальник минского гетто. — *А. М.*) создавать внутренние отряды полиции из числа баварских, гамбургских, бременских отрядов. Пусть думают, что они сражаются за свою жизнь. Поверьте, они постараются».

І стараліся, не спыняючыся і перад забойствам. Ім абяцалі, што за гэта яны змогуць паехаць дахаты, аднак потым «посадили их всех в три эшелона, вывезли в сторону Баранович, высадили на трех полустанках и — в лес. А там уже вырытые траншеи и пулеметы с автоматами».

Памяць пасля знаёмства з раманам «Операция «Кровь» набывае яшчэ большую значнасць. Яна ператвараецца з нічога, хоць і значнага, аднак у нечым агульнага, у тое канкрэтнае, што ўвасоблена ў людскіх лёсах і перш за ўсё бязвінна забітых дзяцей. Памяць гэтая быццам матэрыялізуецца, становячыся да болю асязальнай. Мы, канешне, умеем дараваць, але мы не ўмеем забываць ваенныя злачынствы, якія не патрапляюць пад амністыю. Не маем на гэта права. Забываць не дазваляе нам наша сумленне. Дый сама будучыня, перад якой мы, жывыя, усе ў адказе. Гэты адказ трымаць нам даручылі тыя, каго фашысты пазбавілі жыцця ў самым пачатку яго. Даручыў яго і шаснаццацігадовы Абрам Рабіновіч. Вы памятаеце апошнія хвіліны жыцця гэтага падлетка?

«На шею Абраму повесили петлю. Он вдруг пошевелился, огромным усилием воли повернулся и попытался что-то сказать. Если бы Женя или кто-либо из ее друзей были рядом, они наверняка смогли бы услышать:

— Прощайте, дорогие. Я отомстил. Мы победим!!!

Машина тронулась, веревка натянулась, и вскоре под крики ужаса и стона людей Абрам Рабинович висел на виселице…»

Я гэтыя развітальныя словы не толькі памятаю, але і чую, нягледзячы на тое, што столькі дзесяцігоддзяў прайшло з таго часу, калі яны прагучалі. І чым больш людзей будуць памятаць іх, тым лепш.

* * *

Ужо нават з разгледжаных твораў добра відаць, наколькі шматгранная творчасць Чаргінца, як настойліва, мэтанакіравана і паспяхова асвойвае ён самыя розныя тэмы, робячы гэта па-свойму, правільным будзе сказаць, па-чаргінцоўску. Калі ж дадаць яшчэ раманы, што засталіся па-за межамі гэтага аналізу, то атрымаецца аб’ёмны літаратурны мацярык, густанаселены самымі celebrated рознымі персанажамі. За імі — жыццё, якое заўсёды простым не было, не ёсць ім, дый ніколі не будзе. Задача ж пісьменніка, як вядома, і заключаецца ў тым, каб, праўдзіва ўзнаўляючы яго, разам з тым, часам працаваць і як бы на апярэджанне, празорлівасцю свайго таленту нават прадбачыць тое, што магчыма. Для гэтага дастаткова і ўмела арыентавацца ў сучасных падзеях, падыходзячы да іх у глабальным разрэзе.

Менавіта гэтага дасягнуў Мікалай Іванавіч у рамане «Ілоты вар’яцтва» яшчэ за шэсць гадоў да трагедыі, што адбылася ў Нью-Ёрку. Сілай свайго таленту ён папярэдзіў аб той пагрозе чалавецтву, што нясе з сабой міжнародны тэрарызм. Раманам жа «Тайна Авальнага кабінета» таксама выказаў занепакоенасць тым, як складзецца далейшы лёс планеты, у жыццё якой усё больш умешваюцца жыхары таго дома, у якім няма нічога святога, а амаральнасць стала нормай паўсядзённага жыцця.

Антуан дэ Сент-Экзюперы неяк заўважыў: «Быць чалавекам — гэта адчуваць сваю адказнасць». Тым больш правільнае гэта сведчанне ў дачыненні да пісьменніка. Сапраўднага пісьменніка. Адчуванне адказнасці перад людзьмі, часам дый перад самім чалавецтвам і надае творчасці Мікалая Чаргінца той глыбінны сэнс, праяўленне якога магчыма толькі тады, калі паміж сабой з’яднаны талент, выразная гуманістычная сутнасць, ярка выражаная грамадзянская пазіцыя. Гэтым Мікалай Іванавіч і цікавы як пісьменнік.

***Фота Канстанціна Дробава.***



Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# ГАРНІСТ ДАЛЁКАГА МАЛЕНСТВА...

Ёсць такія моманты ў жыцці, падзеі, якія з гадамі не забываюцца, не сціраюцца з забыўлівай памяці, а наадварот — уяўляюцца, паўстаюць, бачацца ўсё выразней і яскравей. Нібыта гэта адбылося толькі ўчора, хоць жыццё не стаіць на месцы, няўмольна рухаецца наперад ды наперад, ведучы за сабою ўсё далей і далей ад станцыі пад назваю «Маленства». Хіба можна, скажам, забыць тую падзею, той дзень: паштарка прынесла ў хату «Піянер Беларусі», а ў газеце для мяне, пятнаццацігадовага школьніка з Гомельшчыны, неспадзяванка — надрукавалі мой верш «Васілёк»! Пісаў я ў рэдакцыю шмат, нават сам здзіўляюся той цярплівасці і добразычлівасці, якія праяўляў да мяне, да маіх «твораў» Хведар Жычка — літаратурны кансультант газеты. Ён не затрымліваўся асабліва з адказамі на іх, падрабязнымі, прыдзірлівымі і неймаверна карыснымі для мяне, пачаткоўца. Дзень 18 ліпеня 1958 года — дзень майго паэтычнага нараджэння. Я змог «узысці» на старонках маёй любімай газеты.

Ды як было не любіць яе, газету майго маленства, калі я знаходзіў у ёй тое, што падабалася мне, прываблівала, зачароўвала (і хіба толькі мяне аднаго?!), газету, якая была шчырым сябрам, літаратурным настаўнікам, паэтычным глобусам, дзе я адкрываў для сябе новыя імёны беларускіх пісьменнікаў, знаёміўся з творчасцю сваіх равеснікаў — Міколы Маляўкі, Міхася Зарэмбы, Машы Шаўчонак, Алеся Бяржынскага, Міхася Болсуна, Анатоля Чачоткі і г. д., і г. д. І зайздросціў, бывала, шчасліўчыкам, і радаваўся ўдала знойдзеным радкам, і чаго таіцца, засмучаўся, што не змог сам да такога дадумацца, знайсці патрэбныя словы і вобразы, паэтычна асэнсаваць.

Магчыма, некаму з сённяшніх чытачоў газеты трапяцца радкі, прысвечаныя «Піянеру Беларусі», то няхай не глядзяць на іх кпліва, з думкаю: «Відаць, пакрывіў ты душою, браце. Няўжо ўсё ад душы, усё праўда?» Праўда, чыстая праўда! І пісаў ад душы, ні кроплі не зманіў пачуццям:

Твой спеў,
Бадзёры, звонкі, чысты,
Як рэха з даўніх дзён імкне.
Гарніст вясновага дзяцінства,
Здалёк чуваць твой голас мне.

Ты быў са мной зімой і ўлетку,
Цябе я поруч адчуваў —
У школе, дома, на палетку
З табой вучыўся, працаваў.

Святлеў настрой, як ты прыходзіў, —
Сустрэч жаданых не забыць!
Вучыў мяне ты дружбе, згодзе,
Свой край любіць, сумленным быць.

Як сябру, з кім часінай тою
Адказ я мог на ўсё знайсці,
Табе даверыўся душою —
Радкамі, першымі ў жыцці…

Заплюшчу вочы, згадаю тыя дні — і, здаецца, нанава перагортваю старонкі цікавых аповесцей, тагачасных дэтэктываў, якія газета «Піянер Беларусі» друкавала з нумара ў нумар. Здаралася, з працягам на цэлага паўгода. «Пабярэжцы» Міколы Ваданосава, «Лань — рака лясная» Алеся Шашкова, «Дванаццатая вясна» Яўгена Курто (потым яна выйшла асобнаю кніжкай, але ўжо з назваю «Ён быў піянерам»), «Каштанавы “Масквіч”» Хведара Жычкі, «Школа ля крэпасці» Георгія Шыловіча… Яны бралі ў палон сваім вострым сюжэтам, прыгодамі, прымушалі з нецярпеннем чакаць прыходу газеты. Можа, таму, што час быў такі: не было тэлевізараў у хатах, нават радыёкропкі не ўсюды гучалі, менш выходзіла цікавых кніг, часопісаў, газет, чым сёння? Магчыма, і гэта клала свой адбітак. Аднак, усё, напэўна, пачыналася ад зацікаўленасці самой рэдакцыі да літаратуры, да таго, чым жывуць пісьменнікі, што новага напісалі, сустрэчы з якімі кніжкамі чакаюць дзяцей. Сам я з рубрыкі «Беларускія пісьменнікі — дзецям» раптам даведваюся, што ў нас ёсць паэты і празаікі, чыіх імёнаў чамусьці не сустракаў дагэтуль у школьных чытанках: Іван Муравейка, Аляксей Пысін, Васіль Матэвушаў, Эдуард Валасевіч, Павел Кавалёў, Уладзімір Корбан… З той нізкі вершаў Корбана пра звяроў і жывёл адзін і сёння памятаю:

Надта горача авечцы.
Асвяжыцца б ёй у рэчцы,
Пакупацца, панырацъ,
Ды кажух не можа зняць.

А якім жа святам здаваўся той дзень, калі прыходзіла пісьмо з рэдакцыі: на канверце каляровая эмблема піянера з горнам, ліст з традыцыйнай памяткай дзяткора, — пра што пісаць, як пісаць. І, вядома ж, даўно чаканы адказ на твой твор!

Не менш радавалі пісьмы, што прыходзілі дахаты і ў школу ад тагачасных «фанатаў», «прыхільнікаў таленту», часцей ад дзяўчынак. І не забыўся пачатковыя радкі аднаго ліста са Століна: «Наша школа большая, она состоит из трех этажей…»

Недзе з пачатку 1960 года лісты з рэдакцыі я пачаў атрымліваць за подпісам нейкага Васіля Зуёнка. Кажу «нейкага» з неабразлівай іроніяй. Хто тады чуў пра яго, хто ведаў? Гэта сёння ўсе ведаюць, хто ён такі: знакаміты паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, былы кіраўнік Саюза пісьменнікаў Беларусі. А тады я губляўся ў здагадках, куды раптам падзеўся добра вядомы ўжо мне аўтар і супрацоўнік Хведар Жычка. Толькі восенню, зайшоўшы ў рэдакцыю, даведаўся: перайшоў працаваць у выдавецтва «Беларусь». Тады ж пазнаёміўся з усімі, каго ведаў толькі завочна: з тым жа Васілём Васільевічам Зуёнкам, Аляксандрам Аляксандравічам Кійраненам, Ларысай Андрэеўнай Ляўковай, Ганнай Давыдаўнай Краснапёркай, (балазе сядзелі яны ў адным пакоі), а заадно — з рэдактарам газеты Наталляй Сцяпанаўнай Рокаш, з адказным сакратаром рэдакцыі, які таксама стаў пісьменнікам, Паўлам Іванавічам Ткачовым, з загадчыцай аддзела пісьмаў Кацярынай Майсееўнай Блізнюк, з фотакарэспандэнтам Уладзімірам Вяхоткам, мастаком Аляксандрам Мышкоўскім… Пазнаёміўся, яшчэ не прадбачачы нават і ў сне, што неўзабаве пасябрую з імі, а гэта шчырая, па-свойму светлая рэдакцыя стане для мяне школай жыцця, журналісцкага і пісьменніцкага майстэрства, школай, дзе пройдзе загартоўку маё нясмелае пяро. Школай, дзе я атрымаю ўрокі дабрыні, чалавечнасці, паважлівых адносін да людзей, да сваёй працы…

Пачалося ж усё з няўдалай здачы экзаменаў на філфак БДУ. Крышку самаўпэўнены ў сваіх «пісьменніцкіх» здольнасцях, «накатаў» сачыненне на 10 старо-

нак, ды без чарнавіка нават. Нарабіў памылак, выцягнуў толькі на тройку. Яшчэ па нямецкай мове такая ж адзнака чакала. А конкурс быў не такі ўжо і малы, і не хапіла мне патрэбных балаў. Залічылі на вячэрняе аддзяленне. Добра не ведаючы, што гэта такое, прыняў «выклік», прыехаў у Мінск. Аказалася, трэба шукаць прытулак, уладкоўвацца на працу. А каб знайсці яе, трэба было займець сталічную прапіску. А студэнтам-вячэрнікам ніхто той прапіскі ў інтэрнаце не мог прапанаваць. Праўда, прытулак я знайшоў: у студэнцкім інтэрнаце, у новых сяброў, з якімі пазнаёміўся ў часе здачы ўступных экзаменаў. Мы хутка здружыліся, бо ў нас было адно захапленне — любілі родную мову і літаратуру, пісалі вершы, нават друкаваліся ў адных газетах — у «Піянеры Беларусі», «Зорьке», ведалі адзін аднаго завочна.

Апынуўшыся ў ролі «вольнага студэнта», я часта заходзіў у рэдакцыю, у шэрую камяніцу па вуліцы Карла Маркса, 40, дзе знаходзіўся штаб беларускага камсамола — ЦК. А на першым паверсе ў тым «сур'ёзным» доме размяшчаліся рэдакцыі дзіцячых выданняў — «Піянера Беларусі», «Зорькі», «Бярозкі», «Вясёлкі». Дык вось, у рэдакцыі «Піянера Беларусі» я мог гадзінамі праседжваць у крэсле каля акна, часам уступаючы ў размову, а нярэдка — моўчкі назіраць за працаю людзей, якіх даўно ведаў па шматлікіх газетных публікацыях, па пісьмовых адказах, пранікаючы ў таямніцы рэдакцыйнай «кухні», назіраючы за тым, як робіцца газета. Як адчуваю цяпер, такія «пасядзелкі» не ўсім падабаліся, напэўна ж, перашкаджалі, нечым заміналі, але мне, вясковаму лапцю-тугадуму, гэта, мабыць, было тады няўцям. Я не мог зразумець, што рэдакцыя — не гасцёўня, дзе можна праседжваць гадзінамі ад нечага рабіць.

Неяк падчас такіх «пасядзелак» у пакой зайшла Наталля Сцяпанаўна Рокаш. Паглядзела праз акуляры, як няўцешна сумую ў прыаконным крэсле, сказала раптам: «Мікола, зайдзіце да мяне». Я ажывіўся: можа, у камандзіроўку пашлюць, ужо ж размова такая была ў рэдакцыі? А яна мне кажа: «На стаўку, нават на паўстаўкі ўзяць цябе не можам, бо іх няма ў нас, а вось ганарарам трохі падтрымаць зможам. Ведаеш наш «Куток Васі Зацейкіна»? Яго ў нас вядуць усе па чарзе, а цяпер ты бярыся. Думаю, справішся. У рэдакцыі ёсць патрэбныя кніжкі. З іх нешта возмеш, сам нешта прыдумаеш… Скажу Ганне Давыдаўне, каб табе нейкае заданне дала, у камандзіроўку паслала. Спачатку з'ездзі куды-небудзь бліжэй, пад Мінск, а там паглядзім…»

Наталля Сцяпанаўна, як і ўсе астатнія ў рэдакцыі, ужо ведала, што я рос без маці, у беднай сям'і, чакаць дапамогі з вёскі асабліва не выпадае, таму спагадліва паставілася да той сітуацыі, у якой я апынуўся, і, як я потым даведаўся, параіўшыся з усімі ў рэдакцыі, знайшла магчымасць менавіта такім чынам падтрымаць мяне фінансава і маральна. Само сабой зразумела, пасля такой нечаканай прапановы, ад пачуцця і ўсведамлення, што я буду працаваць у любімай газеце, я ляцеў з рэдакцыі ў інтэрнат нібыта на крылах.

Рубрыка «Куток Васі Зацейкіна» была ў газеце пастаяннай. Розныя крыжаванкі, рэбусы, шарады, крыптаграмы, галаваломкі, віктарыны, загадкі, скорагаворкі, лічылкі, малюнкі-лабірынты, загадкавыя малюнкі, урокі майстравання — усё гэта цікавіла дзяцей не менш, чым новыя аповесці, апавяданні, казкі, вершы. Часта з'яўляліся коміксы. Іх прыдумваў не толькі рэдакцыйны мастак Мышкоўскі, які, на вялікі жаль, пры мне яшчэ вельмі рана пайшоў з жыцця, але і здольны да выдумкі, да малявання Кійранен. Мне ж даводзілася пісаць да іх вершаваныя тэкстоўкі. Неўзабаве асвоіўся таксама з сакрэтамі складання рэбусаў, галаваломак, віктарын, загадак. А галоўнае, як і ўсе чацвёра насельнікаў рэдакцыйнага пакоя — «вялікая чацвёрка» — я таксама займеў у ім сваё месца, свой стол.

І з радасцю, і з вялікай трывогай браўся заўсёды за літаратурную пошту. Хоць Васіль Зуёнак перад тым, як аддаць адказы на машынку, пасля мяне сам іх прачытваў і нярэдка выпраўляў, хвалявання было шмат: ці спадабаліся мае адказы,

ці змог даць іх грунтоўна, пераканаўча, як гэта ўмеў рабіць Хведар Жычка дый сам Зуёнак? А сярод аўтараў рэдакцыйных лістоў траплялася нямала дарослых людзей, не кажучы ўжо пра маіх равеснікаў, школьнікаў. З той пары добра запомнілася імя Сашы Разанава (так ён падпісваўся тады), яго верш пра школьную майстэрню, дзе было вельмі трапнае параўнанне: нажоўка «…дошку шашалем грызе». Надзвычай здзівіў, памятаю, сваёй вобразнасцю, трапнасцю назірання, паэтычнай свежасцю верш «Крыгалом», дасланы той далёкай восенню ў рэдакцыю дзесяцікласнікам са Стаўбцоўшчыны Казімірам Камейшам. Ён не залежыўся доўга ў рэдакцыйнай папцы, хутка быў надрукаваны. Я не ўяўляў тады, што лёс неўзабаве звядзе мяне з імі, цікавымі сучаснымі паэтамі, лаўрэатамі. Спачатку з Камейшам, на наступны ж год, у студэнцкім інтэрнаце. Ён застаўся маім сябрам на ўсё жыццё. А з Алесем Разанавым мяне ў адзін дзень прымалі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Так я воляй-няволяй вучыў іншых працаваць над вершамі і вучыўся гэтаму сам. І не толькі літаратурнаму майстэрству, але і самаму, здавалася б, звычайнаму — журналісцкаму, газетнаму. Прызнаюся, ужо лічыў сябе дагэтуль даволі спрактыкаваным у журналістыцы, бо яшчэ школьнікам шмат пісаў, выступаў у раёнцы, у абласной газеце, у некаторых рэспубліканскіх выданнях з нататкамі, нарысамі, фельетонамі, рэцэнзіямі. Таму, думалася, і цяпер асаблівых цяжкасцей не будзе, хутка асвойтаюся з рэдакцыйнымі патрабаваннямі. Памятаю, з’ездзіў у камандзіроўку ў Мачулішчанскую СШ, што пад Мінскам, шмат чаго ўбачыў там цікавага, вартага карэспандэнцкай увагі, і напісаў потым матэрыял на… дзесяць старонак з гакам. Аддаў чытаць яго Аляксандру Кійранену. Сяджу за сваім сталом, сачу, як ён чытае, і жах бярэ мяне: рэжа мой «твор» жыўцом, цэлымі старонкамі выкрэслівае, нешта папраўляе. Засталося нейкіх старонкі тры. Аддаў маю «пугу», як заўсёды, скупа ўсміхнуўся: «Пра ўсё адразу не старайся расказаць, не «развозь» вельмі, не расцягвай. Бяры адзін ці два цікавыя факты, але падай іх так, каб было ўяўленне пра школьныя справы, каб чытаць было не сумна. Дзеці гэтага не любяць. Стыль і мова дзіцячай газеты не такія, як у дарослых выданнях. Адвыкай, брат, ад раёншчыны. І чым раней, тым лепей».

Свой погляд, свая думка наконт падачы матэрыялаў мелася ў Ларысы Андрэеўны Ляўковай: «Пішы замалёвачна, з фантазіяй. Каб нарыс не выглядаў даўжэзным, сумным, старайся разбіць яго падзагаловачкамі. Трэба, каб матэрыял у газеце выглядаў, як цукерка». Параўнанне «як цукерка» яна любіла часта паўтараць. Сама імкнулася да гэтага, і ад мяне, і ад астатніх аўтараў, што пісалі ў газету, патрабавала такой прафесійнай вывучкі.

Не палічыце за пахвальбу, але мушу з радасцю зазначыць: я вельмі хутка засвоіў творчыя ўрокі старэйшых таварышаў і навучыўся дзясяткамі вырабляць такія «цукеркі», што заўсёды радавала патрабавальную Ларысу Андрэеўну: яе навука пайшла на карысць!

Цяпер жа, у гэты момант, з жахам бачу: на вялікі жаль, ранейшай «цукеркі» ў мяне чамусьці не атрымалася. Гэтыя нататкі болей нагадваюць «пугу». А можа, нічога, не спыніцеся на паўдарозе ад суму, дачытаеце іх да канца?

За паўтара года ў рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі» вельмі блізка сышоўся з людзьмі, якія там працавалі. Я не пачуваўся сярод іх жаўтаротым навічком, кволым пачаткоўцам. Здавалася, ужо даўно-даўно працую побач з імі. За гэты час мне ўдалося пабываць у розных кутках рэспублікі, пазнаёміцца з многімі цікавымі людзьмі, якія даволі часта заходзілі ў рэдакцыю і да якіх я, здаралася, хадзіў і ездзіў па заданнях рэдакцыі, — з пісьменнікамі, журналістамі, кампазітарамі, мастакамі, вучонымі, настаўнікамі, перадавікамі вытворчасці. Ніколі не забуду непаўторны аўтограф кампазітара Уладзіміра Алоўнікава, які я браў для газеты: апошняя літара яго прозвішча нагадвала цудоўна выкананы тэхнічна, быццам вымаляваны… скрыпічны ключ! А колькі смеху, весялосці чулася ў пакоі, калі

праведаць сваіх былых студэнтаў заходзіў неймаверны эрудыт і весялун, прафесар БДУ Іван Васільевіч Гутараў!

Трэба сказаць, што я не ўвесь час перабіваўся толькі ганарарам, на які, па мажлівасці, стараўся не скупіцца, ведаючы маё становішча, Павел Ткачоў. Здаралася, хваробы на месяц-два выводзілі каго-небудзь з супрацоўнікаў са строю, тады на яго месца афіцыйна залічваўся я. З поўнай грашовай выплатай, вядома. Пабываў на розных рэдакцыйных пасадах, што дазволіла прайсці належную працоўную «абкатку», глыбей спазнаць сэнс і сутнасць газетнай творчасці.

Што ж датычыць грошай, дык тадышнія рублі былі яўна не такія, чым нядаўнія. Хоць іх выплачвалі дзясяткамі, а не мільёнамі, але праз нейкі час я ўзбіўся на першы ў сваім жыцці наручны гадзіннік знакамітай на той час маркі «Победа», прыдбаў новы касцюм, змяніў чорную паддзёўку, што дасталася мне пасля смерці старэйшага брата Мішы, на даволі прыстойнае паліто шэрага колеру, якое дапамагаў выбіраць у ГУМе сам Павел Іванавіч Ткачоў. Мог я ўжо часам пачаставаць інтэрнацкіх сяброў, каб аддзячыць ім за прытулак, дзе працягваў жыць на правах «зайца», купіць гасцінцы, калі выбіраўся дахаты, у вёску. Аднак жа і працаваў апантана. Адкуль бралася тое натхненне?

У вольны час, калі ўсе разыходзіліся па кватэрах, я на старой запаснай машынцы спасцігаў майстэрства друкавання, адстукваючы адным пальцам радкі свайго першага зборніка вершаў для дзяцей «Дзе лета канчаецца». Ён убачыў свет у 1963 годзе. Дарэчы, і такую трошкі інтрыгуючую назву для яго я «выwudзіў» тады ў 1-й мінскай школе, на ўроку ў першым класе, куды хадзіў па заданні рэдакцыі, каб зрабіць матэрыял для газеты: чаму навучыліся дзеці за тры месяцы вучобы ў школе. Вельмі камічны выпадак, што адбыўся на тым уроку, і лёг у аснову рэдакцыйнай нататкі, а потым і ў кніжку «перавандраваў».

У рэдакцыі «Піянера Беларусі», напісаліся першыя старонкі маёй гумарыстычнай аповесці «Бегунок пачынае думаць», якую я заканчваў ужо на Беларускім радыё.

Перамена месца адбылася даволі нечакана: аднаго майскага дня 1962 года зайшоў у рэдакцыю газеты пісьменнік Алесь Шашкоў — аўтар той самай прыгодніцкай аповесці «Лань — рака лясная», якая ўпершыню была надрукавана незадоўга да гэтага ў «Піянеры Беларусі» і стала любімай кнігай не аднаго пакалення чытачоў. Даведаўшыся, што я знаходжуся тут «на птушыных правах», ён прапанаваў: «На радыё стварылася новая рэдакцыя, замежная, якая вядзе перадачы для беларусаў за мяжой. На беларускай мове. Мне даручана весці аддзел літаратуры і мастацтва. Патрэбен чалавек. Пойдзеш да мяне?»

З вялікім хваляваннем і трапятаннем сэрца, прайшоўшы выпрабавальны тэрмін, праз прыдзірлівае начальніцкае «сіта» (вельмі малады ўсё-ткі, а рэдакцыя сур'ёзная!), я апынуўся на радыё. Выходзіць, так ці іначай, але газета паспрыяла майму ўладкаванню, майму ўзлёту, вывела на новую арбіту жыцця, дзе я за няпоўныя пяць гадоў працы прайшоў яшчэ адну школу творчага сталення і самастойнасці.

Што ж датычыць аповесці, дык пасля таго, як яна была прынята выдавецтвам, я доўга не раздумваў, дзе спачатку надрукаваць яе, — аддаў у «Піянер Беларусі». Тут і «засвяціўся» ўпершыню мой «Бегунок» улетку 1964 года. Ды ці толькі гэта аповесць? Напэўна, збярэцца на цэлы том твораў — паэм, казак, вершаваных нізак, перакладаў, песень на мае вершы, водгукаў на новыя кніжкі і літаратурных «партрэтаў», якія знаходзілі потым свайго чытача ў маёй любімай газеце. Магчыма, гэткай актыўнасці спрыяла тое, што і пасля Хведара Жычкі ды Васіля Зуёнка літаратурнымі аддзеламі ў «Піянеры Беларусі» загадвалі супрацоўнікі, не глухія да мастацкага слова, — маладыя паэты і празаікі Анатоль Сербантовіч, Алесь Емяльянаў, Мікола Кузняцоў, здольныя, удумлівыя журналісты Барыс Герстан і Алёна Грамыка…

Здавалася, такому творчаму сяброўству (ды ці толькі майму!) нішто не магло перашкодзіць. Здавалася, нішто не пагражала існаванню самой газеты: нават пачалі рабіцца захады, каб у ёй прыбавілася старонак. І праз нейкі час намаганні рэдакцыі са скрыпам, але спраўдзіліся: яе аб'ём павялічыўся, яна амаль уся стала выдавацца ў колеры! Здавалася б, новыя творчыя далягляды з прыкідам на бясхмарную будучыню расхінуліся перад газетаю. Аднак гэта толькі здавалася…

Перабудовачныя жарсці, якія балюча ўскалыхнулі краіну, не абмінулі і газету майго далёкага маленства. Пад віхурна-няўпраўнымі павевамі перамен з лістапада 1993 года газета «Піянер Беларусі» пачала выходзіць пад шыльдаю «Раніца», з новай эмблемай: нібы засаромеўшыся нядаўняга савецкага мінулага і такога ўшанавання працоўных заслуг рэдакцыі, з чыёйсьці ласкі ордэн «Знак Пашаны», якім была ўзнагароджана газета ў кастрычніку 1979 года з выпадку адметнай даты — свайго паўвекавога юбілею, змусіў раптам уступіць месца букеціку з трох пялёсткаў, акаймаваных звычайным кружочкам. Знікла іншая атрыбутыка з «фасада» газеты: прывычныя для чытацкага вока піянерскі значок, фігурка гарніста, ранейшы дэвіз. Яго замянілі, здавалася б, больш цёплыя і лірычныя словы, узятыя з Максіма Багдановіча, — «Паглядзі, як усход разгараецца…»

Калі падумаць, можна было аб нечым пашкадаваць і можна было чамусьці парадавацца, прыняць абнаўленне за належнае, падказанае самім жыццём. Галоўнае ж, газета стала больш самастойнай, расцуглянай, вольнай у выбары тэм, смялейшай у асвятленні жыцця і праблем тагачаснай школьнай дзятвы, як бы развязала фантазію і творчы пошук абноўленага ўжо на той час калектыву рэдакцыі: пішы пра ўсё, што табе падаецца патрэбным і цікавым, вартым увагі журналісцкага пяра! Да таго ж новыя тэхнічныя сродкі — камп'ютары — падключыліся да творчага працэсу, мноства самай рознай інфармацыі паплыло з іх у рукі літаратурных супрацоўнікаў… Ды адбылося тое, што нікому з сяброў і чытачоў ранейшага «Піянера Беларусі» (а мне і тым болей!) нават не магло прысніцца: пакупова і няўхільна газета пачала траціць свайго чытача. Яе тыраж скараціўся з паўмільённага ў маю бытнасць там да пяці тысяч усяго. А потым яшчэ ніжэй скаціўся…

У час невясёлага роздуму чамусьці прыгадаўся чытаны-перачытаны мною верш Анатоля Грачанікава «Вернасць», які ён напісаў, паклаўшы ў аснову цікавы выпадак, узяты ім з жыцця.

Час ношу гадоў нанізвае
На плечы старой бабусі,
Што сорак гадоў выпісвае
«Піянер Беларусі».

Газету чытаў сын Коля —
Магіла ў далёкім полі.

Другі сын чытаў, Ягорка —
У небе згарэў, як зорка.

Чытаў і трэці сын, Іван, —
Рана памёр ад ран.

Чыталі яшчэ два ўнукі —
Цяпер дактары навукі.

Не бабчына ў тым віна,
Што засталася адна…

Прызнаюся, я таксама выпісваў «Піянер Беларусі» спачатку свайму сыну, як той быў школьнікам, потым — дачцэ. Думаў, і ўнукам буду выпісваць. Не давялося. Нават з «Раніцай» не паспеў… Шкада, але сённяшнія школьнікі (дый маладзейшыя настаўнікі і бібліятэкары) толькі плячамі паціскаюць, калі згадваю пры сустрэчы пра «Піянер Беларусі» ды яго пазнейшую пераемніцу «Раніцу»: не чулі, не ведаюць, што ў іх бацькоў і дзядоў была такая цікавая, змястоўная і, можна сказаць, легендарная газета. І пры ўсім гэтым міжволі напрошваецца параўнанне з тою грачанікаўскай бабуляй: мабыць, і я застаўся адзін, хто не расстаўся з газетай майго школьнага маленства, збярог яе, прайшоў з ёю праз усё жыццё, спазнаў калісьці радасць першага надрукаванага радка.

Заўсёды ахоплівае хваляванне, убачыўшы, як ажыўляюцца дарослыя і дзеці ў час маіх сустрэч з імі, пачынаюць шчоўкаць фотакамерамі і мабільнікамі, каб «схапіць», зафіксаваць гэты момант, а некаторыя прыўстаюць з месцаў, каб бліжэй паглядзець на яе, калі паказваю ім сваю сямейную рэліквію — пажоўклы ад часу, склееены на згібах нумар газеты «Піянер Беларусі» з маім васьміpадковым «Васільком», які, перабраўшыся калісь з жытнёвых узмежкаў, блакітнавока расквітнеў на газетным полі, каб назаўсёды стаць шчаслівым талісманам майго літаратурнага лёсу. Маім першынцам, як і сын Саша, які нарадзіўся, убачыў свет у адзін з ім дзень — 18 ліпеня. Праўда, дванаццаццю гадкамі пазней. Ці ж не шчасце — гэта незвычайнае супадзенне? Ці ж пакрыўлю душой, калі прызнаюся ў нязгаснай праз дзесяцігоддзі любові і пашане: «Гарніст далёкага дзяцінства, і сёння, ведай, ты са мной»?!



Кацярына ДЗЕГЦЯРОВА

# СВІСТ КУЛЬ І ГУКІ ПАЛАНЭЗА




*Алесь МАРЦІНОВІЧ*

**ГІСТОРЫЯ ПРАЗ ЛЁСЫ**

*Том 3. Мн.; Беларуская навука, 2017.*

Бадай, самая страшная бяда для народа, нацыі — забыцца на сваю гісторыю, згубіць у пыле стагоддзяў набыткі грамадскай думкі, культуры, навукі… Страшна і тое, калі вывучаюць родную гісторыю «па вярхах», пералічваючы безліч разоў некалькі найбольш вядомых імёнаў.

Відавочна, што гэта выдатна разумее знаны празаік і крытык Алесь Марціновіч. Сёння наша размова пра яго як пра аўтара серыі кніг «Гісторыя праз лёсы». Серыя мае амбітную мэту — цікава, захапляльна пазнаёміць падлеткаў (а таксама і дарослых) з вядомымі і часам недаравальна забытымі імёнамі Беларусі, праз лёсы асобных людзей паказаць заканамернасці гістарычнага развіцця, сталення нашага этнасу, выспяванне нацыянальнай ідэі. І, як нам падаецца, мэты гэтай аўтару цалкам удаецца дасягнуць. Прынамсі, пасля знаёмства з трыма першымі тамамі гэтага маштабнага выдавецкага праекта…

Новы том серыі, што нядаўна пабачыў свет, яднае, так бы мовіць, пасвіст куль з чароўнымі гукамі паланэза. Нехта скажа: зусім не ўдалае спалучэнне! Ды гэта як паглядзець… Спалучэнне такое яскрава дэманструе горкую праўду жыцця. А яшчэ — калі больш аптымістычна: на вайне заўсёды знойдзецца месца добрай песні. Нездарма ж баявы дух ваяроў ва ўсе часы ўздымалі пры дапамозе мастацтва. Такая ўжо, відаць, натура чалавека: ва ўсім, нават жудасным і агідным, шукаць прыгажосць. Імкнуцца з цемры да нябёсаў…

Кніга першая трэцяга тома, «Ратнай справай зназныя», жыва, дынамічна распавядае пра выдатныя вайсковыя подзвігі нашых продкаў. Як і ў ранейшых выданнях серыі, прыцягваюць да сябе ўвагу запамінальныя загалоўкі («Уцякалі крыжакі ад Нёмана-ракі», «Для дзяўчыны не служыць няма прычыны», «Паварочваць назад — не ў характары», «Быць у авангардзе адказна», «Тры курыцы… з адной»), арганічнае ўжыванне народных выслояў («Ведаў бы, дзе ўпадзеш — загадзя саломы паслаў бы» і інш.). Ненавязліва, пры дапамозе сюжэтных маркёраў уводзіць Алесь Марціновіч у свядомасць чытача высокія ідэалы служэння Радзіме,

маральныя агульначалавечыя законы: «Смеласць, рашучасць мацнейшыя за зброю». Цікавае выданне і псіхалагічнымі дэталямі, падрабязнымі партрэтамі Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага, Іосіфа Гуркі, Іосіфа Сакалоўскага, Эміліі Плятэр, Аляксандра Казарскага і інш. Захапляльна пераплятаецца лёс вядомых людзей Беларусі з геральдычнай гісторыяй. Тлумачыцца паходжанне гербаў «Астрога», «Гурка»… Даводзіцца, хто такі *кашталян*, як выглядаў *мушкет*, падаюцца цікавыя звесткі пра старажытны Гродзенскі замак. Шырокі абсяг аўтарскіх параўнанняў (Эмілія Плятэр — Надзея Дурава), агульны культурны кантэкст аповеду (узгадваюцца музычныя творы, батальныя карціны вядомых мастакоў). Заглыбляецца аўтар у сямейныя легенды герояў, распавядае пра суровыя ўмовы даўнейшых часоў (узброеныя канфлікты паміж роднымі братамі, дынастычныя шлюбы і г. д.). Кніга «Ратнай славай знаныя» прысвечана як дробным, так і самым маштабным і слаўным бітвам у беларускай і сусветнай гісторыі, якія ахопліваюць шырокі тэрытарыяльны прасцяг «ад мора да мора», закранаюць і непрыступныя Альпы, і дунайскія берагі.

Кніга другая трэцяга тома, «Музыка і песня — настрой весні», плаўна пераводзіць чытача з месцаў баявых дзеянняў, так званых «гарачых кропак», у чароўны свет гукаў ды настрояў, свет высокіх мар і хараства. Яна — пра лёс вядомых музыкантаў, кампазітараў, якімі заўсёды славілася беларуская зямля. Памятаеце славутага «Сымона-музыку»? Пэўна, само хараство нашай прыроды садзейнічае нараджэнню арганічных стройных музычных кампазіцый і ў творцаў далёкіх стагоддзяў, і ў сучасных. Заканамерна, што аўтар і ў гэтым выпадку шмат увагі надае аналізу біяграфій, праз лёс людзей раскрывае гісторыю іх месцаў нараджэння. Згадаем, напрыклад, невялікі хутар Казлоўскі, што непадалёк ад сённяшняга Слаўгарада (Прапойска), — радзіму вядомага кампазітара Восіпа Казлоўскага, аўтара паланэза-гімна «Гром победы, раздавайся!» Шмат у кнізе «Музыка і песня — настрой весні» паэзіі, маляўнічых апісанняў. Вось, напрыклад, як апісваецца авальная зала Таўрычаскага палаца ў Пецярбургу, дзе гучалі творы Казлоўскага: «Толькі ўвойдзеш у яе, як позірку адкрывалася велічная, нібы вулічная, плошча. Яна размяшчалася пад высокімі скляпеннямі. Як і сцены, яна таксама не была пазбаўлена вытанчанасці. Але наведвальнікі не “губляліся” на гэтай вялікай прасторы. Утульнасць дасягалася дзякуючы трыццаці шасці калонам. <…> У палацы панавала атмасфера ўрачыстасці, святочнасці. Калі лёгка адыходзіш ад звычайных турботаў і клопатаў. Становіцца зусім не да іх. Душа лунае недзе далёка над зямлёй. Ці не ў самім паднеб’і». Маляўніча апісвае аўтар і «Паўночныя Афіны» — наша беларускае Залессе.

Зноў-такі, перафразуючы вядомыя выслоўі, Алесь Марціновіч, акцэнтуе ўвагу на галоўных чалавечых каштоўнасцях, падкрэслівае важнасць усебаковага развіцця і добрага выхавання: «Цяжка ў вучобе — лёгка ў жыцці». Для нагляднасці прыводзіць строгі рэжым дня Міхаіла Клеафаса Агінскага, заняткі якога доўжыліся па 16 гадзін на дзень…

А вось кніга трэцяя названага тома закранае тэму надзвычай актуальную ў гэтым годзе. Яна — пра гісторыю беларускага кнігадрукавання і лёс таленавітых і прагрэсіўных людзей, якія непасрэдна і стваралі старонкі гэтай слаўнай гісторыі. Лагічна, што пачынае аўтар свой аповед са звестак пра тое, як пісалі людзі ў глыбокай старажытнасці. Расказвае пра высяканне тэксту на камянях, выцісканне на гліняных плітках, напісанне на папірусах, бяросце. Цікава тлумачыць, адкуль паходзіць звыклае для нас слова «том». А потым — плаўна пераходзіць да жыццёвай гісторыі нашага першадрукара, дэталёва разглядае спрэчныя пытанні яго пакручастай біяграфіі. Заканамерна падкрэслівае пры гэтым высокі палёт яго думкі, нястрымнае памкненне ў вялікі свет: «Хараша

было Францішку ў родным Полацку. Хараша, але разам з тым і цесна». Чытаючы главы кнігі «Пад знакам Скарыны», мы лёгка пераносімся ў атмасферу XVI стагоддзя, даведваемся пра ўмовы паўсядзённага жыцця таго часу. Падрабязна апісвае Алесь Марціновіч адзін з галоўных навуковых і адукацыйных цэнтраў Еўропы — Кракаўскі ўніверсітэт, засяроджваецца на няпростым студэнцкім быце: «Запрашаць каго-небудзь насельнікі інтэрната не маглі. Хіба што калі-небудзь дазвалялася рэдкае выключэнне. Але гэта не тычылася дзяўчат. Ім дарога сюды была закрыта назаўсёды. Прачыналіся студэнты ні свет ні зара. Ні пра які сняданак і думаць не даводзілася. Спяшаліся на ранішнюю імшу ў Сабор Святой Ганны. <…> Пасля імшы таксама не было сняданку. Заняткі пачыналіся роўна ў шэсць гадзін раніцы. У кожнай аўдыторыі знаходзіліся толькі прафесарскія кафедры. Кафедру крыху асвятляла свечка, што стаяла на ёй. Не нашмат лепшае асвятленне было і днём. Прамені сонца ледзьве прабіваліся скрозь вузкія шчыліны вокнаў. Ні лавак, ні табурэтак у аўдытрыі не было. Студэнты размяшчаліся на цаглянай падлозе. Яна для зручнасці засцілалася саломай». Вось жа сапраўды шлях ад цемры да святла! Што ж натхняла на вучобу юнака Скарыну? Пэўна, мара даказаць уласную вартасць і вартасць свайго народа іншым, а таксама — непераўзыдзеная паэтыка біблейскіх вобразаў. Захапляецца і аўтар вечнай, прыўкраснай «Песняй песняў».

Аднак постаццю не аднаго Скарыны-пачынальніка абмяжоўваецца Алесь Марціновіч. Адкрывае для цікаўных чытачоў невядомае і нечаканае ў лёсах Івана Фёдарава, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Спірыдона Собаля, Тамаша Макоўскага, Ігната Граната…

Адным словам, трэці том аўтарскай серыі «Гісторыя праз лёсы» атрымаўся на дзіва насычаным і захапляльным. Што ж, будзем чакаць новыя выданні і спадзявацца на новыя гісторыі пра дзіўныя прыгоды, мужныя подзвігі, прыгожыя гісторыі кахання. Бо з гэтага складаецца жыццё асабістае, а, значыць, асобныя лёсы ўпісваюцца ў гісторыю агульначалавечую.






*Анатоль*
*СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ*

**Я — СЫН ВАШ**

**Корсакі гербаў «Корсак» і «Ліс». Рэуты герба «Газдава». Геталты, Тышкевічы, Гарабурды і Гарнастаі з роду Каленікавічаў Мішкавічаў.**

Серыя «Летапіс беларускай шляхты»

*Мн.: Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2017.*

**Вадзім ЯКУШЭНКА**

## ЗА РАДКАМІ БАРКУЛАБАЎСКАГА ЛЕТАПІСУ

Бадай, не знайсці чалавека, які б, цікавячыся гісторыяй нацыянальнага прыгожага пісьменства, нічога не чуў пра вядомы помнік старажытнай беларускай літаратуры XVI — пачатку XVII стагоддзя — Баркулабаўскі летапіс ці, як яго яшчэ называюць, Баркулабаўская хроніка. Дый шмат хто з ёю знаёмы — як у арыгінале, так і ў перакладзе на сучасную беларускую мову. Балазе, апошнім часам яна даволі часта друкуецца ў хрэстаматыях, калектыўных зборніках, што тычацца як гэтага, так і ранейшых ці пазнейшых перыядаў гісторыі Беларусі. Пры знаёмстве з летапісам увага запыняецца як на падзеях, што адлюстраваны, так і на прозвішчах, якія згадваюцца з той ці іншай нагоды. Магчыма, нават сёй-той і задумваўся над тым, як было б няблага, калі б пра гэтых людзей пазнаць больш, а то і прасачыць радаслоўную іх, адкрыць іхнія стасункі з тымі, хто жыў да іх. Гэтаксама даведацца і пра іх нашчадкаў. Але адна справа — жыць добрымі памкненнямі і куды іншая, самому паспрабаваць узяцца за тое, што пры настойлівых намаганнях прынясе добрыя вынікі, прыадкрыўшы шмат якія старонкі нацыянальнай гісторыі. Патрабаваўся чалавек, які б усё гэта зрушыў з месца.

Нарэшце — дый на шчасце — ён знайшоўся. Ім стаў Анатоль Статкевіч-Чабаганаў. Гады ягонай карпатлівай працы і гэтым разам далі жаданы плён: нядаўна пабачыла свет сёмая кніга ўнікальнай серыі Анатоля Васільевіча «Летапіс беларускай шляхты», у якой скрупулёзна прачытваецца гэты выдатны помнік пісьменства, «даследуюцца абагульненыя біяграфічныя звесткі і роднасныя сувязі асноўных асоб, якія згадваюцца ў Баркулабаўскім летапісе». Пачынаючы, безумоўна, з таго, з чыім іменем і звязана назва гэтага помніка, таму што ён быў створаны ў яго-

ным маёнтку. Але напісанне летапісу ў Баркулабаве не азначае аўтаматычна, што аўтарам быў менавіта ўладальнік гэтага маёнтка Баркулаб Корсак. Хутчэй за ўсё ён з'яўляўся ініцыятарам.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў такі момант не абыходзіць, зазначаючы ў прыватнасці: «Некаторыя даследчыкі, у тым ліку М. Доўнар-Запольскі, выказвалі меркаванне, што летапіс складзены святаром мястэчка Баркалабава Фёдарам Магілёўцам, паколькі ў ім адзначана дата пачатку навучання сына князя Багдана Саламярэцкага, а гэта маглі зрабіць толькі бацькі ці настаўнік, якім у той час мог быць толькі мясцовы святар». Аднак тут Анатоль Васільевіч зноў нагадвае тое, пра што гаварыў бліжэй да пачатку свайго даследавання: «[…] хатнімі настаўнікамі ў дзяцей князя Саламярэцкага былі асветнікі і навукоўцы Лаўрэнцій Зізаній і Мялецій Сматрыцкі». Развіваючы думку адносна аўтарства Баркулабаўскага летапісу, ён не абыходзіць увагай і меркавання «даследчыка XX стагоддзя А. Мальцава, які лічыць, што аўтарам летапісу мог быць як сам святар Фёдар Магілёвец, так і дыякан ці псаломшчык, які служыў у яго царкве». Прыходзячы да высновы, якой, у рэшце рэшт, прытрымліваюцца многія з даследчыкаў Баркулабаўскага летапісу: «Бясспрэчна адно: летапісец быў таленавітым, адукаваным, неабыякавым чалавекам, які ўважліва сачыў за палітычным і рэлігійным жыццём сваёй краіны і пакінуў унікальны дакумент, створаны ў маёнтку Баркалабава пры непасрэдным удзеле Баркулаба Іванавіча і яго нашчадкаў».

Як быццам, гэтыя развагі знаходзяцца крыху ў баку ад асноўных разваг, тым не менш самі па сабе яны гавораць шмат. Канешне, і ў папярэдніх кнігах «Летапісу беларускай шляхты» А. Статкевіч-Чабаганаў быў моцна прывязаны да даследчыцкага пачатку. Заглыбляючыся ў гісторыю таго ці іншага роду, ён прыцягваў шматлікія звесткі, знойдзеныя ў архівах, пачэрпнутыя з даўніх публікацый, узятыя з нядаўніх прац, але часцей за ўсё гэта рабілася толькі для лепшага падмацавання пэўнай думкі, ці каб яшчэ лепш абгрунтаваць неабходнасць абнародавання менавіта гэтых, а не іншых фактаў.

Аднак у сёмай кнізе ўсё гэта набыло куды больш шырокі, сістэмны характар. Не магло не набыць. Канешне, ён прытрымліваецца прынцыпу, апрабаванага ў папярэдніх тамах, таго, без чаго серыя, па сутнасці, страціць свой твар. А гэта апісанне пэўных беларускіх родаў — больш ці менш шырокае ў залежнасці ад наяўных фактаў. Гэта і радаводныя росписы, у якіх першы лік абазначае парадкавы нумар прадстаўніка роду, а другі — ад якога продка ён паходзіць. Таксама, што не менш важна, паколькі прыцягвае і ўвагу чытача, якому хочацца пазнаёміцца і з нечым займальным — цікавыя, адметныя факты з жыцця таго, хто трапіў у поле зроку даследчыка.

Але ні ў адной з папярэдніх кніг няма такой багатай навуковай асновы. Толькі адных спасылак на выкарыстаныя матэрыялы больш як дзве тысячы. За кожнай жа з іх — дзясяткі перагорнутых старонак шматлікіх дакументальных крыніц. Дый не проста перагорнутых, а старанна вывучаных, асэнсаваных, прааналізаваных. А ўсё дзеля таго, каб знайсці неабходныя факты для падмацавання сваёй думкі, а то і адкрыць штосьці дагэтуль невядомае. Як жа прыемна, калі гэта новае імя якога-небудзь прадстаўніка роду, гісторыю якога даследуеш. Гэтыя ж прагледжаныя старонкі, разам узятыя, складаюцца ў сотні, тысячы, дзясяткі тысяч. А ўсё дзеля таго, каб напісаўся чарговы том, што стаў годным папаўненнем «Летапісу…»

Як вядома, у першай кнізе «Я — сын Ваш» змяшчаліся апісанне і радаводныя росписы прамых продкаў і родзічаў А. Статкевіча-Чабаганава: Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша» і Карафа-Корбуты герба «Корчак». Як пераканаліся чытачы, якія не прапускаюць ніводнае даследаванне Анатоля Васільевіча, і ў іншых тамах таксама можна напаткаць прозвішчы людзей, што знаходзяцца ў тым ці іншым сваяцтве з ім. Новая кніга — не выключэнне. «След» А. Статкевіча-Чабаганава

ўсплывае неаднаразова. Пачынаючы з Баркулаба Корсака. Аднак баркулабаўцы — гэта і маці Баркулаба Іванавіча гараднічая полацкая Мар'я Геталт, яе дачка Ева Саламярэцкая, унучка Гелена Саламярэцкая, яго родзічы Раман Рэут і Міхаіл Гарабурда. Дарэчы, унучка, як выйшла замуж, стала Сцяцкевіч. Рэдка хто можа пахваліцца такімі глыбокімі вытокамі свайго роду. Не менш красамоўнае і гэтае сведчанне: «Маці Міхаіла Гарабурды, Міласлава, паходзіла з роду Сачкевічаў на Ліпах, да якой належыць таксама і галіна майго роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Міласлава была замужам за Фёдарам Грыгор'евічам Гарабурдам, пісарам каралевы Боны».

Мае дачыненне Анатоль Васільевіч і да роду Рэутаў. З гонарам сведчыць: «Вядома, што ў XVIII ст. вылучылася мінская галіна роду, прадстаўнікі якой жылі каля Слуцка. Гэта мае прамыя продкі». У метрычных кнігах Пагосцкай-Прадцечанскай царквы ён адшукаў важны для сябе запіс, паводле якога 7 кастрычніка 1817 года пажаніліся Самуіл Карафа-Корбут і Ірына Рэут. Самуіл Якаўлевіч — гэта прадзед яго бабулі Марыі Аляксандраўны. Лёс Ірыны Рэут — сам па сабе цікавы. Яна пражыла ўсяго 34 гады, памерла ад ліхаманкі. Але нарадзіла восем дзяцей. Апошні з іх — прапрадзед А. Статкевіча-Чабаганава. Цікавы і такі факт. Сярод продкаў Ірыны Рэут — Саламаніда Геталт. Яна, як і графы Тышкевічы, паходзіць з вядомага кіеўскага баярскага роду Каленікавічаў Мішкавічаў.

Сёмая кніга «Летапісу беларускай шляхты», пры ўсіх яе мастацкіх і навуковых якасцях, засведчыла і не менш важнае, а калі мець на ўвазе даследчыцкую працу А. Статкевіча-Чабаганава, то шмат у чым і больш істотнае. Менавіта дзякуючы ёй Анатоль Васільевіч яшчэ больш пацвердзіў, наколькі вынікова працуе ён. Тое, што ўжо зроблена, як і тое, што робіцца (у працэсе работы знаходзіцца шосты том, які «ўступіў» месца сёмаму з-за таго, што выхад яго быў прымеркаваны да Свята беларускага пісьменства, якое сёлета, як вядома, праходзіла ў Полацку, а полацкая праблематыка ў ім займае вялікае месца), разам узятае дазваляе гаварыць яшчэ пра ўпэўненае станаўленне ў беларускім радзімазнаўстве, краязнаўстве такой даследчыцкай галіны, што патрапляе пад назву статкевічазнаўства, у якой адзін чалавек працуе за цэлы інстытут.

Не збіраюся прадказваць, колькі яшчэ кніг «Летапісу беларускай шляхты» з'явіцца, але хацелася б, каб іх было не менш як дзесяць. Думаю, што так мяркуюць і тыя, хто ўжо знаёмы з гэтым даследаваннем і працягвае знаёміцца з ім. Магчыма, Анатоль Васільевіч, хоць і відавочна, наколькі вялікая гэтая праца, пойдзе шляхам, што даў плённыя вынікі ў сёмай кнізе. Ёсць жа ў нас і іншыя пісьмовыя помнікі, не менш цікавыя і значныя, чым Баркулабаўскі летапіс. Катораму з іх аддаць перавагу, вырашаць самому даследчыку. Відаць, да месца падыход і іншага кшталту. Той, што назіраўся ў чацвёртым томе, калі Анатоль Васільевіч падрабязна расказаў пра некаторых прадстаўнікоў роду Казановічаў, згадкі пра якіх сталі асобнымі гісторыка-мастацкімі апавяданнямі, а, як у выпадку з асабліва яркім прадстаўніком яго Барысам Казановічам, і аповесцю.

Толькі гэта ўсё пажаданні на будучае. Як пажаданнем можа выглядаць і тое, каб у далейшым усе тамы «Летапісу беларускай шляхты» перавыдаць, а гэтую шматтомную працу накіраваць у многія бібліятэкі. З тых, што на месцах — у раённыя і гарадскія абавязкова. Цяпер жа нельга не вітаць з'яўленне сёмай кнігі, адзначаючы яе, як падзею ў нацыянальным даследчыцкім і культурным жыцці. За радкамі Баркулабаўскага летапісу бачыцца сама Беларусь.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# МОВАЮ ДАБРЫНІ




**БАРЫС САЧАНКА**
**Выбраныя творы**
*Мн., «Беларуская навука», 2017.*

«Шасцідзясятнікі», філфакаўскае пакаленне… Іван Пташнікаў, Міхась Стральцоў, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык… Сакрэт станаўлення іх самабытнага таленту разгадваюць і па сённяшні дзень. А яшчэ — вучацца бескампраміснасці ў мастацкай праўдзе, яснаму погляду на рэчаіснасць, мэтанакіраванасці ў няспынным творчым развіцці. Безумоўна, яркай зоркай з гэтай плеяды вылучаецца Барыс Сачанка. Унікальны празаік, які, па словах Уладзіміра Гніламёдава, прыйшоў у літаратуру ўжо як бы «гатовым, сфармаваным, спелым». А мажліва гэта толькі пры наяўнасці вялікага жыццёвага вопыту, нерухомасці перакананняў, уважлівасці да драбнейшых перажыванняў людзей. Барыс Сачанака, дзіця спаленай вёскі, пабачыў у дзяцінстве нямала: разам з бацькамі быў выгнаны ў Германію, на Радзіму змог вярнуцца толькі пасля вызвалення, у 1945-м... Але тое не зламала, не пазбавіла духоўных арыенціраў. Падчас вучобы на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта пісьменнік працаваў у часопісе «Вожык», пасля заканчэння — у аддзеле прозы часопіса «Полымя». Упэўненыя крокі ў літаратуры! У 24 гады стаў аўтарам першай, ужо цалкам «сур’ёзнай» кнігі «Дарога ішла лесам». У 1976—1986 гг. — сакратар праўлення СП БССР. З 1986 — загадчык рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 1993—1995 гадах — галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя». З-пад пяра Барыса Іванавіча выйшлі пераломныя, лёсавызначальныя для беларускай літаратуры творы — раман «Чужое неба», трылогія «Вялікі Лес». У 1981 г. пабачылі свет Выбраныя творы ў 2 тамах. На сённяшні дзень маем і новую кнігу выбранага, што ўключае аповесці, апавяданні, публіцыстыку, эпісталярый.

Выбар твораў для новага тома падаецца вельмі ўдалым. Выданне змяшчае тое адметнае, кампактнае, што дазваляе чытачу даволі хутка скласці ўражанне аб характары творчай манеры празаіка. Аповесць «Вечны кругазварот» — рэч вельмі дарагая найперш яе аўтару, які шчымліва, усеахопна любіў роднае Палессе. «Што такое жыццё? Дзеля чаго даецца яно чалавеку, дадзена табе, мне, яму, ёй — наогул усім нам, людзям?» — першыя ўжо радкі

маштабнага твора сведчаць пра неспакойныя, глыбока асабістыя, але разам з тым агульначалавечыя думкі-разважанні, якія ўклаў аўтар у шчырую споведзь. Вечны кругазварот жыцця, святла і цемры, змена пакаленняў, ідэалаў, ладу жыцця. Дзе нашыя вытокі? Калі адчулі мы сябе адным народам? Як жылі продкі і якую спадчыну нам пакінулі? Гэтыя і многія іншыя пытанні хвалююць празаіка Сачанку, які стварае аб'ёмную, пярэстую карціну жыцця беларускага Палесся, слаўнай вёскі Вялікі Бор, адкуль і пайшоў у вялікі свет. Але гэта не простая, традыцыйная «сялянская аповесць»… Занадта шырокі для гэтага культурны кантэкст твора, яго алюзій, параўнанняў. Як бы мімаходзь згадвае Барыс Сачанка і выслоўі Уолта Уітмена, і палескія казкі і легенды параўноўвае са скандынаўскімі сагамі. А які цікавы этнаграфічны матэрыял закранае! Шчодра перасыпаная прыказкамі, прымаўкамі, замовамі, песнямі, аповесць чытаецца захапляльна, літаральна на адным дыханні…

Апавяданні тома таксама вельмі «паказальныя», важныя ў творчым сталенні пісьменніка. Амаль усе яны адносяцца да пачатку творчага шляху Барыса Сачанкі, пачатку 1960-х. Абаяльныя, з надзвычайнай увагай да паўсядзённасці, псіхалогіі людзей, яны выконваюць адну з галоўных функцый малой прозы — імпрэсіянісцкімі мазкамі ствараюць устойлівае ўражанне, настрой. Маці з сынам, што ратуюць ад дажджу ягады («Кошык малін»), малады хлопец, які саромеецца вяртацца ў родную вёску пасля турмы («Барвы ранняй восені»), студэнт, што мілуецца з чужой жонкай («Канапляны чад»), хлопчык, які прагна спазнае навакольны свет («Першы крок»)… Перад намі — галерэя яркіх, непасрэдных партрэтаў сапраўдных людзей, нам добра зразумелыя матывы іх учынкаў, іх боязі і слабасці, бясконцая прага шчасця.

Крыху адрозніваецца пазнейшы твор, палеская быль «Ваўчыца з чортавай ямы», прысвечаная Івану Мележу (1975). Чаму быль? Пэўна, з-за аб'ёмнай метафарычнасці, павучальнасці, нагляднасці, якія, між іншым, цалкам арганічныя ў межах аўтарскага аповеду. Помста, адплата, правілы супольнага жыцця чалавека і прыроды — адвечныя, найгалоўнейшыя праблемы людскога існавання яшчэ, бадай, з каменнага веку. Хаця і цяжка прыняць «правілы гульні» сучаснаму чалавеку. «Воўк, дзе жыве, там не бярэ», — мудра прамаўляе маці галоўнага героя. І ведае, што не скончыцца дабром пазбаўленне ваўчыцы яе семярых дзяцей… Быццам бы міфічная, страшэнная пагроза навісае над сялом пасля гэтага неабдуманага ўчынку. Чортава яма, ваўчыная нянавісць, страх прыцемак — усё бянтэжыць Івана, які толькі ўчора яшчэ, здаецца, радаваўся жыццю і збіраўся ажаніцца. Каб даходліва патлумачыць чытачу «звярыныя пачуцці», Барыс Сачанка пераключае канал аповеду на ваўчыцу Падгалую, падрабязна апісвае яе перажыванні ад забойства ваўка Палены-Хваста і пакуты ў самастойных пошуках ежы для дзяцей… Трагічны фінал твора і для ваўчыцы, што страчвае розум ад жадання помсты, і для людзей. Усім адліваюцца слёзы страты…

У раздзеле «Запісы розных гадоў» — аўтарскія разважанні пра найбольш злабадзённае, набалелае. Чаму беларусы разумеюць сваю адметнасць толькі па-за межамі Радзімы? Як пераадолець фізічныя і душэўныя наступствы чарнобыльскай трагедыі? Як годна ўшанаваць памяць ахвяр жудасных рэпрэсій? Задумваецца Барыс Сачанка і над больш дробным, бытавым. Дорыць чытачу залацінкі жыццёвай мудрасці і гумару.

Выдатна адлюстраваны бескампрамісны характар Сачанкі і ў лістах да Тамары Дзям'янавай, Алеся Наўроцкага, Івана Пташнікава, Янкі Брыля, Майсея Сяднёва. А храналогія жыцця асабістага і грамадскага — у серыі фотаздымкаў.

Лаканічнае, але надзвычай ёмістае выданне выбраных твораў Барыса Сачанкі — выдатны падарунак для аматараў беларускай класікі і, у пэўнай ступені, падручнік для маладых літаратараў. «Літаратура — самы інтымны від мастацтва», — лічыў пісьменнік. Пісаць пра перажытае, радаснае, балючае, трапяткое — шлях больш плённы, чым дакранацца да халоднага пафасу абстрактнага.




**Міра ЛУКША**

**ГРАЖЫНКА І ГРАК**

*Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа»*
*Беласток, 2016.*

Імя беларускай пісьменніцы з Беластока знаёмае многім. Дзякуючы яе чароўным вершам, а таксама «Бабскім гісторыям», «Гісторыям з белага свету»… Але неяк Міра Лукша прызналася: «Пасля трынаццаці кніг я пераканалася, што найбольш пішу для дзяцей. Некалі спыніла мяне бабулька перад царквой у Міхалове і спыталася, ці я гэта Міра Лукша і ці гэта мой верш «Коцік», бо ўсе ў іх дома ў захапленні — і старыя, і малыя. Ці адно «коцік маркотны» і «хворы коцік» па мне застануцца? Але прыемна, што родную мову беларусы Беласточчыны вывучаюць па маіх вершыках!»

І трэба аддаць належнае: дзеці для Міры Лукшы — сапраўды чытачы ідэальныя. Бо яна ведае іх радасці, турботы, інтарэсы. Заўсёды рашуча (ды з гумарам) абараняе — ад празмерных перагрузак у школе, асуджэння іх захапленняў дарослымі, «прычэсвання пад адзін грэбень». Толькі даючы свабоду творчага развіцця можна выхаваць асобу гарманічную, разняволеную — лічыць пісьменніца.

Адна з яе апошніх дзіцячых кніг, «Гражынка і Грак», чарговы раз пераконвае ў гэтым. Дзяўчынка, у якой не вельмі ладзяцца адносіны з аднагодкамі, знаходзіць надзейнага сябра ў птушцы, чорным Граку (ці не алюзія гэта на апавяданне гэткай жа чулай да дзяцей Алаізы Пашкевіч?) Ды толькі птах гэты незвычайны: ён здольны гаварыць, самастойна разважаць і нават даваць Гражынцы добрыя парады. Аб тым, як падцягнуць веды па вучэбных прадметах, знайсці агульную мову з аднакласнікамі і сямейнікамі, паверыць у асабістую значнасць і абаяльнасць. «Чорны чарадзей» дасціпны, рахманы. Ён спачувае і суседскаму кату спадару Шадару, і пералётным птушкам… Асобныя захапляльныя гісторыя маюць цікавыя сюжэты, запамінаюцца жывой мовай персанажаў, прагрэсіўным поглядам на жыццё, іскрыстым гумарам: «Шпацыруючы па стале, Грак зачапіўся за незавінчаную да канца чарніліцу. На паперу хлюпнуў атрамант. На лісце красавалася сіняя пляма. — А вось, што цяпер будзе!? — Грак пабег у нервах па залямленым лісце і азірнуўся на свае слядкі: — О… сучаснае мастацтва!»

Першае каханне, першая школьная дыскатэка, першая вестка пра смерць — мудры Грак дапамагае дзяўчынцы перажыць, асэнсаваць шмат важных падзей, і прыемных, і сумных. Безумоўна, удумлівы чытач зразумее, што вобраз Грака — алегарычны. Гэта вобраз мудрага і неабыякавага сябра, настаўніка, роднага чалавека, якога так не хапае сучасным, часта самотным перад экранамі гаджэтаў, дзецям. Бо многія дарослыя людзі развучыліся разумець мову казак, цудаў, дабрыні. «Не заўжды разумее бабуля, што Грак гаворыць. А, казала, калісьці разумела мову птушак, як усе дзеці», — піша Міра Лукша. І, пэўна, жадае ўсім нам не забываць тую «птушыную мову».

16+

АДРАС РЭДАКЦЫІ

Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 12.10.2017 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,4. Ул.-выд. арк. 15,25. Тыраж 1401 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь
для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*